# АД АЎТАРА

Гэта праца складаецца з двух частак—тэксту і табліц. У часе распрацоўкі матар'ялаў і пры падрыхтоўцы працы да друку — найбольшая ўвага была зьвернута на табліцы. Пры чым, дзякуючы поўнай адсутнасьці эмпірычных даных аб пасёлках, мы імкнуліся ўкласьці ў табліцы, па мажлівасьці, увесь той матар'ял, які быў атрыманы ў выніку праведзенай намі спэцыяльнай экспэдыцыі. Трэба сказаць, што ў аснаўным гэту задачу можна лічыць выкананай. Апрацаваныя намі сем таблічных форм увабралі ў сябе амаль што ўсю размаітасьць сабраных лічбаў, пачынаючы ад даных аб арганізацыі зямельнае тэрыторыі і канчаючы данымі аб ачышчанай валавой прадукцыі. На нашу думку, складзеныя табліцы даюць даволі поўны і падрабязны матар'ял для высьвятленьня цэлага шэрагу пытаньняў, які зьвязаны з вывучэньнем пасёлкаў.

Аднак, нам самім у тэксту давялося прааналізаваць толькі частку гэтага матар'ялу. У даным выпадку мы мусілі застанавіцца на тых двух праблемах, якія былі высунуты Наркамземам БССР і якія маюць першачарговае значэньне для яго землеўпарадкаваўчай практыкі і палітыкі. Гэтымі праблемамі зьявіліся—оптымум тэрыторыі пасёлкаў і эфэкт землеўпарадкаваньня. Папярэдняя апрацоўка даных для трэцяй аснаўной праблемы—грамадзкага севазвароту ў пасёлках паказала, што разгляд гэтай праблемы цяжка будзе зьмясьціць у рамкі данай працы. Таму апошнюю праблему мы вылучылі ў самастойную тэму, якую мяркуем апрацаваць у бліжэйшы час разам з некаторымі іншымі пытаньнямі гаспадарчай арганізацыі пасёлкаў.

Мы пайшлі на сустрэчу жаданьню Н. К. З. і імкнуліся сваю працу скончыць у мажліва кароткі тэрмін з тым, каб даць магчымасьць скарыстаць яе вынікі, як для складаньня пэрспэктыўнага пляну разьвіцьця сельскай гаспадаркі БССР, гэтак і для абгавору „агульных асноў землекарыстаньня і землеўпарадкаваньня". Мы ў даным выпадку прынялі палажэньне: „лепшае—вораг добрага", а тым самым наперад згадзіліся сустрэць і вытрымаць суровую крытыку „строгай" навукі.

У заключэньне лічу прыемным абавязкам выказаць шчырую падзяку Наркому Земляробства З. Х. Прышчэпаву і Дырэктару І-та Г. І. Гарэцкаму за утварэньне імі тых спрыяючых абставін, якія далі магчымасьць так хутка скончыць нашу працу.

*Ян Кісьлякоў.*

Горы-Горкі
вясна-лета 1928 г.




Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя У. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

т. V АДДЗЕЛ С.-Г. ЭКАНОМІІ і АГРАРНАЕ ПАЛІТЫКІ № 1



ЯН КІСЬЛЯКОЎ

# ПАСЁЛКІ

## (ОПТЫМУМ ТЭРЫТОРЫІ і ЭФЭКТ ЗЕМЛЕЎПАРАДКАВАНЬНЯ)

Труды Белорусского Научно-Исследовательского Института Сельского и Лесного Хозяйства имени В.И. Ленина при СНК БССР

И. А. КИСЛЯКОВ

ПОСЕЛКИ

(Оптимум территории и эффект землеустройства)



Bulletin of the White Ruthenian Lenin's Institute of scientific research of Agriculture and Forestry at the Soviet of People's Commissaries of BSSR

JAN KISLAKOW

ANSIEDELUNGEN

(Optimum des Landgebietes und Effekt des Landeinrichtungswerkes)

МЕНСК—MINSK

1928



Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя У. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

т. V АДДЗЕЛ С.-Г. ЭКАНОМІІ і АГРАРНАЕ ПАЛІТЫКІ № 1

ЯН КІСЬЛЯКОЎ

# ПАСЁЛКІ

## (ОПТЫМУМ ТЭРЫТОРЫІ і ЭФЭКТ ЗЕМЛЕЎПАРАДКАВАНЬНЯ)




Труды Белорусского Научно-Исследовательского Института Сельского и Лесного Хозяйства имени В.И. Ленина при СНК БССР

И. А. КИСЛЯКОВ

ПОСЕЛКИ

(Оптимум территории и эффект землеустройства)

Bulletin of the White Ruthenian Lenin's Institute of scientific research of Agriculture and Forestry at the Soviet of People's Commissaries of BSSR

JAN KISLAKOW

ANSIEDELUNGEN

(Optimum des Landgebietes und Effekt des Landeinrichtungswerkes)

МЕНСК—MINSK

1928



# I. ПАСЁЛАК, ЯК АСОБНАЯ ФОРМА ЗЕМЛЕКАРЫСТАНЬНЯ

**Пасёлкі ў палітыцы і ў жыцьці**

Пасёлкі, як новая і самастойная форма землекарыстаньня, займаюць у савецкай зямельнай палітыцы зусім пэўнае месца. Так, III Зьезд Саветаў СССР, разам з абвяшчэньнем прынцыпу вольнасьці ў выбары насельніцтвам тэй або іншай формы землекарыстаньня, даў дырэктыву паклапаціцца аб мерапрыемствах, „якія накіраваны былі-б да пашырэньня тых форм землекарыстаньня, якія зьяўляюцца больш спрыяючымі для разьвіцьця мэханізацыі сельскае гаспадаркі і каапэраваньня яе (*пасёлкі**, выселкі і інш.“[1]).

Па сутнасьці тое самае кажа аб гэтым і XV Зьезд Камуністычнай Партыі: „усякімі спосабамі садзейнічаць росту такіх форм землекарыстаньня, якія больш спрыяюць разьвіцьцю каапэраваньня і мэханізацыі сельскае гаспадаркі (*пасёлкі**, выселкі і інш.), разам з гэтым абмежаваць практыку выдзелу на адрубы і, асабліва, на хутары і зусім забараніць іх у тых выпадках, калі яны вядуць да росту кулацкіх элемэнтаў вёскі“[2]).

Яшчэ больш яскравую устаноўку на пасёлкі можна сустрэць у асобных аўтараў па зямельнай палітыцы. Так Лацыс, адзін з адказных кіраўнікоў савецкай зямельнай палітыкі піша: „Мы ўсякімі спосабамі павінны, побач з арганізацыяй, ужо цяпер, калектыўных гаспадарак, *садзейнічаць вылучэньню пасёлкаў**, якія адказвалі-б запатрабаваньням агранамічнай навукі і нашым палітычным меркаваньням“[3]). Гэткую-ж ацэнку пасёлкаў можна сустрэць у цэлага шэрагу іншых аўтараў[4]). Вось чаму з боку сацыяльна-палітычнай устаноўкі (згодна з данай ацэнкай) трэба лічыць за бяспрэчнае тое, што: 1) пасёлкі трактуюцца, як асобная форма землекарыстаньня; 2) пасёлкі прызнаюцца, як найбольш пажаданая форма з тых, якія ўтвараюцца пры вообшчынным і падворным парадках землекарыстаньня; 3) на пасёлкі кладзецца задача зрабіць больш лёгкім пераход масы паселішч да тварыскага парадку землекарыстаньня, а разам з гэтым да калектыўных форм гаспадараваньня.

Практыка землеўпарадкаваньня шырока разгарнула сваю працу па утварэньню пасёлкаў і апошнія, занялі значнае месца па ўсяму Саюзу:

---

[1]) Соколов В. Н. „С.-Х. политика Советской власти“ стр. 46.
[2]) Квиринг Э. И. „Советское землеустройство“ стр. 25.
[3]) „С.-Х. Жизнь“, № 9. 1924 г.
[4]) А. В. Коржец, Я. Н. Кирпичов, Дубровский, Соколов и др.
*) Усюды падкрэсьлена мною (Я. К.).

па РСФСР на 1922-23 г. пад пасёлкі (выселкі) было ўпарадкавана каля 22% усей землеўпарадкаванай плошчы, а для асобных раёнаў да 24% (Сыбір) і нават да 45% (Заходні[1]); па БССР пасёлкі занялі 29% усей упарадкаванай за 5 г. (1922-1927) плошчы[2]); для Татрэспублікі Каржэц А.В. канстатуе, „што самай пашыранай формай... зьяўляецца пасялковая форма“ і далей зазначае, што хутары і адрубы займаюць толькі 0,25% ад землеўпарадкаванай плошчы[3]); для Уральскай краіны (вобласьці) за пэрыяд 1920-25 г. г. выдзел зямлі пасёлкам (выселкам) складаў 79,6% ад усей плошчы сярод-паселішчнага землеўпарадкаваньня[4]). Такім чынам, паданыя прыклады сьведчаць аб тым, што пасёлкі набылі ўсе правы грамадзянства ў жыцьці, і тым самым апрача свайго дэкларацыйнага і ідэолёгічнага выяўленьня набылі народна-гаспадарчае і арганізацыйна-вытворчае значэньне.

**Пасёлкі ў літаратуры.** Натуральна было-б чакаць, што навіна пасёлкавай формы землекарыстаньня, устаноўка на яе, як на самую прагрэсыўную форму і ўрэшце размах яе пашырэньня— павінны былі-б выклікаць належную да яе зацікаўленасьць з боку навуковых і дасьледчых устаноў, а таксама і з боку паасобных дасьледчыкаў.

Аднак, на справе, мы гэтага ня бачым: так званая „унівэрсытэцкая“ землеўпарадкаваўчая навука, пакуль што, у вельмі малой ступені „асвоіла“ новую форму. Таму ў даны момант у літаратуры можна сустрэць толькі беглыя, выпадковыя думкі і заўвагі наконт пасёлкаў.

Праф. П.М. Арлоў выселкам (пасёлкам) прысьвячае роўна 6 радкоў у разьдзеле „празпалоснае землекарыстаньне“, пры чым у выселках бачыць не ўтварэньне новай формы землекарыстаньня, а толькі „*расьсяленьне* вялікік вёсак“[5]). Аб выселках ён кажа і далей у разьдзеле: „вучастковае землекарыстаньне“, дзе паводле думак Вышневалоцкага УЗУ (Цьвярской губ.), зьвязвае утварэньне выселкаў з раскіданасьцю землекарыстаньня, яго дальназямельлем, маламоцнасьцю гаспадарак і, урэшце, „калі эканамічныя ўмовы не адпавядаюць утварэньню *абасобленых* гаспадарак“[6]), (падкрэсьлена мной Я. К.).

У дадатак да ўсяго выселкі прызнаюцца, як бы часовай формай, якая ў далейшым або „ня будзе адрозьнівацца ад вясковых грамад“, або пойдзе па таму шляху далейшага паляпшэньня форм землекарыстаньня, які вызначае праф. П. М. Арлоў, уласьне: 1) „празпалосіца і вузкапалосіца; 2) шырокапалосіца (выселкі пэўна адпавядаюць гэтай стадыі Я.К.); 3) адруб; 4) хутар“[7]). Урэшце параграф аб „формах землекарыстаньня“

[1]) „Советское землеустройство и мелиорация“. Перспективный план, стр. 198.
[2]) Даныя Кіраўмеліазема НКЗБ.
[3]) Коржец А. В. „Землеустройство в Татарской Соц. Сов. Республике“ стр, 21.
[4]) „Землепользование и перспективы землеустройства на Урале“ стр. 31.
[5]) Проф. П. М. Орлов. „Землеустройство (теория и практика) 1924 г., стр. 74.
[6]) ibidem. стр. 76.
[7]) ibidem стр. 77.

канчаецца ў прафэсара Арлова сказам: „хутар у адрозьніваньне ад іншых форм землекарыстаньня, мае найбольшую здольнасьць скарыстоўваць зямлю поўнасьцю“, і ўсьлед за гэтым хутару прыпісваецца павялічэньне на 50% эканамічнай выгаднасьці ў параўнаньні з іншымі формамі.

Праф. Ф. Г. Някрасаў у сваіх „Асновах землеўпарадкаваньня“ таксама фактычна абыходзіць пасялковую форму: пры чым, у „схэме эвалюцыі форм сац.-тэхн. арганіз. плошчы“ ён да аднэй *сацыяльнай* і гаспадарчай формы адносіць гэткія „формы тэхнічнай арганізацыі плошчы“: хутары, дробныя адрубныя пасёлкі і вучасткі з грамадзкім іх скарыстаньнем[1]). У далейшым, пры разглядзе форм расьсяленьня, ім жа устанаўляецца адназначнасьць вясковай і пасялковай форм расьсяленьня[2]). Такім чынам, у праф. Ф. Г. Някрасава пасёлкі выступаюць, і як форма тэхнічнай арганізацыі плошчы і як форма расьсяленьня. Але ў самой клясыфікацыі форм сучаснага землеўпарадкаваньня. праф. Някрасаў пакідае першае разуменьне і глядзіць на пасёлкі, як на форму расьсяленьня[3]). Калі-ж прыняць пад увагу, што пасялковая форма расьсяленьня па праф. Някрасаву зьяўляецца сынонімам вясковай,—то пасёлак, як новая зьявішча сучаснай палітыкі і практыкі, выхалашчываецца поўнасьцю.

Праф. Н. І. Казлоў, пры разглядзе форм землекарыстаньня з вобшчынным і падворным парадкамі землекарыстаньня, пасёлкам не адводзіць месца; пасёлкі (пасёлкавае таварыства) у яго зьвязаны толькі з таварыскім парадкам[4]).

Праф. Казлоў пасьля зазначэньня трох асноўных відаў калектываў, кажа: „Да вызначаных відаў калектываў мажліва далучыць першапачатковы від калектыва „пасялковае таварыства“, хоць апошняе і ня мае характару адзінай земляробскай гаспадаркі“[5]), і далей: „пасялковым таварыствам“ можа быць усякая зямельная грамада“.

Сутнасьць гэтых слоў трэба напэўна разумець так, што: 1) назва „пасёлкавае Т-ва“ ужываецца не для азначэньня асобнай самастойнай *формы землекарыстаньня*, а для азначэньня *формы гаспадарчага аб'яднаньня*; 2) форма гаспадарчага аб'яднаньня „пасёлкавае Т-ва“ можа мець месца, і тады, калі зямельная грамада мае вясkова-празпалосную форму землекарыстаньня, і тады, калі будзе мець адрубную і нават хутарскую форму; 3) сувязь тэрмінаў „пасялковае“ і „Таварыства“ зьяўляецца не прынцыповай, а устаноўлена толькі таму, што „такія парадкі лягчэй заснаваць маладой, выходзячай на пасёлкі зямельнай грамадзе“. У выніку, як бачым, і у Н. І. Казлова (у іншым, цікавага аўтара) пасёлкі, як асобная форма землекарыстаньня,—зьніклі с сыстэмы.

[1]) Проф. В. Г. Некрасов. „Основы землеустройства“ 1926 г., стр. 84—85.
[2]) ibidem стр. 124-126.
[3]) ibidem 88.
[4]) М. И. Козлов. „Землеустройство по зем. кодексу РСФСР 1925 г.“, стр. 45-68.
[5]) ibidem стр. 48.

Урэшце цікава даведацца, як трактуецца пасялковая форма карыфеем расейскага землеўпарадкаваньня і выдатнейшым яго працаўнікам у сучаснасьці – праф. Н. П. Рудзіным. Гэта неабходна зрабіць яшчэ і таму што апошні ў спэцыяльным артыкулу „о формах землепользования“ імкнецца ўнесьці „ясность в самое понимание форм землепользования“ у мэтах пазбавіцца ад „путаницы, ведущей к неправильным выводам“[1]. Пад формамі землекарыстаньня праф. Рудзін разумее „спосабы гаспадарчага распараджэньня землекарыстальнікамі землямі, якія ім дадзены“. У залежнасьці ад розьніцы, гэтых спосабаў распараджэньня, ён і будуе сваю клясыфікацыю форм, якую схэматычна мажліва падаць у гэткім выглядзе.




Пакідаючы на далейшае, крытыку, як азначэньня паняцьця „форма землекарыстаньня“, гэтак-жа і крытыку пададзенай клясыфікацыі,—неабходна, пакуль што зазначыць: 1) праф. Рудзін у сваей клясыфікацыі ні ў якай форме не дае месца пасёлкам. 2) Пададзеная схэма зьяўляецца сколкам (а мо' наадварот) з тэй клясыфікацыі форм, якую мы бачым у „Советском землеустройстве и мелиорации. Перспективный план“. Там чытаем: „Наша законадаўства і наша землеўпарадкаваўчая практыка ведае наступныя формы землекарыстаньня: 1) вобшчынна-перадзельную; 2) вучасткова-празпалосную (або падворна-празпалосную); 3) хутарскую і адрубную; 4) калектыўную (камуны, арцелі, таварыствы і іншыя); 5) зьмешаныя“[2].

Праўда, у „пэрспэктыўным пляне“ трактуецца пытаньне і аб пасёлках (чаго няма у Н. П. Рудзіна) з ужываньнем гэткіх злучэньняў: „образование пяселкового землепользования“ і „поселковое землеустройство“[3]. Як бачым, пасёлак тут выступае, то як *форма* (чаму тады яе няма ў схэме),

[1]) Часопіс „Землеустроитель“ 1925 г. № 2, стар. 38.
[2]) Труды Земплана РСФСР; вып. 6 1925 г. стр. 47.
[3]) ibidem стр. 58.

то як *спосаб* землеўпарадкаваньня. Урэшце, старонкай далей там-жа чытаем: „Такім чынам, у выніку (утварэньня пасёлкаў Я. К.) мы маем падноўленую вобшчыну, інакш кажучы, другое палепшанае выданьне яе“[1]). Гэты сказ ня сьведчыць аб тым, што Земплян РСФСР мае яснае уяўленьне аб пасёлках.

Да пазыцыі Н. П. Рудзіна і пазыцыі аўтараў „Трудов Земплана“ трэба далучыць погляды яшчэ аднаго аўтара—К. Кіндзеява. Апошні па вучнёўскі ідзе за праф. Рудзіным у сваім разуменьні катэгорыі „форма землекарыстаньня“ і амаль што без усякіх зьмен падае клясыфікацыю форм, як яна дадзена ў „Трудах Земплана“. Але К. Кіндзееў таксама ня можа зачыніць вочы перад жыцьцем і гаворыць аб пасёлках; пры чым робіць гэта ў сувязі з разглядам „способов русской землеустроительной практики“[2]).

Мала таго ён нават падае клясыфікацыю пасёлкаў, калі кажа: „Яны (пасёлкі, выселкі Я. К.) маюць два віды: 1) грамада падзяляецца на некалькі частак (пасёлкаў). Пры чым гэтаму кожнаму пасёлку даецца зямля ў адзін сумесны адруб і за тым падзяляецца на дробныя адрубныя вучасткі па асобным гаспадаркам. Утвораны нанова пасёлак пераносіць свае сядзібы ў новы сядзібны асяродак, сумесны для ўсіх высяліўшыхся двароў; 2) на адведзеным усяму пасёлку адрубу засноўваецца агульны севазварот і наогул засноўваецца звычайны вобшчынны парадак“[3]). Чаму пры другім віду пасёлкаў абавязкова засноўваецца вобшчына— аўтар не даводзіць, хоць яму напэўна вядома, што пасёлкі другога віду пашыраюцца і ў раёнах падворнага, а ня толькі вобшчыннага землекарыстаньня. Але, як відаць, аўтару і ня цікава паглыбляцца ў сутнасьць разглядаемай формы. Для яго даволі, што пры другім віду пасёлкаў можа скласьціся вобшчынны парадак, каб на падставе гэтага у засьляпленьні варожасьцю да вобшчыны кінуцца ў штыкавую атаку на тое, што трэба было найбольш далікатна і асьцярожна прааналізаваць. Аўтар настолькі сьпяшаецца адмяжавацца ад „народніцкай ідэалёгіі“, што ня міргнуўшы вокам праходзіць каля ім жа канстатаванага факту, што „у практыцы зямельных органаў найбольш рацыянальнай формай землекарыстаньня ўсьлед за калектывам зьяўляецца вобшчына—пасёлак“[4]). Ён кідае гэта пад ногі сваёй „вобшчынафобіі“ і думае што ён у гэтым адрозьніваецца ад Сталыпіна (К. Кіндзееў, як відаць, належыць да марксыстаў).

Мы абсалютна ніколі не зьяўляліся абаронцамі вобшчыны і ня маем замеру імі быць, але мусім зазначыць, што ня трэба барацьбу з ёй даводзіць да шкоднага, калі, як кажуць, разам з вобшчыннай вадой выплёскваецца і савецкае дзіця—пасёлкавая форма землекарыстаньня. А што

[1]) ibidem стр. 59.
[2]) Киндиев: „Вопросы землеустройства“ стар. 45—47.
[3]) Ibid, стар. 47—48.
[4]) Ibid, стар. 71—72.

гэта так, то мы дазволім сабе прывесьці яшчэ адну вытрымку з К. Кіндзеява, дзе ён настаўляе: „Трэба памятаць, што пасёлак ня ёсьць самастойная форма землекарыстан., а *гэта ёсьць або невялічкая вобшчына, або адрубная форма*“[1]) (падкрэсьлена мной Я.К.). Паколькі „усякая абарона вобшчынных парадкаў ува ўсіх яе відавочных і захованых відах зьяўляецца адбіткам народніцкай ідэалёгіі“, настолькі няхай жыве адрубізацыя. Мы наўмысьля даволі поўна выдажылі погляды К. Кіндзеява, каб паказаць, як запраўды цяжка прабірацца сярод пытаньняў, якія зьвязаны з формамі землекарыстаньня; цяжка нават і тады, калі дасьледчык шчыра і аддана шукае належнай яснасьці.

Пэрспэктыўны плян разьвіцьця сельскай гаспадаркі БССР спыняецца на пасёлкавай форме, як асобнай форме землекарыстаньня, характарызуючы яе: 1) разьмерам (10—15 двароў), 2) формай расьсяленьня („общая усадебная оседлость“) і 3) наяўнасьцю „общего многопольного севооборота“[2]). Але там-жа плян прадбачыць і „поселок с отрубной формой землепользования“, што дае падставу лічыць погляд Наркамзема БССР на пасёлкі хоць і больш ясным, але ў рэшце рэшт таксама не пазбаўленым некаторай нявыразнасьці.

Пададзеныя літаратурныя даведкі трэба лічыць дастатковымі, каб на іх пабачыць рознабой у разуменьні пасёлкаў (выселкаў), а тым самым зразумець і апраўдаць неабходнасьць папярэдняга аналізу самаго паняцьця пасёлка, як асобнай формы землекарыстаньня. Запраўды, якая надзвычайная паўстае разнастайнасьць у падыходзе да тэрміну—пасёлак. То гэта *форма расьсяленьня* (Арлоў, Някрасаў), то „*форма технической организации площади*“ (Някрасаў), „то *форма* гаспадарчага аб'яднаньня“ (Казлоў), то „*форма землеустройства*“ (Земплан РСФСР) і ўрэшце, пасёлак—нічога (Рудзін).

Бязумоўна, пасёлак, як усякі іншы аб'ект назіраньня можа разглядацца з розных пунктаў погляду, а тым самым, як аб'ект пазнаньня, можа выступаць у тэй або іншай ролі. Таму і кожная з пералічаных установак (зразумела, апрач праф. Рудзіна) зьяўляецца мажлівай, законнай і ня можа па сутнасьці выклікаць ніякіх спрэчак. Непаразуменьне пачынаецца тады, калі паўстае задача даць пасёлку разуменьне асобнай формы землекарыстаньня, паказаць яго спэцыфічныя рысы, а таксама і тую захаваную ў пасёлках ідэю, дзякуючы якой яны не выпадкова, а стала разглядаюцца, як прагрэсыўная зьява, у сыстэме нашай сучаснай зямельнай палітыкі.

Вось так пастаўленае аб пасёлках пытаньне не знаходзіць у літаратуры па землеўпарадкаваньню больш менш акрэсьленай, навуковай думкі; фігуральна кажучы, тут мы сустракаем „непачатую цаліну“. А тым самым

[1]) Ibid, стар. 71.
[2]) Перспективный план Наркамзема БССР стр. 129.

перад дасьледчыкам, калі ён абраў аб'ектам свайго дасьледаваньня пасёлак, паўстае перш за ўсё неабходнасьць давесьці права пасёлку на назву асобнай формы землекарыстаньня. Зразумела, што толькі пасьля гэтага зьявіцца мажлівасьць увесьці пасёлак у навуковую клясыфікацыю форм землекарыстаньня з аднаго боку і удасканаліць адносіны да яго з боку палітыкі і практыкі—з другога.

**Паняцьце „форма землекарыстаньня"**

Аднак, пададзеныя з літаратуры прыклады паказалі, што гэта задача зьяўляецца далёка ня лёгкай, таму што на шляху да яе разьвязаньня стаіць ня зусім дакладна афармленая, з навуковага пункту гледжаньня, катэгорыя: „формы землекарыстаньня", іначай кажучы, зьяўляецца нявыразным і спрэчным сам крытэры аднясеньня.

Пытаньне аб удакладненьні тэрміналёгіі і аб аналізе аснаўных катэгорыяў для землеупарадкаваўчых навук—зьяўляецца надзвычайна важным, актуальным і ўдзячным, паколькі толькі цяпер фактычна закладваюцца асновы гэтых навук і цяпер (як ніколі раней) на іх кладзецца абавязак навуковага афармленьня самой практыкі землеўпарадкаваньня. Трэба спадзявацца, што спэцыяльныя працы ў гэтым кірунку ня прымусяць доўга сябе чакаць, а тым самым у далейшым для дасьледчыка ня будзе неабходнасьці аналізаваць некаторыя пабочныя паняцьці і ўмаўляцца наконт разуменьня ужываемых тэрмінаў.

Але паколькі гэта яшчэ ня зроблена—пастолькі ня можна прайсьці моўчкі каля трактоўкі тых аснаўных катэгорыяў, да якіх мае дачыненьне даны, канкрэтны аб'ект дасьледваньня. Гэта заўвага павінна апраўдаць нашу спробу, высьветліць у даным месцы здавалася-б далёкую для тэмы досьледу катэгорыю „формы землекарыстаньня", паколькі апошняя не зьявілася да гэтага часу прадметам спэцыяльнага аналізу, а тым самым і не набыла поўнай яснасьці пры яе навуковым ужываньні.

Першую спробу ў гэтым напрамку зноў-жа можна бачыць у праф. Н. П. Рудзіна, які (як гэта зазначалася раней) пад формамі землекарыстаньня разумее „спосабы хозяйственного распоряжения землепользователями предоставленными им землями".[1]) Пры чым гэтыя спосабы ён разглядае, як „только рамку, только оболочку, в которую вливается хозяйственное содержание" і далей: „таким образом, форма землепользования есть производная от уровня хозяйства".[2]) Разам з гэтым праф. Рудзін прызнае і „некоторое обратное влияние этих форм на хозяйство".

Пададзеная установка зьяўляецца бясспрэчна крокам наперад, ужо па аднаму таму, што яна ўносіць навуковую акрэсьленасьць, хай сабе

[1]) Часопіс „Землеустроитель" 1925 г. № 2.

[2]) Праўда, з гэтым сказам ня зусім пасуе другі, які сустракаецца ў тым жа артыкулу: „Поскольку одним из факторов развития производительных сил являются формы землепользования, постольку нужно дать себе ясный отчет о том месте, которое эти формы имеют в ряде факторов, влияющих на темп и направ. с. х. развития".

яшчэ спрэчную, у паняцьце, якое без усякага аналізу і крытыкі было ўзята з жыцьця і ўведзена ў такім выглядзе ў землеўпарадкаваўчую навуку. Але разам з тым неабходна канстатаваць, што праф. Рудзін усёж ня змог дабіцца поўнай яснасьці ў разьвязаньні пастаўленай задачы.

Перашкодай у гэтым для яго, на нашу думку, зьявілася імкненьне трактаваць форму землекарыстаньня, з аднаго боку, як зьявішча тэхніка-арганізацыйнае, а з другога, як сацыяльнае. Гэта па сутнасьці выклікала туманнасьць і агульнасьць у самым азначэньні форм, як „спосабаў гаспадарчага распараджэньня“, а таксама ўнесла дуалізм у пададзеную ім клясыфікацыю форм землекарыстаньня. У выніку такой пастаноўкі ў клясыфікацыю папала тое, што не павінна мець у ёй месца (калектыўныя формы), а з другога боку атрымалася непаўната схэмы (адсутнасьць пасёлкаў). Разам з тым разуменьне форм землекарыстаньня як сац.-тэхніч. катэгорыі выклікала ня зусім правільную трактоўку іх узаемадзейнічаньня з сацыяльнымі формамі гаспадаркі.

Запраўды, у выразе „спосабы гаспадарчага распараджэньня“ знаходзіцца, з аднаго боку, момант сацыяльна-юрыдычны, паколькі спосаб гаспадарчага распараджэньня зямлёй зьвязан са зьместам права на яе; з другога,—момант натуральна-тэхнічны, паколькі спосаб распараджэньня зямлёй находзіць пэўны свой адбітак у тэй ці іншай форме арганізацыі тэрыторыі.

У даным выпадку трэба згадзіцца з К. Васяткіным, што „Нельзя смешивать *правовые порядки* землепользования *со структурными формами* организации территории“.[1]) Таму і неабходна зразу-ж выразна паставіць і прыняць, або разуменьне форм землекарыстаньня, як прававых парадкаў (катэгорыя сацыяльная), або, як форм арганізацыі тэрыторыі (катэгорыя тэхнічная).

Нам думаецца, што выходзячы з паняцьця формы, як чагосьці даступнага ўспрыйманьню нашых вонкавых органаў, трэба прыняць другую канцэпцыю. Зразумела, монізм такога азначэньня ня ставіць праблему форм землекарыстаньня ў рамкі толькі тэхнічнага іх разгляду, а наадварот, будзе вымагаць адпаведнай сацыяльнай іх ацэнкі, паколькі вядома, што фармальна адна і тая-ж тэхнічная катэгорыя можа мець розную значымасьць пры розных сацыяльных фармацыях. Мала таго разуменьне форм землекарыстаньня, як толькі тэхнічнай катэгорыі прымусіць землеўпарадкаваўчую навуку да больш выразнай пастаноўкі пытаньняў аб сувязі розных форм землекарыстаньня з момантамі сацыяльнага, гаспадарча-эканамічнага і арганізацыйна-вытворчага парадку.

Праўда, праф. Рудзін і ў адносінах да гэтага апошняга пытаньня выказваецца зусім выразна і як быццам ясна. Для яго: узровень гаспа-

[1]) Основные начала землепользования и землеустройства. Сборник Ком. Академии стр. 240.

даркі—прычына, форма землекарыстаньня—вынік; пры чым у выпадку толькі няўдалага выбару формы, працэс с. г. разьвіцьця можа крыху затрымацца, або часова пайсьці па іншаму шляху, але „отнюдь не больше: он (неудачливый выбор Я. К.) не может изменить его конечной цели и основного направления“.

Гэтай катэгарычнай установцы ня зусім добра адпавядае погляд, які сустракаецца ў тым жа артыкулу і які формам землекарыстаньня адводзіць месца аднаго „з фактараў разьвіцьця вытворчых сіл“. Апошняе як быццам дае падставу лічыць, што і сам прафэсар Рудзін ня мае намеру разглядаць формы, як толькі простую функцыю, а схіляецца да прызнаньня за імі таксама ролі актыўнага фактару. Нажаль, праф. Рудзін не застанаўляецца больш падрабязна на аналізу узаемадзейнічаньня разьвіцьця вытворчых сіл і форм землекарыстаньня. Тым самым у многіх мясцох сваёй працы дае падставу папікнуць яго ў фаталізацыі гістарычнага працэсу разьвіцьця форм землекарыстаньня, а таксама у імкненьні тэорэтычна угрунтаваць палітыку нейтралітэту дзяржавы пры абраньні насельніцтвам тых або іншых форм землекарыстаньня.

Нам думаецца, што на падставе пададзенага агляду можна зрабіць наступныя заўвагі: 1) форма землекарыстаньня, як гэтакая—ёсьць катэгорыя тэхнічная, а не сацыяльна-тэхнічная; 2) формы землекарыстаньня фармуюцца пад уплывам ня толькі ступені разьвіцьця вытворчых сіл (канцэпцыя чыста эканамічная), а і тых сацыяльных форм, у якія уводзіцца гэта разьвіцьцё на падставе таго ці іншага разуменьня народнагаспадарчага ідэалу, і зьвязанага з гэтым—сацыяльнага рэгуляваньня; 3) формы землекарыстаньня ў парадку надбудовы уплываюць ня толькі на тып сельскае гаспадаркі ў яго вузкім арганізацыйна-вытворчым разуменьні, але і на сацыяльныя формы, якія складваюцца ў сельскай гаспадарцы і якія ў канцы канцоў, у вялікай ступені абумаўляюць тэмп і напрамак разьвіцьця саміх вытворчых сіл[1]).

Далей, выходзячы з разуменьня форм землекарыстаньня, як тэхнічнай катэгорыі, трэба, на нашу думку абмежаваць ужываньне гэтай катэгорыі выключна адным сацыяльна-эканамічным тыпам гаспадарак—сялянскімі гаспадаркамі. Толькі для гэтых гаспадарак зьяўляюцца рэальнымі розныя тэхнічныя формы арганізацыі зямельнай тэрыторыі пры аднальковасьці іх прыватна-гаспадарчай, індывідуалістычнай сацыяльна-

[1]) Недаацэнка сацыяльна-эканамічнага значэньня форм землекарыстаньня вельмі яскрава выяўлена ў працы К. Кіндзеява: „Вопросы землеўстройства“. Там мы чытаем: „...сацыялізм у землярробстве ня будзе залежаць ад форм землекарыстаньня“ (прымітыўнае прычыннае мысьленьне Я. К.); далей: „у нас часта пішуць і кажуць, што форма землекарыстаньня абумаўляе калектывізацыю с.-г. насельніцтва, гэта бязумоўна няправільна з марксыцскага пункту гледжаньня“ (недаацэнка надбудоў Я. К.); і ўрэшце К. Кіндзеяў кажа: „Мы лічым, што формы землекарыстаньня нас павінны цікавіць толькі з вытворчага пункту гледжаньня: наскολькі тая або іншая форма адпавядае данаму узроўню гаспадарчага разьвіцьця ў тым або іншым раёне“ (ухіл у бок чыстага „эканамізму“ Я. К.) (К. Киндеев: „Вопросы землеустройства; стар. 46).

эканамічнай прыроды. Імкненьне ўвесьці ў схэму форм землекарыстаньня другі сацыяльна-эканамічны тып—калектыўныя г-кі, зьяўляецца простым непаразуменьнем. Для ўсіх калгасаў тэхнічная арганізацыя тэрыторыі характарызуецца наяўнасьцю формы буйнога с г. прадпрыемства і ў гэтым яны нічым, напрыклад, не адрозьніваюцца ад савецкіх г-к.

Розьніца паміж рознымі сацыяльнымі тыпамі гаспадарак павінна быць выразна і ясна ўстаноўлена па другой лініі—адносін суб'екта працы да прылад і сродкаў сваей вытворчасьці. Прыняўшы за крытэры гэты прынцып, атрымоўваем наступную клясыфікацыю сац.-экан. тыпаў сельскае гаспадаркі: а) усе сродкі сацыялізаваны (саўгасы); б) усе сродкі ў прыватным, але грамадзкім карыстаньні (калгасы); в) зямля ў грамадзкім карыстаньні, іншыя сродкі у індывідуальным (таварыствы па грамадзкай апрацоўцы зямлі) і г) усе сродкі, у тым ліку і землі, ў прыватным, індывідуальным карыстаньні (сялянскія гаспадаркі). Вызначаныя сац.-экан. тыпы ляжаць на рознай адлегласьці ад канчатковага ідэалу—утварэньня сацыялістычнай народнай гаспадаркі. Тып сялянскай гаспадаркі, як найбольш індывідуалізаваны, наогул займае найбольш далёкае месца ад гэтага ідэалу. Пададзеным можна і абмежавацъ асноўную клясыфікацыю сац.-экан тыпаў. а таксама агульную характарыстыку на іх фоне сялянскае гаспадаркі.

Далейшы аналіз саміх сялянскіх гаспадарак, як пэўнага сац.-экан. тыпу можа ісьці: 1) або па лініі вывучэньня форм і напрамку пашырэньня паміж іх зачаткаў сацыялістычнага земляробства (моманты каапэраваньня і аграмаджваньня); 2) або па лініі вывучэньня у іх унутранай сац.-эканамічнай барацьбы, якая адбываецца на падставе прыватна-гаспадарчага індывідуалістычнага прынцыпу (рассластаваньне сялянства, утварэньня сац.-эканам. груп-клясаў); 3) або на лініі вывучэньня тых юрыдычных ньюансаў зямельна—праўнага парадку, якія і пры нацыяналізацыі зямлі маюць яшчэ месца; 4) або па лініі вывучэньня розьніцы форм землекарыстаньня і г. д.

Паколькі жыцьцё не акрэсьліла пэўнай і сталай сувязі паміж рознымі формамі землекарыстаньня і рознымі сац.-эканам. групамі сялянства, пастолькі клясыфікацыю форм можна не прывязваць да сац.-эканам. груп. З другога боку, формы землекарыстаньня і фактычна і гістарычна зьвязаны з зямельна-юрыдычнымі асаблівасьцямі сялянскага землекарыстаньня. Таму паўстае неабходнасьць формы прывязаць да аснаўных парадкаў гэтага землекарыстаньня: вобшчыннага і падворнага [1]).

У даным месцы няма патрэбы характарызаваць гэтыя парадкі і высьвятляць іх параўнаўчую розьніцу, таму што і той і другі з іх атрымалі ў літаратуры належную распрацоўку. Ня месца гэтак жа сама раз-

[1]) Трактоўка тварыскага парадку землекарыстаньня, як сялянскага, зьяўляецца ў пэўнай меры недарэчнасьцю, паколькі гэты парадак ёсьць адмаўленьне самаго сац.-эканам. тыпу сялянскай гаспадаркі.

глядаць тут і пытаньне аб тым, які з парадкаў больш спрыяе пераходу сялянскіх гаспадарак да новага сац.-экан. тыпу. Ня шкодзіць толькі зазначыць, што тавароскі парадак землекарыстаньня і калектыўны прыватна-гаспадарчы лад асобных с.-г. прадпрыемстваў не зьяўляюцца канчатковымі крытэрыямі, пры ацэнцы большай ці меншай прыгоднасьці вобшчыннага і падворнага парадку, для разьвязаньня задачы сацыялізацыі сельскае гаспадаркі.

Такім чынам, формы землекарыстаньня мы разглядаем, як катэгорыю, якая мае дачыненьне толькі да сялянскіх, прыватных, індывідуалістычных гаспадарак. Пры чым, прывязваючы формы да парадкаў вобшчыннага і падворнага,—самой клясыфікацыі форм можна надаць гэткі выгляд: [1])

Формы землекарыстаньня:

- 1) Пры вобшчынным парадку землекарыстаньня . . . .
  - а) вяскова-прапалосная
  - б) пасялковая
  - в) адрубная
- 2) Пры падворным парадку землекарыстаньня . . . .
  - а) вяскова-прапалосная
  - б) пасялковая
  - в) адрубная
  - г) хутарская

Калі-б зусім адкінуць юрыдычную адзнаку (розьніцу парадкаў), то можна клясыфікацыі надаць яшчэ больш просты выгляд: формы землекарыстаньня—1) вяскова-прапалосная; 2) пасялковая; 3) адрубная і 4) хутарская. Што для навуковага пазнаньня форм землекарыстаньня трэба вылучыць толькі гэтыя (і толькі гэтыя) формы, што кожная з іх запраўды арыгінальна і самастойна — стане відавочным пасьля беглага аналізу пасялковай формы ў яе параўнаньні з іншымі. Пераходзячы да гэтай задачы лічым неабходным папярэдзіць, што аналіз яе будзе зроблены толькі па лініі аснаўных адзнак, а сама характарыстыка будзе насіць вельмі схэматычны характар.

**Пасёлак, як асобная форма землекарыстаньня**

Запраўды, якія характэрныя рысы можна заўважыць у пасёлку і наяўнасьць злучэньня якіх з іх надае права бачыць у пасёлку асобную форму землекарыстаньня? [2]) Мы высоўваем 4 адзнакі, як самыя неабходныя і разам з тым дастатковыя для адказу на пастаўленае запытаньне.

*1) Пасёлак характарызуецца перш за ўсё групавым характарам*

[1]) Гл. клясыфікацыю праф. Рудзіна, стр. 4.

[2]) Каб ня было блытаніны мы мусім тут жа адзначыць, што пасялковую форму землекарыстаньня мы ня зьвязваем толькі з тым, што носіць назву „пасёлак“; яна можа мець месца і пры другіх гістарычна-складзеных тыпах паселішч: засьценкі, аколіцы, выселкі, дробныя вёскі, і г. д.

*расьсяленьня*, г. зн. разьмяшчэньнем сядзіб асобных двароў на адным, спэцыяльна—вылучаным для ўсіх двароў вучастку (сядзібным). Гэта адзнака праводзіць мяжу паміж пасялковай формай і хутарской, ў якіх-бы ньюансах апошняе не выступала, у прыватнасьці нават і у выглядзе так званых „гнёзд (груп) хутароў“. Таму што і для „гнёзд“ усё роўна застаецца ў моцы атрыбут хутарской формы—знахаджэньне сядзібы асобнага двара на сваім зямельным вучастку, у які (па мажлівасьці) зьведзена ўсё землекарыстаньне гэтага двара. Але адна гэта адзнака яшчэ не вылучае пасялковай формы з рэшты іншых форм (вясковай-празпалоснай і адрубной), чаму і патрэбна ўвесьці новыя адзнакі.

2) *Землекарыстаньне пасёлку не перавышае аптымальнае вялічыні тэрыторыі* вызначанай у адпаведнасьці з арганізацыйна-вытворчымі вымаганьнямі данага тыпу с. г. вытворчасьці. Гэта адзнака праводзіць першую мяжу паміж пасялковай і вяскова-празпалоснай, а таксама і вяскова-адрубной формамі, для тых выпадкаў, калі землекарыстаньне апошніх выходзіць за межы памянёнага оптымуму. Але і гэтага мала, таму што пасёлкі застаюцца ня вылучанымі з групы ў якую апрача іх пападаюць і празпалосныя вёскі з тэрыторыяй да опт. і адрубныя вёскі з гэтакай-жа тэрыторыяй, таму патрэбны яшчэ новыя адзнакі.

3) *Зямля (дакладней-ральля) у пасёлку падзелена перш за ўсё ў адпаведнасьці з колькасьцю палёў прынятага севазвароту*, а потым ужо ў межах гэтага аснаўнога падзелу—разьмеркавана паміж асобнымі дварамі данага пасёлку. Адваротнае зьявішча назіраецца пры адрубной форме землекарыстаньня, дзе ральля спачатку падзяляецца паміж асобнымі дварамі (у выглядзе т. зв. адрубоў), а потым ужо кожны двор свой адруб падзяляе на часткі ў адпаведнасьці з прынятым ім, індывідуальным севазваротам. Тым самым прынятая тут трэцяя адзнака праводзіць выразна мяжу паміж пасялковай формай і адрубной для таго выпадку, калі апошняя ужываецца вёскамі (альбо іншымі паселішчамі) з тэрыторыяй зямлі ня звыш опт.

4) Урэшце застаецца адмежаваць пасёлак ад вяскова-празпалоснай формы для таго выпадку, калі землекарыстаньне вёскі знаходзіцца ў межах опт. Гэта будзе лёгка зрабіць пасьля таго, калі знойдуцца матывы для таго, каб угрунтаваць той погляд, што пасёлак сканструктаваны паводле трох папярэдніх адзнак,—*пазбаўлен элемэнтаў празпалосіцы*.

Запраўды, найлепшае разьвязаньне задачы пры арганізацыі пасёлкаў вымагае таго, каб кожны асобны двор атрымаў у кожным з севазваротных палёў пасёлку толькі адзін зямельны кавалак. І вось, калі выходзіць з ідэальнага рашэньня гэтай задачы, то трэба згадзіцца, што пасёлак пазбаўлен наяўнасьці ў ім празпалосіцы. Таму што апошнюю трэба бачыць ня ў тым, што зямля асобнага двара знаходзіцца ў некалькіх палёх, а ў тым, што *ў межах аднаго севазваротнага поля зямля асоб—*

*нага двара раскідана некалькімі палоскамі*, больш-менш дробнымі і вузкімі паміж гэткіх жа палосак сваіх суседзяў.

Іншае разуменьне празпалосіцы будзе сьціраць спэцыфічныя яе рысы, а тым самым будзе паслабляць барацьбу з ёй там, дзе яна ёсьць і дзе яна зьўляецца запраўдным ліхам. А з другога боку утворыць стрыманыя а мо' і зусім адмоўныя адносіны да тых форм землекарыстаньня, дзе ёсьць толькі падабенства да празпалосіцы. Паданы параўнаўчы агляд пасёлку з боку арганізацыі ў ім зямельнай тэрыторыі паказаў, што ён не ўмяшчаецца ў рамкі вядомых нам форм сялянскага землекарыстаньня (вяскова-празпалосная, хутарская, адрубная), а тым самым дае поўнае права казаць аб новай, спэцыфічнай для яго, форме—пасялковай.

Не надаючы сьціслым фармуліроўкам вялікае вагі пры расчыненьні таго або іншага паняцьця можна на падставе пададзенага аналізу ўсёж даць гэткае азначэньне пасялковай форме. *Пад пасялковай формай землекарыстаньня мы разумеем такую групавую форму, пры якой зямельная тэрыторыя паселішча ня выходзіць з межаў аптымальнага разьмеру, а ральля разьбіта на севазваротныя палі, у кожным з якіх асобны двор мае па мажлівасьці толькі адну палоску.*

Для лепшага ўяўленьня пасялковай формы падаем плян аднаго з дасьледваных намі пасёлкаў.

*Мал. 1.* пас. *Перадавы,* Бабруйскай акругі (Зьвесткі аб ім гл. у табліцах „Бабруйшчыны“, № 6)



Цяпер, калі мы даведаліся аб сутнасьці пасялковай формы, лёгка зразумець чаму яна, а не якая небудзь іншая форма пратэкцыяніруецца сучаснай зямельнай палітыкай. Гэта форма дае *мажлівасьць поўнасьцю правесьці тэхніка—арганізацыйную рацыяналізацыю* ў арганізацыі зямельнай тэрыторыі (зьнішчэньне дальназямельля, дробназямельля, вузкапалосіцы, дробна-палосіцы, празпалосіцы і г. д.). Але разам з тым пасялковая форма ў адзнаку ад рацыяналізацыі ў выглядзе хутароў і адрубоў *ня можа ў далейшым зрабіцца стрымліваючым натуральна-тэхнічным момантам на шляхох пераходу сялянскіх гаспадарак да іншага сац.-экан. тыпу* (калгасаў і саўгасаў).

Таму мы лічым глыбокай памылкай з боку „унівэрсытэцкай“ землеўпарадкаваўчай навукі забыцьце гэтай формы, або залічэньня яе ў „другое выданьне вобшчыны“. Пры чым апошняе трэба лічыць за найбольш шкоднае, паколькі разам з тэрмінам „вобшчына“ злучаюцца розныя адмоўныя асацыяцыі, якія пры адсутнасьці належнай крытычнай перасьцярогі, лёгка могуць быць перанесены на пасёлкі і пасялковую форму землекарыстаньня, утварыць каля апошняй абставіны нейтральнасьці, а моˋ і варожасьці.

А потым, калі з дарогі будуць прыбраны пасёлкі, можна будзе разважаць прыблізна гэтак: „І таму што з распадам вобшчыны ёсьць толькі *два выхады* (падкрэсьлена мной Я. К.) альбо ў калектыў, альбо на адрубы, і таму, што, з другога боку, стварэньне калектыўных форм землекарыстаньня ў сучаснасьці ня мае досыць абˋектыўных падстаў (у форме мэханізацыі сельскай гаспадаркі, электрыфікацыі, у наяўнасьці ў вёсцы іншых сродкаў вытворчасьці і зьмены пад уплывам гэтых абставін уласьніцкай псыхалёгіі сялян), — дзякуючы гэтаму, сялянства абрала другі выхад ад уціску вобшчыны, яно накіравалася на адрубныя вучасткі, дзе разьлічвае больш мэтазгодна весьці гаспадарку, ня ведаючы няўстойлівасьці землекарыстаньня, словам, пазбавіцца ад нявыгод, зьвязаных з вобшчынай [1]).

Так угрунтоўваецца „адрубізацыя“ для тых раёнаў, дзе няма даных для „хутарызацыі“ (Валкаламскі уезд Маск. губ.).

Яшчэ больш адкрыта, больш рашуча і больш прынцыпова абараняе хутары і адрубы К. Кіндзеяў. Яго погляды ў гэтых адносінах настолькі яскравы, а аргумэнтацыя настолькі арыгінальна, што мы дазволім адно месца з яго работы прывесьці поўнасьцю.

„У некаторай часткі партыйных і савецкіх колаў склаліся скэптычныя адносіны да „единоличных“ формаў (хутары і адрубы), хаця намі было вышэй даведзена, што і рэшта форм (вобшчына, пасёлак) ня менш „единоличны“ па сваёй арганізацыйнай сутнасьці“. Тут не зразумела,

[1]) Н. П. Рудин: „О формах землепользования“ (часопіс „Землеустроитель“ 1925 г. № 2,—стар. 40).

хто „единоличны“: ці вобшчына і пасёлак як форма землекарыстаньня, ці сялянскія гаспадаркі, якія абіраюць і жывуць пры гэтых формах. Хаця граматычная пабудова сказу больш кажа аб першым разуменьні, мы ўсё-ж спадзяемся, што аўтар ужыў тэрмін „единоличны“ у прыстасаваньні да гаспадаркі. Але і ў гэтым выпадку яго пазыцыя зьяўляецца вельмі рызыкоўнай. Запраўды, хіба можна сьцьвярджаць, што індывідуалізм сялянскіх г-к зьяўляецца зусім аднолькавым на хутары і ў пасёлку з грамадзкім севазваротам. Аднак, паслухаем далей.

„Розьніца паміж хутарам і, прыкладна, пасёлкам не па сутнасьці іх вытворчых момантаў, а толькі па форме разьмяшчэньня іх гаспадарчых асяродкаў: у пасёлку гэтыя асяродкі ляжаць побач, а пры хутарской яны расьсеваны“. Зноў не зразумела—аб якой розьніцы аўтар тут гаворыць. Нам думаецца, што яго ў даным выпадку блытае тэрміналёгія, паколькі арганізацыйна-вытворчая розьніца паміж хутарам і пасёлкам (у нашым іх разуменьні) бяспрэчна, хаця б ужо па наяўнасьці ў пасёлку абавязковага для усіх двароў севазвароту. Але ня будзем і тут чапляцца да слоў: аўтар напэўна меў на увазе ня вытворчую, а сацыяльна-эканамічную аднолькавасьць сялянскіх гаспадарак на хутарах і ў пасёлку. Тады гэта так, і цалком адпавядае выказаным намі раней думкам. Значна горш выглядае другая частка вытрымкі, дзе пасёлак трактуецца К. Кіндзеявым, як звычайнае, мэханічнае згуртаваньне сядзіб некалькіх двароў, якія апрача прыемнасьцяй і непрыемнасьцяй суседзкага жыцьця ня маюць а ніякай сувязі ў працэсе іх вытворчасьці. Гэта памылковая установка штурхае аўтара на такі клясычны канец яго разважаньняў: „Але калі кажуць, што пасёлак хутчэй прывядзе да калектыву ў параўнаньні з хутарам, то падобнае разважаньне немарксысцкае: гэта ўсё роўна сьцьвярджаць, што жыхары вялізнага будынку, якія жывуць пад адным дахам, хутчэй калектывізуюцца параўнаўча з тымі, якія жывуць у асобных маленькіх асабнячкох“ і урэшце К. Кіндзеяў навучае: „Неабходна памятаць, што яднае людзей ня сумеснае жыцьцё пад адным-дахам, а вытворчы момант, эканамічная зацікаўленасьць“[1]).

Бязхітрасьць (наивность) такога спосабу „угрунтаваньня“ хутароў і аслаўленьня пасёлкаў відавочна, і нікога ня зможа пераканаць у тым і другім, ня гледзячы на няўдалыя ссылкі на Маркса. III з'езд Саветаў, да якога спэцыяльна рыхтавалася праца К. Кіндзеява, як мы бачылі ня стаў на Рудзіна-Кіндзеяўскую пазыцыю, а XV зьезд К.П. цьвёрда сказаў: „абмяжаваць практыку выдзелу на адрубы і, асабліва, на хутары і зусім забараніць іх у тых выпадках, калі яны вядуць да росту кулацкіх элемэнтаў вёскі“.

Але ўсё-ж пададзеныя прыклады „прарыву аграрнага фронту“ сьведчаць аб неабходнасьці больш дакладнага навуковага вывучэньня праблем сучаснага землеўпарадкаваньня, у прыватнасьці тых з іх, якія зьвязаны з утварэньнем форм землекарыстаньня наогул, і пасялковай асабліва.

[1]) К. Киндеев, ibidem, стар. 52—53.

## 2. ПАСЁЛКІ У Б.С.С.Р.

(дынаміка і геаграфія).

Азначэньне пасёлку

У папярэднім разьдзеле мы імкнуліся давесьці, што пасёлкі ёсьць зьява новая, што з імі зьвязана асобная форма землекарыстаньня (пасялковая), што гэта форма выразна высунута савецкай аграрнай палітыкай і што у кіруючых ідэях гэтай апошняй, пасёлкі знаходзяць свой вышэйшы крытэры. Але разам з тым, выходзячы з натуральна-тэхнічнага разуменьня катэгорыі „форма землекарыстаньня", мы утварэньне пасёлкавай формы не зьвязвалі толькі з сучасным земляупарадкаваньнем, толькі з пасёлкамі. Тым самым мы дапусьцілі наяўнасьць пасялковая формы і ў іншых тыпах паселішч (апрача пасёлкаў).

Гэта акалічнасьць мае асаблівае значэньне для Беларусі, дзе і да савецкага землеўпарадкаваньня была вельмі пашырана практыка утварэньня „засьценкаў", „выселкаў", „слабод" і г. д. Частка пералічаных паселішч па натуральна-тэхнічных адзнаках—унутранай арганізацыі ў іх зямельнай тэрыторыі—вельмі нагадваюць пасёлкі. У іх мы таксама бачым: згуртованасьць сядзіб на адным вучастку, шырокапалосіцу, разьмер тэрыторыі паселішча ня звыш оптымуму і г. д. Мала таго, некаторыя „засьценкі" цалком адпавядаюць усім тым фармальна-тэхнічным вымаганьням, якія мы высунулі для пасёлкавай формы землекарыстаньня, чаму, як быццам, павінны былі-б разглядацца намі, як „старыя пасёлкі". Цікава таксама зазначыць, што надворнае падабенства новых пасёлкаў і старых засьценкаў спакушае некаторых навуковых і дасьледчых працаўнікоў Беларусі самую пасялковую форму называць „засьцянковай".

Але нам здаецца, што далучэньне „засьценкаў" і „выселкаў, „слабод" і інш. да пасёлкаў, а тым больш падмена тэрміну, „пасялковая"—тэрмінам „засьцянковая" зьяўляецца замерам мала прадуманым і не ўгрунтаваным.

Справа ў тым, што кожны тэрмін або назва—гістарычны; іх узьнікненьне адбывалася ў пэўных сацыяльных і эканамічных умовах, якія і надалі тым або іншым назвам (тэрмінам) пэўны калёрыт. Таму ўжываньне гэткіх гістарычных катэгорыяў ня можа быць пазбаўлена і ўсіх тых асацыяцыяў і канкрэтных уяўленьняў, якія паўстаюць разам з галоўным натуральна-тэхнічным іх зьместам.

„Засьценкі“, калі іх браць у рэальнасьці і гістарычнай канкрэктнасьці,—ня толькі дробныя паселішчы з большай або меншай праявай у іх адзнак пасялковай формы землекарыстаньня, гэта разам з тым—паселішчы, якія у большасьці утвараліся або верхавіннай часткай вёскі, пераважна на купленай зямлі, або вельмі часта зьбяднелымі шляхэцкімі (дваранскімі) фаміліямі. З назвай „засьценкі“ зьвязаны адзнакі—многазямельле, сыстэматычнае і шырокае карыстаньне наёмнай працоўнай сілай (як гадавой, так і часовай), найвышэйшая ступень эксплёатацыі гэтай сілы, паколькі яе ужываньне было пастаўлена ва ўмовы сумеснай з гаспадарамі працы і г. д. Адным словам, „засьценкі“ ёсьць жывая памятка, з аднаго боку, працэсаў расплставаньня сялянства, з другога,—працэсу заняпаду шляхэцтва (дваранства) у сувязі з узмацнёнымі тэндэнцыямі капіталістычнага разьвіцьця сельскае гаспадаркі.

Амаль тое-ж самае трэба сказаць і аб дарэвалюцыйных „выселках“, сама назва якіх паказвае, што яны утвараліся з вёсак у парадку вылучэньня (выдзелу) найбольш „прагрэсыўных“ яе элемэнтаў. Паколькі ацэака „прагрэсыўнасьці“ заўсёды зьвязана з народна-гаспадарчым ідэалам тэй або іншай клясы і паколькі такая ацэнка „выселкам“ была дадзена клясай прамысловай буржуазіі, пастолькі „выселкі“ асацыіруюцца з працэсам індывідуалізацыі, як землекарыстаньня, так і наогул гаспадарчага разьвіцьця сялянскіх гаспадарак. „Выселкі“, хаця-б яны і мелі пасялковую форму арганізацыі зямельнай тэрыторыі, застаюцца таксама памяткай індывідуалізацыі і капіталізацыі сельскай гаспадаркі там, дзе на прыродных (галоўным чынам) умовах гэтыя працэсы не змаглі выліцца ў форму хутарызацыі.

Пададзеныя меркаваньні даюць падставу залічаць да пасёлкаў толькі тыя паселішчы, якія, разам з наяўнасьцю ў іх пасялковай формы землекарыстаньня (паводле высунутых намі чатырох тэхніка-арганізацыйных яе адзнак)—утвараліся ў пэўных сацыяльна-эканамічных умовах, атрымалі пэўную сацыяльна-палітычную устаноўку ў сувязі з задачамі перабудовы сельскае гаспадаркі ў калектыўным, сацыялістычным кірунку.

Гэта навукова-тэарытычная акрэсьленасьць пытаньня аб пасёлках неабходна, ня толькі для навукова-дасьледчых мэтаў, а і для практычнага дзейнічаньня (што зьяўляецца ня менш важным).

Такім чынам, мы канчаткова азначаем аб'ект свайго дасьледваньня *пасёлак—паселішча з пасялковай формай землекарыстаньня, якая утвараецца, як прагрэсыўнае зьявішча ў абставінах барацьбы за сацыялістычны кірунак у разьвіцьці сялянскіх гаспадарак.* Гэтым самым пасёлкі прывязаны намі да дзьвюх каардынат: сацыяльна-гістарычнай, якую можна з некаторымі агаворкамі правесьці праз кастрычнікавую рэвалюцыю і да тэхніка-арганізацыйнай (наліччa пасялковай формы землекарыстаньня), якую без належнага дасьледаваньня ўсіх фармальна ўтво-



раных пасёлкаў правесьці, пакуль што, немажліва. Таму пры разглядзе дынамікі і эвалюцыі пасёлкаў намі бярэцца толькі першая каардыната, а тым самым ў разглядаемай далей суцэльнасьці (совокупности)—пасёлкі застаюцца і тыя з іх, якія ня зусім адпавядаюць толькі што скантруктаванаму намі паняцьцю „пасёлак". Іначай кажучы, акрамя пасёлкаў у дакладным, навуковым разуменьні гэтага тэрміну, сюды ўвайдуць таксама, і „пасёлкі" з адрубной формай землекарыстаньня, і нават „пасёлкі" з хутарской формай[1]).

**Матар'ялы для геаграфіі і дынамікі.** Пасьля аналізу аб'екта дасьледваньня неабходна ў мінімальна — патрэбным аб'ёме і параўнача-агульным выглядзе даць малюнак пашырэньня пасёлкаў у БССР[2]). Канкрэктна нас цікавяць: дынаміка утварэньня пасёлкаў, іх геаграфія і параённая лёкалізацыя. Матар' яламі для адказу на гэтыя пытаньні зьяўляюцца, пераважна, афіцыйныя даныя Кіраўмеліязему Н. К. З. і толькі ў некаторых выпадках даныя ЦСКБ.

Трэба папярэдзіць, што і тыя і другія матар'ялы у вельмі малой ступені змогуць здаволіць нашу дасьледчую дапытлівасьць. Справа ў тым, што багатая землеўпарадкаваўчая практыка вельмі слаба выяўлена ня толькі ў выглядзе цэльнага, сыстэматызаванага і друкованага матар'ялу, але нават дрэнна ўлічана самімі нізавымі зямельнымі установамі. Можна зьцьвярджаць, што і тыя невялікія, у большасьці рознастайныя даныя аб формах землекарыстаньня, якія зараз ёсьць, ляжаць мёртвым і сырым грузам у канцалярскіх нетрах нізавых зямельных устаноў і „чакаюць яшчэ сваіх дасьледваньняў" (праф. Першын П. Н.). Між тым належная апрацоўка і сыстэматызацыя нават гэтага беднага матар'ялу дала б значную дапамогу пры дасьледваньні тых або іншых праблем землеўпарадкаваньня. Але аб гэтым на жаль, пакуль што, можна толькі марыць.

Мы ужылі ўсе захады да атрыманьня па мажлівасьці поўнага і разгорнутага матар'ялу і пераканаліся, што нават выезд у акругі ня можа даць таго, што неабходна і ў тым выглядзе, як гэта патрэбна. Таму больш менш аднастайныя даныя, прыгодныя для параўнаньняў, мы атрымалі для ўсіх акруг (апрача Гомельшчыны) толькі за пэрыяд 1923-27 г.; за 1922 г. маюцца павятовыя даныя толькі па Меншчыне і Палесьсю. Аднак фактычная непаўната матар'ялу за 1922 г. складае напэўна больш менш значную велічыню толькі для Магілеўшчыны, таму што ў Віцебшчыне да 1923 г. пасёлкі амаль што зусім не утвараліся.

**Падзел БССР на краіны** Урэшце, неабходна зрабіць яшчэ адну папярэднюю заувагу. Паколькі далейшы разгляд будзе імкнуцца, разам з геаграфіяй пасёлкаў даць уяўленьне і аб дынаміч-

[1]) Прывязваючы назву паселішч да формы землекарыстаньня было-б лепш гэткія паселішчы называць проста—адрубы, напрыклад: адрубы Янава і г. д.

[2]) Падрабязны агляд дынамікі і геаграфіі форм землекарыстаньня ў БССР будзе ў працы асьпіранта Н. Д. І-ту, Ц. А, Кісьлякова (рыхтуецца да друку).

ных працэсах, пастолькі неабходна матар'ялы за асобныя гады прывязаць да адных і тых жа межаў. Справа гэта зьяўляецца далёка ня лёгкай.

Тэрыторыя БССР, як вядома, два разы ўзбуйнялася: ў 1924 годзе праз далучэньне Віцебшчыны і Магілеўшчыны і ў 1927 годзе праз далучэньне Гомельшчыны. Пры чым разам з узбуйненьнем рабілася і адміністрацыйнае перараёнаваньне ўсяе тэрыторыі: у першы раз ад падзелу на паветы перайшлі да падзелу БССР на 10 акруг, а ў другі раз тая-ж тэрыторыя, з дадаткам толькі Гомельшчыны была падзелена на 8 акруг. Усё гэта ня толькі ўскладняе працу, але і робіць немажлівым вызначыць для дынамічнага разгляду больш менш дробныя раёны, чаму па неабходнасьці, як параўнаўча рэальны, узяты падзел БССР на 5 с.-г. краін (абласцей): 1—Віцебшчына, 2—Меншчына, 3—Магілеўшчына, 4—Гомельшчына і 5—Палесьсе.

Выгоды гэткага падзелу можна бачыць у тым, што: а) граніцы паміж гэтымі краінамі мяняліся параўнаўча мала пры ўсіх памянёных палітычна адміністрацыйных актах; б) на гэтыя краіны БССР падзяляецца больш менш ясна і натуральна, паводле ўсяго комплексу раёнаўтвараючых адзнак, і в) на гэтыя-ж краіны (апрача Гомельшчыны) падзяляе БССР і „Пэрспэктыўны плян разьвіцьця сельскай і лясной гаспадаркі БССР", апрацаваны НКЗБ.

**Характарыстыка краін** Для таго, каб даць некаторы матар'ял для зразуменьня сувязі паміж пашырэньнем пасёлкаў, з аднаго боку, асаблівасьцямі натуральна-гістарычнымі і асаблівасьцямі тыпу сельскай гаспадаркі, з другога—неабходна ў самых схэматычных рысах пазнаёміцца з вылучанымі краінамі.

1. *Віцебшчына.* Краіна пазьней за ўсіх іншых звольнілася ад ледавіку, які некалькі разоў панаваў ў ёй і ўрэшце пакінуў на карэнных дэвонскіх пародах вельмі моцныя наносы, складанай будовы. Дзякуючы гэтаму, паверхня краіны мае яскрава вызначаны марэнны краявід, зьяўляецца вельмі пасечанай і надзвычайна няроўнай: бугры больш менш абкругленай формы, зьменьваюцца гэткай-жа формы западзінамі ў большасьці запоўненымі вадой—вазёрамі. Глебы моцна ападзоленыя на суглiністых і глiністых глебатворчых пародах[1]).

Краіна моцна разворана і разам з тым мае багата сенажацяў, якія найбольш за ўсё пашыраліся ў сувязі з катастрафічным зьмяншэньнем лясных плошчаў. Сельская г-ка—найвышэйшая па сваёй інтэнсыўнасьці, у параўнаньні з іншымі краінамі (49 руб. вал. прадукцыі на 1 г. сел.-гасп. плошчы); характарызуецца найбольш дэградаванай папарава-збожжавай сыстэмай ральніцтва (засеўны пляц—74%; зімовыя—каля 0,4 плошчы). Але, аднак, дзякуючы дрэнным прыродным умовам, ураджайнасьць палёў

[1]) Гл. П. П. Рагавы: „Глебы Беларусі" („Працы Горы-Гарэц. Нав. Т-ва" т. V).

самая малая па ўсіх культурах, чаму па вал. прадукцыі на 1 душу сел. насельніцтва краіна займае другога месца (73 р.).

Віцебшчына дае: найвышэйшы па рэспубліцы процант лёну і ячменю; сярэдні — сеяных траў, найменшы — жыта, аўса, бульбы; грэчкі зусім няма. Па колькасьці галоў усяе скаціны на 100 гэкт. засеву займае сярэдняе месца (з тэндэнцыяй росту); пры чым дамінуючая роля належыць быдлу, для якой маем найвышэйшы па БССР процант кароў; сьвінагадоўля па колькасьці займае адно з лепшых месц па рэспубліцы і характарызуецца найбольш маладым складам статку. Рыначнымі прадуктамі (па вывазу з межаў краіны) зьяўляюцца; масла, мяса і мясныя прадукты, сьвініна і сьвіное сала, яйкі і жывая птушка.

II. *Меншчына.* Краіна не аднолькавая па сваіх натуральна-гістарычных умовах: частка яе (заходня-паўночная) зьяўляецца найбольш высокай над узроўнем мора (у сярэднім каля 200—300 м.); мае ў большасьці марэнны краявід і даволі пасечаны рэльеф з пераважна моцна-ападзоленымі глебамі на розных суглiністых глебатворчых пародах. Другая частка (усходняя)—нізкая, з поўпалескім краявідам; з слаба і сярэдне-ападзоленымі глебамі на глебатворчых пародах, пачынаючы ад глыбокіх пяскоў і канчаючы такімі-ж глыбокімі лёсавіднымі суглінкамі; пры чым сярод гэтых, пануючых глебаў значна пашыраны і падзоліста-балотныя.

Лясістасьць краіны даволі значная, за выключэньнем заходняй яе часткі, якая ўжо малалясіста. Інтэнсыўнасьць сельскай гаспадаркі ў заходняй частцы гэтакая-ж як і ў Віцебшчыне, а ва ўсходняй складае толькі—80% ад апошняй. Сыстэма ральніцтва характарызуецца: найменшым, параўнаўча з іншымі краінамі, процантам збожжавых; найвышэйшым % сеяных траў і аўса; сярэднім % бульбы і ячменю; зім. жыта, лён і грэчка пашыраны, адносна да іншых краін — слаба. Па колькасьці галоў усяе скаціны на 100 гэкт. засеву, краіна стаіць на апошнім месцы; адбываецца барацьба за першынства ў статку паміж быдлам і сьвіньнямі; авечкі займаюць мінімальны процант, які няўхільна памяншаецца. Рыначнымі прадуктамі зьяўляюцца: сьвініна і сала (аднолькава з Віцебшчынай); мяса і мясныя прадукты ад быдла (першае месца ў рэспубліцы); з прадуктаў птушніцтва пераважна — яйкі; масла вывозілася менш чымся па іншых краінах і вываз яго зьмяншаўся.

III. *Магілеўшчына.* Краіна таксама падзяляецца на дзьве, амаль што роўныя часткі: паўночна-усходнюю і паўднёва-заходнюю. Паўночна-усходняя частка значна ўзьнята над узроўнем мора (у сярэднім каля 200 м.); мае марэнны краявід, які часамі зьменьваецца на лёсавы. Але, як першы гэтак і другі характарызуюцца адносна роўнай паверхняй (плято). Глебы моцна-ападзолены і ляжаць на глыбокіх лёсавідных суглінках, або суглінках падасланых марэнай. Паўднёва-заходняя—нізкая з поўпалескім

краявідам і пераважна сярэдне-ападзоленымі глебамі на пяскох і супяскох падасланых марэнай, або трацічнай глінай.

Краіна больш усіх іншых — развораная, з найменшым % лесу, далейшае зьмяншэньне якога, ідзе інтэнсыўна. Паўночна-усходняя частка мае сельскую г-ку па вышыні інтэнсыўнасьці аднолькавую з Віцебшчынай паўднёва-заходняя—менш інтэнсыўная. Але ўся краіна характарызуецца найменшай валавой прадукцыяй на душу сельскага насельніцтва (61,1 р.), найбольш ад усіх іншых адчувае крызіс сыстэмы земляробства, а разам з тым і аграрную пералюдненасьць.

Усе культуры даюць процант блізкі да сярэдняга па БССР; заўважваецца павольны рост бульбы, ячменю і сеяных траў. Адзнака „сярэдзіннасьці" ляжыць і на жывёлагадоўлі, якая да апошніх гадоў не набыла яшчэ больш менш пэўнага напрамку ў сваёй спэцыялізацыі, калі ня лічыць значна пашыранага птушніцтва ў бок вытворчасьці для рынку яек. Праўда, краіна мае максымальны % у статку авечак, але гэта ёсьць як раз не адзнака спэцыялізацыі, а наадварот сьведчыць аб унівэрсалізацыі тут тыпу с.-г-кі, якая апіраецца на большае чымся ў іншых краінах дзейнічаньне унутры-гаспадарчых натуральна-спажывецкіх матываў. Краіна патрабуе да сябе асаблівай увагі і дапамогі з боку дзяржавы і навукі.

IV. *Гомельшчына*[1]) Уся краіна знаходзіцца на вышыні ня больш 170 м. над узроўнем мора, але і ў гэтых межах яна павольна павышаецца ад захаду (каля 100 м.) на ўсход. Разам з падвышэньнем месца— рэльеф краіны ад амаль што зусім роўнага, паступова пераходзіць да ўсё больш хвалістага. У гэтым жа напрамку мяняюцца і глебы ад падзоліста-балоцістых на пяскох, праз сярэдняе ападзоленыя, таксама на пяскох, да слаба-ападзоленых на глыбокіх пяскох. Усходняя частка мае найвышэйшую для БССР шчыльнасьць сельскага насельніцтва (больш 50 ч. на кв. кілём.).

Заходняя частка ў адносінах да сельскай гаспадаркі характарызуецца: а) адсутнасьцю сеяных траў, б) вялізным % бульбы, в) зьніжаным % збожжавых, г) спажывецкім кірункам засеву прадзільна-тэхнічных культур, д) найбольшым разьвіцьцём жывёлагадоўлі экстэнсыўна-мяснога тыпу.

Усходняя частка краіны зьяўляецца пераходным раёнам ад заходняга (Мазырска-Рэчыцкага) да усходняга Палесься (Навазыбкаўска-Суражскага). Апошняе характарызуецца: а) малымі абшарамі сенажацяў; б) некалькі большым % сеяных траў; в) меншым разьмерам жывёлагадоўлі і пераводам яго на кармленьне бульбай; г) малым запасам гною, а таму і так званай трохяруснай тэхнікай ральніцтва (пагнойкі каля гародаў, поля, ялавіны); д) нізкімі ураджаямі і абвостранай аграрнай пералюдненасьцю.

[1]) Характарыстыка сельскай г-кі узята з артыкулу Г. І. Гарэцкага. „Сельское хозяйство Гомельской губ." („Материалы по районированию Западной области". Вып. І, ст. 25–48).

Рыначнымі прадуктамі для краіны зьяўляліся: бульба і сьпірытус, пянька, мяса і мясныя прадукты, жывыя птушкі (першае месца ў БССР), яйкі і прадукты садоўніцтва (г. чынам—яблыкі).

V. *Палесьсе*—Самая нізкая (па вышыні над узроўнем мора)—краіна, з надзвычайна слабым ухілам, роўным (плоскім) рэльефам, што вельмі спрыяе забалачваньню; у паглыбленых, плоскіх мясьцінах рэльефу ўздоўж рэк, а таксама па вадаразьделах ляжаць вялізарныя балоты. Глебы Палесься пераважна падзоліста-балоцістыя на пясковых і рэдка на супясковых глебатворчых пародах і балоцістыя на тарфяніках; значна радзей сустракаецца слаба і сярэдне-ападзоленыя глебы на глыбокіх пяскох і пяскох падасланых марэнай.

Шчыльнасьць насельніцтва Палесься найменшая ў БССР: у сярэднім па краіне каля 20 ч. сельскага насельніцтва на кв. кілём. Краіна мае найвышэйшую лясістасьць, найменшы процант пахаці, добра забясьпечаной сенажацьцю. Па ўзроўню інтэнсыўнасьці сельскае гаспадаркі Палесьсе займае апошняе месца (36,6 р. вал. прыб. на I г. с. г. плошчы); пры чым найбольш экстэнсыўнай часткай зьяўляецца Мазыршчына (каля 24 р. на гэктар).

Тып гаспадаркі—жывёлаводна-мясны з інтэнсыўным ральніцтвам у выглядзе пераважна: або пёстрапольля, або так званай „трохяруснай“ сыстэмы. Збожжавыя і бульба складаюць найвышэйшы процант у засеўным пляне; выдатнае месца (з тэндэнцыяй зьмяншэньня) займае грэчка. Усе іншыя культуры: авёс, ячмень, лён і сеяныя травы даюць найменшы процант параўнаўча з іншымі краінамі.

Палесьсе мае найвышэйшую шчыльнасьць скаціны на 100 г. засеву з дамінуючай рольлю ў статку—быдла, а затым сьвіней. Рынaчнымі прадуктамі для краіны зьяўляюцца: жывое быдла (на краіну прыпадаў амаль што ўвесь рэспубліканскі вываз); жывыя сьвіньні (Бабруйшчына), жывыя птушкі, масла (Бабруйшчына), мяса і мясныя прадукты (па вывазу якіх апошняе месца ў рэспубліцы).

**Велічыня вёсак па краінах.** Да пададзенай характарыстыкі асобных краін неабходна яшчэ дадаць невялічкі агляд велічыні вёсак. Паводле праф. А. Л. Смоліча вылучаныя намі краіны ў адносінах да гэтага характарызуюцца наступным: а) уся Віцебшчына і паўночна-заходняя частка Меншчыны маюць вёскі, якія ў сярэднім складаюцца менш чымся з 20 двароў; б) другая частка Меншчыны, заходняя палова Магілеўшчыны (крыху і крайняя усходняя) і заходняя частка Палесься (часткова) маюць вёскі велічыней ад 20 да 40 двароў; в) усход Магілеўшчыны і ўсход Палесься характарызуецца найвялікшым разьмерам вёсак (б. 40 двароў)[1]).

[1]) Аркадзь Смоліч: „Кароткі курс геаграфіі Беларусі“ выд. 1925 г. стар. 118—119.

Мы паспрабавалі да гэтага-ж пытаньня падыйсьці крыху іначай. Нас зацікавіла не сярэдняя колькасьць двароў на вёску ў розных раёнах, *а велічыня процанту вёсак, у якіх землекарыстаньне перабольшвае сярэдні, арыентыровачна вызначаны намі оптымум тэрыторыі.* Гэты оптымум атрымаўся ў межах 140—220 гэкт., або ў 15—20 двароў. Далей, для усіх адміністрацыйных раёнаў БССР (апрача раёнаў Гомельшчыны) намі быў вылічан % вёсак з колькасьцю больш 20 двароў і затым спосабам дэзамэтрыі вызначаны былі на карце межы гэтай адзнакі[1])

У выніку мы высьветлілі, што: 1) Віцебшчына мае найменшы % вёсак звыш аптымальнага разьмеру, пры чым павялічэньне гэтага процанту ідзе з поўначы на поўдзень ад 12 да 60%; 2) Меншчына і Магілеўшчына даюць сярэдні процант (каля 60—80%) вёсак, якія перабольшваюць аптымальны разьмер. Выключэньне складае паўночна-усходняя частка Магілеўшчыны (Аршанска-Горацка-Мсьціслаўскі раён), дзе 80—100% існуючых вёсак маюць больш 20 двароў на вёску; 3) Палесьсе, асабліва Мазыршчына, мае найбольш мнагадворныя вёскі, 80% якіх перабольшваюць оптымум; раён каля Бабруйску і к поўначы ад яго мае сярэдні % вёсак звыш отымуму (60—80%).

Пададзеная раней характарыстыка арографічных умоў, разам з здабытымі толькі што ведамі аб велічыні вёсак, даюць падставу сьцвярджаць, што паміж рознымі краявідамі БССР і велічынёй вёсак ёсьць пэўная сувязь. Мінімальны разьмер вёсак характэрны для Віцебшчыны—краіны маладога марэннага краявіду, а таксама для пўаночнай часткі Аршаншчыны і паўночна-заходняй Меншчыны—краін канцавых марэн. Сярэдняя велічыня вёсак мае месца ў Меншчыне і Магілеўшчыне—краінах пераважна з увалавым краявідам. Найбольшыя вёскі маюць месца, з аднаго боку, ва ўмовах палескага краявіду (Мазыршчына) з найменшай вышынёй над узроўнем мора (каля 100 м.) і плоскім рэльефам, і з другога боку—ва ўмовах лёсавіднага краявіду (паўночна-усходняя Магілеўшчына), значна ўзьнятага над узроўнем мора (200—250 м.), але таксама з пераважна роўным рэльефам (плято).

Гэтым мы мусім скончыць крыху зацягнуты намі агляд краін і перайсьці да разгляду дынамікі утварэньня пасёлкаў па БССР (за выключэньнем Гомельшчыны, для якой неабходныя даныя за ўсе першыя чатыры гады атрыманы намі толькі сумарна).

**Дынаміка пасёлкаў**

За пэрыяд 1922—27 г. усяго на тэрыторыі БССР утворана пасёлкаў на плошчы 590.434 гэктараў, што складае каля 29% ад усей землеўпарадкаванай за гэты пэрыяд плошчы сялянскага землекарыстаньня (2.052.000 г.);[2]) пры чым у

---

[1]) Матар'ялы ЦСКБ: „Вынікі адміністр.-гаспадар. перапісу" 1925 г.

[2]) Паказаная лічба атрымана паводле: „Дзейнасьць ураду БССР за 1926—27 г.", дзе на стар. 50 вызначана ўся землеўпарадкаваная (разам з дарэвалюцыйнай) плошча—

асобныя гады гэты процант паднімаўся да 64% (1924—25 г.). Па гадох рух зямельнай плошчы, на якой утварыліся пасёлкі, можна пабачыць з дыяграмы № 2[1]).

*Мал.* 2. Рух плошчы зямлі пад пасёлкамі (ў тысячах гэктараў).




Пададзеная крывая сьведчыць аб найбольшым размаху пасялковага землеўпарадкаваньня ў 1924—25 г., пасьля якога яно пачало звужацца, як абсалютна (ад 108.200 гэкт. да 82.380 г.), гэтак жа і адносна ўсей землеўпарадкаванай плошчы (ад 64% да 38%). Было-б лёгкадумным лічыць гэты ход крывой за законаўпарадкаваны і шукаць пры гэтым прычын, якія яго абумоўліваюць.

Працэс утварэньня форм землекарыстаньня пры любым народна-гаспадарчым і палітычным укладзе зьяўляецца далёка не спонтанэйным; на ім больш чымся на чым небудзь іншым адбіваецца напрамак і моц сацыяльнага рэгуляваньня. Калі прыпамятаць тую агульную аграрна-палітычную установку на сялянскую г-ку, якая мела месца ў вясну 1925 г., то стане зразумелым зьніжэньне крывой пасьля 1924—25 г.[2]).

Вось чаму, для мэт пазнавальных, больш цікавым зьяўляецца паглядзець як агульная палітычная ўстаноўка адбілася на працэсе пасялковага землеўпарадкаваньня ў асобных краінах. Разгляд належнага матар'ялу дае выразны адказ: тыя краіны (Магілеўшчына і Меншчына), дзе пераход на пасёлкі з самага пачатку разгарнуўся шырока,—паказваюць за апошнія 2 гады стромкае зьніжэньне (ад 91 тыс. да 48 тыс. гэктар.); і наадварот, краіны (Віцебшчына і Палесьсе), у якіх з пачатку утварэньне пасёлкаў ішло вельмі марудна, даюць у гэтыя ж 2 гады—стромкі ўздым (ад 15 тыс. да 34 тыс. гэктар). Увесь ход аднэй і другой крывых паказаны на дыяграме № 3 (гл. стар. 25).

3.409.500 г.; пры чым там жа зазначана, што 86% гэтай плошчы—землеўпарадкаваньне сялян, што дае 2.931.700 г.; адкінуўшы ад гэтай, усей плошчы тую яе частку, якая землеўпарадкавана да рэвалюцыі (9,8% ад зямель с. г. прызначэньня) у колькасьці прыблізна 880.000 г., атрымліваем урэшце—2.052.000 г.

1) Пасёлкі Гомельшчыны ў даныя дыяграмы не ўвайшлі.

2) Гл. даклад Каменева Л.Б. на VII Московском губ. С'езде Советов (Изв. ЦИК СССР 1925 № 85 (2418).

Гэты факт, як бы некаторай прасторава—геаграфічнай нівеліроўкі ў пашырэньні пасёлкаў зьяўляецца вельмі цікавым. Мала таго, ў выпадку падмацаваньня яго ў далейшыя гады, ён сьведчыць аб тым, што пасёлкі да пэўнай ступені могуць разглядацца, як унівэрсальная (у сэнсе прасторава—геаграфічным) форма сялянскага землекарыстаньня. Пры чым такой формай, якая ў аснаўным можа пакрыць сабой усю праблему аб формах гэтага землекарыстаньня, а саму праблему зьвесьці толькі *да задачы параённай тэхніка—агранізацыйнай дэталізацыі пасёлкаў* з боку іх: а) рознага оптымуму зямельнай тэрыторыі, б) розьніцы палёў севазвароту, в) характару расьсяленьня, г) велічыні сядзіб і іх разьмяшчэньня і г. д. Калі б гэта было так, то пахіснулася-б і вэрсія аб спэцыфічнай адпаведнасьці для некаторых краін і раёнаў (напр., Віцебшчына)—хутарской формы, якая бясспрэчна у большай ступені навеяна сацыяльна-палітычнымі меркаваньнямі, чымся абумоўлена натуральна-гістарычнымі асаблівасьцямі гэтых краін. Зразумела, што высунутае палажэньне ні ў якай меры не супярэчыць, выказанаму раней аб залежнасьці велічыні паселішч ад араграфічных умоў, паколькі розны разьмер тэрыторыі пасёлку зьяўляецца тым рэчышчам, па якому пойдзе модыфікацыйны уплыў араграфічных умоў.

*Мал. 3.* Рух плошчы зямлі пад пасёлкамі па краінах (ў тыс.гэкт.)




Гіпотэзу аб унівэрсальным характары пасялковай формы мы высунулі не выпадкова, а дзеля таго, каб падштурхнуць думку да крытычнага успрыйманьня сучаснай нам голай эмпірыі, якая ў значнай ступені зьяўляецца спадчынай і помнікам іншай народна-гаспадарчай эпохі і зьвязанай з ёй палітыкі.

Што гэта крытычная прышчэпка запраўды неабходна—відаць з усёй землеўпарадкаваўчай літаратуры да „Трудов Земплан РСФСР“ уключна. Апошні, скарыстоўваючы, як відаць, усе дасягненьні землеўпарадкаваўчай навукі, цэлых 2 вялізных раёны (Паўночна-Заходні і Заходні), якія ахопліваюць 8 губэрань, схіляецца прынесьці ў ахвяру „хутараманіі“ толькі таму, што „абодвы гэтыя раёны па сваіх прыродных і эканамічных умовах да гэтага часу зьяўляліся вельмі адпавядаючымі для пашырэньня тут індывідуалізаваных форм землекарыстаньня“ (хутароў Я. К.) Пры

чым, там жа вельмі лёгка заўважыць думку, што толькі хутары даюць мажлівасьць весьці ў гэтых раёнах „рэнтабельную гаспадарку“. Рэверанс зроблены ў сувязі з гэтай думкай у бок калектыўных г-к зьяўляецца толькі афіцыйным, а па сутнасьці незразумелым і фальшывым [1]).

**Геаграфія пасёлкаў**

У даны момант у БССР мы маем зусім выразную дыфэрэнцыяцыю паміж раёнамі ў адносінах пашырэньня ў іх тых або іншых форм землекарыстаньня. Аб гэтым у прыватнасьці сьведчаць і даныя Ц.С.К.Б., апрацаваныя па матар‘ялах 10% веснавога апросу за 1927 г.

Как зрабіць розьніцу паміж краінамі выразнай, мы з гэтых даных узялі толькі тыя гаспадаркі, якія карыстаюцца зямлёй у новых формах (пасёлкі, адрубы, хутары); усяго 10% ахапіла па БССР—24.031 гаспадарак з паказанымі формамі. Далей, пасьля належных вылічэньняў, для сучасных васьмі акруг—былі атрыманы адносныя велічыні для кожнай формы, якія і скарыстаны намі ў мэтах характарыстыкі ступені пашырэньня тэй або іншай формы ў кожнай з акруг. Хістаньні атрымаліся значныя: хутары ад мінімуму ў 23% (Гомельшчына)—да максымуму ў 95% (Віцебшчына); адрубы ад 1% (Віцебшчына) да 30% (Мазыршчына); пасёлкі ад 4% (Віцебшчына) да 71 (Гомельшчына).

*Мал. 4.* На 100 гаспадарак з новай формай землекарыстаньня—прыпадае:




[1]) „Советское землеустройство и мелиорация. Перспективный план“ стар. 53 і дал.

У мэтах адшуканьня геаграфічнай законаўпарадкаванасьці, намі асобна былі вылучаны усходнія акругі і асобна—заходнія. Далей, і тыя і другія былі пастаўлены ў парадку з поўначы на поўдзень: I усходнія—1) Віцебская, 2) Аршанская, 3) Магілеўская і 4) Гомельская; II заходнія—5) Полацкая, 6) Менская, 7) Бабруйская і 8) Мазырская (гэты парадак азначэньня захован і на дыяграме). Урэшце, для лепшага графічнага уяўленьня было прынята: %% хутароў і адрубаў адкладваць уніз ад восі абсцыс, а пасёлкі—уверх (гл. дыягр. № 4 на стар. 26).

Як бачым, тэндэнцыя зьмены форм ня зусім аднолькавая для усходняй і заходняй частак. У той час, як для усходніх акруг вельмі яскрава выступае законаўпарадкаванасьць (пры пасоўваньні на поўдзень) зьмяншэньня % хутароў і няухільнае павялічэньне % пасёлкаў,—у заходніх акругах гэта тэндэнцыя даходзіць толькі да Бабруйшчыны, а потым у далейшым зьмяняецца адваротнай з тэй асаблівасьцю, што побач з хутарамі пачынаюць займаць выдатнае месца і адрубы. Некаторыя даныя для уразуменьня азначаных тэндэнцыяў былі пададзены намі пры характарыстыцы асобных краін. Больш падрабязны аналіз выходзіць за рамкі гэтае працы.

Такім чынам, намі вызначана адноснае месца, якое займаюць пасёлкі сярод іншых форм у паасобных акругах. Пасьля гэтага ня цяжка вылучыць раёны з найбольшым, сярэднім і найменшым пашырэньнем пасёлкаў. Узятыя намі інтэрвалы: 1) пасёлкі займаюць 4—25%; 2) 25—50% і 3) 50—75%,—падзяляюць тэрыторыю БССР на наступныя раёны: (глядзі картаграму № 5 на стар. 28).




*Мал. 6.* Разьмеркаваньне (у %%) усей плошчы пасялковага землекарыстаньня (590-434 гэкт.) па краінах

Як бачым, найменш пасёлкі пашыраны ў паўночнай і паўднёва-заходняй частках БССР (Віцебшчына і Палесьсе); найбольш—у паўднёва-усходняй (Гомельшчына).

Факт гэткай, а ня іншай лёкалізацыі пасёлкаў цалкам падмацоўваецца данымі Наркамзема, якія сьведчаць, што ўся землеўпарадкаваная па БССР (да 1/X-27 году) пад пасёлкі зямельная плошча (590,434 гэктара) падзяляецца такім чынам, што 84% гэтай плошчы прыпадае на адну з чатырох акруг (Гомельская,


КАРТА ПАСЁЛКАЎ на 1927 г.
(у %% да новых форм)
да 25%
25-50%
б. 50%
В. ЛУКІ
НЕВЕЛЬ
ДЗЬВІНА
6%
4%
ПОЛАЦАК
ВІЦЕБСК
СМАЛЕНСК
13%
ДНЯПРО
ВОРША
БАРЫСАЎ
37%
МАГІЛЕЎ
МЕНСК
БЯРОЗА
СОЖ
34%
БАБРУЙСК
26%
СЛУЦАК
УНЕЧА
НАВАЗЫБКАЎ
ГОМЕЛЬ
ПРЫПЯЦЬ
МАЗЫР
71%
4%
месцы досьледу
паўночн. і паўдн. межы мах. пас

Магілеўская, Менская і Аршанская) і толькі 16% на другую групу таксама з 4 акруг (Віцебская, Полацкая, Бабруйская, Мазырская). Па вызначаных намі 5 краінах гэта плошча разьмяркоўваецца так, як паказана ў дыяграме № 6 (гл. стар. 27).

**Забясьпечанасьць зямлёй гаспадарак, якія пераходзяць на пасёлкі.**

Наш агляд ня быў-бы поўным, калі-б не затрымацца на сярэдняй велічыні землекарыстаньня тых двароў, якія пераходзілі на пасёлкі. Цікава і на гэта пытаньне паглядзець з пункту гледжаньня дынамікі; тады па гадох атрымліваем: 1922-23 г.—8.3 г. на гаспадарку і ў далейшыя гады адпаведна: 5,0—9,0—9,6—9,0. Калі прыняць пад увагу, што па БССР сярэдняя землеабясьпека сялянскіх гаспадарак складае каля 9 гэкт. на гаспадарку, то магчыма зрабіць гэткія вывады: 1) да 1924 г. на пасёлкі пераходзілі пераважна маламоцныя групы сялянства, што ня можна не паставіць у сувязь з разьмеркаваньнем фондавых (пераважна панскіх) зямель паміж малазямельнага сялянства і часткова парабкамі былых панскіх маёнкаў; 2) з 1924 г. на пасёлкі больш шырока пачалі пераходзіць аснаўныя групы сялянства (сераднякі), што і зразумела, паколькі ў землеўпарадкаваньне пачалі ўцягвацца пераважна надзельныя землі.

Гэтыя думкі мы лічылі неабходным выказаць таму, што гаспадарчае вывучэньне пасёлкаў, асабліва ў аспэкце іх параўнаньня з іншымі формамі, не павінна ў масе захопліваць тыя з пасёлкаў, якія утварыліся да 1924 г.; у адваротным выпадку былі-б дасьледаваны некалькі выключныя пасёлкі якія арганізаваны пераважна маламоцным сялянствам і парабкамі.

Такім чынам, у меру наяўнага матар'ялу, пададзена геаграфія і дынаміка пашырэньня пасёлкаў у БССР. Здабытыя пры гэтым веды, хаця і зьяўляюцца неабходнымі, але далёка не здавальняючымі, а галоўнае неадказваючымі ўсей важнасьці гэтай формы. Апрача таго, сама практыка землеўпарадкаваньня, ў сувязі з пераходам насельніцтва на пасёлкі, настойліва ставіць цэлы шэраг больш менш ценкіх праблем арганізацыйна-гаспадарчага і эканамічнага зьместу. Матар'ялы НКЗ і ЦСК покуль ня могуць даць большага ў параўнаньні з тым, што толькі што прайшло перад вачыма. Тым самым дасьледчык які абраў пасёлкі аб'ектам свайго вывучэньня, ставіцца ў неабходнасьць самастойнага зьбіраньня спэцыяльнага матар'ялу, іначай кажучы—арганізацыі належнай экспэдыцыі.

---

## 3. ПАСТАНОЎКА ПРАВЕДЗЕНАГА ДОСЬЛЕДУ І ЗДАБЫТЫ МАТАР'ЯЛ

„Досьлед павінен дэталёва асвоіцца з матар'ялам, прааналізаваць розныя формы яго разьвіцьця, прасачыць іх унутраную сувязь".

*К. Маркс.*

Праф. Н. Тулайкаў у адным сваім цікавым артыкулу кажа: „Перш за ўсё неабходна патрабаваць ад аўтара зусім дакладнага і яснага апісаньня таго матар'ялу, на падставе якога зроблена яго праца" і далей: „між тым у гэтым вінны бываюць і вельмі цікавыя працы, што ў значнай ступені робіць іх менш каштоўнымі для чытача" [1]). Хоць гэта патрабаваньне праф. Тулайкоў і ставіць адносна невялікага артыкулу, але зразумела, што яно цалкам і ў яшчэ большай меры павінна быць накіравана на навуковую працу больш значнага аб'ёму. Мала таго, гэта вымаганьне трэба лічыць за катэгарычнае і бязумоўнае для ўсіх тых выпадкаў, калі досьлед абпіраецца на матар'ял, які сабраны і распрацаваны па больш менш арыгінальнаму пляну, праграмах і асабліва, калі пры гэтым ужывалася яшчэ і новая дасьледчая мэтадалёгія. У апошнім выпадку усякая непаўната і недакладнасьць апісаньня матар'ялаў фактычна пазбаўляе мажлівасьці крытычнай праверкі зробленых у працы вынікаў.

Пастаноўка і разьвязаньне праблем, якія знайшлі месца ў гэтай працы, амаль што цалком абперты на матар'ялы спэцыяльна праведзенага, экспэдыцыйнага досьледу. Уся праца, як у частцы падрыхтоўкі да яе, гэтак і пры зьбіраньні матар'ялаў і іх апрацоўцы,—да пэўнай меры зьяўляецца зусім самастойнай Літаратура, пакуль што, не дала прыкладаў пастаноўкі падобнага роду досьледаў. Таму, ў факту навізны працы захованы мажлівыя, часамі ма быць вельмі значныя, памылкі (як у пляне і праграмах зьбіраньня матар'ялаў, гэтак і ў іх апрацоўцы). Вось чаму, адчуваючы адказнасьць за вынікі досьледу, неабходна цалкам прыняць вымаганьне, якое высунута ў пададзеных сказах праф. Н. Тулайковым.

[1]) Н. Тулайков: „Что нужно требовать от хорошей научной статьи по сельскому хозяйству" стр. 10—11.
(Известия Саратовского Государственного Института Сельского Хозяйства и Мелиорации т. IV).

**Характар і задачы досьледу**

Плян, праграмы і мэтад працы залежаць ад пастаўленай досьледу задачы, ад папярэдняга яе разуменьня і мажлівага яе вырашэньня. Апошні крытэры не заўсёды прыймаецца пад увагу і не заўсёды прызнаецца за законны, чаму і ня шкодзіць на ім крыху затрымацца. Справа ў тым, што кожны досьлед у частцы навуковага назіраньня фактаў (звычайных эмпірычных, дакладных экспэрымэнтальных, літаратурных і г. д.) у вялікай ступені залежыць ад тэй папярэдняй гіпотэзы, якая склалася ў дасьледчыка ў сувязі з напрамкам і спосабам разьвязаньня пастаўленай яму задачы.

„Для таго, каб набыць з назіраемых фактаў карысьць, мы павінны ужо раней мець тыя або іншыя погляды, паняцьці, уяўленьні, якія б мы жадалі праверыць“[1]). „Аснаўная функцыя гіпотэзы складаецца з таго, што яна вядзе да новых назіраньняў і новага вопыту, у выніку чаго нашы дагадкі падмацоўваюцца, адкідаюцца, або зьменьваюцца...“[2])

„Кожная тэорыя да пэўнай меры зьяўляецца надбудовай над вядомым вопытам. Але, калі заўсёды тэорыя абумоўлена вопытам, то ці не мажліва сказаць і адваротнае: што ўсякі вопыт абумоўлен тэорыяй. Вось вялікае і прынцыповае пытаньне, ці уплываюць нашы гіпотэзы і нашы тэорыі на вопыт. Ці мажліва разарваць гэтыя дзьве часткі і разглядаць вопыт па замежамі гіпотэзы і тэорыі? Можна сказаць, што гэткае сьцьвярджэньне было-б не дыялектычным і не адказвала-б праўдзе“[3]).

Ня гледзячы на тое, што намі прыведзены аўтары розных кірункаў, як бачым, яны ўсё-ж аднадушна ставяць назіраньне фактаў у залежнасьць ад папярэдніх гіпотэз, калі пад апошнімі разумець „папярэднія дапушчэньні, зробленыя на пробу, у мэтах больш лёгкага разуменьня фактаў, але не мажлівыя яшчэ для доказу фактамі“[4]).

Такім чынам, праз тое або іншае разуменьне задачы, праз чакаемыя вынікі пры яе разьвязаньні—дасьледчык няўхіляна ўносіць ужо ў само сабіраньне матар'ялаў пэўны суб'ектывізм. Таму, каб даць уяўленьне аб матар'ялах, якія здабыты ў працэсе досьледу, карысна перш за ўсе дакладна вызначыць агульную мэту і канкрэтызаваць аснаўныя задачы працы.

Нявывучанасьць пасёлкаў, законнасьць і нават неабходнасьць вывучэньня іх з розных пунктаў гледжаньня ня могуць не адбіцца на устаноўцы пры першым іх дасьледваньні. У кожным разе пры такіх умовах вельмі цяжка застанавіцца толькі на аднэй праблеме, зацікавіцца толькі аднэй задачай. Сама сабой—мэта досьледу крыху расплываецца, задачы—унівэрсалізуюцца і аб'ект паварачваецца ўсей навізной і крывізной

[1]) В. Минто. „Дедуктивная и индуктивная логика“ стр. 337—338.
[2]) Э. Мах „Познание и заблуждение“ стр. 247.
[3]) А. К. Топорков. „Элементы диалектической логики“ стр. 78.
[4]) Э. Мах, ibidem стр. 241.

сваіх праблем, усей іх разнастайнасьцю. Пры чым, першае, што паўстае: — гэта патрэба, праз назіраньне і апісаньне жывых, канкрэтна існуючых пасёлкаў, устанавіць рэальнасьць пададзенага раней паняцьця — пасёлак, а тым самым вырашыць і другую задачу: у якой меры фактычна існуючыя пасёлкі могуць вылучацца і разглядацца, як новы самастойны і арыгінальны аб'ект навуковага пазнаньня.

Разам з тым, у першай працы аб пасёлках цяжка устрымацца ад таго, каб не захапіць у кола свайго досьледу шэрагу асобных праблем, зьвязаных з гаспадарчым вывучэньнем пасёлкаў, як напрыклад пытаньні: а) аб аптымальным разьмеру пасёлкаў; б) аб мажлівасьцях агульнага (грамадзкага) севазвароту; в) аб асваеньні пры пераходзе на пасёлкі рознымі сацыяльнымі групамі сялянства розных па якасьці зямель; г) аб сацыяльным падбору грамады пры ўтварэньні паселкаў; д) аб эфэкту пераходу на паселкі розных сацыяльных груп сялянства і г. д. Такім чынам, дасьледчык хаця нехаця становіцца на шлях наданьня свайму досьледу унівэрсальных, а ня вузка-спэцыяльных рысаў.

Строга кажучы, кожнае, хай сабе дробнае пытаньне патрабуе для свайго разьвязаньня асобнага падыходу, асобнага пляну і праграм пры зьбіраньні належных матар'ялаў. Адзіны плян пры інтэгральным характару досьледу да пэўнай меры пагаршае умовы для дакладнага вырашэньня асобных пытаньняў, якія ўключаны ў кола данага досьледу. Вось чаму і для нас было вельмі цяжка ўмясьціць у рамкі аднаго пляну і разам з тым захаваць непарушанымі інтарэсы, з аднаго боку,—дэталёвага высьвятленьня высунутых асобных праблем, а з другога—інтарэсы вызначэньня і уяўленьня, як чагосьці цэльнага,—тыпу пасёлкаў.

Аднак, паколькі для гэтага першага досьледу мы не знайшлі мажлівым адмовіцца ні ад аднэй з памянёных задач і паколькі, з другога боку, неабходна было лічыцца з наяўнымі рэальнымі мажлівасьцямі—пастолькі мы, ня гледзячы на дуалізм мэты і разнастайнасьць праблем, усё-ж прынялі адзіны плян зьбіраньня патрэбных матар'ялаў.

**Плян і месцы досьледу**

Пры апрацоўцы пляну, яго дэталізацыі і геаграфічнай канкрэтызацыі перад намі стаялі два прынцыпы; два шляхі. З іх першы—досьлед паставіць у ва ўсіх с.-г. раёнах БССР, але захапіць ім у кожным з раёнаў толькі невялікую колькасьць пасёлкаў, наперад абраных на падставе пэўных адзнак. Другі шлях—досьлед паставіць у адным-двух мясцох з найбольшай у іх колькасьцю і размаітасьцю аб'ектаў назіраньня (пасёлкаў); пры чым у часе зьбіраньня матар'ялаў не рабіць на месцы адборкі пажаданых аб'ектаў, а браць іх усе бяз выключэньняў.

Трэба лічыць за бясплоднае, агульныя разважаньні на тэму аб станоўчых і адмоўных баках кожнага з гэтых прынцыпаў і прыёмаў. Карыснай можа стаць толькі канкрэтная пастаноўка гэтай дылемы, якая

будзе выходзіць, як з прыроды данага, вывучаемага зьявішча, гэтак жа і з характару тых задач, якія ставяцца ў сувязі з яго дасьледваньнем. У нашым выпадку, само зьявішча, калі яго браць у жыцьці, філігранна і можна наперад сказаць, што яно дае цэлую гаму ньюансаў параўнача з адным, наперад узятым яго уяўленьнем. З другога боку, высунутыя намі асобныя праблемы (оптымум, севазварот, эфэкт і г. д.) могуць быць у працэсе іх вывучэньня пастаўлены і як праблемы ідыяграфічныя, і як праблемы—намаграфічныя.

Першая акалічнасьць (філіграннасьць аб'екту) выклікае два папярэдніх запытаньні: 1) на стадыі зьбіраньня матар'ялаў ці зьяўляецца мэтазгодным з фактычнай жыцьцёвай размаітасьці вылучаць толькі тыя аб'екты, якія ў большай меры адпавядаюць наперад узятай ідэальнай канцэпцыі і 2) ці можна, пры поўнай нявывучанасьці аб'екту, практычна правесьці сам адбор пажаданых варыяцыяў. Мы далі на абодвы запытаньні адмоўны адказ, паколькі лічылі, што першая наша задача—паверка правільнасьці нашых папярэдніх тэаратычных меркаваньняў—пры станоўчым адказе не атрымала-б аб'ектыўнага свайго вырашэньня. Апрача таго, мы ня бачылі і практычнай мажлівасьці, без ранейшага больш менш дакладнага знаёмства на месцы з усімі аб'ектамі, вылучыць тыя з іх, якія вызначаны наперад, як пажаданыя. Другая акалічнасьць—пытаньне аб ідыяграфічным, або номаграфічным характару асобных праблем атрымала ў нас поўны адказ і устаноўку, паводле якіх на першае месца намі высунуты гэтыя праблемы пераважна у іх номаграфічным аспэкту.

Калі побач з усімі гэтымі меркаваньнямі прыпомніць раней канстатаваны факт—лёкальнага к моманту досьледу, разьмяшчэньня пасёлкаў,—то выбар кіруючага прынцыпу для складаньня пляну досьледу—робіцца відавочным; гэта *прынцып канцэнтрацыі досьледу ў адным-двух мясцох з захватам у іх наяўнай размаітасьці данага аб'екту*

Задача адшуканьня на тэрыторыі Б. С. С. Р. адпаведных гэаграфічных пунктаў у значнай ступені была разьвязана папярэднім аглядам геаграфіі пашырэньня пасёлкаў. Там мы вызначалі і раён найбольшага іх пашырэньня, які абхапіў сабой наступныя чатыры акругі: Менскую, Аршанскую, Магілеўскую і Гомельскую. Калі прыняць пад увагу, што Гомельская акруга к часу падрыхтоўкі досьледу (зіма 1926—27 г.) ня была яшчэ ў складзе Б. С. С. Р., а Менская і Аршанская мелі параўнаўча невялікі процант пасёлкаў, арганізаваных у 1922—23 г., то месца для досьледу становіцца яшчэ больш дакладна вычначаным; гэта—Магілеўская акруга (у цяперашніх яе межах). Урэшце нам заставалася толькі яшчэ абраць у межах названай акругі (або ў сумежных з ёй адміністрацыйных раёнах) адзін-два пункты.

Бязумоўна, пры гэтым пажадана было абраць такія пункты, якія-б былі па мажлівасьці, тыповымі, як па сваіх натуральна-гістарычных ад-

знаках, гэтак-жа і па тыпу сельскае гаспадаркі. Аднак, тэрыторыя нават аднэй акругі ў нашых умовах дае гэткую стракатасьць наяўнасьці і тых і другіх адзнак, што імкненьне зьвесьці размаітасьць асобных раёнаў да двух тыпаў, а для іх знайсьці па аднаму характэрнаму пункту—зьяўляецца ня жыцьцёвым. Як бы дакладна не абіраць у межах сучаснай Магілеўскае акругі два пункты, апошнія ўсё роўна ні ў якім разе ня змогуць рэпрэзэнтаваць фактычную, значна больш размаітую, запраўднасьць. Вось чаму нашы адносіны да вызначэньня пунктаў досьледу, былі крыху іншымі і перш за ўсё бяз прэтэнзыі разглядаць гэтыя пункты, як тыповыя для ўсей Магілеўшчыны. За іншы падыход да гэтай справы казала і сама сутнастьць пастаўленых задач і зробленыя (па неабходнасьці) ужо ухіленьні ад ідэі ахопу досьледам усіх раёнаў Б. С. С. Р.

Карыстаючыся параённай картай пашырэньня пасёлкаў (на 1925 г.), мы арыентыровачна вызначылі у межах Магілеўшчыны некалькі пунктаў, якія, з аднаго боку, давалі належную канцэнтрацыю аб'ектаў дасьледваньня, а з другога—былі больш менш характэрнымі, як прадстаўнікі пэўных с.-г. раёнаў. Пасьля гэтага намі былі камандыраваны ў акруговыя цэнтры: Бабруйск, Магілеў, Ворша і Клімавічы двое кваліфікаваных навуковых супрацоўнікаў, якія павінны былі, паводле паданых м інструкцыяў, разам з адпаведнымі акруговымі спэцыялістымі, — канчаткова вызначыць пункты досьледу, а ў сувязі з вырашэньнем гэтага заданьня сабраць з мажлівай дэталізацыяй і паўнатой зьвесткі аб усіх пасёлках, утвораных у 1922—23 г.г. [1]).

Атрыманыя гэткім чынам матар'ялы, хаця і давалі максымум таго, што можна было атрымаць ад акруговых установ Н. К. З., на паверку зьявіліся ня зусім поўнымі і дэталёвымі. Аднак іх апрацоўка, разам з меркаваньнямі акруговых спэцыялістаў, усё-ж далі здавальняючы грунт для таго, каб канчаткова застанавіцца на двух пунктах: адзін—Мілаславіцка-Клімавіцкі (Калінішчына); другі—Гарадзецкі (Бабруйшчына). Пры чым першы з іх быў абраны як аснаўны для досьледу, другі—як дапамагальны.

Ня гледзячы на тое, што для досьледу браліся амаль што самыя старыя пасёлкі, у нас усё-ж ня было упэўненасьці ў тым, што сабраныя па іх зьвесткі, дадуць здавальняючы матар'ял для аднэй з важных праблем досьледу—праблемы грамадзкіх севазваротаў. Вось чаму, каб забясьпечыць сябе і з гэтага боку мы прымушаны былі ўзяць яшчэ адзін пункт, які бы гарантаваў наяўнасьць належных даных. Такі пункт быў вызначаны жыцьцём; гэта — Талачынскі і Коханаўскі раёны (Аршаншчына), у якім у 1923 г. частка невялікіх вёсак перайшла на шматпольле. Такім чынам, урэшце рэшт намі былі абраны тры пункты: Мілаславіцкі, Гарадзецкі і Талачынскі.

[1]) Карыстаюся выпадкам адзначыць зацікаўленасьць да досьледу акруговых спэцыялістаў і разам з тым падзякаваць іх за дапамогу.

## *Пастаноўка праведзенага досьледу і здабыты матар'ял*

Здабытыя ад акругоў матар'ялы далі мажлівасьць ня толькі канчаткова вызначыць геаграфічныя пункты досьледу, а і дакладна ў межах гэтых пунктаў абраць самі пасёлкі. Апошняе выклікалася тым, што мы наогул імкнуліся, да выезду на месца, мець на руках увесь неабходны матар'ял аб аб'ектах свайго будучага назіраньня. Папярэдняе ж абраньне канкрэтных пасёлкаў і вёсак дало нам магчымасьць сваечасова атрымаць для іх здымкі плянаў з падрабязнай пры іх экспплікацыяй, а для вёсак, якія перайшлі на шматпольле, — схэматычныя рысункі палёў з табліцамі пераходу да новага севазвароту.

Гнёзды (пункты) намі ўзяты былі невялікія (ня большыя ад адміністрацыйнага раёну), таму што, толькі пры гэтакай велічыні магла быць упэўненасьць у адноснай аднолькавасьці макра-сіл, дзейнічаньне якіх вызначае, як штандарт, гэтак і дынаміку сельскай гаспадаркі на тэрыторыі ўсяго гнязда. А тым самым у далейшым магла скласьціся магчымасьць наяўную разнаітасьць форм аднесьці да дзейнічаньня мікра-сіл, якія, уласна кажучы, пры гэткай вялічыні раёну выступаюць пераважна, як сілы натуральна-гістарычнага (якасьць глебы, мікра-ральеф, разьмеркаваньне зямлі па ўжытках і г. д.) і сацыяльнага парадку (сацыяльна-эканамічныя тыпы с.-г. прадпрыемстваў, сац.-эканам. групы сялянства). Паколькі вытлумачэньне пастаўленых раней праблем праэктавалася намі зрабіць на фоне дзейнічаньня іменна гэтага роду сіл (натуральна-гістарычных і сацыяльных),—пастолькі велічыня гнязда, на нашу думку, не павінна выклікаць асобных спрэчак, тым больш, што умовы мікрарэльефу і пры ўзятай велічыні раёну, фактычна зьявіліся амаль што аднолькавымі.

**Узрост дасьледваных пасёлкаў**

У межах вызначаных гнёзд *браліся толькі тыя пасёлкі, якія утварыліся ў 1923 г.* Пры чым гэта запатрабаваньне праводзілася катэгарычна і бяз усялякіх выключэньняў. Паказаны год быў абраны таму, што ранейшыя гады не давалі ў межах невялікіх раёнаў неабходнай колькасьці аб'ектаў—гэта адно, а па другое, толькі к 1923 г. былі больш менш пераможаны тыя дэфармацыйныя працэсы ў сельскай гаспадарцы, максімум якіх, як вядома, прыпадае на 1920—21 г. З другога боку, гады далейшыя за 1923 далі-б пасёлкі вельмі маладыя, якія к часу дасьледваньня не пасьпелі яшчэ набыць сталых і пэўных форм, а гэта фактычна пазбавіла б мажлівасьці вывучаць дынаміку гаспадарчага жыцьця пасёлкаў. Такім чынам, мы ўзялі толькі тыя пасёлкі, якія пражылі поўных тры гкспадарчых гады (1923-24—1926-27).

Бязумоўна, мы прадбачым крытыку ў сувязі з узятым пэрыядам (1923—27 г.) і ахвотна, наперад згаджаемся з тым, што калі-б пачакаць з досьледам яшчэ 3—5 гадоў, можна было-б атрымаць больш пэўны матар'ял для разьвязаньня пастаўленых задач, а тым самым паступіць і больш навукова. Але, як вядома, жыцьцё не чакае. На пасёлкі кожны

год у аднэй толькі БССР пераводзіцца больш 10.000 двароў. Мажліва, што праца пасялковага будаўніцтва робіцца практычна правільна, а гаспадарчы эфэкт ад яе—дакладна адпавядае нашым практычным і палітычным меркаваньням. Але ўсё-ж ня можна задачу дасьледваньня пасёлкаў адсоўваць да „лепшых дзён“, іначай кажучы да таго часу, калі ў аснаўным будзе скончана сучасная фаза землеўпарадкаваньня. Вось чаму мы вырашылі лепш пайсьці разам з жыцьцём, хаця-б для гэтага ў пэўнай меры і патрэбна было прынесьці ў ахвяру чыстату і строгасьць прынцыпаў навуковага дасьледваньня.

У сувязі з узятым пэрыядам нам могуць зрабіць яшчэ адзін закід: працяг часу дзя выяўленьня эфэкту пераходу на пасёлкі кароткі, а фактычны гаспадарчы рост пасёлкаў за узяты пэрыяд у значнай ступені зьвязан з агульнымі „адбудоўчымі працэсамі“. Кажучы наогул мы таксама зьяўляемся пераконанымі прыхільнікамі больш доўгіх тэрмінаў пры вывучэньні дынамічных працэсаў. Але, як відаць было з ранейшага, працяжнасьць узятага пэрыяду была дадзена самім жыцьцём даволі жорстка і без рэальных мажлівасьцяй для яго пашырэньня. З другога боку, калі разглядаць пытаньне канкрэтна, ў прыстасаваньні да нашага способу атрыманьня даных для высьвятленьня дынамікі, то трэба мець на увазе, што гэтыя даныя за адзін і другі тэрмін (1923—1924 і 1926—1927 г.) атрымліваліся шляхам аднаразовага апытаньня гаспадара (летам 1927). А пры гэткіх умовах, нават і пры мажлівасьці рассунуць межы пэрыяду, —трэба быць надзвычайна асьцярожным у павялічэньні зазначнага тэрміну, паколькі гэта павялічэньне пагаршае якасьць матар‘ялау за ранейшыя гады ў не параўнаўча большай прагрэсыі, чым павялічваецца памылка пры зьбліжэньні гадоў (да пэўнай мяжы). Хаця на гэту тэму мы не маем зараз спэцыяльнага дасьледваньня, усе-ж нам здаецца, што рацыянальная адлегласьць паміж гадамі (пры адначасовасьці вучоту для іх даных) ляжыць прыблізна каля 3—5 гадоў; іначай кажучы, узятая намі працяжнасьць пэрыяду зьяўляецца ня гэткай благой, як гэта здаецца на першае вока[1]).

Што датычыцца ацэнкі гаспадарчага росту паселкаў і ў сувязі з гэтым пытаньня аб тым, у якой меры ён абумоўлен агульнымі народнагаспадарчымі працэсамі адбудовы, то трэба сказаць, што гэта акалічнасьць можа быць пераможана (часткова) тым, што за аснаўны крытэры

[1]) Урадавае дасьледваньне вынікаў Сталыпінскага землеўпарадкаваньня было арганізавана ў 1913 г. і дасьледвала гаспадаркі, якія перашлі да новай формы толькі ў 1910 г., а значная частка нават у 1911 г. Б. Д. Бруцкус у сувязі з гэтым піша: „Казаць аб дасьледаваных гаспадарках, як аб склаўшымся тыпу, зусім немажліва, і на падставе атрыманага канкрэтнага матар‘ялу ня можна выказваць канчатковых суджэньняў аб выніках землеўпарадкаваньня, а,—самае вялікае—можна казаць аб некаторых тэндэнцыях, якія вызначыліся ў разьвіцьці упарадкаваных гаспадарак“ (Б. Д. Бруцкус: „Аграрный вопрос и аграрная политика“, стар. 181). Двухгадовы або трохгадовы узрост мелі г-кі дасьледаваныя И. В. Мозжухиным (гл. яго працу: „Зеулеустройство в Богородицком у. Тульской губ.“).

ацэнкі неабходна будзе ўзяць не абсалютныя велічыні росту, а пераважна—адносныя. Праўда, пры гэтым моўчкі будзе прынята тая умова, што працэсы адбудовы для ўсіх дасьледваных аб'ектаў (двароў, пасёлкаў) праходзілі больш-менш аднальково, як па тэмпу, гэтак і па характару. Бязумоўна, тэарытычна гэткае дапушчэньне зьяўляецца няправільным, але ў дасьледчай практыцы з гэтым трэба будзе лічыцца толькі тады, калі будзе даведзена, што розьніца ў тэмпу і характару адбудовы розных двароў і пасёлкаў выхвдзіць за межы агульнай дакладнасьці экспэдыцыйных досьледаў. Мы лічылі і лічым, што гэта розьніца непараўнальна больш меншая, чым велічыня памылкі, якую мы наогул робім пры не экспэрымэнтальных мэтадах дасьледваньня. Таму і прадпасылка—аднальковасьці працэсу адбудовы не зьяўляецца вялікай недарэчнасьцю. Такім чынам, намі пададзены больш менш падрабязна тыя меркаваньні, якія, на нашу думку, павінны апраўдаць, як узятыя для дынамікі гады, гэтак і працяжнасьць пэрыяду паміж імі [1]).

Каб скончыць пытаньне аб задачах і пляну досьледу патрэбна толькі зазначыць, што пасёлкі утвораныя ў 1923 г. браліся намі ўсьцяж, безадносна да іх велічыні, асаблівасьцяй натуральна-гістарычных, сацыяльных, асаблівасьцяй севазвароту і г. д. Адным словам, мы спачатку і да канца вытрымлівалі прыняты прынцып: улавіць у працэсе зьбіраньня матар'ялаў жыцьцёвую размаітасьць за пэўны час і на пэўным адрэзку тэрыторыі, з тым, каб характэрны для навуковага досьледу мэтад ізаляцыі, ужыць толькі на стадыі распрацоўкі. Толькі ў адным выпадку намі быў зроблен адбор пры зьбіраньні: гэта для запаўненьня блянку бюджэтна-агранамічнай праграмы. У сувязі з запаўненем яго да выезду на месца, на падставе плянавага і іншага матар'ялаў, намі былі вылічаны для кожнага пасёлку: каэфіцыент геамэтрычнай землеўпарадкаванасьці, колькасьць зямлі на развёрстачную адзінку (крытэры якасьці зямлі), забясьпека пахаці сенажацямі і велічыня ўсей зямельнай тэрыторыі. Гэтыя паказчыкі мы і ужылі пры арыентыровачным абраньні пасёлкаў для запаўненьня ў іх памянёнай формы. Пры чым у часе досьледу, пасьля масавага падворнага вучоту, ў гэты адбор былі ўнесены некаторыя зьмены, але гэта і было дазволена зрабіць, таму што на чале кожнай дасьледчай групы стаялі кваліфікаваныя навуковыя супрацоўнікі (асьпіранты).

**Мэтад досьледу**

Наш час характарызуецца параўнаўча значным ажыўленьнем навуковай думкі каля пытаньняў, зьвязаных з землеўпарадкаваньнем. Апошнія гады далі цэлы шэраг выдатных навуковых прац, якія ўнесьлі ў літаратару аб землеўпарадкаваньні многа новага і каштоўнага [2]). Гэта ў першую чаргу адносіцца да

[1]) Мы выказваем спадзяваньне, што дасьледваныя намі пасёлкі зьявяцца яшчэ раз прадметам вывучэньня па тэй жа праграме: пры чым тады трэцю вешку год) мажліва ўжо будзе паставіць на любой адлегласьці ад другой, напрыклад — 5 год (1924—27—32 г.)

[2]) Сьпіс літаратуры гл. у праф. Някрасава Ф. Г. „Основы землеустройства", стар. 380.

навуковых манаграфіяў, якія распрацоўваюць матэматычна-геадэзычныя падставы землеўпарадкаваньня (Кіркор У. І., Шылоў П. І., Арлоў М. П., Папоў і інш.), а ў другую—да прац тэхніка-арганізацыйнага кірунку (Чаянаў А. В., Лапацін, Вайнштэйн, Сазонаў, Яфрэмаў, Пятроў і інш.).

Бязумоўна, трэба вітаць распрацоўку праблем землеўпарадкаваньня ў памянёных кірунках, але разам з тым неабходна падкрэсьліць патрэбу належнай пастаноўкі дасьледчай працы і па вывучэньню гаспадарча-эканамічных пытаньняў землеўпарадкаваньня. Пры чым у сувязі з досьледамі апошняга парадку, неабходна у ва ўсю шырыню паставіць пытаньне аб мэтадалёгічным баку працы, таму што тыя нямногія досьледы, якія мы зараз маем, выконваюцца амаль што выключна на падставе абстрактна-рацыяналістычнага мэтаду.

Мы згодны з славамі Маркса, што „пры вывучэньні эканамічных форм ня можна карыстацца ні мікраскопам, ні хэмічным рэактывам; тое і другое павінна замяніць моц абстракцыі"[1]), але разам з тым мы прыймаем і словы Энгельса: „Раней чым прыйсьці да думкі выкладу *формулы* цыліндра з кручэньня простакутніка каля аднаго з яго бакоў,—трэба было дасьледаваць пэўную колькасьць рэальных простакутнікаў і цыліндраў хаця-бы і ў вельмі недасканалых формах"[2]). Абстракцыя неабходна, законна і пладатворна толькі тады, калі яна абаперта на здавальняючую колькасьць назіраньняў канкрэтнага, калі яна зьвязана і правяраецца апошнім. Але нават і пры гэтай умове ня трэба перабольшваць значэньне абстракцыі.

Вядомы францускі геомэтр Анры Пуанкарэ ў аднэй з сваіх прац, глыбокай па зьместу і бліскучай па выкладаньню кажа: „матэматыкі ідуць уперад пры дапамозе, „пабудовы",—яны будуюць камбінацыі ўсё больш і больш складаныя" і далей: „для таго, каб пабудова магла быць карыснай,—каб яна ня была для розуму нікчэмнай працай, каб яна магла быць падставай для далейшага паступальнага руху, трэба, каб яна (пабудова) раней за ўсё зьяўлялася нейкім адзінствам, якое-б дазволіла тут бачыць *нешта іншае, чым нарашчваньне складаючых частак*" (падкрэсьлена мной Я. К.) і ўрэшце: „Аналітычны працэс „пабудовы" ня прымушае нас спушчацца ніжэй, але ён пакідае нас на гэтай жа вышыні. *Мы можам падняцца вышэй толькі дзякуючы матэматычнай індукцыі* (падкрэсьл. мной Я. К.), якая адна можа навучыць нас чаму небудзь новаму. Без дапамогі гэтай індукцыі, іншай у пэўнай меры ад індукцыі фізычнай, але гэтакай жа пладатворчай, як і апошняя, пабудова была-б бязсільна утварыць Навуку"[3]). Гэтак выказваецца выдатнейшы матэматык—геомэтр у сувязі з аналізам „прыроды матэматычнага разважаньня",

[1]) К. Маркс „Капитал" т. I, частка I, стар. XVI.
[2]) Ф. Энгельс: „Философия. Политическая экономия. Социализм". стар. 34.
[3]) Анри Пуанкаре: „Наука и гипотеза", стар. 23-25.

Голыя дэдукцыі, хай саба віртуозна-пабудаваныя і матэматычна угрунтаваныя ўсё-ж пакідаюць нас на тэй-жа самай вышыні навуковага пазнаньня, нават і тады, калі справа ідзе аб праблемах матэматыкі. Вось што трэба добра памятаць тым, хто распрацоўвае зараз тэхніка-інжынэрныя і тэхніка-гаспадарчыя асновы землеўпарадкаваньня. У наш час, калі так мала падлічан вопыт жыцьця, калі гэты вопыт не знайшоў яшчэ належнага выяўленьня ў навуковых фактах, калі мала саміх фактаў—вельмі шкодна ганяць дасьледчую думку на худыя палі абстракцыі. Нічога апрача трывальнасьцяй, пры гэткіх умовах яна ня зможа даць. Так яна можа знайсьці, што квадрат—найлепшая фігура вучастку, што перасячэньне дыяганаляў найлепшае месца для сядзібы, што ў кожную зямельную адзінку трэба ўключаць розныя ужыткі і ў тэй прапорцыі, якая карысна і г. д.[1]). Навуковая і практычная вартасьць такіх здабыткаў—відавочна.

Яшчэ горш выглядае справа, калі чыстая абстрактна-рацыяналістычная установка пераносіцца на аналіз гаспадарча-эканамічных пытаньняў землеўпарадкаваньня. У даным выпадку мы ня можам лепш сказаць, чым выдатнейшы дасьледчык гаспадарчых зьяў сел. гаспадаркі праф. Е. Лаўр. „Практык адчувае неперамажанае недавер'е ў адносінах да палажэньняў, якія атрымліваюцца чыста дэдукцыйна. Ён кіруецца пры гэтым правільным чуцьцём, бо вельмі часта пасылкі зьяўляюцца ложнымі і самыя бліскучыя доказы такімі, якія стаяць на гліняных нагах. Атрыманыя дэдукцыйным шляхам палажэньні зьвязаны, у большасьці, з вялікай колькасьцю адцягненых прадпасылак. Іх значэньне для практыкі, ідзе ўзаемадзейнічаюць самыя разматыя фактары, лёгка перабальшваецца (напрыклад, закон зьніжэньня вытворчасьці пры дадатковых выдатках“[2]).

Праўда, яшчэ і ў наш час ёсьць сьмельчакі, якія для „найбольш дакладнага разьвязаньня“ задачы па „переустройству известного комплекса землепользований“ імкнуцца самі і раюць другім ісьці гэткім шляхам: 1) „высьветліць *усе фактары* (падкрэсьлена аўтарам), уплыў якіх праэкт (землеўпарадкаваўчы Я. К.) павінен адбіць; 2) вызначыць *кірунак і моц дзейнічаньня кожнага фактару, узятага ізаліравана і ва ўзаемадзейнічаньні з іншымі*“ (падкрэсьлена аўтарам)[3]).

На гэты замер мы таксама лепш за ўсё адкажам вытрымкай з д-ра Р. Крыцмоўскага, які крытыкуючы наогул захапленьне рацыяналізмам і экспэрымэнталізмам у галінах сельска-гаспадарчых навук кажа: „Пры выконваньні ўсіх гэтых экспэрымэнтаў, я павінен скласьці ўсе мажлівыя камбінацыі гэтых фактараў і вылічыць, якая з гэтых камбінацыяў зьяў-

[1]) Як адзін з прыкладаў гл. И. Ф. Петров. „Хозяйственно-технические проблемы землеустройства“ („Сборник по вопросам землеустройства, I ч.“, стар. 21-60).

[2]) Цытую па Крыцмоўскаму: „Развитие основных принципов науки о сельском хозяйстве в Западной Европе“. стар. 75.

[3]) И. Ф. Петров, ibidem стар. 59.

ляецца найбольш мэтазгоднай. Але гэткі разьлік, тэарэтычная пабудова, штучны, мысьлёвы сынтэз складанага клубка ўзаемадзейнічаючых фактараў—зьяўляецца рэччу немагчымай. Як мы ня раз падкрэсьлівалі, пры гэткім тэарэтычным разьліку неабходна было-б выканаць працу па колькаснай ацэнцы кожнага асобнага фактара, для чаго мы пры складанасьці умоў ня маем а ніякага пункту апірашча. *Фактычны вынік дзейнічаньня комплексу фактараў мажліва устанавіць толькі эмпірычна, на практыцы;* адсюль і вялікае значэньне эмпірычнага дасьледваньня сельскае гаспадаркі" (падкрэсьлена аўтарам) [1].

Мы затрымаліся параўнаўча так доўга на мэтадалёгічнай аднабаковасьці сучаснай землеўпарадкаваўчай навукі таму, што спроба адшукаць у ёй дапамогу, для пастаноўкі дасьледчай працы эмпірыка-статыстычнага кірунку не дае покуль што ўдзячных вынікаў. Прыемнае выключэньне ў гэтых адносінах даюць покуль што працы праф. П.Н. Першына. Апошні ня толькі сам дае добрыя прыклады ўжываньня эмпірыка-статыстычнага мэтаду, але ў адным з сваіх апошніх артыкулаў ставіць пытаньне аб „мэтадах землеўпарадкаваўчых досьледаў", сярод якіх вылучае і „мэтад масавых экспэдыцыйных статыстычных апісаньняў" [2]).

Пры чым, у сувязі з гэтым мэтадам, праф. П. Н. Першын кажа: „На падставе масавага апісаньня толькі і ўтвараецца магчымасьць вывесьці эмпірычныя законаўпарадкаванасьці, якія характарызуюць землеўпарадкаўча-гаспадарчыя зьявішчы. Іначай кажучы, мэтад экспэдыцыйнастатыстычнага апісаньня дае ў нашы рукі той матар'ял, на падставе якога і мажліва пабудаваць эмпірычную сыстэму абагуленага разуменьня землеўпарадкаваньня" [3]). Мы цалкам падзяляем пададзеныя думкі праф. Першына і лічым, што землеўпарадкаваўчая навука - у частцы вывучэньня гаспадарчых праблем (пры даным стане наяўных для гэтага матар'ялаў)—куды шпарчэй пачне запраўды разьвівацца, калі вырвецца з асалоды абстрактна-рацыяналістычнага „умнічаньня" на шлях эмпірычнастатыстычнага дасьледваньня.

Мэтад, ужыты ў гэтай працы, у значнай ступені адпавядае таму, які названы праф. Першыным, як „мэтад масавых экспэдыцыйных статыстычных апісаньняў". Але разам з скарыстаньнем гэтага апошняга, як аснаўнога, намі прыцягнут і мэтад бюджэтна-манаграфічных апісаньняў. Чаму гэта зроблена і ў якой меры—будзе паступова высьвятляцца у далейшым.

**Праграмы досьледу.**

Эмпірыка-статыстычны падыход да аб'ектаў—вымагае ад дасьледчыка ня толькі дакладна апрацаванага пляну зьбіраньня належных матар'ялаў, але і ня менш

[1]) Д-р Р. Крицмовский, ibidem стар. 84—85.
[2]) Сборник по вопросам землеустройства, I часть, стар. 85 і далейшыя.
[3]) ibidem стар. 93.

дакладна складзеных праграм. Калі плян досьледу дапамагае з прасторава-геаграфічнай і сацыяльнай разнастайнасьці вылучыць неабходную колькасьць аб'ектаў, пэўным чынам падабраных у адпаведнасьці з пастаўленай мэтай; то праграмы—з разнастайнасьці самаго аб'екту—дапамагаюць вылучыць для назіраньня толькі тыя яго бакі, якія непасрэдна, або ўкосна зьвязаны з вырашэньнем узятых задач. І як плян зьяўляецца вынікам немажлівасьці (або непатрэбнасьці) ахапіць усе аб'екты, так і праграма ёсьць вынік немажлівасьці (або непатрэбнасьці) ахапіць аб'ект у ва ўсей яго рэальнай разнастайнасьці формы і зьместу. Як пры складаньні пляну мы выходзім з таго палажэньня, што запраэктаваная колькасьць і якасьць аб'ектаў (аб'ект назіраньня) будуць з належнай дакладнасьцю рэпрэзэнтаваць усе вывучаемыя абе'кты (аб'ект пазнаньня); гэтак і пры ўкладаньні праграм мы лічым, што праэктуемая намі паўната назіраньня аб'екту (аб'ём назіраньня) дасьць мажлівасьць аналізаваць яго з тэй падрабязнасьцю, якая будзе вымагацца неабходнасьцю разьвязаньня пастаўленых досьледу задач (аб'ём пазнаньня). Адным словам, калі плян досьледу ўкладаецца з жаданьнем як мага наблізіць аб'ект назіраньня да аб'екту пазнаньня, то праграма імкнецца заснаваць адпаведнасьць паміж аб'ёмам назіраньня і аб'ёмам глыбіні пазнаньня самога аб'екту.

Плян і праграмы ўкладваюцца адначасова: пры пабудове пляну увесь час адбываецца арыентыроўка на праграмы (хаця-б яны былі яшчэ і не напісаны) і наадварот. Таму, пры дакладнай апрацоўцы пляну фактычна даецца намётка патрэбных праграм; у кожным разе іх набор, мэтаімкнёнасьць і агульны зьмест.

Набор праграм вызначаецца тымі асобнымі адзінкамі, якія бяруцца для назіраньня аб'екту. Пры нашым вывучэньні пасёлкаў гэткімі адзінкамі ўзяты: а) пасёлак у цэлым (зямельная грамада); б) асобная гаспадарка (двор) і в) асобная палоска зямлі [1]). Гэткія-ж адзінкі назіраньня высоўвае і праф. Першын у сваей цытаванай вышэй працы, з тэй толькі розьніцай, што ў яго палоскі назіраюцца без увязкі іх з бюджэтнаагранамічным вывучэньнем усяе г-кі. Значна большая розьніца паміж намі і праф. Першыным (а таксама і „Московским Научно-Исслед. Ин-том Землеустр. і Переселен.) мае месца ў мэтаімкнёнасьці, канструкцыі і ў зьмесьце саміх праграм; але гэта розьніца лепш за ўсё будзе відаць пры характарыстыцы паасобных ужытых намі формуляраў [2]).

[1]) Набор праграм і іх складаньне праведзена намі сумесна з дацэнтам М. П. Макаравым, які непасрэдна кіраваў другім досьледам: „Рэнтабельнасьць розных форм землекарыстаньня". Трэба зазначыць, што к моманту сканчэньня нашай працы па ўкладаньню праграм мы атрымалі мажлівасьць (праз Кіраўмэліазем Н. К. З. Б.) азнаёміцца з праграмамі „Землеўпарадкаваўчага досьледу", які ў гэты час (1926 г.) ставіўся „Научно-Исслед. Инст. Землеустр. и переселения". Наша знаёмства з памянёнымі праграмамі (плян нам ня быў зусім вядомы) адбілася толькі на ўкладаньні „Манаграфіі паселішча", іншыя нашы праграмы не атрымалі зьмен.

[2]) Для параўнаньня гл. „Сборник по вопросам землеустройства" стар. 93—98.

**„Манаграфія паселішча“** Манаграфія паселішча складалася з 118 запытаньняў, якія павінны былі даць матар'ял па кожнаму пасёлку па наступных XV разьдзелах: 1) „*Агульныя зьвесткі*“, дзе знайшлі месца пытаньні—землеўпарадкаваўча-працэсуальнага характару, расцэнкі зямлі і інш. 2) „*Прыродныя ўмовы*“, дзе разам з звычайнымі пытаньнямі былі высунуты і такія, якія павінны былі характарызаваць тапаграфічную пасечанасьць тэрыторыі пасёлку, а таксама і мазаічнасьць глебаў, з боку аснаўных іх тыпаў, велічыні плошчы кожнага тыпу і „праэпалосіцы“ у іх пашырэньні. 3) „*Насельніцтва*“—разьдзел з звычайнымі запытаньнямі, толькі з крыху пашыранымі ў частцы вучоту працэсаў высяленьня і перасяленьня. 4) „*Парадак карыстаньня зямлёй*“ — гэты разьдзел імкнуўся адказаць на пытаньне ў якой меры да аграрнай рэвалюцыі і пасьля яе насельніцтва дасьледваных раёнаў практыкавала вобшчынны парадак, і з другога боку,—у якой меры цяпер у кожным пасёлку пашырана агульнае гаспадарчае карыстаньне зямлёй і ў якіх канкрэтна формах. 5) „*Землекарыстаньне паселішча*“ — у гэтым разьдзеле, побач з звычайнымі для яго запытаньнямі, даволі падрабязна павінен быў падлічвацца пераход (па гадох) аднаго віду ўжытку ў другі, і ў рэшце элемэнты паміжпасялковай праэпалосіцы, уклініваньня, укропліваньня і. г. д. 6) „*Дарожная сетка*“: разам з тэхнічным апісаньнем было імкненьне даць даныя аб даўжыні ўсіх відаў дарог, якімі фактычна карыстаецца пасёлак. 7) „*Вадаснабжэньне*“: вучот вадаёмаў, храналёгія будоўлі калодзежаў, моманты гаспадарчага парадку ў сувязі з водазабясьпекай. 8) „*Сядзібная плошча*“: характарыстыка абранага месца, пляніроўка і разьмер паасобных сядзіб, будоўля па гадох і іншыя пытаньні зьвязаныя з пераходам пасялкоўцаў на новыя сядзібы. 9) „*Ворная плошча*“: у гэтым разьдзеле было імкненьне адказаць на тры групы пытаньняў: аб севазвароце і ступені яго прымусовасьці, аб даўжыні і шырыні пахатных палосак у розных сацыяльных групах да і пасьля землеўпарадкаваньня, аб спосабах гаспадарча-тэхнічнай эксплёатацыі ральлі: 10) „*Сенажатная плошча*“—апісвалася раздробленасьць гэтага віду ўжытку і даваліся даволі падрабязныя зьвесткі аб мэліарацыйнай і культур-тэхнічнай на іх працы. 11) „*Пасьцбішчная плошча*“: склад пасьцбішчаў, спосаб іх гаспадарчага скарыстаньня і тэндэнцыі скарачэньня або пашырэньня ў адношаньні да гэтага віду ўжытку. 12) „*Жывёлагадоўля*“ — выключна агрыкультурныя пытаньні: аб пашыранасьці заводзкай скаціны, прыёмах прыпуску, кармленьні і ўмовах утрыманьня. 13) „*Промыслы і рамествы*“—звычайныя пытаньні; 14) „*Праца і цэны*“—таксама і 15) „*Грамадзка-каапэрацыйныя зьвесткі*“, дзе побач з іншымі пытаньнямі была спроба ўлічыць усе выпадкі сумеснага карыстаньня будынкамі, жывым і мёртвым інвэнтаром.

Пададзеная інфармацыя аб „манаграфіі паселішча“ сьведчыць, што

апошняй ў нашым досьледу было адведзена даволі вузкае і падсобнае месца, хаця самому фармуляру быў і нададзены спэцыяльны зьмест.

Калі прыняць пад увагу (паводле слоў праф. П. Н. Першына) імкненьне Моск. Н.-И. И-та Землеустр. і Пересел. разглядаць свой фармуляр апісаньня зямельнай грамады, як „першую спробу пастаноўкі паглыбленнага землеўпарадкаваўча-эканамічнага вывучэньня вёскі“ з пераважным аналізам „землеўпарадкаваньня і грамадзянска-зямельных адносін“ [1]), то розьніца ў прызначэньні нашага і іх фармуляраў, зьяўляецца відавочнай і непатрабуючай ніякіх дадатковых тлумачэньняў.

Разам з запаўненьнем „манаграфіі паселішча“ на выкапіроўку з пляну па кожнаму пасёлку, нанасіліся: палі, дарогі, напрамак палосак, іх даўжыня, шырыня і г. д.

**Падворная картка**

Падворная картка зьяўлялася аснаўным фармулярам досьледу і запаўнялася ў дасьледваных пасёлках для усіх без выключэньня двароў. Картка складалася з 16 паасобных табліц, якія ўсе, апрача трох, былі пабудаваны ў дынамічным разрэзе з вучотам гаспадарчых зьявішч у год землеўпарадкаваньня і ў год досьледу[2]). Дзякуючы таму што гэта картка скантруктавана і укладзена намі (з М. П. Макаравым), зусім самастойна, а таксама і таму, што праца апрацоўкі фармуляраў для землеўпарадкаваўчых эмпірыка-статыстычных досьледаў зьяўляецца далёка ня скончанай—мы дазволім сабе характарызаваць яе крыху больш падрабязна.

1) „*Агульныя зьвесткі*“ (табл. I) мелі мэтай высьветліць, як некаторыя агульныя для гаспадаркі аб'ектыўныя моманты ў сувязі з пераходам данага двара на пасёлак, гэтак жа і суб'ектыўныя адносіны гаспадара да праведзенага землеўпарадкаваньня, да форм землекарыстаньня наогул і пасялковай спэцыяльна, да спосабу расцэнкі зямлі, да выкананага праэкту землеўпарадкаваньня і інш. 2) „Склад сям'і і культурна-грамадзкі стан“ (т. II) імкнуўся ў дынамічным разрэзу даць для кожнага члена сям'і зьвесткі аб яго: узросьце, працаздольнасьці, пісьменнасьці, удзелу ў каапэрацыі і інш. грамадзкіх і дзяржаўных установах і г. д.

3) „*Промыслы па за сваёй с. г.*“ (т. III) і „*Продаж працы* (т. IV) пабудаваны ў мэтах выяўленьня ў дынамічным аспекту, гэтых заняткаў для кожнага члена сям'і асобна. Тут ставіліся пытаньні: аб месцы працы, аб форме найму, аб колькасьці патрачанага часу і аб атрыманым заробку; апошні—з асобным вучотам, як грашовай, гэтак і натуральнай яго часткі. 4) „*Наём працы*“ (т. V) у прыстасаваньні да асобных відаў

[1]) „Сборник по вопросам землеустройства“ стар. 94—95.

[2]) Моск. Н.-И. И-т Земл. и Перес. сваю падворку, непараўнаўча больш вузкую, пабудаваў з разьлікам ахапіць вучотам тры пэрыяды: да рэвалюцыі, да землеўпарадкаваньня і пры досьледу. Наколькі станоўчыя вынікі атрыманы І-там у адношаньні пэрыяду: „да рэвалюцыі“ нам невядома. Але ў кожным разе паўната нашага фармуляру, адказнасьць пастаўленых у ім запытаньняў рабілі зусім не рэальным імкненьне ахапіць апытальнікам і час „да рэвалюцыі“.

найму улічваліся тыя ж самыя моманты, што і ў „Продажу працы“; разрэз таксама дынамічны.

5) Далей пастаўлена была маленькая таблічка (т. VI), якая павінна была даць уяўленьне *аб крэдытовых апэрацыях* гаспадаркі, як да яе землеўпарадкаваньня, гэтак і ў год досьледу. Тут цікава было, з аднаго боку, высьветліць у якой меры г-ка зьвязана з крэдытовай і іншай каапэрацыяй, а ў якой—з прыватнікам, з другога боку, тыя формы (натуральныя ці грашовыя) у якіх засновываліся і засновываюцца крэдытовыя сувязі. 6) „*Выдаткі, зьвязаныя з землеўпарадкаваньнем* (табл. VII). Табліца пабудована ў мэтах падрабязнага падліку ўсіх выдаткаў, якія кладуцца на гаспадарку пры: а) правядзеньні працэсу землеўпарадкаваньня, б) пры пераносу будынкаў і в) пры будове калодзежаў. Пры чым, паводле табліцы павінны былі асобна падлічвацца ўсе грашовыя выдаткі: на закупку матар'ялаў, на наём працоўнай сілы (нанятых і талака), на учашчэньне; разам з гэтым поўнасьцю у натуральных адзінках падлічвалася скарыстаная на паказаныя апэрацыі праца членаў сям'і. 7) У табліцы VIII зьбіраліся зьвесткі аб „*крыніцах сродкаў у сувязі з землеўпарадкаваньнем*“, з падзелам гэтых крыніц на: а) дзяржаўную дапамогу (грашовая ссуда, ссуда натурай, палёгкі па с. г. падатку, ільготы пры атрыманьні лесу); б) с. г. крэдыт; в) прыватны крэдыт і г) свае грашовыя сродкі (старыя запасы, грошы ад рэалізацыі інвэнтару, хатняй маемасьці, продажу працоўнай сілы).

8) Табліца IX зьяўлялася аднэй з адказных і цяжкіх, паколькі ў ёй, у дынамічным разрэзу трэба было улічыць усё неабходнае для „*характарыстыкі землеўпарадкаванасьці*“. Для выкананьня гэтай задачы былі ўзяты толькі тры аснаўныя ужыткі: сядзіба, ральля і сенажаць, і для іх зьбіраліся зьвесткі аб: ліку палосак, плошчы палосак (max, min, сярэд), адлегласьці сярэдзіны палосак ад сядзібы (max, min, сярэдн.) і аб спосабе гаспадарчага іх скарыстаньня. 9) Табліца X імкнулася за абодвы пэрыяды падрабязна падлічыць *землекарыстаньне* двара, з боку ранейшай сац. прыроды гэтага землекарыстаньня: індывідуальнае карыстаньне: а) надзельная зямля, б) купленая, в) непрацоўная; агульнае карыстаньне—той жа падзел. Разам з тым улічваўся і падзел зямлі па асобных ужытках. Побач з X табліцай апісваліся (т. XI) *арэндныя адносіны* двара, як перад землеўпарадкаваньнем, гэтак і цяпер; пры чым тут высьвятлялася: якія ужыткі зьяўляюцца прадметам арэнды, якая іх плошча, на якой яны адлегласьці знаходзяцца ад сядзібы, на які тэрмін заключаецца зьдзелка і ўрэшце—умовы арэнды і формы расплаты.

10) Другой найбольш адказнай табліцай падворкі была табліца XII: „*Засевы, ураджай і тэхніка ральніцтва*“. Пабудавана яна была з тым разьлікам, каб у дынамічным разрэзу для кожнай палявой культуры, а таксама і асноўных відаў сенажацяй,—даць адказ на пытаньні аб: а) пло-

шчы засеву, колькасьці месц засеву, адлегласьці да далейшага і бліжэйшага месцу засеву, валавым зборы зярна (або сена), колькасьці пакладзенага гною (з азначэньнем адлегласьці, на якую ён быў вывезен), хэмічных угнаеньнях і лубіну (як угнаеньні) і ўрэшце—тэхніцы апрацоўкі зямлі пад кожную культуру і тэхніцы прыборкі і апрацоўкі ураджаю. У дадатак да гэтай табліцы было пастаўлена некалькі агульных агрыкультурных пытаньняў. 11) Табліцы: XIII („будынкі"), XIVй („жывы інвэнтар") і XV („мёртвы інвэнтар") складзены былі па звычайнай форме з той бязумоўна асаблівасьцю, што ўсе яны пабудованы былі ў дынамічным разрэзу з абавязковым грашовым азначэньнем каштоўнасьці ўсіх гэтых сродкаў вытворчасьці. 12) Урэшце табліца XVI імкнулася злавіць зьмены, якія адбыліся ў структуры с.-г. „таварнага звароту". Для гэтага ў ёй быў пастаўлены падлік куплі і продажу аснаўных прадуктаў і прадметаў сельскае гаспадаркі перад землеўпарадкаваньнем і цяпер.

Пададзеная інфармацыя дае належнае уяўленьне аб паўнаце і глыбіні захопу нашым падворачным фармулярам элемэнтаў вытворчасьці і гаспадарчых зьяў асобнага двара. Калі б дадаць да гэтага фармуляру „баланс прадуктаў", якія абарачваюцца ў гаспадарцы на працягу году то былі-б усе падставы назваць нашу падворку „скарочанай бюджэткай". Мы не сталі на апошні шлях таму, што перад намі былі такія задачы, для разьвязаньня якіх было даволі і прынятай паўнаты падворнага фармуляру. Тым больш, што мажлівы недахоп даных для больш паглыбленага падыходу да пастаўленых задач, мы спадзяваліся папоўніць праз фармуляр „бюджэтна-агранамічнага апісаньня".

**Бюджэтна-аграмічны фармуляр**

Раней было адзначана, што бюджэтна-агранамічнаму матар'ялу ў нашым досьледу надавалася дамагальная роля. Мы імкнуліся пры запаўненьні гэтага фармуляру узяць такую колькасьць двароў, якая-б дала, з аднаго боку, мажлівасьць устанавіць неабходныя каэфыцыенты для распрацоўкі аснаўнога падворачнага матар'ялу, а, з другога,—дала-б патрэбную колькасьць папалосных апісаньняў. Апошнія мелася на увазе прыцягнуць, як самастойны матар'ял пры разьвязаньні некаторых з пастаўленых праблем. У адпаведнасьці з гэтай устаноўкай была належным спосабам і апрацавана „Праграма для бюджэтнага і агранамічнага досьледу сялянскай гаспадаркі". Абыходзячы моўчкі іншыя дробныя зьмены, якія былі ўнесены намі ў „Праграму",—мы лічым за неабходнае спыніцца толькі на двух момантах.

Першае тое, што ў фармуляр была ўведзена так званая „табліца № 10", якой была пастаўлена задача даць апісаньне ўсім без выключэньня палоскам і вучасткам. Тэрыторыяльнай адзінкай пры гэтым апісаньні быў прыняты „асобны засеўны кавалак", хаця-б гэткіх кавалкаў і было вельмі многа на аднэй палосцы, або вучастку. Для кожнага кавалку высьвятлялася: у якім полі ён знаходзіцца, якая да яго адлегласьць, які

сярэдні высеў жыта, якая плошча, якая глеба і рэльеф. Далей апісаньне кавалкаў вялося для пяцёх мінулых гадоў (разам з бюджэтным) з падлікам для кожнага з іх: назвы расьліны (або некалькіх), долі кавалку, якая прыпадае на кожную асобную расьліну, калі іх некалькі на палосцы, і ўрэшце назва і колькасьць угнаеньня. Для бюджэтнага году апрача гэтых ставіліся пытаньні аб ліку ўкосаў сена і аб валавым збору зярна клубняў, саломы, сена, валакна і г. д.

Другім момантам, які таксама неабходна адзначыць, зьяўляецца тое, што „вучот палявых і лугавых прац“ праводзіўся намі таксама па асобных засеўных кавалках (а не культурах, як гэта звычайна робіцца). У саміх табліцах вучоту працы апрача звычайных пытаньняў ставіліся: а) „Колькі канцоў зрабіў ад сядзібы і назад (асобна пешшу і на кані)“; б) „Колькі патрэбна часу, каб зрабіць адзін канец (пешшу, конна з грузам, конна паражняком)“; в) колькі гадзін аддадзена на самую працу ў полі (без пераходаў і пераездаў).

Табліца № 10, разам з табліцамі вучоту працы павінна была, паводле нашага разрахунку, даць усё неабходнае для таго, каб на падставе іх і аснаўнога, падворнага матар'ялу „паглыбіць землеўпарадкаваўчае вывучэньне асобнай сялянскай г-кі праз абхват гэткай дробнай зямельнай адзінкі, якой зьяўляецца асобная полоска сялянскага надзелу“[1]). Разам з тым, такая дэталізацыя вучоту (па асобных засеўных кавалках) давала больш надзейны матар'ял і для самога бюджэтна-агранамічнага аналізу.

Пасьля даволі падрабязнага агляду праграм, якія былі апрацаваны і прыстасаваны намі для досьледу, застаецца яшчэ спыніцца на тэхнічным пляне працы экспэдыцыі, на колькасьці здабытага матар'ялу і на яго якасьці.

**Тэхнічны плян працы і здабыты матар'ял.** Для кожнага з вызначаных пунктаў досьледу намі была складзена асобная група з 4-х асоб на чале з кваліфікаваным у адносіньні экспэдыцыйнай працы—навуковым супрацоўнікам. Праца паміж членамі групы была па мажлівасьці спэцыялізавана, але строга гэты прынцып быў выканан толькі ў адносіньні запаўненьня бюджэтак, якія ў межах кожнага пункту запаўняліся, як правіла, аднэй асобай, добра знаёмай з рахункавым аналізам.

Да выезду на месца ўсе удзельнікі экспэдыцыі, шляхам калектыўнай чыткі і абмеркаваньня, былі падрабязна азнаёмлены з праграмамі і прыёмамі іх запаўненьня. Кіраўнікі груп апрача таго атрымалі канкрэтны маршрут для працы сваёй групы на месцы, здымкі з плянаў усіх тых пасёлкаў, якія падлягалі досьледу і арыентыровачнае разьмеркаваньне бюджэтаў па тэрыторыі досьледу.

[1]) Проф. П. Н. Першин. ibidem стар. 96.

У мэтах атрыманьня найбольш пэўнага і дакладнага матар'ялу мы вызначылі параўнаўча нізкую норму выпрацоўкі: падворных картак 6 штук у дзень, на манаграфію паселішча — 1 дзень і на бюджэтны блянк — 2 дні. Аднак і гэта норма пры выкананьні зьявілася высокай і для падворных блянкаў была зьніжана да 4—5 штук у дзень.

Экспэдыцыя распачала сваю працу на месцы ў пачатку чэрвеня 1927 г. і скончыла яе прыблізна праз 2 месяцы. У выніку мы атрымалі наступную колькасьць матар'ялу па кожнай з разгледжаных праграм:

| Манаграфіяў пасёлкаў. | | | | Падворных апісаньняў | | | | Бюджэт. агран. апісан. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Калінін-шчына | Бабруй-шчына | Аршан-шчына | Разам | Калінін-шчына | Бабруй-шчына | Аршан-шчына | Разам | Калінін-шчына | Бабруй-шчына | Аршан-шчына | Разам |
| 36 | 21 | 12 | 69 | 411 | 322 | 188 | 921 | 19 | 14 | 20 | 53 |

Апрача гэтых матар'ялаў экспэдыцыя здабыла даныя ападаткаваньня па тых раёнах, дзе адбываўся досьлед. Належная праверка матар'ялаў высьветліла поўную яго здавальняючасьць, за выключэньнем двух бюджэтных блянкаў, якія потым і не ўвайшлі ў распрацоўку [1]).

Такім чынам, намі было дасьледвана ўсяго 69 паселішч з 921 гаспадаркай; пры чым у гэтым ліку было дасьледвана — 56 пасёлкаў з 733 дварамі. Апошнія складаюць 15% ад усіх двароў землеўпарадкаваных на пасёлкі да 1923 — 24 г. па БССР (у межах да далучэньня Гомельшчыны)

**Якасьць сабранага матар'ялу.** Неабходна яшчэ сказаць некалькі слоў аб ступені дакладнасьці сабранага матар'ялу. Звычайна, у гэтым выпадку экспэдыцыйныя даныя (адносныя, або сярэднія) раўнаюць з адпаведнымі масава-статыстычнымі і блізкасьць тых і другіх бяруць, як крытэры дакладнасьці даных экспэдыцыйных. Мы пазбаўлены гэтай мажлівасьці, таму што наша суцэльнасьць (совокупность) вылучана для спэцыяльнай мэты і шляхам адбору па спэцыфічных адзнаках, якія яшчэ не знайшлі пакуль што месца пры распрацоўцы масава-статыстычнага матар'ялу. Таму сярэднія (або адносныя) нашай суцэльнасьці ня могуць мець свайго крытэрыя ў сярэдніх статыстычных і наадварот.

Меру дакладнасьці нашых даных трэба было шукаць, з аднаго боку, у параўнаньнях з афіцыйнымі, масавымі данымі зямельных орга-

[1]) Гэткая якасьць матар'ялаў тлумачыцца тым, што кіраўнікам груп была даручана, як абавязковае,—праверка матар'ялу на месцы, што фактычна і складала іх асноўную працу ў час экспэдыцыі.

наў, а з другога, — у параўнаньнях матар'ялаў самой экспэдыцыі. Пры гэтым цікава было перш за ўсё даведацца аб тым, у якой меры сярэдні, разьмер пасёлкаў, якія дасьледваны намі, адпавядае такому-ж выведзенаму па даных Акрземаддзелаў. Зробленае параўнаньне дало надзвычайна блізкія лічбы: па масавых даных земворганаў сярэдні разьмер пасёлкаў=122 гэкт.; па нашых=121 гэкт. Крыху больш далёкай зьяўляецца забясьпека аднаго двара зямлёй: масавыя—10,0 гэкт.; нашы--10,3 гэктараў [1]).

Ступень дакладнасьці сабраных матар'ялаў можна характарызаваць яшчэ і наступнымі фактамі: 1) зямельная тэрыторыя ўсіх дасьледваных пасёлкаў Калінішчыны, паводле матэматычна-дакладных даных, узятых з экспплікацыяў плянаў=4206 гэктараў, а паводле даных экспэдыцыі, атрыманых у працэсе апроса кожнага двара асобна = 3978 гэкт.; розьніца ў 228 гэкт. складае памылку каля 5%, што трэба прызнаць больш чым здавальняючым; 2) паводле экспплікацыі для тых-жа пасёлкаў на 100 гэкт. пахаці прыпадае 43 гэкт. сенажаці, а паводле экспэдыцыі—45 гэкт. (для Калінішчыны наогул=40 гэкт.); 3) Валавы збор жыта па 51 г-цы, апісаннай па бюджэтнаму блянку: паводле бюджэткі=1136 цэнтн., а для тых жа гаспадарак па падворцы=1016 цэнтн. (розьніца каля 10%); валавы збор аўса для тых-жа гаспадарак: бюджэткі = 764 цэнтн.; падворкі = 691 цэнтн. (розьніца каля 10%); валавы збор бульбы: бюджэткі = 9556 цэнтн., падворкі—9010 цэнтн. (розьніца каля 6%) [2]). Прыклады можна было-б значна павялічыць, але усе-б яны сьведчылі аб тым, што мэтад апросу намі ўжыты з належнай дакладнасьцю і спрэчкі могуць быць толькі каля таго, у якой ступені наогул даныя любого апросу адпавядаюць запраўднасьці. Але гэта пытаньне выходзіць за рамкі нашага разгляду.

---

[1]) Належныя даныя былі толькі па Калінішчыне.

[2]) Бюджэткі і падворкі, як правіла запаўняліся рознымі асобамі і ў розныя дні.

## 4. АПРАЦОЎКА МАТАР'ЯЛАЎ ДОСЬЛЕДУ І ТАБЛІЦЫ.

Распрацоўка і табліцы

Ступень падрыхтаванасьці досьледу да пэўнай меры характарызуецца тым, наскольki поўна сабраны на месцы матар'ял фактычна распрацоўваецца. Звычайна, пад уплывам розных прычын (сярод якіх не апошняе месца займае нявыразнасьць у пастаноўцы самой тэмы) зьбіраецца матар'ялаў значна больш, чым гэта вымагаецца пастаўленымі досьледу задачамі. Часамі толькі невялікая частка гэтага матар'ялу выводзіцца з становішча сырога матар'ялу і ім надаецца выгляд „стройных табліц".

Праўда, пры гэтым дасьледчык пацяшае сябе тым, што хтосьці апрача яго прымусіць загаманіць і рэшту іншых, ім неапрацаваных, сырых лічбаў. Але жыцьцё абарачваецца так хутка, а факты, якія яно выносіць з кожным абаротам, так багаты і размаіты, што часта застаюцца ня выкарыстанымі ня толькі раней сабраныя сырыя, несыстэматызаваныя матар'ялы, а нават і „паўфабрыкаты" табліцы. Вось чаму трэба лічыць за карыснае тое, каб з самага пачатку досьледу былі ўжыты ўсе меры да атрыманьня матар'ялу і па колькасьці і па якасьці роўна столькі, сколькі патрэбна для адказу на пастаўленыя задачы.

Але разам з тым патрэбна прызнаць і практычную цяжкасьць цалком выканаць гэта вымаганьне. Таму і ў рукі дасьледчыка звычайна, побач з асноўным, пападае і другарадны матар'ял (выходзячы з інтарэсаў данай тэмы). А тым самым пагроза распыленьня увагі і сіл застаецца наяўнай і для стадыі распрацоўкі матар'ялу. Патрэбна пэўная доля цьвёрдасьці і яснасьці, каб з груды іншых матар'ялаў вылучыць толькі галоўнае. „Аднак гэта зусім неабходна зрабіць, бо ў выпадку адваротнага, чытач будзе завалены вялізнай колькасьцю лічбовага матар'ялу і ў яго лёгка можа скласьціся ўражаньне, што і сам аўтар ня мог разабрацца ў атрыманым матар'ялу і падаў яго чытачу ў недастаткова апрацаваным выглядзе"[1]).

Апрацаваным трэба лічыць матар'ял толькі тады, калі ён укладзен у належныя дасьціпна-складзеныя табліцы, якія адпавядаюць як самой тэме, гэтак-жа і абранаму аўтарам спосабу адказу на яе. Вось чаму найбольш кароткім і эканамічным быў-бы той парадак распрацоўкі, пры якім былі-б перш за ўсё складзены належныя і неабходныя таблічныя

---

[1]) Проф. Тулайков Н., ibidem стар. 12.

формы, а матар'ял браўся-б толькі той, які патрэбен для запаўненьня гэтых форм.

Табліца ў гэтым выпадку была-б нечым накшталт матэматычнай формулы; распрацоўка—падстаноўкай даных у формулу; запоўненая табліца—рады раўнаньняў і, урэшце, тэкст—разьвязаньне задач досьледу праз вырашэньне розных камбінацыяў гэтых раўнаньняў. Гэты шлях бязумоўна трэба лічыць за нармальны, хоць фактычна распрацоўка матэр'ялаў у гэткім ідэальным выглядзе нікім з дасьледчыкаў мусіць і не вядзецца: табліцы, як правіла, сталы выгляд і шліфоўку набываюць толькі ў канцы распрацоўкі.

У кожным разе плян распрацоўкі, яго тэхнічнае выконваньне і дэталі, зьвязаныя з атрыманьнем канчатковых лічбаў, ня могуць быць адарваны ад складаемых намі табліц, паколькі ў апошніх яны знаходзяць і сваю форму і свой зьмест. Таму і запатрабаваньне да расчыненьня пляну і прыёмаў, ужытых пры распрацоўцы, можа быць выказана больш ясна і выразна ў выглядзе запытаньня кожнаму дасьледчыку: як атрыманы пададзеныя вамі табліцы? Вычэрпываючы і здавальняючы адказ на гэта пытаньне—поўнасьцю высьветліць, як плян і тэхнічныя прыёмы распрацоўкі, гэтак-жа і тыя тэарэтычныя падставы, якія прыймаліся ў спрэчных мясцох пры іх выконваньні.

Паколькі гэта праца зьяўляецца першай спробай эмпірыка-статыстычнага вывучэньня пасёлкаў, пастолькі мы імкнемся ў ёй перш за ўсё даць належным спосабам апрацаваны і сыстэматызаваны матар'ял у выглядзе табліц. Думка аб тым, каб надаць табліцам найбольш стройную сыстэму (як у іх сувязі аднэй з другой, гэтак жа і ў межах кожнай з іх асобна), думка аб тым, каб укласьці ў табліцы ўсё багацьце сабранага матар'ялу, думка аб тым, каб здабытыя даныя зрабіць даступнымі для шырокага скарыстаньня—гэта думка зьяўлялася кіруючай пры арганізацыі намі распрацоўкі. Вось чаму, як бы не адносіцца да толькі-што паданых агульных меркаваньняў, у нашым, канкрэтным выпадку, мэханіку распрацоўкі ўсё-ж лепш ад усяго прасачыць шляхам разгляду таго, як складалася кожная з паданых у гэтай працы табліц.

Але перш чым зрабіць агляд спосабаў атрыманьня асобных табліц, неабходна затрымацца на некаторых агульных для ўсей распрацоўкі момантах. З іх перш за ўсё—на прынцыпах, якія ужыты намі пры укладаньні „статыстычнага дзейніка“. Апошні пабудован такім чынам, што лічбы ў табліцах даюцца не сярэднія для ўсіх дасьледваных двароў таго або іншага пасёлку, а сярэднія для кожнай асобнай групы сялянства,— гэта адно; другое—разам з данымі для асобных пасёлкаў, у табліцах пададзены таксама і сярэднія па тых вёсках, праз землеўпарадкаваньне якіх утворана даная група пасёлкаў і ўрэшце, табліцы зьмяшчаюць сярэднія для ўсяго дасьледванага гнязда.

**Групіроўка дасьледваных гаспадарак**

У сувязі з гэткай пабудовай „дзейніка" паўстае важнае пытаньне аб прынятай аснове для групіроўкі сялянскіх гаспадарак,

Патрэбнасьць і неабходнасьць групіроўкі ў нашы часы ня можа зьявіцца тэмай для спрэчак, паколькі для вывучэньня „працэсаў росту і перамогі капіталізму (а зараз сацыялізму Я.К.), ня можна абмяжавацца шаблённа-мяшчанскім сказам аб „трудавым" земляробстве"[1]. Таму і апаску трэба чакаць з другога боку—ухілу трактаваць групіроуку, як „вузка-тэхнічнае, вузка-спэцыяльнае" пытаньне. Між тым „дзякуючы няўмелай, непрадуманай, руцінная зводцы і групіроўцы гэты багацейшы матар'ял (с. г. перапісаў Я. К.) зусім губляецца, прападае, губляе сваю каляровасьць і робіцца нікуды ня гожым для вывучэньня законаў эвалюцыі сельскае гаспадаркі"[2].

Што групіроўка дае вельмі многа для уразуменьня тэхніка-арганізацыйных праблем арганізацыі і пераарганізацыі сялянскіх гаспадарак—гэта бяспрэчна. Але ўсё-ж галоўная мэта групіроукі іншая: на яе кладзецца абавязак вылучыць з масы сялянскіх гаспадарак пэўныя сацыяльна-эканамічныя тыпы, якія адрозьніваліся-б па тэндэнцыі іх сацыяльнага разьвіцьця (разумеючы розьніцу тэндэнцыяў не абсалютна, а адносна).

Расчыненьне сутнасьці кожнай групы, выяўленьне іх месца і значэньня, прасочваньне іх лёсу ў сувязі з правядзеньнем пэўнага дзяржаўнага мерапрыемства—дае неабходнае для сацыяльна-эканамічнай ацэнкі назіраемых у сельскай гаспадарцы працэсаў, а разам з гэтым на групіроўку кладзецца выключны абавязак і адказнасьць.

Пры групіроўках сялянскіх гаспадарак ужываюцца розныя клясыфікацыйныя адзнакі, а часьцей за ўсё: велічыня зямельнае тэрыторыі на г-ку (групіроўка „па зямлі"), велічыня засеўнай плошчы на гаспадарку („па засеву"), колькасьці ўсей скаціны, або толькі працоўнай на г-ку („па скаціне"); больш рэдка—кошт аснаўных сродкаў вытворчасьці на г-ку („па капіталам"), або колькасьць найманай працоўнай сілы на г-ку і зусім рэдка—валавы прыбытак на гаспадарку.

Тут ня месца для крытычнага агляду ўсіх гэтых клясыфікацыйных асноў, а даволі абмежавацца толькі заўвагай, што ўсе яны (апрача найму працоўнай сілы) імкнуцца з тэй або іншай дакладнасьцю даць уяўленьне аб *размеру вытворчасьці*. Пры чым апошнюю ўсе разглядаюць, як аснаўную адзнаку, па лініі якой праходзіць сацыяльна-эканамічная розьніца паасобных груп сялянства.

Такім чынам, разьмер вытворчасьці—катэгорыя арганізацыйна-гаспадарчая бярэцца, як адзнака для клясыфікацыі зьявішч сацыяльна-эканамічных. Для гэтага, пры групіроўцы сялянскіх гаспадарак, ёсьць

[1]) Н. Ленин: „Аграрный вопрос и марксизм" стар. 234.
[2]) ibidem стар. 235.

вядомыя тэарэтычныя падставы, таму што разьмер вытворчасьці гаспадарак гэтага сацыяльнага тыпу запраўды азначае або патэнцыяльную неабходнасьць прадаваць сваю рабочую сілу (група вясковага паўпралетарыяту), або такую-ж неабходнасьць купляць (група кулацтва).

Больш цяжкім зьяўляецца канкрэтна і практычна вызначыць тыя пункты (межы інтэрвалаў), пераход праз якія асобных сялянскіх гаспадарак пераносіць іх у новую сацыяльна-эканамічную якасьць. Інačай кажучы, на якой вышыні разьмер вытворчасьці (адзнака арганізацыйна-гаспадарчая) азначае наяўнасьць пэўных сацыяльных рысаў, па якіх мы праводзім падзел сялянства на групы[1]).

Зразумела, што гэта задача робіцца больш лёгкай, калі маюцца даныя аб ужываньні найманай працы паміж сялянскімі гаспадаркамі (адзнака сацыяльна-эканамічная). Але на жаль статыстыка яшчэ вельмі скупа дае зьвесткі аб гэтым зьявішчы. Вось чаму разьмер вытворчасьці застаецца да нашых часоў аснаўной клясыфікацыйнай адзнакай, ня гледзячы на яе укосны характар.

Разьмер вытворчасьці, як вядома, характарызуецца сумай прадукцыі, якая выраблясцца гаспадаркай на працягу пэўнага часу (году). Таму найлепшым паказчыкам пры групіроўках, бязумоўна трэба лічыць „велічыню кошту прадуктаў у грашовым азначэньні за выключэньнем тых прадуктаў, якія ідуць на корм скаціне". Але, на жаль, справа вылічэньня велічыні кошту прадуктаў зьяўляецца „у земляробстве значна больш цяжкай, дзякуючы непараўнаўча большай складанасьці і пераплеценасьці адносін"[2]). Апрача таго, само вылічэньне можа быць зроблена толькі на падставе даволі шырокага і больш менш апрацаванага матар'ялу.

Таму пры групіроўках звычайна і бяруць не саму велічыню кошту прадуктаў гаспадаркі, а тыя або іншыя элемэнты гаспадаркі, якія могуць быць прыняты як укосныя паказчыкі велічыні вытворчасьці, а тым самым і разьмеру г-кі. Такім чынам, фактычна справа ў практыцы зводзіцца да таго, каб адшукаць такі элемэнт г-кі, такую адну яе адзнаку, якая-б у найбольшай меры карэліравала з валавой прадукцыяй г-кі.

На падставе бюджэтна-агранамічных даных па 51 дасьледванай намі гаспадарцы былі вылічаны для кожнай з іх: а) валавая прадукцыя; б) гожая зямля; в) засеўная плошча і г) кошт аснаўных сродкаў вытворчасьці)[3]. Далей, былі падлічаны каэфіцыэнты карэляцыі паміж валавой прадукцыяй і рэштай іншых паказаных элемэнтаў г-кі. Атрыманыя вынікі зьявіліся больш яскравымі, чым мы чакалі:

---

[1]) Строга кажучы сацыяльна-эканамічная групіроўка павінна даць толькі гэтыя пераватьныя пункты.

[2]) Н. Ленін. ibidem, стр. 240.

[3]) Разуменьне катэгорыі: „валавая прадукцыя" будзе дадзена крыху далей. Кошт аснаўных сродкаў вытворчасьці складаўся: з будынкаў (апрача хаты), мёртвага і жывога інвэнтару.

1) карэляцыя паміж В. пр. і аснаўнымі сродкамі вытворчасьці

$$r_1 = \frac{\Sigma xy}{\sqrt{\Sigma x^2 \Sigma y^2}} = + \frac{8{,}938{,}376}{9{,}747} = +0{,}917 \pm 0{,}021$$

2) Карэляцыя паміж В. пр. і засеўнай плошчай:

$$r_2 = + \frac{18{,}240{,}3}{42{,}567} = +0{,}429 \pm 0{,}116;$$

3) Карэляцыя паміж В. пр. і гожай зямлёй

$$= r_3 = + \frac{52{,}438{,}0}{100{,}512} = +0{,}522 \pm 0{,}104$$

Мы ня маем а ніякага замеру разглядаць пададзеныя каэфіцыенты, як зусім рэальныя ў іх абсалютным азначэньні, тым больш ня схіляемся гэта сьцьвярджаць для тыпу г-кі ўсей БССР. Аднак, параўнаўчая вышыня гэтых каэфіцыентаў для нас зьяўляецца больш менш бясспрэчнай.

На такі вывад тым больш лёгка пайсьці, што ён вельмі добра адпавядае тым апрыорным, тэарэтычным палажэньням, якія можна ў сувязі з гэтым зрабіць, выходзячы з разуменьня тыпу сельскай г-кі дасьледваных краін. Гэты тып павінен быць ахарактарызаваны, як інтэгральны па лініі злучэньня ў ім двух галін: земляробства і жывёлагадоўлі. Пры чым, калі выходзіць з значэньня кожнай гэтай галіны ў валавой прадукцыі г-кі, то трэба прызнаць, амаль што, поўную адиолькавасьць іх значэньня; гэтак для сярэдняй г-кі Калінішчыны: земляробства дае 279,8 рубл. вал. прадукцыі, а жывёлагадоуля—318,5 рубл.; для Бабруйшчыны (надзельнай), земляробства—198,1 р.; жывёлагадоўля 273,7 р.

Калі далей прыняць пад увагу тое, што жывёлагадоўля пры гэтым тыпу не зьяўляецца простай функцыяй ральніцтва (як і наадварот), а ў вялікай ступені абумаўляецца наяўнасьцю натуральных сенажацяў і выпасаў, то лёгка зразумець чаму пры гэткай структуры і характару тыпу г-кі разьмер яе вытворчасьці ня можа і не павінен даваць значнага каэфіцыенту карэляцыі з гожай зямлёй, а тым больш з засеўнай плошчай. Дзякуючы таму, што гэтыя адзнакі датычацца толькі земляробства („па зямлі“), або нават толькі аднаго ральніцтва („па засеву“), яны ў лепшым выпадку могуць рэпрэзэнтаваць толькі адну палову г-кі. Для большага ў нашых умовах яны ня могуць быць скарыстаны, таму што розная кардынацыя ужыткаў і культур, а таксама розная іх ураджайнасьць адыгрываюць у нас далёка не апошнюю ролю ў атрыманьні прадукцыі ад земляробства.

Іншая справа—кошт аснаўных сродкаў вытворчасьці, які, з аднаго боку, зьяўляецца адзнакай усей г-кі, а не аднае яе галіны, з другога—адзнакай, у якой адбіваюцца ня толькі колькасныя, але і якасныя моманты

г-кі. Станоўчыя бакі гэтай адзнакі асабліва робяцца відавочнымі там і тады, дзе сродкі вытворчасьці (у тым ліку і аснаўныя), знаходзяцца ў гаспадарчым мінімуму і калі іх наліччам у першую чаргу вызначаецца аб'ём гаспадарчай дзейнасьці.

Па агульна-прызнанай думцы ў БССР мы якраз і маем гэткае становішча (недахоп „капіталаў"). Калі на такім фоне уявіць сабе пасёлкі, утвораныя 3--4 гады таму назад, а ў іх гаспадаркі, якія атрымалі зямлю на новым месцы і ў іншай колькасьці, то ня будзе дзіўнай атрыманая вышыня каэфіцыент—карэляцыі паміж коштам аснаўных сродкаў вытворчасьці і валавой прадукцыяй. А тым самым будзе апраўдана і наша групіроўка дасьледваных г-к па велічыні кошту гэтых сродкаў на адну гаспадарку.

Што датычыцца групіроўкі па разьмеру найма рабочай сілы, то дзьве акалічнасьці прымусілі нас адмовіцца ад гэтага. Першая—дзякуючы таму, што пасёлкі землеўпарадкаваны параўнаўча нядаўна і па развёрстачным адзінкам—наём працоўнай сілы ў пасёлках ня так выразна зьвязан з пэўнай сац.-эканам. групай. Другая—групіроўка па двух адзнаках, калі яе давесьці да канца, пазбавіла-б нас мажлівасьці даць даныя па асобных пасёлках. Між тым, апошняе зьяўлялася неабходным для разьвязаньня пастаўленых досьледу задач. Каб скончыць пытаньне аб групіроўцы патрэбна зрабіць яшчэ некалькі больш менш тэхнічных заўваг.

1) Для групіроўкі ўзяты вялічыні кошту аснаўных сродкаў вытворчасьці за пэрыяд „да землеўпарадкаваньня" таму, што пры вывучэньні дынамікі нас цікавіла пытаньне: з чым і якой увайшла ў працэс землеўпарадкаваньня кожная група і што яна мае цяпер. Бязумоўна, можна было-б паставіць пытаньне і наадварот. Тады групіроўку трэба было-б зрабіць па сродках—„цяпер".

2) Групіроўка праведзена намі асобна для кожнага з дасьледваных пунктаў, таму што паняцьце аднэй і тэй-жа сацыяльнай групы для кожнага з пунктаў азначаецца іншай забясьпечанасьцю аснаўнымі сродкамі вытворчасьці. У працэсе групіроўкі мы атрымалі поўнае падмацаваньне гэтай думкі; для прыкладу—сярэдняя група (II) па нашых даных характарызуецца наступным сярэднім коштам асн. сродк. вытворч.: па Калініншчыне—424 р.; па Бабруйшчыне—524 р., а па Аршаншчыне—772 р.

3) Намі прыняты толькі 3 групы, хоць мы, наогул, вельмі добра разумеем карыснасьць больш дробнай групіроўкі. Перашкодай зьявілася тое, што большая колькасьць груп пры параўнаўчай маладворнасьці пасёлкаў не дала-б ні аднае больш менш кампактнай групы з надзейнай для яе сярэдняй. Пры прынятай жа колькасьці групы атрымалі адну групу (II) якая з аднаго боку прадстаўлена у ва ўсіх пасёлках, а з другога—ахоплівае сабе патрэбную (за рэдкім выключэньнем) колькасьць двароў.

4) Сярэднія групавыя па вёсках, вылічаны не як сярэднія з сярэдніх адпаведных пасёлкаў, а па звычайнай, простай формуле:

$$\left(M = \frac{\Sigma v}{n}\right);$$

гэткім жа, непасрэдным спосабам вылічаны і сярэднія для дасьледаваных пунктаў (Калініншчына, Бабруйшчына). Пры чым, для Бабруйшчыны мы асобна вылічылі сярэднія для пасёлкаў, якія утвораны на надзельных землях і асобна—на фондавых. Даныя табліц сьведчаць аб мэтазгоднасьці гэтага падзелу. 5) У тэхніцы групіроўкі намі скарыстаны прыём статыстыка Абухава, які (прыём) характарызуецца сваёй мэханічнасьцю, а тым самым і вынікаючымі з гэгага сваімі станоўчымі і адмоўнымі рысамі.

У выніку ужытых намі прынцыпаў і прыёмаў мы атрымалі гэткія інтэрвалы (па кошту аснаўных сродкаў на І г-ку): а) па Калініншчыне— І група: 30—250 р.; ІІ: 251—700 р.; ІІІ: 701—3200; б) па Бабруйшчыне— І гр.; 25—300 р.; ІІ гр.: 301—850 р.; ІІІ гр.: 851—2600 р.[1]).

Пры чым *па Калініншчыне* ў год дасьледаваньня (1927 г.): І група складала 27% ад усіх двароў (з зямлёй), на яе прыходзілася 19% усяе зямельнае плошчы і 13% аснаўн. сродкаў вытворчасьці; ІІ група—62% двароў з 63% у іх зям. плошчы і 63% асн. сродк. вытворчасьці; ІІІ група—11% двароў з 18% у іх зям. плошчы і 24% аснаўн. сродк. вытворчасьці.

Амаль-што, гэткія самыя суадносіны мы маем *і па Бабруйшчыне* (надзельным землям): І гр.—20% з 15% у іх зямлі і 10% асн. сродк. выть.; ІІ група—64% двароў з 65% зямлі і 60% аснаўн. сродкаў выть.; ІІІ гр.—16% двароў з 20% зямлі і 30% сродк. выть.

**Пытаньне аб цэнах**

Другім агульным для ўсей распрацоўкі пытаньнем зьяўлялася *пытаньне аб цэнах.* Пры эканамічным дасьледваньні сельскай г-кі вызначэньне цэн зьяўляецца важнай, але разам з тым галаваломнай і клапатлівай задачай. У галіне цэн больш усяго адчуваецца недахоп і непаўната статыстычных матар'ялаў дзякуючы таму, што апошнія ў лепшым выпадку даюць цэны толькі на галоўныя прадукты с. г-кі. Між тым вылічэньне валавой і ачышчанай прадукцыі патрабуе грашовай ацэнкі літаральна ўсіх прадуктаў сельскай г-кі, у тым ліку і так званых „нярыначных“.

Пры пастаноўцы нашага досьледу і апрацоўцы атрыманага ад яго матар'ялу, вышэйшым крытэрыем для разьвязаньня высунутых праблем, мы ўзялі валавую (народна-гаспадарчую) прадукцыю. Тым самым павінны былі ўжыць і належныя захады да атрыманьня поўнага каталёгу цэн на

[1]) Намі наўмысьля даецца пачатковая лічба раду (30 і 25 руб.) і апошняя лічба (3200 р. і 2600) з тым, каб паказаць размах розьніцы паміж самым маламоцым і самым моцным дварамі.

с.-г. прадукты. Гэта можна было зрабіць толькі шляхам самастойнага зьбіраньня патрэбных даных у часе працы экспэдыцыі на месцы.

Не малаважным пры гэтым зьяўлялася пытаньне: дзе і якія цэны павінны ўлічвацца? Адказ на пытаньне „дзе"—да некаторай ступені быў вызначаны ўсім характарам пастаўленых праблем і мэтадам іх вырашэньня. Мы, як вядома, не меркавалі ў гэтым досьледу вывучыць уплыў рыначных умоў на пасёлкі. Таму запраўдная разнастайнасьць гэтых умоў павінна была ў працэсе досьледу якімсь-ці чынам пераможана.

З адным сродкам на шляху да гэтай перамогі мы ўжо азнаёміліся; гэта канцэнтрацыя досьледу на параўнаўча невялікай тэрыторыі (максымум палова адміністрацыйнага раёну). Але, як бы малая ня была гэта тэрыторыя, тэарэтычна ўсё-ж яе ня можна лічыць аднастайнай у адношаньні цэнаўтварэньня, а самі цэны аднолькавымі для ўсіх яе пунктаў.

Кожны пасёлак (па думцы некаторых эканамістаў — нават кожны двор) мае свае рэальныя і канкрэтныя цэны, якія фактычна ўжываюцца пры вырашэньні тых або іншых гаспадарча-арганізацыйных задач. Аднак, калі гэта так, то паўстае пытаньне, як усё-ж атрымаць аднолькавыя цэны для ўсяго дасьледванага гнязда.

Як відаць, гэта лягчэй ад усяго можна зрабіць праз некаторае спрашчэньне запраўднасьці, праз адмаўленьне ад рэальнай разнастайнасьці на карысьць адцягненай аднастайнасьці. Практычна гэта азначае, што замест вучоту цэн па ўсіх пасёлках і вывядзеньня потым на іх падставе сярэдніх узважаных цэн аднолькавых для ўсяго раёну (што зьяўляецца ня дужа лёгкім і не такім ужо дакладным), можна проста для ўсіх пасёлкаў узяць цэны галоўнага рынку, да якога імкнуцца па лініі куплі і продажу гэтыя пасёлкі.

Бязумоўна, у выпадку прыняцьця гэткага рашэньня, мы мусім наперад адмовіцца ад карыстаньня паказчыкам рэнтабельнасьці наогул, і ў абсалютнай яго форме, у прыватнасьці. Паколькі мы ня мелі на увазе карыстацца гэтым крытэрыем, пастолькі параўнаўча лёгка мы і сталі на шлях памянёнага спрашчэньня. Іначай кажучы, мы урэшце задаліся мэтай з мажлівай дакладнасьцю *атрымаць пэўны каталёг цэн толькі па галоўных, раённых рынках.*

Цэны мы імкнуліся вызначыць: шляхам вучоту цэн прыватнага рынку каапэрацыйных цэн і праз апрос саміх сялян („сялянскія" цэны). У часе распрацоўкі *за аснаўныя былі ўзятыя цэны прыватнага рынку,* як цэны з больш поўным каталёгам (параўнаўча з каапэрацыйнымі) і больш надзейныя (параўнаўча з „сялянскімі").

Далей неабходна зазначыць і тое, што хоць цэны ў нас і былі сабраны па асобных сэзонах з адзначэньнем месяцаў найбольшай рэалізацыі таго або іншага прадукту, мы ўсё-ж, урэшце, *прынялі для распрацоўкі сярэднія гадавыя цэны.*

Падставай для гэтага зьяўлялася тое, што вылічэньне валавой прадукцыі вымагала ужываньне цэн для ўсіх без выключэньня прадуктаў сельскае гаспадаркі. Між тым, як вельмі значная частка гэтых прадуктаў зусім не пападае на рынак і больш-менш раўнамерна на працягу году спажываецца ў гаспадарцы. Апрача таго, сэзоны найбольшай рэалізацыі на многія прадукты зьяўляцца далёка не аднымі і тымі-ж для розных сацыяльных груп сялянства, а тым самым расплыўчатым робіцца самае паняцьце „сэзон найбольшай рэалізацыі".

Паколькі досьлед меўся даць уяўленьне аб гаспадарчай дынаміцы вывучаемых аб'ектаў, пастолькі неабходна было пайсьці і яшчэ на адно спрашчэньне (абстракцыю): для аднаго з гадоў ужыць тыя-ж цэны, што і для другога. У сувязі з гэтым усе даныя за 1923—24 г., у частцы іх грашовага азначэньня атрымалі ацэнку па цэнах году дасьледваньня (1926—27 г.).

Пасьля ўсей працы па укладаньню патрэбнага каталёгу цэн, нас зацікавіла пытаньне: у якой меры гэтыя цэны аднолькавы з цэнамі Ц. С. К. Б. Для адказу на выбарку былі ўзяты два рынкі (г. Рагачоў і м. Коханава) і для іх па чатырох прадуктах былі выведзены сярэднія гадавыя цэны па даных нашага досьледу і па „лістох" Ц. С. У. Атрымаліся наступныя вынікі (у кап. за цэнтнер):

| | Жыта | | Бульба | | Сала | | Авёс | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Нашы | ЦСУ | Нашы | ЦСУ | Нашы | ЦСУ | Нашы | ЦСУ |
| г. Рагачоў . | 438 | 448 | 111 | 114 | 5520 | 5520 | 501 | 450 |
| м. Коханава | 396 | 409 | 90 | 120 | 5760 | 5760 | 375 | 387 |

Як бачым, за выключэньнем аднаго выпадку (бульба па м. Коханава), усе пададзеныя даныя сьведчаць аб разыходжаньні паміж тымі і другімі цэнамі максімум у 10%, што да пэўнай ступені трэба і лічыць меркай дакладнасьці ўжытых намі цэн.

Пасьля заўваг агульных для ўсей распрацоўкі, патрэбна вельмі каротка застанавіцца на спосабах атрыманьня кожнай асобнай табліцы і на скарыстаных для іх запаўненьня матар'ялах.

**Зямля, ральля і аснаўныя сродкі вытворчасьці**

*Таблица № 1.* („Зямля") складзена цалкам на падставе даных падворкі і толькі шырыня і даўжыня палосак ральлі ўзяты з манаграфіяў паселішч. Задача табліцы, яе пабудова і зьмест зьяўляюцца на нашу думку настолькі яснымі, што для свайго ўразуменьня табліца не патрабуе ніякіх дадатковых тлумачэньняў.

*Табліца № 2.* („Ральля") зьяўляецца фактычна працягам першай. Задача яе даць у дынамічным разрэзе тэхніка-агранамічны і гаспадарчы аналіз спосабаў скарыстаньня асноўнага ужытку—ральлі. Даныя табліцы, паводле нашага разьліку, павінны дапамагчы высьвятленьню

пытаньняў, зьвязаных з сыстэмай ральніцтва і севазваротам. Матар'ялямі для складаньня табліцы зьявіліся выключна даныя падворак. У іншым — табліца таксама не патрабуе тлумачэньняў.

*Табліца № 3.* („Аснаўныя сродкі вытворчасьці") імкнецца з аднаго боку даць натуральнае азначэньне сродкам вытворчасьці (плошча будынкаў і лік галоў скаціны ў галовах дарослага быдла), а з другога,— грашовае. У сувязі з складаньнем гэтай табліцы неабходна заўважыць: а) *усе будынкі* зьведзены намі да чатырох катэгорыяў. Пры чым да будынкаў „*для сям'і*" аднесены—хата і сенцы; да будынкаў, „*для скаціны*"—усе хлявы; да „*гуменных*"—пуня, ток ёўня, асець і да „*іншых*"— клець, пограб, вараўня, лазьня і павець.

б) *Мёртвы інвэнтар* згрупаваны намі наступным чынам: інвэнтар „*для апрацоўкі глебы*" — сохі, плугі, бароны, асыпнікі, каткі і сеялкі; *транспартны інвэнтар і збруя*—калёсы, сані, вазкі і збруя; інвэнтар „*для прыборкі ўраджаю*"—жаткі, сенакасілкі, малатарні, арфы, сартыроўкі і льномялкі; інвэнтар, „*для жывёлагадоўлі*" — саломарэзкі, карнярэзкі, сэпаратары і маслабойкі; „*прамысловы і інш. інвэнтар*". Апрача гэтых груп мы вылучылі яшчэ адну—„*палепшаны інвэнтар*", да якога залічалі зялезныя бароны, сеялкі, арфы і сартыроўкі, саломарэзкі і карнярэзкі, сэпаратары, чыгунныя льнамялкі.

Натуральнае азначэньне асобных відаў *жывога інвэнтару* зроблена ў галовах дарослага быдла; пры чым для пераводу намі скарыстаны звычайныя каэфіцыенты Ц. С. К. *для коняй*: дарослыя = 1,5; ад 1 г.— да дарослых = 0,5 і жарабяты да 1 году = 0,25; *для быдла*: каровы і быкі = 1,0; ад 1 году да дарослых = 0,5 і цялят ы да 1 году = 0,125; *для авечак*: дарослыя = 0,1 і маладыя = 0,06; *для сьвіней*: дарослыя = 0,25 і парасяты (да 4-х месяцаў) = 0,05; для ўсіх *птушак* = 0,01.

У разьдзеле кошту жывога інвэнтару мы вылучылі асобна кошт маладняка; пры чым да апошняга аднесілі: для коняй — жарабят да 1 году і „стрыгуноў" ад 1 г. да рабочага ўзросту; для быдла—усю скаціну апрача кароў і быкоў; для сьвіней—парасят і падсьвінкаў да 1 году. Такое сумарнае азначэньне, прынятае намі для маладняка, не павінна выклікаць спрэчак, калі ня імкнуцца выйсьці за межы спэцыяльных задач гэтага досьледу.

Урэшце, у табліцы № 3, мы маем агульны кошт усіх аснаўных сродкаў вытворчасьці. Для чаго ад усей сумы кошту будынкаў, мёртвага і жывога інвэнтару адымаем кошт будынкаў „для сям'і", разглядаючы тым самым апошнія, як прызначаныя для абслугоўваньня патрэб хатняй гаспадаркі, а не гаспадаркі-вытворчасьці. Матар'яламі для гэтай табліцы зьяўляліся выключна даныя падворак.

Запас працы і яе разьмеркаваньне.

*Табліца № 4.* („Балянс працы"). Дзякуючы таму, што другім крытэрыем народна-гаспадарчай рацыянальнасьці вывучаемых зьявішч мы ўзялі зьмяншэньне аграрнай пералюдненасьці (першы крытэры—павялічэньне валавой прадукцыі), — неабходна было табліцу падліку працы укладаць па прынцыпу балянсавых табліц; інакш кажучы, даць, з аднаго боку, гадавы запас працы, а з другога—дэталёва разгорнуты малюнак скарыстаньня гэтага запасу на працягу году.

У пададзенай табліцы мы наўмысьля ўхіліся ад самага балянсаваньня, таму што лічылі спрэчным пытаньне аб тым, з якім запасам працы ў мэтах вывучэньня аграрнай пералюдненасьці трэба раўнаваць яе расходы. Звычайна, у гэтым выпадку бяруць *гадавы* запас працы *ўсіх* членаў сям'і. Але супроць гэтага можна высунуць цэлы шэраг матываў, сярод якіх два аснаўных: 1) Выходзячы з сэзоннасьці сельскай гаспадаркі і налічча ў ёй крытычных момантаў у працы (што ў працэсе разьвіцьця сельскай гаспадаркі можа быць паслаблена, але ня цалкам пераможана)—трэба лічыць не рэальнымі меркаваньні аб стопроцантн. скарыстаньні гадавога запасу працы с. г. насельніцтва. Рэальным, калі не глядзець з пункту гледжаньня асобнай гаспадаркі, зьяўляецца балянсаваньне запасу і расходу працы толькі ў крытычны пэрыяд

2) Яшчэ больш ня рэальным зьяўляецца палажэньне, паводле якога ў запас працы ўключаюць і працу 10—13 гадовага хлапчука (або дзяўчынкі) і працу 60—65 гадовага дзеда; інакш кажучы, для селяніна даецца, як нармальны, 55-гадовы „працоўны стаж". Тут ня месца шукаць прычын гэткай дзіўнай вытворча-эканамічнай і сацыяльнай устаноўкі, якая ня ужываецца пры аналізу аналёгічнай праблемы (беспрацоўя) у адношаньні іншых клясаў.

Для нас, пакуль што, даволі наяўнасьці спрэчнага характару ў пытаньні балянсу, каб гэтага балянсу ў табліцы не рабіць. Тым больш, што тэхнічнае балянсаваньне па нашай табліцы зьяўляецца вельмі простай справай і можа быць выканана даволі хутка.

Пасьля гэтай агульнай заувагі мы дазволім сабе затрымацца на асобных разьдзелах табліцы: 1) *гадавы запас працы* быў вылічаны звычайным спосабам: дзенны запас працы ўсей сям'і (пасьля належнага пераводу па прынятых ЦСК каэфіцыентах) мы азначылі ў днях дарослага мужчыны (18—59 г.); далей, па матар'ялах манаграфіяў, шляхам выключэньня непрацоўных дзён (лік іх хістаўся паміж 80 і 90 днямі), падлічана колькасьць працоўных дзён у годзе (280). Звычайнае множаньне ўсяго дзеннага запасу на лік працоўных дзён у годзе—дало гадавы запас усей працы. Тым жа спосабам была падлічана і „аснаўная" праца, да якой мы аднесьлі: працу мужчын 18—60 г. і працу жанч. 16—55 год.

Значна большыя цяжкасьці стаялі на шляху да поўнага падліку га-

давога расходу працы. Падворкі, як вядома, не давалі для гэтага непасрэдных даных. Трэба было ў часе распрацоўкі шукаць іншага укоснага спосабу. Лёгка зразумець, што гэты укосны спосаб павінен быў, з аднаго боку, абапірацца на масавыя даныя падворак, а з другога—на тыя перадатачныя каэфіцыенты, якія можна было атрымаць праз належную апрацоўку даных бюджэтна-агранамічных. Такім чынам, практычна пытаньне ў першую чаргу ставілася так: якія элемэнты гаспадаркі могуць зьявіцца гэтымі передатачнымі зьвеньнямі? Зразумела, што гэтыя элемэнты павінны быць рознымі для розных галін г-кі.

Паколькі найбольшую цікавасьць і важнасьць прадстаўляюць сабой расходы працы на вытворчыя галіны: земляробства і жывёлагадоўлю, пастолькі на іх неабходна затрымацца ў першую чаргу. Для земляробства ў якасьці перадатачнага элемэнта можна было ўзяць або плошчу, або валавы збор. Тэарэтычна разважаючы, другі элемэнт зьяўляецца, як быццам больш удзячным, таму што ён адбівае сабой затрату працы на фоне розьніцы тэхнікі, якая фактычна мае месца ў асобных групах сял-ва.

Аднак, нашы вылічэньні каэфіцыент. карэляцыі (па 51 гаспадарцы) не далі пераконваючых доказаў на карысьць гэтай установкі. Мы па двух аснаўных палявых культурах (жыту і бульбе) падлічылі ступень карэляцыйнай сувязі паміж затратамі працы і плошчай, а таксама паміж затратамі працы і валавым зборам. Атрымалі *для жыта*:

$$= r_1 = \frac{\Sigma xy}{\sqrt{\Sigma x^2 y^2}} = + \frac{766,83}{1052} = + 0,729 \pm 0,066 ;$$

$$r_2 = + \frac{32178,2}{44362} = + 0,725 \pm 0,067$$

Як бачым, карэляцыйная сувязь паміж плошчай і затратамі працы ($r_1$) і паміж валавым эборам і тымі-ж затратамі ($r_2$), амаль што, аднальковая.

Крыху большае разыходжаньне (што і трэба было чакаць) мы бачым паміж гэтымі-ж каэфіцыентамі, калі возьмем больш інтэнсыўную культуру—бульбу. Для апошняй атрымліваем гэткія вынікі:

$$r_1 = \frac{+ 388,138}{540} = + 0,719 \pm 0,068$$

$$r_2 = \frac{+ 473580,5}{627140} = + 0,755 \pm 0,061$$

Ня гледзячы на некаторыя перавагі валавога эбору мы ўсё-ж перадатачным элемэнтам узялі плошчу, таму што ў вылічэньні расходу працы на земляробства не жадалі ўводзіць дуалізму, які няухільна утварыўся-б дзякуючы немажлівасьці вылічыць расходы працы для садоўніцтва і гародніцтва па валавому збору.

Далей мы заўважылі, што колькасьць працы на адзінку засяўной плошчы, пры павялічэньні апошняй на адну гаспадарку, памяншаецца. Паколькі гэты факт ня толькі не супярэчыў адпаведным тэарэтычным меркаваньням, а наадварот, вельмі добра іх падмацоўваў і ілюстраваў, пастолькі каэфіцыенты затрат працы мы мусілі належным чынам дыфэрэнцыраваць. Урэшце рэшт, на падставе нашых бюджэтна-агранамічных даных мы атрымалі наступную табліцу каэфіцыентаў:

На 0,01 гэкт. засеву расходуецца дзён працы:[1]).

I. Калінінщчына.

| Жыта | | | | Ячмень | | | | Грэчка | | | Бульба | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| да 1 гэкт. засеву | 1—1,5 г. | б. 1,5 г. | яр. пшаніца | да 0,7 гэкт. засеву | б. 0,7 г. | проса | авёс | да 1,0 гэкт. засеву | б. 1,0 г. | ярыца | да 0,5 гэкт. засеву | б. 0,5 г. | лён | канюшына | віка | гарод | сенажаць |
| 0,28 | 0,25 | 0,20 | 0,28 | 0,27 | 0,26 | 0,28 | 0,18 | 0,17 | 0,15 | 0,28 | 0,58 | 0,54 | 0,92 | 0,18 | 0,23 | 1,07 | 0,09 |

II. Бабруйшчына.

| Жыта | | Яр. пшан. | | | | Авёс | | Грэчка | | | Бульба | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| да 1,0 гэкт. засеву | б. 1,0 г. | да 0,2 гэкт. засеву | б. 0,2 г. | ячмень | проса | да 0,5 гэкт. засеву | б. 0,5 г. | да 0,25 г. засеву | б. 0,25 г. | ярыца | да 0,5 гэкт. засеву | б. 0,5 г. | лён | канюшына | віка | гарод | сенажаць |
| 0,28 | 0,23 | 0,36 | 0,26 | 0,36 | 0,36 | 0,21 | 0,17 | 0,21 | 0,17 | 0,28 | 0,60 | 0,57 | 1,10 | 0,18 | 0,25 | 1,00 | 0,14 |

Гэтыя каэфіцыенты і плошча засеву з падворак зьявіліся падставай для вылічэньня затрат працы па земляробству.

Для атрыманьня належных лічбаў расходу працы па жывёлагадоўлі мы за пераходны элемэнт узялі галаву дарослага быдла і для асобных відаў скаціны падлічылі, колькі дзён працы аддаецца гаспадаркай для яе догляду. Тут таксама мы заўважылі, што пры павялічэньні ў г-цы колькасьці галоў тэй альбо іншай скаціны—расход працы на адну галаву памяншаецца. Праўда, фактычна розьніца атрымалася тут значна меншая, чым мы чакалі. У выніку ўсіх вылічэньняў па тых жа бюджэтна-агранамічных даных мы атрымалі гэткія каэфіцыенты.

[1]) Усюды пры вылічэньнях працы прыняты дзесяцігадзінны працоўны дзень.

Расходуецца на 1 галаву дарослага быдла (пераваднуе) дзён працы за год:

| | У конях | | У быдле | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | да 1 галавы ка гаспад. | б. 1 галавы | да 2-х гал. на гаспад. | б. 2 галоў | у авечках | у сьвіньнях | у птушках |
| Калінінщчына . . . . . | 31 | 25 | 22 | 20 | 18 | 50 | 40 |
| Бабруйшчына . . . . . | 46[1]) | 38 | 22 | 18 | 16 | 55 | 33 |

Гэтыя каэфіцыенты разам з адпаведнымі данымі табліцы № 3 і зьявіліся падставай для падліку працы па жывёлагадоўлі.

Цікава зазначыць, што пададзеная таблічка дае вельмі яскравае уяўленьне адноснай праца—інтэнсыўнасьці розных галін жывёлагадоўлі.

Розныя працы, агульныя для ўсей гаспадаркі, маглі быць вылічаны толькі сумарна. Пры чым па бюджэтным даным мы устанавілі агульны для ўсёй г-кі расход, які для Калінінш. атрымаўся — 80 дз. на кожную гаспадарку, а для Бабруйшчыны = 60 дз. Гэтыя лічбы былі і ўведзены у адпаведныя месцы табліцы.

Для вылічэньня расходу працы на хатнюю гаспадарку было спачатку падлічана, колькі прыходзіцца гэтай працы на 1 душу сям'і. Атрымаліся лічбы: для Калінінщчыны—30 дзён у год, а для Бабруйшчыны—25 дзён. Далей, скарыстаўшы гэтыя каэфіцыенты і адпаведныя даныя падворак, былі запоўнены належныя графы табліцы. Графы найму і продажу працы атрыманы шляхам непасрэднай апрацоўкі даных падворак.

Урэшце важным зьяўлялася даведацца аб ступені дакладнасьці ужытага намі спосабу вылічэньня, асабліва ў частцы вызначэньня прынятых каэфіцыентаў. Найлепшым і бяспрэчным крытэрыем для гэтага было-б параўнаньне нашых каэфіцыентаў з такімі-ж каэфіцыентамі, толькі вылічанымі на падставе рахунковых запісаў. На жаль, усе захады ужытыя намі да атрыманьня даных запісаў (для адпаведных раёнаў), покуль што не далі патрэбных матар'ялаў, дзякуючы няскончанасьці іх апрацоўкі належнымі установамі (Ц.С.К.Б. і Н. Д. І-т).

**Валавая прадукцыя ад сельскай г-кі**

*Таліца № 5* („Валавая прадукцыя") прадстаўляла таксама значныя цяжкасьці пры яе укладаньні. „Вызначэньне параўнаўчага узроўню прыбытку розных груп насельніцтва зьяўляецца непераможнай цяжкасьцю", і далей,

[1]) Высокая лічба на догляд за канямі тлумачыцца значным скарыстаньнем іх для ізвозу і лясных промыслаў.

„у першую чаргу гэта датычыцца сялянскай поўнатуральнай г-кі"[1]). Вось чаму ня будзе дзіўным, калі многія моманты праробленай намі працы па складаньню гэтай табліцы, выклікаюць (дзякуючы іх няясьнасьці, або памылковасьці) крытыку і папрокі ў недакладнасьці саміх даных.

Гэтага, тым больш можна чакаць, таму што мы ня зьбіраемся ў даным месцы даваць больш-менш поўную аргумэнтацыю па пытаньню аб валавой прадукцыі, а абмяжоўваемся толькі самымі неабходнымі заўвагамі. Мала таго, самім тлумачэньням будзе нададзены схэматычны, абрывачны і дагматычны характар, таму што іх мэта чыста інфармацыйная: дапамагчы уразумець табліцу з боку прынцыпу, які закладзены ў яе аснову, а таксама і з боку ужытых пры яе укладаньні спосабаў і тэхнічных прыёмаў.

Табліцу № 5 мы імкнуліся пабудаваць такім чынам, каб з пачатку, па асобных галінах падлічыць *валавую прадукцыю* V ад усяе сельскае г-кі па данай сацыяльна-эканамічнай групе і пасёлку, затым атрымаць кошт насеньня (a) і кошт рамонту і амартызацыі аснаўных сродкаў вытворчасьці (b); і, ўрэшце, шляхам здыманьня ад V сумы (a + b) атрымаць тое, што звычайна завецца „умоўна-чыстым прыбыткам", а больш дакладна: ачышчанай валавой прадукцыяй.

Першае, што паўстае пры ужываньні такога спосабу складаньня табліцы гэта—разуменьне саміх катэгорыяў: валавая прадукцыя і ачышчаная валавая прадукцыя. Застановімся спачатку на прынятым намі разуменьні першай катэгорыі—валавая прадукцыя.

Як вядома, у Маркса ёсьць катэгорыя, якая тэрміналёгічна вельмі нагадвае назву „валавая прадукцыя" гэта—„валавая выручка, альбо валавы прадукт". Паколькі слоўнае падабенства часамі бывае прычынай тэарэтычнай і практычнай блытаніны, мы дазволім сабе напомніць, што для Маркса „Валавая выручка, або валавы прадукт—гэта ўвесь перавытвораны прадукт". Пры чым „валавая выручка прыроўніваецца да матар'яльных элемэнтаў, якія утвараюць сталы і зьменны капітал, плюс матар'яльныя элемэнты дадатковага прадукту, у якіх прадстаўлены зыск і рэнта" толькі тады „*калі разглядаць прадукт не асобнага капіталу, а ўсяго грамадзкага капіталу*"[2]) (падкрэсьлена мной Я. К.).

Іначай кажучы, формула: валавая выручка = (c + v + m)—можа лічыцца запраўднай тады, калі элемэнты правага боку раўнаньня вылічаюцца асобна і непасрэдна для ўсяе народнае гаспадаркі, як адзінага і арганічнага цэлага ($\Sigma c + \Sigma v + \Sigma m$).

У кожным разе валавая выручка не зьяўляецца звычайнай сумай усіх (c + v + m), якія вылічаюцца самастойна і незалежна для кожнай галіны роднай г-кі, а тым больш для асобных вытворчых адзінак (прад-

[1]) Основные вопросы экономии СССР в таблицах и диаграммах; отд. IV таб. 1—22

[2]) К. Маркс: „Капітал" т. III ч. II, стар. 369 (рэд. Базарава і Степанова).

прыемстваў). У апошнім выпадку мы мелі-б нешта іншае, што можна азначыць сымбалем: $\sum_{n}^{o}(c + v + m)$, дзе „п“ лік усіх асобных прадпрыемств. якія складаюць народную г-ку. Гэта велічыня, як правіла, зьяўляецца большай ад першай („валавая выручка, або валавы прадукт“) і атрымала назву валавой прадукцыі.

„*Як эканамічная катэгорыя* (падкрэсьлена мной Я. К.) валавая прадукцыя адбівае сабой не рэальны па кошту аб'ём вытворчасьці, не валавую каштоўнасьць. а толькі суму коштаў канкрэтных тавараў, якія паступілі на рынак ад асобных гаспадарак, пры чым частка гэтых тавараў зноў і зноў знаходзіць вытворчае далажэньне ў народнай г-цы“[1]). І там жа: „у адношаньні асобнай гаспадарчай адзінкі (напр. прамысловага прадпрыемства) валавая прадукцыя разумеецца, звычайна, як сума кошту выпрацаваных гатовых вырабаў і поўфабрыкатаў (як з сваёй, гэтак і з купленай сыравіны) бяз тых, якія пайшлі ў далейшую перапрацоўку ў тым-жа прадпрыемстве, або спажытых у яго вытворчасьці“[2]).

Такім чынам, ужытая намі катэгорыя „валавая прадукцыя“ зьяўляецца чыста лічбавай статыстычнай велічынёй і больш менш правільна адбівае толькі рух вытворчасьці, але не яго рэальную велічыню“[3]).

Пададзенымі вытрымкамі мы азначылі прыроду і агульны характар ужытага намі паняцьця—валавая прадукцыя. Лёгка заўважыць, што апошняе па сутнасьці зьяўляецца ні чым іншым, як валавым прыбыткам праф. Е. Лаура, які кажа, што „Пад валавым прыбыткам прадпрыемства, або якой небудзь яго галіны разумеюць канчатковы валавы прыбытак (Endrohertrag), г. зн. тое, што перадаецца гэтым прадпрымествам, або яго галінамі, для продажу, спажываецца ў сям'і гаспадара, аддаецца на утрыманьне працуючых у г-цы і г. д.“ і далей: „да сутнасьці паняцьця валавы прыбытак адносіцца тое, што яго велічыня вылічаецца *без адыманьня выдаткаў*, якія неабходны для яго атрыманьня“ (падкрэсьлена мной Я. К.)[4]).

У далейшым Лаур дае падрабязны пералік усіх частак, якія ўваходзяць у „склад валавога прыбытку с.-г. прадпрыемства“. Мы ня будзем прыводзіць гэтага пераліку, а толькі адзначым, што прынятае намі паняцьце—валавая прадукцыя—адрозьніваецца ад валавога прыбытку Лаўра толькі тым, што ў нас у склад валавой прадукцыі ўключан кошт уласнага насеньня. Але нам здаецца, што адсутнасьць гэтага апошняга ў Лаўра—

[1]) Б. С. Э. т. VIII „Валавая прадукцыя“, стар. 665.

[2]) Ibidem стар. 664. Амаль што, у тых жа словах даецца азначэньне валавой прадукцыі і ў „Основных вопросах экономики СССР“ (отдел III табл. 4—12): „Под валовой продукцией понимается вся сумма производственных ценностей всеми отдельными заведениями за вычетом переданных в переработку в тех-же заведениях“.

[3]) „Основные вопросы экономики СССР“ отд. III табл. 4—12.

[4]) Д-р Е. Лаур: „Введение в экономию сельского х-ва“ стар. 168.

зьяўляецца няправільным і супярэчыць нават вышэй пададзенаму палажэньню самаго Лаура: „без адыманьня выдаткаў“.

З другога боку, ня можна было прыняць цалкам і тэй канцэпцыі ў адношаньні да валавой прадукцыі („dochód brutto“), якую падае д-р В. Панікоўскі ў сваёй спэцыяльнай на гэту тэму працы, дзе ён да валавой прадукцыі апрача насеньня сваей гаспадаркі залічае: кошт сваёй конскай цягавай сілы і кошт гною ад прадукцыйнай жывёлы („od inw. uzytkowego“) [1]).

У выніку мы застанавіліся на наступным складзе валавой прадукцыі ад сельскай г-кі: а) усе праданыя прадукты г-кі; б) усе прадукты спажытыя ў хатняй г-цы працуючай сям'ёй; в) насеньне сваёй гаспадаркі, г) натуральнае павялічэньне аснаўных сродкаў вытворчасьці і зваротных сродкаў і д) кошт цягавай конскай сілы, якая пайшла на абслугаваньне патрэб сям'і.

Нам думаецца, што пададзены склад валавой прадукцыі („валового дохода“, „дохода brutto“), у найбольшай меры адказвае сутнасьці самой катэгорыі—валавая прадукцыя, паколькі ў паданым намі яе складзе, з аднаго боку, адсутнічаюць тыя прадукты, якія перайшлі ў іншыя галіны г-кі (кармы, гной, цягавая сіла і інш)., а з другога боку, ня выкінуты такія запраўдныя выдаткі г-кі, як насеньне.

Насеньне ня можна прыроўніваць да кармоў, гною і г. д. і разглядаць яго, як прадукт, які ідзе на далейшую апрацоўку. Насеньне зьяўляецца зусім гатовым прадуктам і нікуды з галіны земляробства не пераходзіць, у тэй час як кармы ад земляробства пераходзяць у жывёлагадоўлю; цягавая сіла і гной ад жывёлагадоўлі—да земляробства і г. д.[2])

Катэгорыя—ачышчаная валавая прадукцыя—не патрабуе вялікіх тлумачэньняў, паколькі яна ў нас зьяўляецца ў выніку звычайнага адыманьня ад валавой прадукцыі кошту насеньня і кошту ўтрыманьня аснаўных сродкаў вытворчасьці.

Калі апошнія 2 вялічыні разглядаць (у прыстасаваньні да асобнага прадпрыемства), як матар'яльныя элемэнты сталага капіталу (с), то ачышчаная валавая прадукцыя можа да некаторай ступені лічыцца за матар'яльны элемэнт зьменнага капіталу і дадатковай вартасьці ($v+m$). Тым самым велічыня ачышчанай валавой прадукцыі набывае надворны выгляд валавога прыбытку (валавая выручка—„с“).

Аднак, як кажуць, падабенства ня ёсьць аднолькавасьцю, таму што толькі валавы прыбытак запраўды $=(v+m)=$ зарабковай плаце $+$ зыск

[1]) Dr. Waclaw Ponikowski: „Dochód czustu i jego sktadniki“.... стар. 61.

[2]) Праф. Г. А. Студенский прапануе да валавога прыбытку адносіць і кармы (разам з насеньнем), таму што „гэтыя элемэнты выдаткаў заўсёды бяруцца з прыбытку папярэдняга с.-г. году і павінны далучацца да зваротнага капіталу, а тым самым уваходзіць у валавы прыбытак. Яны ня робяць простага пераходу с рук у рукі, але праходзяць праз вытворчы зварот“ (Проблемы экономии и географии сельск. х-ва, стар. 31).

+ рэнта. Ачышчаная валавая прадукцыя зьяўляецца велічынёй большай (для асобнага прадпрыемства) на тую частку рыначнай прадажы, якая ідзе па лініі далейшага вытворчага спажываньня. Таму і падмену аднэй катэгорыі другой трэба лічыць непажаданай, ня гледзячы на некаторыя для гэтага падставы.

Вызначаная намі катэгорыя—ачышчаная валавая прадукцыя—вельмі нагадвае часта ужываемы ў расійскай літаратуры—„умоўна-чысты прыбытак“[1]). Аднак, мы ўхіліся ад ужываньня і гэтага паняцьця дзякуючы яго нездавальняючай дакладнасьці: назва—„чысты прыбытак“ (хай сабе—„умоўны“), асацыіруе гэта паняцьце з запраўдным чыстым прыбыткам, „які зьяўляецца ў запраўднасьці дадатковай вартасьцю, якая рэалізавана капіталам і павінна быць падзелена з землеўласьнікам, і вымерваемы гэтай дадатковай вартасьцю дадатковы прадукт“.[2])

Калі для сялянскіх гаспадарак захоўваць гэта-ж разуменьне чыстага прыбытку, то тады для падаўляючай іх большасьці—фактычна атрымліваемы імі прыбытак у меншай меры характарызуецца наяўнасьцю ў ім „чыстага прыбытку“ і ў большай—зарабковай платай. Вось чаму і назва цэлага (зарабковая плата + чысты прыбытак) па аднэй з гэтых складаючых частак, тым больш найменшай,—не зьяўляецца, на нашу думку, удалай.

Пасьля пададзеных беглых заўваг наконт ужытых катэгорыяў неабходна застанавіцца на практычных прыёмах, якія былі скарыстаны намі пры ўкладаньні самой табліцы.

**Тэхніка вылічэньня валавой і ачышчанай валавой прадукцыі**

Вылічэньне валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі мы праводзілі па тэй-жа схэме, якую скарысталі для табліцы № 4 („Праца“). Тут, як і там, падставай зьяўляліся, з аднаго боку, матар'ялы падворак, а з другога—даныя рахункова-агранамічных аналізаў. Пры чым апошнія таксама скарыстаны былі для двух патрэб: вылічэньня каэфіцыентаў карэляцыі і вылічэньня перадатачных, нарматыўных каэфіцыентаў. Аднак паколькі ў працэсе выкананьня самой працы паўставалі свае, часамі новыя дэталі, пастолькі ня шкодзіць разгледзіць складаньне табліцы з тэй-жа падрабязнасьцю, што і № 4.

*Валавая прадукцыя ральніцтва* вылічана наступным чынам: спачатку, па 51 галоўнай кнізе, для кожнай культуры была падлічана валавая прадукцыя, затым для тых-жа культур выпісаны засяўныя плошчы і валавыя зборы зярна, або клубней (для лёну—сума семя і валакна).

[1]) „Умоўна-чысты“—не ў разуменьні школы праца-спажывецкага балянсу; для прыхільнікаў гэтай школы: ачышч. валав. прадукц.=чыстаму прыбытку (прыбытак ад працы).

[2]) К. Маркс. ibidem стар. 369.

Далей, на падставе гэтых даных па вядомай ужо формуле

$$r = \frac{\Sigma xy}{\sqrt{\Sigma x^2 \, \Sigma y^2}}$$

для трох аснаўных культур (жыта, бульбы і аўса) была вылічана ступень карэляцыйнай сувязі паміж: валавой прадукцыяй і засяўной плошчай, валавой прадукцыяй і валавым зборам зярна (клубней).

Атрымалася: *для жыта*—$r_1 = +0{,}692 \pm 0{,}074$; $r_2 = 0{,}874 \pm 0{,}033$; *дял аўса*—$r_1 = +0{,}641 \pm 0{,}084$ і $r_2 = +0{,}679 \pm 0{,}077$; *для бульбы*—$r_1 = +0{,}826 \pm 0{,}045$ і $r_2 = +0{,}820 \pm 0{,}047$, дзе $r_1$—каэфіцыент карэляцыі паміж валавой прадукцыяй і засяўной плошчай, а $r_2$—паміж тэй жа вал. прадукцыяй і валавым зборам зярня (клубней).

Пададзеныя каэфіцыенты перш за ўсё сьведчаць аб вялікай карэляцыйнай сувязі валавой прадукцыі з абодвымі элемэнтамі, а затым аб адносна большай дакладнасьці валавога збору ў якасьці перадатачнага элементу. Таму мы і ўзялі валавы збор за падставу пры вылічэньнях нарматыўных каэфіцыентаў, якія ўрэшце атрыманы намі ў наступным выглядзе:

На 1 цэнтнер валавога сбору зярна (клубней) прыходзіцца рублёў валавой прадукцыі.

**I. Калініншчына**

| Жыта | | Яр. пшан. | | Ячмень | | Проса | Авёс | | Грэчка | Ярыца | Бульба | Лён | На 0,01 гэкт. вал. прад. (рублёў) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | Канюшына | Выка | Гарод | |
| да 15 цэн. збору | б. 15 цэн. збору | да 1,5 цэн. збору | да 1,5 цэн. збору | да 8 цэнтн. збору | б. 8 цэнтн. | | да 7 цэнтн. збору | б. 7 цэнтн. | | | | | | | да 0,1 г. | б. 0,1 г. |
| 5,1 | 4,5 | 5,1 | 4,8 | 3,6 | 2,7 | 3,6 | 1,5 | 1,8 | 2,4 | 4,5 | 1,72 | 9,0 | 1,4 | 0,4 | 2,1 | 1,4 |

**II. Бабруйшчына**

| Жыта | | Яравая пшаніца | Ячмень | | Проса | Авёс | | Грэчка | Ярыца | Бульба | | Лёп | | На 0,01 гэкт. вал. прад. (руб.) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | | Канюшына | Выка | Гарод | |
| да 20 цэнт. збору | б. 20 цэнт. збору | | да 1,7 ц. збору | б. 1,7 ц. збору | | да 10 ц. збору | б. 10 ц. збору | | | да 165 ц. збору | б. 165 ц. збору | да 1,5 ц. збору | б. 1,5 ц. збору | | | да 0,1 гэкт. | б. 0,1 гэкт. |
| 3,6 | 3,9 | 4,2 | 3,6 | 2,4 | 3,6 | 1,2 | 2,1 | 2,4 | 3,3 | 0,36 | 0,48 | 9,6 | 8,4 | 1,1 | 0,3 | 3,0 | 1,2 |

Гэтыя каэфіцыенты, разам з валавымі зборамі, атрыманымі з падворак, і далі мажлівасьць вылічыць валавую прадукцыю земляробства.

(Прадукцыя сенажацяў у падлік не ўвайшла таму, што ўся яна, паводле нашых даных, не зьяўляецца „канчатковым“ прадуктам).

Пры вылічэньні валавой прадукцыі ад жывёлагадоўлі намі таксама спачатку была знойдзена карэляцыйная сувязь паміж валавой прадукцыяй і коштам жывёлы і паміж В. прад. і колькасьцю жывёлы ў галовах дарослага быдла. Належныя вылічэньні былі зроблены толькі для двух аснаўных відаў прадукцыйнай жывёлы: быдла і сьвіней. Атрыманыя каэфіцыенты маюць гэткі выгляд:

*для быдла* —$r_1 = + 0{,}601 \pm 0{,}091$ і $r_2 = + 0{,}603 \pm 0{,}091$

*для сьвіней*—$r_1 = + 0{,}408 \pm 0{,}119$ і $r_2 = + 0{,}446 \pm 0{,}112$

дзе $r_1$—карэляцыя паміж валавой прадукцыяй і колькасьцю галоў, а $r_2$—паміж вал. прад. і коштам жывёлы. І тыя і другія каэфіцыенты атрымаліся вельмі нізкімі, але ўсё-ж $r_2$ крыху лепшым, чаму нішэйпададзеныя нарматыўныя кафіцыенты і устаноўлены былі ў прыстасаваньні да кошту.

На 1 руб. кошту жывёлы прыходзіцца руб. валав. прадукцыі:

I. Калінішчына.

| Быдла | | | Авечкі | | | Сьвіньні | | | Птушкі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пры кошту на адну гаспадарку | | | | | | | | | | | |
| да 75 р. | 76—100 | б. 100 | да 20 р. | 21—30 | б. 30 р. | да 20 р. | 21—35 | б. 35 | да 3 р. | 3, 1—6 | б. 6,1 р. |
| 2,3 | 1,5 | 1,4 | 1,5 | 1,2 | 0,9 | 2,7 | 3,7 | 4,2 | 3,7 | 2,8 | 2,1 |

II. Бабруйшчына.

| Быдла | | | Авечкі | | | Сьвіньні | | | Птушкі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пры кошту на адну гаспадарку | | | | | | | | | | | |
| да 75 р. | 76—100 | б. 100 р. | да 20 р. | 21—30 | б. 30 р. | да 40 р. | 41—80 | б. 80 р. | да 2,5 р. | 2,6—5 | б. 5 |
| 1,7 | 1,5 | 1,0 | 1,3 | 1,2 | 0,7 | 3,0 | 1,6 | 1,0 | 3,0 | 4.5 | 3,3 |

Далейшая праца па запаўненьню саміх табліц ішла ў тым-жа самым парадку.

Каб скончыць пытаньне аб вылічэньні валавой прадукцыі ад сельскай г-кі нам застаецца толькі дадаць, што валавая прадукцыя ад коняй узята ў складзе: кошту конскай працы для сям'і і прыросту кошту саміх коняй (канягадоўля). Кошт конскай працы па Калінінішчыне атрымаўся роўным 20 р. на сям'ю, а па Бабруйшчыне—10 р. Прырост кошту коняй

вылічан на 1 руб. усяго іх кошту і атрымаўся аднальковым для Калінішчыны і для Бабруйшчыны: пры кошту коняй да 200 р. (на г-ку)=0,1 р.; пры кошту большым 200 руб. = 0,05 р.

Каб вылічыць ачышчаную валавую прадукцыю трэба было раней атрымаць кошт насеньня і кошт утрыманьня аснаўных сродкаў вытворчасьці. Кошт насеньня даў вельмі высокую карэляцыйную сувязь з валавой прадукцыяй ральніцтва, чаму перадатачны каэфіцыент быў вылічан, як процант да гэтай прадукцыі: для Калінішчыны—29%, а для Бабруйшчыны—31%.

Значна большы разнабой далі атрыманыя намі проценты рамонту і амартызацыі: для будынкаў па Калінішчыне ён складаў—10%, а па Бабруйшчыне—7%; для мёртвага інвэнтару: па Калінішчыне—15%, а па Бабруйшчыне—20%. Аднак, для далейшых вылічэньняў мы прынялі ўсё-ж гэтыя рэальныя каэфіцыенты, а не нарматыўныя з даведнікаў. Праз ужываньне ўсіх паданых каэфіцыентаў і даных падворак былі і запоўнены адпаведныя графы табліцы.

Пасьля гэтага для атрыманьня ачышчанай валавой прадукцыі заставалася толькі выканаць звычайную працу адыманьня па формуле: A=V—(a+b), дзе A—ачышч. вал. прад.; V—валавая прадукцыя; a—кошт насеньня і b—кошт утрыманьня аснаўных сродкаў вытворчасьці.

*Табліца № 6* („Выдаткі г-кі ў сувязі з землеўпарадкаваньнем“) цалкам складзена па даных падворак і для свайго уразуменьня не патрабуе ніякіх тлумачэньняў.

Такім чынам, мы даволі падрабязна высьветлілі галоўныя моманты распрацоўкі, зьвязаныя з укладаньнем аснаўных матар'ялаў у пададзеныя ніжэй табліцы. Але наша інфармацыя была-б няпоўнай, калі-б у дадатак мы не адзначылі, што побач з працай па укладаньню табліц намі вялася і апрацоўка папалосных даных.

Гэтыя апошнія мы імкнуліся скарыстаць, з аднаго боку, для больш дакладнага вывучэньня пытаньняў севазвароту, а з другога—для вырашэньня праблемы разьмеру пасёлкаў.

Каб атрымаць даныя і для таго і для другога намі складзена была спэцыяльная картка, якая часткова запаўнялася непасрэдна з блянку бюджэтна-агранамічнага апісаньня (табл. № 10), а часткова—з галоўнай кнігі рахункова-агранамічнага аналізу. Дзякуючы невялікаму памеру карткі, прыводзім яе ў запраўдным, арыгінальным выглядзе, чым і пазбаўляемся неабходнасьці даваць далейшыя аб ёй тлумачэньні. (узор карткі гл. на 70 стар.).

Акруга .................... Пасёл. .................... № двара ....................

| | |
|---|---|
| (назва культуры) | |
| Агульныя зьвесткі | Зямлі ў пасе-лішчы |
| | Паказчык геамэтр. землеўп. |
| | Зямлі ў двара |
| | Сяр. адлегл. зямлі |
| | Асноўных капіталаў |
| | Асобна капіт. у жыв. інвэнт. |
| | Асобна капіт. у мёртв. інвэн. |
| | Валавы прыбытак гас-кі |
| | Чысты прыбытак гасп-кі |
| (адлегласьць ад сядзібы) | Натуральн. |
| | Грашов. |

| Ворыва | | | | Скарадзьба | | | | Дагляд | | | | Севазварот | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік апэрацыяў | Глыбіня | Час першага ворыва | Час паміж I і апошнім | Лік апэрацыяў | Колькасьць сьлядоў | Час 1-й скарадзьбы | Час паміж I і задзелкай | Скарадзьба (лік) | Абсыпка (лік) | Прыборка трэсак | | Расьліна перад гэтай: 1 год назад | 2 гады назад | 3 гады назад | Пад якую расьліну клаўся гной |
| | | | | | | | | | | | | | | | |

| Debet | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Насеньне | Угнаеньне | Праца ў полі: Людз. | Праца ў полі: Кон. | Праца дома: Людз. | Праца дома: Кон. | % агульн. выдат. | Доля амарт. інвэн. | | Усяго выдаткаў |
| | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | |

| Kredit | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Зерня, бульбы, семя | Саломы, валакна, сена, бацьвіньня | | Усяго прыбыткаў | Чысты прыбытак |
| | | | | |
| | | | | |

| | | |
|---|---|---|
| (плошча) | | |
| Усяго скарыстана гадзін працы | Людз. | |
| | Кон. | |
| У тым ліку на пераходы і пераезды | Людз. | |
| | Кон. | |
| % нескарыстан. працы ў гас-цы | | |
| На палосцы якая расьліна бліжэй | | |
| На палосцы якая расьліна далей | | |
| Глеба кавалка | | |
| Рэльеф кавалка | | |
| Натуральн. | (на 100 р. выдаткаў руб. прыбытку) | |
| Грашов. | | |

## 5. ЭФЭКТ ЗЕМЛЕЎПАРАДКАВАНЬНЯ НА ПАСЁЛКІ.

### а) да пастаноўкі праблемы.

Пытаньне аб эфэкту землеўпарадкаваньня ў літаратуры.

Землеўпарадкаваўчая навука—бедная ў адношаньні распрацоўкі многіх іншых пытаньняў—даволі даўно і, як відаць, ахвотна займаецца, або непасрэдна самой праблемай эфэкту, або высьвятляе сумежныя з ёй пытаньні. Першы штуршок у гэтым напрамку быў дадзены праф. А. В. Чаянавым, які ў 1922 г. у парадку папярэдняга паведамленьня высунуў „мэтады колькаснага падліку эфэкту землеўпарадкаваньня“ [1]).

Далей, у разьвіцьцё, удакладненьне і дэталізацыю сваіх ідэй праф. Чаянаў выдаў на гэту тэму спэцыяльны альманах, у якім апрача яго самаго прынялі удзел К. Сазонаў, С. Платава, Б. Брук і А. Вайнштэйн [2]). Пры чым у прадмове да альманаху рэдакцыйная калегія кажа: „У сучасны момант, пасьля трох гадоў працы, мы можам апублікаваць у больш менш скончаным выглядзе аснаўныя прынцыпы і мэтады гэтага падліку (артыкул А. Чаянава) і даць на канкрэтным прыкладзе дапасаваньне некаторых з гэтых мэтадаў (артыкул С. Платавай)“ і далей: „у агульнай складанасьці сабраны матар'ял дае ў дастатковай меры поўны малюнак мажлівага разьвязаньня пастаўленай праблемы“...

Тым самым удзельнікі альманаху глядзелі на сваю калектыўную працу, як на апошняе, заключнае слова на тэму аб колькасным падліку эфэкту. І запраўды, прайшоўшыя тры гады не далі амаль што нічога новага, як у пастаноўцы праблемы, гэтак і ў падыходзе да яе разьвязаньня [3]).

Адзінае выключэньне мы знайшлі толькі у О. Сьцепаненкі, які ў сваім кароткім артыкулу: „До питання побудування теоріі обліку економічного ефекту землеустрою“ імкнецца вырвацца за межы кола ідэй „Чаянаўскай школы“ з тым, каб утварыць „тэорыю комплекснага мэтаду“ для вывучэньня пытаньняў эфэкту землеўпарадкаваньня [4]). Мы покуль

---

[1]) Труды высшего семинария С.-Х. Экономии и политики... вып. 7, 1922 г. „Проблемы землеустройства“, стар. 80.

[2]) „Методы количественного учета эффекта землеустройства“. М. 1925 г.

[3]) Гл. А. Н. Алеевский: „Опыт практического определения экономического эффекта землеустройства“. Тула 1927 г.;

проф. Г. Некрасов: „Основы землеустройства“ 2-е изд. 1926 г. стар. 165;

А. Я. Камінскі: „Да пытаньня чакаемага эфэкту землеўпарадкаваньня ва умовах Беларусі“ („Працы Горы-Гарэцкага Навуковага Т-ва“ т. V—1928);

П. П. Сплюхин: „Монографии по экономике землеустройства“, і інш.

[4]) „Записки Волинського землеустрійного технікуму імені т. Раковського в м. Житомірі“. Кніга 3, 1927 рік. стар. 109—114.

што адсоўваем разгляд думак О. Сьцепаненкі і раней пазнаёмімся з прынцыпамі, мэтадам і здабыткамі школы праф. Чаянава. Паспрабуем зрабіць гэта у максімальна сьціслай форме.

Тэорыя і мэтад школы праф. А. В. Чаянава

Для праф. А. В. Чаянава землеўпарадкаваньне выступае ў дваякім выглядзе: з аднаго боку, яно зьяўляецца зброяй сацыяльнай палітыкі і канкрэтызуецца, як „мерапрыемствы, якія накіраваны на разьмеркаваньне зямельн. плошчы дзяржавы паміж карыстальнікамі зямлі і на засnаваньне умоў і форм гэтага карыстаньня“; з другога боку, землеўпарадкаваньне — „утварэньне новай формы разьмяшчэньня і канфігурацыі зямельнай плошчы колькасна вызначанай і адданай ужо яе карыстальніку і выдзяляемай у натуры“. Пры чым задачай землеўпарадкаваньня пры другім яго разуменьні зьяўляецца „адшуканьне найбольш дасканалага ў агрыкультурна-тэхнічным сэнсе разьмяшчэньня ўжыткаў гаспадаркі вызначанай па свайму разьмеру плошчы і ў даных канкрэтных умовах“ [1]).

Для распрацоўкі праблемы эфэкту праф. Чаянаў бярэ разуменьне землеўпарадкаваньня толькі ў другім яго азначэньні і задаецца мэтай „колькасна вызначыць тую эканамічную карысьць, якую дае гаспадарцы больш дасканалая арганізацыя яе тэрыторыі“ [2]).

Такім чынам, выходная пазыцыя ўсей Чаянаўскай школы зусім выразная, а навуковыя вымаганьні і задачы зусім дакладна акрэсьлены і канкрэтызаваны, як адшуканьне мэтаду для вызначэньня „*прыватнагаспадарчага эфэкту* рацыянальнай арганізацыі тэрыторыі *асобнай* гаспадаркі“ (падкрэсьлена мной Я. К.) [3])

*Падлік эфэкту* землеўпарадкаваньня ў тым выпадку, *калі яно ўжо прайшло* і калі г-ка пры новых формах арганізацыі зямельнае тэрыторыі пражыла ўжо пэўны час для праф. Чаянава рэч „зусім нескладаная“ і лёгкая [4]). Для гэтага яму даволі праз „зьлічэньне галоўных кніг рахункаводзтва гаспадаркі да і пасьля землеўпарадкаваньня“ падлічыць велічыню прыросту зямельнае рэнты, а потым праз звычайную капіталізацыю гэтай апошняй атрымаць павялічэньне цаны зямлі.

Уся апэрацыя ў рэшце рэшт можа быць выканана па формуле: [5]).

$$у = x_2 - x_1 = \frac{B - A_2}{0{,}0p} - \frac{B - A_1}{0{,}0p} = \frac{A_1 - A_2}{0{,}0p} = \frac{\alpha}{0{,}0p}$$

у гэтай формуле: у — павялічэньне цаны зямлі; $x_2$ і $x_1$—вартасьць зямлі пасьля і да землеўпарадкаваньня; B — валавы прыбытак г-кі; $A_2$ і $A_1$ — выдаткі г-кі пасьля і да землеўпарадкаваньня; 0,0р — звычайны процант на капітал; $\alpha$ — павялічэньне рэнты гаспадаркі.

---

1) „Методы количественного учета эффекта землеустройства“, стар. 6.
2) ibidem стар. 5.
3) ibidem стар. 7.
4) ibidem стар. 11.
5) ibidem стар. 9.

Апрача гэтага, абсалютнага паказчыку (павялічэньня цаны зямлі) праф. Чаянаў прапануе яшчэ два адносных паказчыкі: 1) па мэтаду вылічэньня % на землеўпарадкаваўчы капітал $\left(x = \frac{\alpha}{K} \cdot 100\right)$ і 2) па мэтаду параўнаньня прыросту цаны зямлі з выдаткамі на землеўпарадкаваньне

$$y = \frac{\alpha}{K \cdot 0{,}0\rho}.$$

Аднак, квінт-эсэнцыя Чаянаўскай школы ня ў гэтым, апостарыёрным падліку эфэкту землеўпарадкаваньня. Школа імкнецца *„вызначыць магчымы эфэкт толькі яшчэ запраэктаванага для будучыны землеўпарадканьня"* [1]) Па думцы самаго праф. Чаянава, гэты эфэкт у выніку павінен быць дадзены, *як эфэкт эканамічны.* Але разам з тым вылічэньне апошняга цалкам ставіцца ў залежнасьць ад папярэдняга азначэньня тэхнічнага эфэкту (у натуральных адзінках), які зводзіцца да яшчэ больш простай задачы—вылічэньня сярэдняй адлегласьці, па якой „у працэсе эксплёатацыі гаспадаркі даводзіцца перасоўвацца сярэдняй адзінцы ўсей кладзі, якая перамяшчаецца ў гаспадарцы".

Праблема сярэдняй адлегласьці зьяўляецца асяродкавай ідэяй школы праф. Чаянава. І трэба згадзіцца з тым, што дзякуючы гэтаму ні адно пытаньне навукі аб землеўпарадкаваньні так дасканала не распрацавана, як пытаньне аб сярэдняй адлегласьці. Школа асобна вывучае: а) сярэднюю адлегласьць *палёў* ад сядзібы (*матэматычная адлегласьць*); б) сярэднюю адлегласьць *пуда грузу* ад сядзібы (*гаспадарчая* адлегласьць). Далей адрозьнівае гаспадарчую адлегласьць рэальную (S) і ідэальную ($S_0$), а апошнюю падзяляе на: 1) *матэматычную ідэальную* $\left(S_0 = \sqrt{\frac{\rho}{\pi}}\right)$ і 2) *практычную ідэальную* ($x_1 = S_0 f$), дзе f—каэфіцыент землеўпарадкаванасьці, якая прынята за ідэальную (напр. для квадрату: $f = 1{,}3$).

Мала гэтага, у вылічэньне эфэкту ўводзяцца яшчэ большыя удакладненьні: вызначаецца каэфіцыент уладжанасьці ўнутраных транспартных сувязей (K) і каэфіцыент якасьці дарог (l). Урэшце рэшт для азначэньня *чакаемага эфэкту* землеўпарадкаваньня даецца наступная формула: [2]).

$$\alpha = \frac{(S_1 \cdot K_1 \cdot l_{,0} - S_2 \cdot K_2 \cdot l_{,0}) \cdot M \cdot v,\ i}{0{,}0\rho};$$

у гэтай формуле, апрача вядомых ужо сымбаляў: M — агульная маса памяншэньня транспартнай працы (тэхнічны эфэкт); v — кошт пуда-вярсты

[1]) ibidem стар. 11.
[2]) ibidem стар. 32.

кладзэ; і — эмпірычны каэфіцыент неадпаведнасьці ўзятых лічбаў да запраўдных.

Мы схэматычна, але даволі поўна акрэсьлілі выходныя пазыцыі праф. Чаянава, канкрэтызавалі тую задачу, якую ён ставіць перад сабой у сувязі з праблемай эфэкту землеўпарадкаваньня і ўрэшце пазнаёмілі з сутнасьцю мэтаду, які ужываецца ім для разьвязаньня гэтай задачы.

Іншыя аўтары звычайна падзяляюць погляды праф. Чаянава і ня ўносяць нічога прынцыпова новага ў тэорыю і мэтодыку колькаснага падліку эфэкту землеўпарадкаваньня: яны даюць толькі або большую дэталізацыю і канкрэтызацыю пададзеным ідэям, або шукаюць больш лёгкага спосабу для практычнага падліку чакаемага эфэкту, або ўрэшце больш шырока і грунтоўна апрацоўваюць матэматычны бок праблемы. Вось чаму задача далейшага агляду належнай літаратуры спрашчаецца і нам фактычна застаецца затрымацца толькі яшчэ на поглядах О. Сьцепаненкі, паколькі апошні праблему аб эфэкту землеўпарадкаваньня імкнецца паставіць у іншую роўніцу параўнача з „Чаянаўскай школай“ (прынамсі так думае сам аўтар).

**Пытаньне аб эфэкту у О. Сьцепаненкі**

У крытычнай частцы свайго артыкулу О. Сьцепаненка даводзіць, што „Маскоўская школа“ сваёй тэорыяй колькаснага эфэкту землеўпарадкаваньня пакрыла толькі частку важнай і актуальнай праблемы аб эфэкту землеўпарадкаваньня. Далей О. Сьцепаненка адзначае найбольш важныя дэфэкты гэтай школы. Уласьне, ён высоўвае наступных 5 хібаў: 1) школай зусім сьвядома цалкам выкідаюцца пытаньні якаснага боку землеўпарадкаваньня; 2) пабудаваная школай тэорыя прыстасавана да асобных гаспадарак, а не да грамадзка-гаспадарчага іх аб'яднаньня (земграмада); 3) сам падлік колькаснага эфэкту ня можа быць цалком падменены „сярэдняй адлегласьцю“; 4) няправільным зьяўляецца вылічэньне прыросту кошту зямлі, які выводзіцца ад эфэкту, падлічанаму па сярэдняй адлегласьці і ўрэшце—5) тэорыя колькаснага эфэкту не абаперта на тэорыю эканамічнага угрунтаваньня самога землеўпарадкаван. Урэшце рэшт О. Сьцепаненка лічыць, што, калі здаволіцца цалком тэй пастаноўкай, якую дала Чаянаўская школа, то гэтым самым згадзіцца „працягваць землеўпарадкаваньне і на далей па сутнасьці ў сьляпую“[1]). Пададзены пералік заган і заключны сказ ня трэба разумець у тым сэнсе, што О. Сьцепаненка цалком адкідае здабыткі школы праф. Чаянава. Не, ён толькі за тое, каб „будаваць новую і пэўную тэорыю вылічэньня эфэкту землеўпарадкаваньня (дзе-б знайшлі сваё адпаведнае месца і дасягненьні маскоўскай школы)“.

У пазытыўнай частцы свайго артыкулу О. Сьцепаненка сьцьвярджае, што „за падставу новай тэорыі і пры тым поўнай тэорыі вылі-

[1]) ibidem, стар. 100—111.

чэньня эфэкту землеўпарадкаваньня можна і трэба ўзяць толькі *тэорыю эканамічнага угрунтаваньня землеўпарадкаваньня* (да яго правядзеньня) *бо тэорыя вылічэньня эфэкту* зьяўляецца па сутнасьці праверкай папярэдняга эканамічнага абгрунтаваньня землеўпарадкаваньня, ацэнкай яго вынікаў у практыцы“[1]) (падкрэсьлена мной Я.К.).

Далей, выходзячы з паданай установкі аб падставах новай тэорыі, О. Сьцепаненка лічыць, што найлепшым мэтадам для разьвязаньня праблем гэтае тэорыі зьяўляецца „комплексны мэтад“, ад якога патрабуецца каб ён: 1) забясьпечыў паўнату аналізу; 2) разглядаў эфэкт у працэсе дыялектычнага разьвіцьця; 3) праводзіў аналіз „у сувязі з усімі фактарамі і умовамі, якія уплываюць на разьвіцьцё эфэкту пры наяўнасьці зьмены саміх фактараў і умоў эфэкту“ і 4) праводзіў аналіз у прыстасаваньні да канкрэтных умоў з падлікам, як колькаснага гэтак і якаснага боку эфэкту. Дэталяў комплекснага мэтаду у прыстасаваньні да разьвязаньня задач вылічэньня эфэкту землеўпарадкаваньня—О. Сьцепаненка не дае, але абяцае гэта зрабіць у далейшым.

**Крытыка пагляду праф. А. В. Чаянава і О. Сьцепаненкі**

Мы наўмысьля далі параўнаўча поўны агляд аснаўных палажэньняў О. Сьцепаненкі з тым, каб паказаць, што паміж яго поглядамі (на першае вока зусім іншымі) і тэорыяй Чаянаўскай школы вялікай прынцыповай розьніцы няма. Тое, што для праф. Чаянава зьяўляецца „эфэкт апостарыёры“, для О. Сьцепаненкі гэта проста эфэкт землеўпарадкаваньня, а тое, што ў праф. Чаянава названа „эфэкт апрыёры“—для О. Сьцепаненкі—„эканамічнае угрунтаваньне землеўпарадкаваньня (да яго правядзеньня)“.

Аснаўной ідэяй сваёй тэорыі і мэтодыкі праф. Чаянаў бярэ „эфэкт апрыёры“, а О. Сьцепаненька за падставу для „новай“ і поўнай тэорыі вылічэньня эфэкту землеўпарадкаваньня прапануе узяць „толькі тэорыю эканамічнага угрунтаваньня землеўпарадкаван. (да яго правядзеньня)“. Такім чынам, як першы, гэтак і другі фактычна імкнуцца да аднаго і таго-жа: *пабудаваньня тэорыі і апрацоўкі мэтадалёгіі* (да практычных прыёмаў уключна) *у сувязі з эканамічным угрунтаваньнем тых праэктаў, якія складаюцца пры правядзеньні землеўпарадкаваньня.*

Розьніца толькі тая, што праф. Чаянаўдля зьдзейнічаньня гэтай мэты бярэ асобную гаспадарку і для яе „усю размаітасьць вылічэньняў і заданьняў землеўпарадкаваньня“ зводзіць да ідэі „сярэдняй адлегласьці“, праз апошнюю ідзе да вылічэньня натуральна-тэхнічнага эфэкту, які потым шляхам простага ужываньня катэгорыяў эканомікі (цэны, рэнта) урэшце выдае за эканамічны.

О. Сьцепаненка прапануе: узяць за аб‘ект „земграмаду“, ня зводзіць падліку эфэкту да колькасных толькі зьяў, тым больш да вылічэньня

[1]) ibidem стар. III.

аднэй „сярэдняй адлегласьці“, праводзіць аналіз з вучотам усіх фактараў і умоў, улічваючы іх зьменнасьць і г. д. Адным словам, для рэалізацыі тэй-жа ідэі (эфэкт апрыёры) О. Сьцепаненка высоўвае толькі новы аб‘ект (земграмаду), імкнецца яго ускладніць і канкрэтызаваць і як вынік зусім лёгічна прапануе „комплексны мэтад“ пры вывучэньні гэтага аб‘екту.

Мы згаджаемся з тым, што школе праф. Чаянава мажліва і трэба выйсьці на больш шырокую дарогу, больш зьвязацца з вымаганьнямі жыцьця; згаджаемся таксама з тым, што угрунтаваньне землеўпарадкаваўчага праэкту ня можна абмяжоўваць толькі тэхніка-арганізацыйнымі меркаваньнямі (хаця б іх называлі—„эканамічнымі“). Згаджаемся і з тым, што ня можна гэта угрунтаваньне зводзіць толькі да ідэі скарачэньня ўнутры гаспадарчага транспарту і паляпшэньня сеткі і якасьці дарог.

Але разам з тым мы мусім зазначыць, што на шляху да больш поўнага *гаспадарчага* угрунтаваньня праэкту—сустрэнуцца вялізныя цяжкасьці, калі толькі не адмовіцца ад апрыёрнага падходу пры разьвязаньні гэтай задачы. Мала таго, нам здаецца, што ўсё тое, чаго па думцы О. Сьцепаненкі, не хапае Чаянаўскай школе,—ня можа і не павінна вырашацца апрыёры, а тым больш на падставе толькі даных аб тым або іншым канкрэтным аб‘екту (у тым ліку і „земграмады“), які ўзяты ў даны момант для землеўпарадкаваньня.

*Для належнага, поўнага гаспадарча-арганізацыйнага і сацыяльна-эканамічнага угрунтаваньня запраэктаванага землеўпарадкаваньня неабходна ў першую чаргу даведацца аб запраўдным эфэкту гэтага-ж землеўпарадкаваньня, якое праведзена было ў даным раёне раней.* Арганізаваны з такой мэтай досьлед зьявіцца заключным зьвяном для землеўпарадкаваньня, якое адбылося раней і пачатковым зьвяном для той новай, канкрэтнай землеўпарадкаваўчай справы, якая ў даны момант падрыхотўваецца. Іначай кажучы, вынікі гэткага досьледу зьявяцца апастарыёрным, масава-паверанымі запраўдным угрунтаваньнем праэкту пры землеўпарадкаваньні асобных канкрэтных аб‘ектаў.

Зразумела, гэта зусім не выключае карыснасьці апрыёрных меркаваньняў аб эфэкту, які вылічаецца ў прыстасаваньні да данага аб‘екту ў часе складаньня праэкту. Але толькі трэба ведаць цану гэтым апрыёрным меркаваньням і ня імкнуцца імі падмяніць надзвычайна багаты жыцьцёвы вопыт мас гаспадарак. „Калі мы пажадаем гвалтоўна адарвацца ад гэтага вопыту, дактрынёрскі прымушаючы сельскую гаспадарку пабудовамі, апіраючыся на палову зразумелыя ісьціны, то мы даволі часта забываем праўду наступных вершаў Горацыя: „Гані прыроду ў дзьверы яна зьвернецца ў вакно“[1]).

Такім чынам, голыя *патрэбы самой землеўпарадкаваўчай практыкі*, калі толькі яна жадае быць запраўды навукова угрунтаванай—

[1]] др. Крицмовский, Р. ibidem стар. 75.

вымагаюць вучоту эмпірыка-практычнага вопыту, які (вучот) адзіны можа даць уяўленьне аб эфэкту правадзімых мерапрыемстваў.

**Вучэньне аб эфэкту і сац.-эканам. задачы**

Аднак, землеўпарадкаваньне праводзіцца не для сябе самаго, а складае частку тэй вялікай працы, якая завецца—перабудова сельскай г-кі ў адпаведнасьці з наяўным народна-гаспадарчым ідэалам. Тым самым выніки (па чужаземнаму—эфэкт) землеўпарадкаваньня набываюць шырокае сацыяльна-эканамічнае значэньне.

Трэба пашкадаваць аб тым, што праф. Чаянаў у мэтах звужэньня сваёй задачы пайшоў на адрыў агрыкультурна-тэхнічных задач землеўпарадкаваньня ад задач сацыяльных, праз што фактычна пазбавіў сябе права разглядаць апрацаваную ім тэорыю і мэтодыку, як прызначаньня для вывучэньня *эканамічнага* эфэкту[1]). *Землеўпарадкаваньне, застаючыся само па сабе актам юрыдычна-тэхнічным, зьяўляецца разам з тым зьявішчам сацыяльна і эканамічна абумоўленым па ўсіх яго лініях.* З гэтага пункту гледжаньня сацыяльна-эканамічная „нейтральнасьць“ у формах і спосабах разьвязаньня агрыкультурна-тэхнічных задач землеўпарадкаваньня—зьяўляецца выабражальнай і павінна быць адкінута.

Для далейшага сацыяльнага і эканамічнага разьвіцьця будзе далёка не аднолькавым: разьвязаньне агро-тэхнічных задач праз утварэньне пасёлкаў, або праз разьбіўку на хутары. Аднэй агрыкультурна-тэхнічнай рэнтабельнасьці, пры тым вызначанай па прынцыпу прыватна-гаспадарчага яе разуменьня (прырост рэнты і вартасьці зямлі, % на землеўпарадкаваўчы капітал і г. д.)—яшчэ вельмі мала для залічэньня данай формы ў лік эканамічна выгадных. *Эканамічна выгадным можа быць толькі тое землеўпарадкаваньне (і тыя формы землекарыстаньня), якое разам з разьвязаньнем агрыкультурна-тэхнічных задач у сувязі з рацыянальнай арганізацыяй зямельнай тэрыторыі—уводзіць гэту арганізацыю ў пэўныя, прыстасаваныя да данага тыпу народнае гаспадаркі, сацыяльна-эканамічныя формы.* Выходзячы з гэтага, праблему аб эфэкту данага замлеўпарадкаваньня трэба ставіць так: а) якая форма сялянскага землекарыстаньня сацыяльна і эканамічна адказвае агульнай задачы—рэканструкцыі сельскай гаспадаркі; б) як пашыраецца гэта форма ў параўнаньні з яе антаганістамі—другімі формамі і в) ці забясьпечвае даная форма умовы для гаспадарчага разьвіцьця сялянскіх гаспадарак і ў якой меры гэта разьвіцьцё запраўды адбываецца.

На першыя два запытаньні мы далі адказ у першых двух разьдзелах гэтае працы. Там, на падставе голых статыстычных лічбаў, мы атрымалі першае уяўленьне ад эфэкту праводзімага цяпер савецкага зем-

[1]] Праф. Чаянаў і яго школа фактычна далі тэхніка-арганізацыйны крытэры для складаньня землеўпарадкав. праэктаў па асобных гаспадарках.

леўпарадкаваньня. Мы бачылі, што прагрэсыўныя для нашых умоў—пасёлкі прабілі ўжо сабе шырокую дарогу ў жыцьці (у БССР да 30% усей землеўпарадкаванай плошчы). А калі прыняць пад увагу тое, што гэта месца пасёлкам прыходзілася здабываць у барацьбе з хутарамі, якія пасеяны былі умелай і шчодрай рукой у ранейшыя часы (Сталыпінскія), то надворны, масавы эфэкт нашага савецкага землеўпарадкаваньня трэба лічыць выразным і бяспрэчным.

Вось чаму ў даным разьдзеле праца нам, уласна кажучы, патрэбна адказаць толькі на 3-е з вышэй пастаўленых запытаньняў. Мы павінны паказаць, што пераход на пасёлкі зьяўляецца справай гаспадарча-выгаднай і забясьпечвае для сялянскіх гаспадарак належны тэмп разьвіцьця іх вытворчых сіл. Станоўчы адказ будзе апошнім і неабходным доказам на карысьць эфэкту сучаснага землеўпарадкаваньня.

Свайму аналізу мы нададзім гэткую пасьлядоўнасьць: спачатку даведаемся аб тых тэхніка-арганізацыйных дасягненьнях, якія нясе з сабой землеўпарадкаваньне, потым праглядзім, як гэтыя дасягненьні выяўляюцца ў сфэры гаспадарча-арганізацыйнай і урэшце застановімся на самім эфэкту землеўпарадкаваньня, як зьяве сацыяльна-эканамічнай. Для ўсіх этапаў аналізу аснаўнымі матар'яламі будуць даныя нашага досьледу, якія зьмешчаны ў пададзеных далей табліцах.

## б) тэхніка-арганізацыйныя падставы эфэкту.

**Паказчыкі землеўпарадкаванасьці**

З пункту гледжаньня інжынэрнага, задачу землеўпарадкаваньня можна фармуліраваць, як дасягненьне найвышэйшай землеўпарадкаванасьці данай зямельнай адзінкі (землекарыстаньня). Крытэрыямі землеўпарадкаванасьці звычайна бяруць гэткія тры каэфіцыенты: каэф. гаспадарчай абкругленасьці зямель, каэф. геамэтрычнай абкругленасьці і каэф. шматкутнасьці.[1]) Адначасовае зьніжэньне гэтых каэфіцыентаў (асабліва першага) і зьяўляецца паказчыкам ступені паляпшэньня землеўпарадкаванасьці.

Для выпадку, калі арганізоўваецца зямельная тэрыторыя аднэй г-кі (саўгас, калгас, хутар і інш.), гэтых каэфіцыентаў зусім даволі для адказу на пастаўленае пытаньне. Крыху інакш выглядае справа, калі яна датычыцца сялянскага, групавога землекарыстаньня (вёскі, пасёлкі і г. д.). Для гэтага, апошняга выпадку пададзеныя тры каэфіцыенты зьяўляюцца, як кажуць, неабходнымі, але разам з тым і не здавальняючымі.

Таму побач з імі мы прапануем для групавога землекарыстаньня ужыць дадаткова яшчэ гэткія адзнакі: зьмяншэньне колькасьці палосак і

[1]) Праф. Ф. Г. Некрасов: „Основы землеустройства“ 1926 г. стар. 169.

павялічэньне іх разьмеру („камасацыя“), паляпшэньня ў іх суадносін паміж шырынёй і даўжынёй (геамэтрычная „абкругленасьць“).

Самі адзнакі не зьяўляюцца новымі, але чамусьці не ужываюцца да гэтага часу пры разглядзе тэхнічных дасягненьняў землеўпарадкаваньня. Нам думаецца, што ў наш час і ў нашых умовах, калі ад землеўпарадкаваньня вымагаецца ня толькі адвод зямлі ўсяму паселішчу, а і разьбіўка гэтай зямлі на севазваротныя палі і палоскі,—зьяўляецца надзвычайна важнай ацэнка выкананых праэктаў і з пункту гледжаньня высунутых намі адзнак.

**Каэфіцыент шматкутнасьці і канфігурацыі**

Пасьля гэтых уступных заўваг мы паспрабуем даць належныя адказы спачатку ў прыстасаваньні да зямель усяго пасёлку, а затым да зямель асобнага двара.

*Каэфіцыент шматкутнасьці* зьяўляецца найменш важным сярод іншых і атрымліваецца вельмі проста—шляхам дзяленьня фактычнай колькасьці паваротаў мяжы на колькасьць яе паваротаў у квадрату (4). Нашы даныя па 51 пасёлку паказалі, што гэты каэфіцыент, складаючы ў сярэднім 2,4, хістаецца даволі значна: ад 1,0 да 7,0. Для вызначэньня законаўпарадкаванасьці ў гэтым хістаньні мы разьбілі ўсе пасёлкі на 6 груп (па велічыні іх зямельнай тэрыторыі) і для кожнай вылічылі каэфіцыент шматкутнасьці асобна. Вынікі відаць з наступнай дыяграмы: (мал. № 7).

*Мал. 7.* Велічыня каэф. шматкутнасьці пры розных разьмерах пасёлкаў




Атрымалася для нас неспадзяванае зьявішча: найменшы каэфіцыент не для самых малых пасёлкаў, а для сярэдніх (100—150 г.). Ад вывадаў покуль-што лепш устрымацца. Цікава толькі адзначыць, што каэф. шматкутнасьці вёсак, з якіх утвораны нашы пасёлкі складае 9,7.

*Каэфіцыент канфігурацыі* (геамэтрычнай абкругленасьці) як вядома атрымліваецца праз дзяленьне фактычнай даўжыні акружнай мяжы данага вучастку на пэрымэтр аднолькавага па велічыні тэрыторыі круга або квадрату. Паколькі квадрат зьяўляецца ня толькі проста ідэальнай, але і ідэальна-рэальнай фігурай пры гаспадарчай эксплёатацыі тэрыторыі, пастолькі мы вылічалі каэфіцыенты ў адносіньні да яго пэрымэру.

Тыя-ж матар'ялы для тых-жа пасёлкаў далі каэфіцыент канфігурацыі ў сярэдзім (узважаным плошчай) = 1,21 пры хістаньнях ад 1,00 да

1,82. Зноў-жа, каб прасачыць тэндэнцыю ў зьмене і гэтага каэфіцыенту, мы для кожнай з вылучаных груп пасёлкаў падлічылі яго асобна і на падставе атрыманых даных нарысавалі гэткую дыяграму: (мал. № 8).

*Мал. 8.* Каэф. канфігурацыі пры розных разьмерах пасёлкаў




Тут мы бачым стройнасьць руху крывОй, якая сьведчыць аб тым, што павялічэньне разьмеру пасёлкаў да 100 гэкт. не выклікае адпаведнага росту каэфіцыенту канфігурацыі; гэта тэндэнцыя пачынаецца пасьля 100 гэкт.

Параўнаньне сярэдняга ўзважанага каэфіцыенту пасёлкаў з гэткім жа узважаным тых вёсак, з якіх утварыліся пасёлкі, дае: пасёлкі — 1,21, вёскі — 1,59. Маем значныя дасягненьні ў наданьні землекарыстаньню больш правільных геомэтрычных форм.

**Каэфіцыент гаспадарчай абкругленасьці**

*Каэфіцыент гаспадарчай абкругленасьці* зьяўляецца найбольш важнай адзнакай для характарыстыкі землеўпарадкаванасьці. У літаратуры гэты каэфіцыент разумеецца і вылічаецца па рознаму. Мы ўзялі яго, як стасунак паміж фактычнай матэматычнай і ідэальнай матэматычнай сярэдняй адлегласьцю палёў ад гаспадарчага асяродку

$$V = \frac{S}{S_0}.$$

Пры чым фактычныя адлегласьці вылічаны спосабам, які запрапанаваны К. Н. Сазонавым. Як вядома, сутнасьць гэтага спосабу зводзіцца да разьбіўкі шматкутніка на прастакутныя трохкутнікі і вылічэньне для кожнага з іх сярэдняй адлегласьці (S) і плошчы (P). Здабытак адлегласьці на плошчу дае працу для трохкутніка (W = PS), а сумаваньне працы па ўсіх трохкутніках дае агульную суму працы ($\Sigma$W). Праз дзяленьне гэтай сумы на ўсю плошчу ($\Sigma$P) урэшце атрымліваем фактычную сярэднюю адлегласьць палёў

$$S = \frac{\Sigma W}{\Sigma P}\ ^{1)}.$$

Ідэальная сярэдняя адлегласьць атрымліваецца звычайным спосабам: $S_0 = 0.383\sqrt{P}$. Дзяленьне першай адлегласьці на другую і дае каэфіцы-

[1]) К. Н. Сазонов: „Среднее расстояние земельной площади от хозяйственного центра", стар. 53—79.

ент гаспадарчай землеўпарадкаванасьці. Трэба толькі дадаць, што плошчы трохкутнікаў намі браліся графічна па здымках з плянаў з дакладнасьцю прыблізна 0,005—гэта адно, і другое — нашы каэфіцыенты атрыманы ня прымаючы пад увагу дарожнай сеткі.

На апошняе мы пашлі таму, што гэта значна палегчала і без таго марудную працу вылічэньня сярэдніх адлегласьцяй, а разам з тым для мэт нашага, эканамічнага дасьледваньня і прынятая дакладнасьць была здавальняючай. Такім спосабам былі вылічаны для 51 пасёлку і 3-х вёсак сярэднія фактычныя адлегласьці палёў, а таксама і каэфіц. гаспад. абкругленасьці зямель [1]).

Затрымаемся покуль-што толькі на апошнім. Дасягненьні праведзенага землеўпарадкаваньня ў адносінах да зьмяншэньня гэтага каэфіцыенту трэба, фармальна разважаючы, лічыць вельмі дрэннымі: замест каэф. у 1,22, які быў у ранейшай вёсцы, дасьледаваныя пасёлкі даюць сярэдні ўзважаны каэф. у 1,42.

Першая думка, якая набягае разам з канстатаваньнем гэтага факту імкнецца яго растлумачыць у тым сэнсе, што большыя паселішчы (і пасёлкі) гарантуюць у большай меры наяўнасьць у сярэдзіне вучастку належных умоў для сядзібы (вадазабясьпека, добрыя глебы, рэльеф і г.д.) А ў выпадку немажлівасьці размясьціць сядзібы дакладна ў самым цэнтры вучастку, для буйнейшых пасёлкаў адсоўваньне сядзіб у бок асяродку менш адбіваецца на павялічэньні каэфіц. абкругленасьці.

*Мал. 9.* Каэф. гасп. абкругленасьці пры розных разьмерах пасёлкаў




З абстрактна тэарэтычнага пункту гледжаньня паданыя тлумачэньні зьяўляюцца, як быццам, зусім бясспрэчнымі і больш менш здавальняючымі. Шкада толькі, што на нашых пасёлках мы гэтага не заўважылі, а спаткалі, як раз адваротнае. Для тых груп пасёлкаў, якія мы раней вылучылі па разьмеру, мы падлічылі сярэднія узважаныя (плошчай) каэфіцыенты гаспадарчай абкругленасьці і атрымалі наступныя вынікі.

Хоць рух крывой і зьяўляецца крыху хвалістым (уздым пры 100 — 150 г.), але падвышэньне каэфіцыенту пры павялічэньні разьмеру

[1]) Карыстаюся выпадкам падзякаваць асыстэнта Катэдры Геадэзіі Х. В. Трудалюбава за клопаты па вылічэньню гэтых каэфіцыентаў.

пасёлку ўсё-ж выступае даволі рэльефна. Мы працягнулі сваю цікавасьць далей і скарыстаўшы адпаведны разьдзел манаграфіі („сядзібная плошча“),—устанавілі, што толькі 30% пасёлкаў маюць сядзібы прыблізна ў цэнтры зямельнага вучастку, а ў рэшце 70% — сядзібы ў той, або іншай меры адсунуты да краю.

Тады, ў сувязі з гэтым было пастаўлена далейшае пытаньне: якімі матывамі кіраваліся пасялкоўцы пры абраньні месца сядзіб. Тут мы атрымалі тое, што і чакалі: 30% адказаў высоўвае — блізкасьць лесу і іншых выпасаў; 20%—блізкасьць вады; 20%—якасьць глебаў і толькі 12%—блізасьць поля (ральлі).

Пры нашым тыпу сельскай гаспадаркі, з значна пашыранай жывёлагадоўляй і з збожжавым характарам ральніцтва—пытаньне сенажацяў і выпасаў зьяўляецца надзвычайна важным. Таму на простае запытаньне—недахоп якіх ужыткаў больш усяго адчуваецца—мы, як правіла, атрымлівалі адказ: „выпасаў і сенажацяў“. Адсюль і набліжэньне сядзібы да сенажацяў (якія апрача 2 — 3 месяцаў зьяўляюцца таксама выпасам) і выпасаў (асабліва „дзяржаўнага ляску“)—адыгрывае тую першую ролю, якую мы вышэй заўважылі.

Значэньне вадазабясьпекі для сялянскіх гаспадарак высьветлена ў працы асыст. М. Е. Кавалёва, які даводзіць, што спажываньне сялянскімі гаспадаркамі вады ў Горацкім раёне складае, пры адлегласьці двара ад калодзежу 0.53 мэтр., толькі 45,2% ад патрэбнай нормы, прынятай у літаратуры. У выпадку-ж калі адлегласьць складае 1,1—1,6 кілём. гэта норма падае да неймавернасьці — 26% (?!) [1]). Мы ня будзем спыняцца на іншых, ня менш важных і цікавых вывадах М. Е. Кавалёва, а зьвернем яшчэ толькі ўвагу на тое, што павялічэньне адлегласьці ад вадаёму звыш 1 кілём. выклікае зьніжэньне ў спажываньні вады на 35% у параўнаньні з тым выпадкам, калі вада знаходзіцца не далей 50 мэтраў. Можна было-б прадэманстраваць значэньне і іншых умоў, якія ўплываюць на абраньне месца сядзібы. Але гэта не зьяўляецца непасрэднай задачай данай працы.

У выніку мы павінны толькі канстатаваць, што ў прыстасаваньні да пасёлкаў, сярэдняя адлегласьць зямлі ў якіх складае ўсяго 0,7 кілём., разьмяшчэньне сядзібы ў цэнтры вучастку запраўды не адыгрывае той ролі, якую можна было надаць выходзячы з абстрактна-рацыяналістычных меркаваньняў аб важнасьці наогул адсоўваньня ужыткаў ад гаспадарчага цэнтру. Тыя выгады, якія атрымлівае г-ка ад зьмяшчэньня сядзібы каля краю, як відаць, цалкам пакрываюць страты, ад павялічэньня на некалькі дзясяткаў мэтраў сярэдняй адлегласьці. Гэтым мы не ад-

[1]) М. Е. Кавалёў: „Прыродна-гістарычныя і эканамічныя прадпасылкі забясьпячэньня вадой сялянскіх гаспадарак Горацкага раёну (Праца Навуковага Таварыства“, т. IV, стар. 172—197).

маўляем значэньне распалажэньня сядзібы ў цэнтры, а толькі зьвяртаем яшчэ раз увагу на надуманасьць у некаторых выпадках нашых тэарэтычных пабудоў і на неабходнасьць больш канкрэтнага падыходу да гэтай праблемы. Пасьля зробленых заўваг ня будзе зьяўляцца дзіўным падвышэньне ў землеўпарадкаваных пасёлках каэфіцыенту гаспадарчай абкругленасьці зямель, якое было заўважана і адзначана нашым досьледам.

Далей дазволім сабе ахарактарызаваць тэхніка-арганізацыйныя дасягненьні землеўпарадкаваньня з пункту гледжаньня арганізацыі зямельнай тэрыторыі асобнага двара. Матар'яламі для гэтага зьвяцца ня даныя інструмэнтальнага абмеру палосак некалькіх двароў, а масавыя даныя, якія сабраны шляхам апросу ўсіх дасьледваных двароў. Ступень дакладнасьці гэтых матар'ялаў будзе відаць з далейшага.

**Зьмяншэньне шматпалосіцы.**

*Колькасьць палосак на двор* зьмянілася не аднолькава для розных ужыткаў, чаму лепш усяго характарыстыку весьці па кожнаму з іх асобна. Дзякуючы таму, што частка двароў засталася пасьля землеўпарадкаваньня на месцы і для іх *колькасьць сядзібных палосак* ня толькі не паменшылася, а нават павялічылася (у некаторых выпадках ад 1 да 4), — сярэдняя колькасьць сядзібных палосак для ўсіх дасьледваных пасёлкаў засталася тэй-жа самай: для Калініншчыны — 2, а для Бабруйшчыны — 1 на гаспадарку [1]). Больш важнымі зьяўляюцца даныя аб *палосках ральлі*. Тут мы бачым, што колькасьць іх паменшылася вельмі значна, гэтак на 1 г-ку кожнай сацыяльнай групы прыходзілася палосак:

| | У Калініншчыне | | | | У Бабруйшч. (надз.) | | | | Бабруйшч. (фонд.) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | Сяр. | I | II | III | Сяр. | I | II | III | Сяр. |
| Да землеўпар. . . | 29 | 35 | 38 | 34 | 30 | 35 | 39 | 35 | 8 | 26 | 12 | 15 |
| Пасьля землеўпар. | 10 | 11 | 11 | 11 | 14 | 14 | 15 | 14 | 8 | 9 | 8 | 8 |

Апрача зьмяншэньня наогул колькасьці палосак ў 2 — 3 разы таблічка сьведчыць і аб тым, што выгады гэтага зьмяншэньня павялічваюцца пры павялічэньні землекарыстаньня двара. Праўда, гэты факт трэба прымаць асьцярожна, таму што ў час землеўпарадкаваньня была зьменена землезабясьпека двароў розных сацыяльных груп вёскі: беднякоў (I)—у бок павялічэньня, заможных (III)—зьніжэньня.

[1]) У Бабруйшчыне вельмі мала двароў засталося на месцы і шмат двароў зусім ня мелі да землеўпарадкаваньня сядзібных пляцоў.

Цікава даведацца аб тым: ці знаходзіцца зьмяншэньне шматпалосіцы ў якой—небудзь сувязі з разьмерам тэрыторыі пасёлкаў. Для адказу мы ўзялі даныя толькі для аднэй сацыяльнай групы (II) і толькі па пасёлках на надзельных землях. Зрабіўшы адпаведныя разьлікі па вядомых ужо нам групах пасёлкаў, атрымліваем гэткую крывую (папраўленую).

*Мал. 10.* Колькасьць палосак зьменшылася ў разоў




Як бачым найбольшае зьмяншэньне ліку палосак прыпадае на пасёлкі ў 75—100 гэктараў.

Шматпалоснасьць і дробнапалоснасьць *сенажатнай плошчы* нагул зьяўляецца меншай бядой у сялянскім землекарыстаньні, таму што выдаткі на эксплёатацыю сенажацяй у нашых сучасных умовах зьвязаны толькі з расходамі на прыборку ўраджаю (непасрэдная апропрыяцыя сіл прыроды). Наяўнасьць гэтай акалічнасьці, разам з размаітасьцю саміх сенажатных плошчаў, зусім натуральна прыводзяць да шматпалосіцы. Аднак, мы мусім і тут адзначыць значныя дасягненьні ад землеўпарадкаваньня. На 1 гаспадарку прыходзілася палосак сенажацяй:

| | У Калінінщчыне | | | | У Бабруйшч. (надз.) | | | | У Бабруйшч. (фонд.) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | Сяр. | I | II | III | Сяр. | I | II | III | Сяр. |
| Да землеўпар. . . | 22 | 23 | 23 | 23 | 26 | 33 | 38 | 32 | 7 | 15 | 6 | 9 |
| Пасьля землеўпар. | 16 | 15 | 15 | 15 | 10 | 10 | 10 | 10 | 10 | 8 | 5 | 8 |

**Павялічэньне разьмеру палосак і паляпшэньне іх фігуры**

Побач з памяншэньнем шматпалосіцы ішло павялічэньне разьмераў саміх палосак і паляпшэньне ў іх суадносін шырыні і даўжыні (абкругленасьць). Пры чым, дзякуючы пашырэньню сядзібнага вучастку, выгады камасацыі палосак адбіліся ў першую чаргу на разьмерах *сядзібных палосак,* якія ад сярэдняй велічыні ў 0,15 гэкт. падняліся да 0,50 гэктр. (Калінінщчына), ад 0,20 г. да 0,80 гэктр. (Бабруйшчына, надз.) і нават ад 0,20 г. да 1,60 г. (Бабр., фонд – III).

Амаль што тыя-ж самыя дасягненьні дае і камасацыя *палосак*

*ральлі*, зьвесткі аб зьмене якіх мы дазволім сабе падаць у больш разгорнутым выглядзе.

Сярэдняя плошча палосак ральлі (гэкт.).

| | Калінінщчына | | | | Бабруйшч. (надз.) | | | | Бабруйшч. (фонд) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | Сяр. | I | II | III | Сяр. | I | II | III | Сяр. |
| да землеўп. | 0,10 | 0,16 | 0,22 | 0,15 | 0,06 | 0,13 | 0,20 | 0,12 | 0,05 | 0,07 | 0,18 | 0,07 |
| пасьля „ | 0,38 | 0,54 | 0,70 | 0,51 | 0,26 | 0,35 | 0,40 | 0,33 | 0,36 | 0,49 | 0,73 | 0,44 |

Калі ня лічыць пасёлкаў на фондавых землях, то плошча палосак ральлі павялічылася прыблізна ў 3 разы і складае пасьля землеўпарадкаваньня ня менш 0,25 гэктр. Гэткі разьмер палоскі можа, паводле звычайна ўжываемых норм выпрацоўкі, заняць работніка цэлы дзень амаль што пры ўсіх відах палявой працы, а тым самым не вымагае пераездаў у час працы з палоскі на палоску.

Далей трэба адзначыць, што разам з камасацыяй адбывалася паляпшэньне фігуры палосак. Мы дадзім належныя зьвесткі толькі ў адносінах палосак ральлі, таму што яна зьяўляецца аснаўным ужыткам і таму, што на ёй больш яскрава можна пабачыць дасягненьні землеўпарадкаваньня. Вынікі перабольшваюць самыя аптымістычныя чаканьні; гэтак для Калінінщчыны суадносіны шырыні і даўжыні былі—1 : 220, а сталі—1:11; для Бабруйшчыны (надз.) былі—1:155, сталі—1:17 і г. д.

На падставе гэтага мы маглі-б сказаць, што для нашых умоў найбольшай бядой мусіць зьяўляцца ня так шматпалоснасьць і дробнапалоснасьць, як вузкапалоснасьць. Апошняя, пры неабходнасьці дакладнай апрацоўкі глебы,—зьяўляецца вялікай перашкодай на шляхох паляпшэньня тэхнікі ральніцтва (у вузкім сенсе слова). Пры чым гэта бяда (як і дробназямельле) у найбольшай меры датычыцца бядняцкіх гаспадарак, для якіх стасунак шырыні і даужыні = 1: 363 у тэй час як для заможных = 1: 160 (у вёсцы да землеўпарадкаваньня); або ў абсалютных лічбах: сярэдняя шырыня палоскі беднякоў Калінінщчыны былі 1,7 мэтр. пры 600 мэтр. яе даўжыні. Пры шырыні палоскі роўнай росту чалавека хіба можна казаць аб рацыянальнай яе апрацоўцы!

**Памяншэньне адлегласьцяй да палёў і палосак**

Каб скончыць пытаньне аб тэхніка-арганізацыйнах падставах эфэкту землеўпарадкаваньня неабходна яшчэ спыніцца на памяншэньні адлегласьцяй палёў і палосак. Тут маюцца таксама значныя дасягненьні. Гэтак, сярэдняя адлегласьць палёў у вёсках да землеўпарадкаваньня складала 1626 мэтраў, а для ўтвораных з гэтых вёсак пасёлкаў толькі 708 м.,

што дае ад ранейшай 44%. Калі зацікавіцца тым, як зьмяняецца гэта. адлегласьць пры павялічаньні разьмераў пасёлкаў, то гэта можна пабачыць на наступнай дыяграме (мал. № 11)

*Мал. 11.* Сярэдняя адлегласьць палёў у сувязі з розным разьмерам пасёлкаў




Ход крывой неаднальковы і на ёй можна заўважыць пункт перагіну (150—200 г.), пасьля якога тэмп узрастаньня крывой пасіліваецца (Калі-б ён застаўся тым жа самым, то канец крывой трапіў-бы прыблізна ў пункт „X“.)

У поўнай адпаведнасьці з гэтымі данымі, якія атрыманы з плянаў, знаходзяцца і даныя масавага, падворнага апытаньня. Аднолькавасьць тых і другіх настолькі блізкая, што мы ня можам яшчэ раз не падкрэсьліць высокую (параўнаўча) якасьць матар‘ялаў падворак, якія так дакладна выявілі нават далікатнае пытаньне аб адлегласьці. Запраўды, сярэдняя адлегласьць палёў у старых вёсках: па матар‘ялах плянаў і формуле = 1626 мэтр., а па падворках = 1600 м. тая-ж узважаная адлегласьць для пасёлкаў адпаведна: 708 мэтр. і 660 мэтр.

Адлегласьці палосак асобных сацыяльных груп розьняцца вельмі мала і бяз сталай тэндэнцыі ў зьмене, чаму на гэтым баку справы можна і не затрымлівацца. Але неабходна зьвярнуць увагу і падкрэсьліць іншых два моманты: 1) Пададзенае зьмяншэньне адлегласьцяй датычыцца пераважна ральлі; што да сенажацяй, то ў адношаньні іх мы, або амаль зусім не заўважылі зьмены (Калінішчына для II гр.: 1,62—1,55 кіл.), або невялічкае памяншэньне (Бабр., надз. 1,64—1,25 к.). Больш значная розьніца для пасёлкаў на фондавых землях ня можа пахіснуць азначанага палажэньня, паколькі яно падмацоўваецца лёкальным характарам разьмяшчэньня сенажатных плошчаў. 2) Досьледам заўважана таксама і памяншэньне адлегласьцяй паміж палосак: для ральлі ад 1,17 клм. да 0,43 клм. і для сенажацяй ад 0,36 да 0,13 клм.

Такім чынам, намі цярпліва і мабыць з дакучлівай у некаторых мясцох падрабязнасьцю, пададзена характарыстыка тэхнічных дасягненьняў у арганізацыі зямельнае тэрыторыі, якія маюць месца пры пераходзе насельніцтва на пасёлкі. Усе пададзеныя даныя (апрача каэф. гаспад. абкругленасьці) аднадушна засьведчылі, што з гэтага пункту гледжаньня эфэкт землеўпарадкаваньня вельмі яскравы, а праведзенае землеўпарадкаваньне рацыянальна.

Звычайна ў гэтым месцы дасьледчык пакідае эмпірыю і далейшую

працу вылічэньня, эфэкту пераносіць у сфэру „матэматычных" выкладак і разважаньняў. Месца фактаў жыцьця займаюць арытмомэтр, шчоты, табліцы, нормы, урочныя палажэньні і г. д. Так у большасьці выводзіцца і гаспадарчы і эканамічны эфэкт землеўпарадкаваньня.

Але неабходна сказаць, што ў гэткага роду працы так жа мала эканомікі, як і матэматыкі. „Мілімэтр дакладных лічбаў каштоўней кілёмэтра агульных разважаньняў" (як кажуць, паводле слоў П. П. Сплюхіна, амэрыканцы) толькі тады, калі гэтыя лічбы зусім рэальныя, канкрэтныя і жыцьцёвыя. У адваротным выпадку гэтыя лічбы зьяўляюцца баластам, а разважаньні ў вопратцы лічбаў расцягваюцца на 10 кілёмэтраў.

Мы за факты і за іх лічбавае афармленьне. Мы цалкам падзяляем лёзунг Галілея: „Мерай, што можна вымераць, а ня вымернае зрабі вымерным". Але мы за вымерваньне запраўднасьці, за дакладны вучот яе канкрэтнага вопыту.

Таму пераходзячы да разгляду арганізацыйна-гаспадарчага выяўленьня эфэкту праведзенага землеўпарадкаваньня мы застаёмся і на далей на базе здабытых намі эмпірыка-статыстычных даных

# 6. ЭФЭКТ ЗЕМЛЕЎПАРАДКАВАНЬНЯ НА ПАСЁЛКІ.

*(ПРАЦЯГ)*

## в) арганізацыйна-гаспадарчае выяўленьне эфэкту

**Разуменьне задачы** Тэрмін у 3—4 гады бязумоўна зьяўляецца недастатковым для таго, каб у рамках новай формы землекарыстаньня склаўся новы тып сельскай гаспадаркі. Зьмены апошняга залежаць ад такой колькасьці фактараў і умоў, што сярод іх форма землекарыстаньня зьяўляецца адным з многіх; пры тым і ня з цыклю аснаўных. Ёсьць больш магутныя фактары (рынак, тэхніка, прырода, структура народнай гаспадаркі), якія ў непараўнальна-большай меры вызначаюць геаграфічную статыку і дынаміку тыпу сельскай г-кі.

Мала таго, вылучэньне асобнага фактару і вывучэньне толькі яго ўплыву на тып сельскай гаспадаркі зьяўляецца па сутнасьці такой задачай, якая калі і можа быць разьвязана, то пераважна ў якаснай і ўмоўнай форме. Замер разглядаць любы фактар (у тым ліку і форму землекарыстаньня), як адзіную прычыну даных, канкрэктных і назіраемых гаспадарчых зьмен—зьяўляецца далёка не навуковым.

„Паняцьце прычыннасьці—паняцьце містычнае, якое зьявілася ў эпоху прымітыўнага чалавечага мысьленьня. Строга навуковае выкладаньне ня ведае „прычын“, а толькі„ законаупарадкаваныя залежнасьці“ і далей: „*прычынная* законаупарадкаванасьць зьяўляецца спэкулятыўнай містыкай, а *умоўная* законаупарадкаванасьць зьяўляецца вопытам. Усякі навуковы досьлед павінен пачынацца з закліку да ўмоўнага разгляду рэчаў“ .[1])

„Што датычыцца ў прыватнасьці прычынных адносін, то гэты пункт гледжаньня выстаўляе на від, па першае, тое, што ўсякае далажэньне паняцьця прычыны і дзеяньня *самавольна вылучае два элемэнты з зьвязанага цэлага* (падкрэсьлена мною Я. К.) у якім яны зьяўляюцца, і высоўвае іх як працілежнасьці; па другое тое, што часовыя адносіны слабодна можна зварочваць, калі даведзены адносіны эквівалентнасьці і калі адцягнуцца ад напрамку зьмен“.[2]).

Таму і тыя арганізацыйна-гаспадарчыя зьмены, якія ў далейшым

---

[1]) Проф. Макс Ферворн: „Вопрос о границах познания“, стар. 14.
[2]) Геральд Гёфединг: „Философские проблемы“, стар. 44—45.

будуць намі адзначацца мы ні ў якай меры ня думаем надаць (вменить) землеўпарадкаваньню, як іх адзінай прычыне. Мы ставілі і ставім пытаньне крыху іначай: ці затрымліваецца пры землеўпарадкаваньні на пасёлкі гаспадарчае разьвіцьце сялянскіх гаспадарак, і далей: у якія арганізацыйна-гаспадарчыя формы ўліваецца гэта разьвіцьцё. Але разам з тым мы разумеем, што нават і ў гэткай пастаноўцы пытаньня на яго покуль што цяжка даць вычэрпываючы адказ, таму што гаспадаркі, якія землеўпарадкаваны 4 гады назад, яшчэ ня здолелі набыць якіх-небудзь пэўных і сталых арганізацыйна-вытворчых форм. Зараз, як правільна зазначае Б. Д. Бруцкус, „можна казаць аб некаторых тэндэнцыях, якія намячаюцца ў разьвіцьці ўпарадкаваных гаспадарак“. [1]).

На апошняе неабходна зьвярнуць увагу таму, што далёка ня ўсе прытрымліваюцца гэтай асьцярожнасьці. Для К. Кіндзеева, напрыклад, даволі аднаго таго факту, што пасёлкі (якія жывуць „бяз году нядзелю“) у меншай меры, параўнаўча з хутарамі, завялі шматпалёвы севазварот, каб на падставе гэтага выказацца аб пасёлках даволі пэсымістычна. І гэта нават тады, калі сам жа ён зазначае, што пасёлкі арганізуюцца бядняцкімі і серадняцкімі пластамі сялянства і што „ў практыцы зямельных ворганаў праца вядзецца так, што абы толькі адвесьці зямлю пасёлку ў цэлым без зацікаўленасьці яго ўнутраным зьместам“. [2]).

Такім чынам, наша задача ў гэтым разьдзеле выглядае зусім скромна: *мы імкнемся ў лічбах даць апісаньне тым арганізацыйна-гаспадарчым зьменам, якія адбыліся ў гаспадарках розных сацыяльна-эканамічных груп сялянства ў сувязі з пераходам іх на пасёлкі.* Пры гэтым мы не прэтэндуем на вытлумачэньне (тым больш прычыннае) ўсіх заўважаных фактаў. „Задача строгай навукі складаецца ўжо не з „вытлумачэньня;“ хто жадае „вытлумачэньняў“ няхай зьвяртаецца да міталёгіі і мэтафізыкі; мэта навукі даць дакладнае, мэтадычнае апісаньне ўсіх адносін“. [3]).

**Зьмены ў землекарыстаньні**

Застановімся перш за ўсё на аснаўных элемэнтах с.-г. вытворчага працэсу. *Землекарыстаньне* ўсіх землеўпарадкаваных на надзельных землях пасёлкаў узрасло ад 4553 г. да 5659 г., што дае павялічэньне ад 100 да 124%. Пры чым, як гэта і трэба было чакаць, павялічэньне фактычна адбылося толькі для маламоцных груп сялянства і крыху для сераднякоў; для заможных — яно зьявілася па сутнасьці зьмяншэньнем.

[1]) Б. Д. Бруцкус: „Аграрный вопрос и аграрная политика“ стар. 181.
[2]) К. Киндеев: „Вопросы землеустройства“ стар. 71 і 81.
[3]) Геральд Гёфдниг, ibdem стар. 44. З аўтарам ня можна згадзіцца, што толькі гэтую задачу павінна наогул ставіць сабе навуковае пазнаньне. Але ў прыстасаваньні да пэрыяду першапачатковага афармленьня навукі—такую формуліроўку яе задач—можна прыняць.

| | Калінішчына | | | | | | Бабруйшчына (надз.) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | | II | | III | | I | | II | | III | |
| | да | цяпер | да | цяпер | да | цяпер | да | цяпер | да | цяпер | да | цяпер |
| Абс. (гэкт.) | 4,2 | 7,7 | 8,5 | 10,5 | 13,4 | 14,0 | 2,8 | 6,3 | 7,2 | 8,2 | 13,0 | 10.0 |
| у %/% | 100 | 183 | 100 | 124 | 100 | 104 | 100 | 229 | 100 | 114 | 100 | 77 |

Сярэдняя землезабясьпека розных соц.-экан. груп. (на 1 г-ку)

Хоць даныя табліцы і атрыманы звычайным спосабам, бяз вучоту таксацыйных момантаў, але ўсё-ж і яны вельмі выразна падмацоўваюць толькі што паданыя думкі.

Цікава таксама адзначыць, што для бядняцкіх гаспадарак аднначасова з павялічэньнем іх землекарыстаньня засноўвалася і больш нармальная прапорцыя паміж ужыткамі. Гэтак, па Калінінішчыне ральля складала ад усей зямлі: да землеўпарадкаваньня—I гр.—67%, II гр.—66% і III—62%; пасьля—I гр.—50%; II—56% і III—55%.

Калі прыняць пад увагу, што зямельны голад для сялян адчуваецца ў першую чаргу па лініі недахопу сенажацяў, то гэты факт трэба адзначыць, як станоўчы.

**Зьмены ў аснаўных сродках вытворчасьці**

*Аснаўныя сродкі вытворчасьці* таксама павялічыліся і пры тым амаль што на столькі-ж %/%, як і землекарыстаньне. Так, да землеўпарадкаваньня гэтыя сродкі па тых-жа пасёлках складалі 268 тысяч руб., а цяпер 318 тыс. руб., што адпаведна ў %/% дае: 100—119. Але і тут мы бачым, што павялічэньне мае месца толькі для гаспадарак двух першых сацыяльных груп, а заможныя г-кі зноў-жа даюць памяншэньне кошту сродкаў вытворчасьці.

Сярэдні кошт усіх вытворчасьці на 1 г-ку розных сац. экан. груп.

| | Калінішчына | | | | | | Бабруйшчына (надз.) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | | II | | III | | I | | II | | III | |
| | да | цяп. | да | цяп. | да | цяп. | да | цяп. | да | цяп. | да | цяп. |
| Абсал. (руб.) . | 138,7 | 232,4 | 389,5 | 472,6 | 884,5 | 839,3 | 159,3 | 297,7 | 453,7 | 562,7 | 1204,2 | 1119,8 |
| у %/% . . . . | 100 | 167 | 100 | 122 | 100 | 95 | 100 | 187 | 100 | 124 | 100 | 93 |

Ня шкодзіць мабыць адзначыць, што прырост аснаўных сродкаў вытворчасьці для бядняцкіх гаспадарак, хоць і зьяўляецца надзвычайна вялікім, але ён усё-ж не дасягнуў яшчэ велічыні прыросту іх землекарыстаньня (183%—167% і 225%—187%).

Далей, зьяўляецца важным высьветліць, па лініі якой катэгорыі

сродкаў адбываецца найбольшы прырост, або зьніжэньне. Тут мы маем зусім пэўны адказ: павялічваецца для ўсіх груп кошт будынкаў і мёртвага інвэнтару; зьмяншэньне звычайна мае месца ў адносінах да кошту жывога інвэнтару.

Жывёла зьяўляецца першым і самым чулым рэгулятарам паляпшэньня або пагаршэньня вытворчага і эканамічнага стану сялянскіх гаспадарак. Але гэта і зразумела, таму, што гэты сродак у большасьці ня купляецца, а вытвараецца ў саміх г-ках (справа ідзе аб нашым тыпу сялянскай г-кі), па другое, у выпадку яго перабольшваньня г-ка найбольш востра адчувае арганізацыйную дыспрапорцыю і ўрэшце жывы інвэнтар зьяўляецца найбольш мабільным, дзякуючы мажлівасьці яго продажу па частках рознай цаны (ад курыцы ў 50 к. да каня ў 300 руб.).

Далей, каб даведацца, які від жывога інвэнтару зьменьваецца найбольш і ў які бок, мы дазволім падаць наступныя адносныя лічбы (кошт „да землеўпарадкаваньня“ узяты за 100):

| | Коні | | | Быдла | | | Авечкі | | | Сьвіньні | | | Увесь | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III | I | II | III | I | II | III | I | II | III |
| Калінішчына . . . . | 232 | 112 | 69 | 173 | 115 | 86 | 130 | 100 | 87 | 160 | 93 | 75 | 181 | 110 | 75 |
| Бабруйшчына (надз.) | 281 | 124 | 75 | 184 | 110 | 80 | 300 | 125 | 82 | 219 | 135 | 85 | 227 | 121 | 78 |

Калі параўнаць кошт ўсей жывёлы з данымі аб плошчы зямлі, то можна адзначыць, што велічыня прыросту таго і другога для бядняцкіх гаспадарак амаль што аднальковыя. Запраўды, для Калінішчыны: зямля—183%, а жыв. інв.—181%; для Бабруйшчыны адпаведна: 225% і 227%. У сувязі з гэтым мы можам зрабіць вельмі важны вывад аб тым, што па лініі жывога інвэнтару бядняцкія г-кі праз тры-чатыры гады поўнасьцю аднаўляюць арганізацыйную раўнавагу, якая парушаецца ў іх прырэзкай зямлі, часамі вельмі значнай.

Тады паўстае пытаньне—якія-ж сродкі вытворчасьці павялічваюцца ў бядняцкіх гаспадарках больш марудна, бо, як бачылі мы раней, усё-ж у цэлым сродкі не дасягнулі велічыні прыросту землекарыстаньня. Для адказу возьмем толькі гэту групу гаспадарак і больш падрабязна для яе прасочым павялічэньне кошту гаспадарчых будынкаў і асобных відаў мёртвага інвэнтару (кошт „да землеўпарадк.“ узяты за 100):

| | Будынкі | | | | Мёртвы інвэнтар | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Скаціна | Гуменныя | Інш. | Усе | Апрац. глебы | Транспарт | Інш. | Увесь |
| Калінішчына . . . . . . | 130 | 160 | 170 | 157 | 210 | 133 | 156 | 150 |
| Бабруйшчына (надз.) . . . | 131 | 122 | 155 | 136 | 256 | 162 | 280 | 201 |

Як бачым найменшы прырост кошту прыпадае на будынкі для скаціны і на транспартны інвэнтар. Наогул, усе тыя сродкі, якія набываюцца праз куплю, узрастаюць параўнача павольна, што сьведчыць аб неабходнасьці належнай дзяржаўнай крэдытовай дапамогі.

У сувязі з аглядам сродкаў вытворчасьці, цікава будзе застанавіцца яшчэ і на пытаньні аб тым: ці не знаходзіцца тэмп прыросту жывога інвэнтару ў сувязі з розным разьмерам пасёлкаў, а калі знаходзіцца, то які характар гэтай сувязі?. Мы гэта пытаньне ставім і таму, што па лініі жывога інвэнтару пераважна ідзе ўзмацненьне вытворчых мажлівасьцяй сялянскіх гаспадарак, і таму што адказ на яго'мае некаторае дачыненьне да далейшай праблемы аб оптымуму пасёлкаў.

Разважаючы тэарэтычна ў даным выпадку мы павінны былі-б мець простую сувязь, гэта значыць пры павялічэньні разьмеру пасёлкаў—паляпшэньне ўмоў для ўзрастаньня жывога інвэнтару. Для праверкі гэтага палажэньня мы ўзялі толькі тыя пасёлкі, якія ўтвораны на надзельных землях, а з іх толькі адну сац. групу (II). У выніку ўсіх вылічэньняў, узважваньняў і спрашчэньняў мы атрымалі нешта зусім іншае (гл. дыягр. 12)

*Мал. 12.* Тэмп прыросту жывога інвэнтару для розных па разьмеру груп („да землеўп."—100).



Як бачым, крывая наогул сьведчыць аб памяншэньні тэмпу росту пры павялічэньні разьмеру пасёлкаў, але разам з тым на ёй вельмі лёгка заўважыць пункт перагіну, які прыпадае на пасёлкі ў 100—150 гэкт. Да гэтага пункту крывая рухаецца больш-менш плаўна, а пасьля зьніжаецца вельмі стромка. Мы покуль што абмяжуемся заўважваньнем гэтага факту.

**Тып сельскай гаспадаркі і яго характарыстыка па валавой прадукц.**

Цяпер паглядзім, як адбілася землеўпарадкаваньне на зьменах самога тыпу сельскай гаспадаркі, які ў даным выпадку мы будзем разумець выключна, як зьявішча арганізацыйна-вытворчае. Наогул-жа тып сельскай г-кі намі трактуецца болш шырока з прыцягненьнем для яго характарыстыкі адзнак ня толькі вытворчых, але і адзнак, якія зьвязаны з парадкам абмену і спажываньня.

Сваё апісаньне тыпу мы зьбіраемся зрабіць шляхам аналізу валавой прадукцыі. Паколькі абраньне гэтай катэгорыі можа выклікаць непаразуменьне, пастолькі ў мінімальнай меры патрэбна даць некаторыя тлумачэньні.

Справа ў тым, што тып сельскай г-кі, з аднаго боку, выступае вы-

шынёй сваёй інтэнсыўнасьці,—а з другога—коордынацыяй частак, якія яго складаюць. Выходзячы з разуменьня інтэнсыўнасьці, як ступені „капітала напружанасьці зямлі“—яе вымерваньне звычайна робяць па суме выдаткаў усіх відаў сродкаў вытворчасьці (аснаўных і зваротных) на адзінку зямельнай плошчы.

Аднак, у апошнія гады, пераважна для мэтаў геаграфічна-эканамічных пачаў шырока ўжывацца ўкосны (праэкцыйны) спосаб для азначэньня інтэнсыўнасьці; гэта—валавая прадукцыя на адзінку зямельнае плошчы [1]). Такое азначэньне інтэнсыўнасьці сустрэла належную крытыку, а сама інтэнсыўнасьць, падлічаная гэтым спосабам, атрымала назву „псэўдаінтэнсыўнасьці“.

У даным месцы мы ня зьбіраемся абмяркоўваць гэтага цікавага, вялікага і важнага пытаньня. Для нас, покуль што, даволі зазначыць, што валавая прадукцыя ўсё-ж знаходзіцца ў вялікай карэляцыйнай сувязі *з аснаўнымі* сродкамі вытворчасьці (гл. разьдз IV). Таму і ўжываньне яе можа і павінна мець месца пры *апісаньнях* зьменаў інтэнсыўнасьці (геаграфічных і дынамічных), асабліва калі апісаньне вядзецца па асобных сацыяльна-эканамічных групах.

Зразумела, зусім іншыя адносіны трэба засноўваць да вымерваньня інтэнсыўнасьці тады, калі справа ідзе аб тым, „каб знайсьці ступень інтэнсыўнасьці найбольш рэнтабельную ў данай мясцовасьці“[2]). У гэтым апошнім выпадку імкненьне азначыць інтэнсыўнасьць па валавой прадукцыі запраўды зьявіцца „правілам, бо два найбольш важных паказчыкі (валавая прадукцыя і інтэнсыўнасьць) будуць азначаны аднолькава, што адрэзвае шлях да аналізу“[3]).

Неабходнасьць розных адносін да спосабу вымерваньня інтэнсыўнасьці ў першым выпадку (геаграфія і дынаміка) і ў другім (арганізацыйна-вытворчы падыход)—відавочна. І трэба лічыць звычайным непаразуменьнем агульнасьць і катэгарычнасьць заяўленьня праф. Котава А., які без адпаведных агаворак, лічыць „зусім правільным і пасьлядоўным у каэфіцыенту інтэнсыўнасьці браць прыбытак, а ня выдаткі па тэй простай прычыне, што рэальны прыбытак зьяўляецца аргумэнтам, а выдаткі—функцыяй. Наадварот, эканамісты ў большасьці лічаць выдаткі—аргумэнтам. У іх заўсёды за выдаткамі ідзе прыбытак. З нашага пункту гледжаньня гэта ня верна“[4]). Валавы прыбытак (прадукцыя) прызваны не замяніць вымерваньне інтэнсыўнасьці па выдатках, а стаць побач з гэтым апошнім. Справа ня ў „або-або“, а ў тым, каб ведаць, дзе карыстацца адным азначэньнем інтэнсыўнасьці, а дзе другім.

[1]) Гл. працы праф. А. Котава, праф. Г. Студэнскага і інш.

[2]) Проф. Г. А. Студенский: „Проблемы экономии и географии сельского хозяйства“ (предисловие ред.-изд. отд. Международного Аграрного Института, стар. VIII).

[3]) Проф. Студенский Г. А., ibidem, стар IX.

[4]) Проф. А. А. Котов: „Проблемы размещения сельского хозяйства и промышленности“, стар. 50.

Паколькі ў даным месцы працы мы ставім сабе *задачы выключна апісальнага характару* і пры тым разьвязваем іх праз ужываньне адносных паказчыкаў, пастолькі вымерваньне намі інтэнсыўнасьці праз валавую прадукцыю не павінна сустрэць асаблівых абвінавачваньняў.

Далей, спрэчным зьяўляецца пытаньне аб складзе валавой прадукцыі для спэцыяльных задач тыпізацыі сельскай г-кі. Зноў-жа, ня тут месца для ўсебаковага разгляду гэтага пытаньня. Але аднак мусім усё-ж зазначыць, што ўлітаратуры існуюць дзьве плыні. Адна (Г. А. Студэнскі) лічыць, што валавы с.-г. прыбытак трэба браць, як „*рэальны валавы прыбытак*, г. зн. гадавы кошт усіх прыбытковых паступленьняў земляробства і прадукцыйнай жывёлагадоўлі“. Свой погляд праф. Студэнскі ўгрунтоўвае тым, „што ні насеньне, ні кармы не выклікаюць падвойнага рахунку ў валавым с. г. прыбытаку“[1]). Другая плынь (А. А. Котаў) разглядае пытаньне дыфэрэнцыявана і адказвае, што „*адзіным правільным будзе вымерваць каэфіцыент інтэнсыўнасьці па ачышчанаму валавому прыбытку*“, а „*для вымерваньня якаснага боку сыстэм вытворчасьці адзіным пэўным будзе браць сумарны валавы прыбытак*[2]) (падкрэслена аўтарамі).

Калі перавесьці сэнс разыходжаньня паміж гэтымі аўтарамі на ўжытую намі тэрміналёгію, то праф. Студэнскі прапануе карыстацца *валавым абаротам*, а праф. Котаў: для вымерваньня інтэнсыўнасьці—*валавой прадукцыяй*, і для расчыненьня каардынацыі—*валавым абаротам.*

Мы лічым больш правільнай пазыцыю, якую прадстаўляе прафэсар Котаў, хоць у далейшым апісаньні тыпу сельскай гаспадаркі нам самім і не давядзецца яе вытрымаць. Прычыны чыста тэхнічнага і практычнага парадку прымушаюць агляд і каардынацыі праводзіць таксама шляхам аналізу структуры валавой прадукцыі. Пасьля зробленых заўваг можна перайсьці і да самога агляду тых зьмен, якія адбыліся ў тыпу сельскай гаспадаркі пасьля землеўпарадкаваньня.

**Зьмены інтэнсыўнасьці**

*Інтэнсыўнасьць* для ўсіх дасьледваных пасёлкаў (на надзельных землях) зьмянілася ад 65 руб. валавой прадукцыі на 1 гэкт. гожай зямлі да 59 р., гэта значыць *зьменшылася да 91%* параўнаўча з пэрыядам „да землеўпарадкаваньня“. Але гэтага і трэба было чакаць, таму што прырост землекарыстаньня ад 100 да 124% ня мог у 3—4 гады даць адпаведнага ўзрастаньня вытворчасьці.

Сувязь паміж тым і другім вельмі лёгка прадэманстраваць, калі вылучыць асобна Калінішчыну, дзе прырост зямлі=130% і Бабруйшчыну дзе прырост толькі—115%, а потым для іх асобна падлічыць паказчык інтэнсыўнасьці за абодвы пэрыяды. Тады будзем мець: для Калінішчыны—

[1]) Студенский Г. А. ibidem стар. 31.
[2]) Котов А. А. ibidem стар. 86.

да землеўпарадкаваньня інтэнсыўнасьць=68 р. пасьля=56 р., або 82% ад ранейшай. Для Бабруйшчыны да=61 руб. пасьля=63 р., або 103%.

Ня шкодзіць падаць таксама паказчык інтэнсыўнасьці па асобных сац.-эканамічных групах і пунктах.

| | Калінінршчына | | | | | | Бабруйшчына | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | | II | | III | | I | | II | | III | |
| | да | пасьля | да | пасьля | да | пасьля | да | пасьля | да | пасьля | да | пасьля |
| Абс. (руб. на 1 г.) | 71 | 56 | 66 | 60 | 74 | 62 | 72 | 65 | 60 | 61 | 59 | 68 |
| У %% | 100 | 79 | 100 | 91 | 100 | 84 | 100 | 87 | 100 | 102 | 100 | 115 |

Бачым дыямэтральна-процілеглае для III групы: у Калінінщчыне зьмяншэньне інтэнсыўнасьці да 84% ранейшай, а ў Бабруйшчыне яе падвышэньне да 115%, але і гэта як ня трэба лепш падмацоўвае выказанае раней палажэньне, таму што землекарыстаньне III гр. у Калінінщчыне ўзрасло да 104%, а ў Бабруйшчыне зьнізілася да 77%.

Цяпер паглядзім, ці знаходзіцца зьмена вышыні інтэнсыўнасьці ў сувязі з разьмерам пасёлкаў, а калі так, то чым можна характарызаваць гэту сувязь? Для адказу на гэтае пытаньне зьяўляецца неабходным, па мажлівасьці да канца правесьці працу па ізаляцыі вывучаемых зьявішч (інтэнсыўнасьць і разьмер). Мы і сталі на гэты шлях. Для чаго ўзялі толькі пасёлкі Калінішчыны, эдабралі з іх тыя: а) якія атрымалі глебы аднолькавай якасьці, б) аднолькава забясьпечаны сенажацямі на 1 гэктар пахаці і ўрэшце в) маюць больш-менш аднолькавы каэфіцыент гаспадарчай абкругленасьці зямель.

У выніку такога ізаляванага адбору ў нашых руках засталося 15 пасёлкаў, якія былі згрупаваны ў вядомыя ўжо нам „групы па разьмеру" з тэй толькі розьніцай, што V і VI гр. былі злучаны разам. Ступень дасягнутай аднолькавасьці паміж групамі відаць з наступнай таблічкі.

| | Групы пасёлкаў па разьмеру: | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | I гр. | II гр. | III гр. | IV гр. | V гр. |
| 1) Паказчык якасьці зямлі [1] . . . | 1,7 | 1,6 | 1,7 | 1,7 | 1,4 |
| 2) На 1 гэкт. пахаці гэкт. сенажаці | 0,56 | 0,68 | 0,31 | 0,42 | 0,46 |
| 3) Каэф. гаспадарч. абкругленасьці | 1,26 | 1,45 | 1,28 | 1,37 | 1,69 |

Мэтад ізаляцыі быў працягнуты і далей; для чаго ў вызначаных вышэй пасёлках былі ўзяты толькі гаспадаркі II сац.-эканам. групы.

[1]) Якасьць зямлі паляпшаецца з памяншэньнем паказчыка.

Каб даць уяўленьне аб ступені аднолькавасьці саміх гаспадарак, дазволім падаць гэткую таблічку:

| | Групы пасёлкаў па разьмеру | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | IV | V |
| 1) Колькасьць г-к у групе . . . . | 9 | 13 | 25 | 27 | 28 |
| 2) На I г-ку гожай зямлі (гэкт.) . | 10,5 | 10,5 | 10,7 | 9,6 | 10,4 |
| 3) На I г-ку асн. срод. вытворч. да земл. (руб.) . . . . . . . . . | 340 | 428 | 363 | 320 | 429 |

*Мал. 13.* Зьмяншэньне інтэнсыўнасьці для розных па разьмеру пасёлкаў (да земл. = 100).




Даныя сьведчаць аб значнай блізасьці сярэдніх для гаспадарак розных груп пасёлкаў; невялічкае выключэньне складае толькі IV гр., для якой мае месца некаторае зьніжэньне сярэдняй, як па землеабясьпецы, гэтак жа і па аснаўных сродках вытворчасьці.

Такім чынам, мы даволі поўна ізалявалі вывучаемае зьявішча і ў выніку атрымалі наступны малюнак (гл. дыягр. № 13).

Як бачым, мінімум зьмяншэньня інтэнсыўнасьці прыпадае на групу пасёлкаў у 75—100 г., пасьля якой крывая пачынае загінацца ўніз і вельмі рэзка падае пры павялічэньні разьмеру пасёлкаў за межы 150 г. Каб яшчэ больш пераканацца ў тым, што гэта тэндэнцыя запраўдымае месца, трэба было праверыць: мо‘ на рух крывой (у частцы дзе яна зьніжаецца) уплывае значнае пашырэньне пасьля землеўпарадкаваньня—землеабясьпекі.

Для адказу па кожнай групе пасёлкаў быў падлічаны каэфіцыент пашырэньня землекарыстаньня, які атрымаўся для пасёлкаў I гр. = 2,2 і для далейшых груп адпаведна: 1,3; 1,2; 1,5 і 0,9. Гэты радок лічбаў сьведчыць, што экстэнсыфікацыя, з прычыны павялічэньня землекарыстаньня, магла мець найбольшае выяўленьне ў I і IV гр. і найменшае ў V. Вось чаму спрэчным трэба лічыць толькі ход крывой ад III гр. (75—100) да IV (100—150). Паміж гэтытмі пунктамі, у выпадку эліміраваньня ад уплыву прырэзкі,—мажліва ня мела-б месца зьніжэньне крывой. Тым самым загін крывой уніз пачаўся-б тады не ад 100, а ад 150 гэкт., але, у кожным разе, не далей.

**Зьмены каардынацыі галін і культур**

Затрымаемся цяпер на зьменах, якія адбыліся ў тыпу сельскай г-кі па лініі *каардынацыі* галін і культур, і ў першую чаргу па лініі суадносін земляробства і жывёлагадоўлі. Пададзім даныя толькі па пасёлках, якія утварыліся на б. надзельных землях.

Суадносіны земляробства і жывёлагадоўлі ў $^0/_0{}^0/_0$.

| | Калініншчына | | | | | | Бабруйшчына (надзельн.) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | | II | | III | | I | | II | | III | |
| | Зем. | Жыв. | Зем. | Жыв. | Зем. | Жыв. | Зем. | Жыв. | Зем. | Жыв. | Зем. | Жыв. |
| да | 47 | 53 | 48 | 52 | 42 | 58 | 34 | 66 | 38 | 62 | 48 | 52 |
| пасьля | 49 | 51 | 47 | 53 | 49 | 51 | 37 | 63 | 42 | 58 | 52 | 48 |

Даныя вельмі выразныя і аднадушна (за выключэньнем аднаго выпадку) *сьведчаць аб памяншэньні ролі жывёлагадоўлі і ўзмацненьні земляробства.* Хоць гэта зьявішча ні ў якім разе ня можна разглядаць, як вынік скончанага працэсу перабудовы землеўпарадкаваных гаспадарак, але ўсё-ж цікава прасачыць, якія галіны жывёлагадоўлі найбольш адстаюць у сваім росце; або іначай, якія з іх найбольш чула рэагуюць на землеўпарадкаваньне.

Калі-б разглядаць высунутае пытаньне ў адносіньні толькі аднаго з дасьледваных пунктаў, то можна было-б сьцвярджаць, што ёсьць пэўная галіна жывёлагадоўлі, якая пасьля землеўпарадкаваньня найбольш марудна (адносна) узрастае. Але, калі мы ўзялі й другі, кантрольны пункт, то ўбачылі, што для яго гэткай галіной зьяўляецца зусім іншая галіна. Таму мы ўстрымліваемся ад усякіх вывадаў і абмяжоўваемся толькі канстатаваньнем таго факту, што на агульным фоне адставаньня росту прадукцыі жывёлагадоўлі найбольш адстаюць у адным месцы—сьвінагадоўля (Калініншчына) у другім—буйная рагатая жывёлагадоўля (Бабруйшчына). Наогул-жа каардынацыя галін жывёлагадоўлі ў аснаўным покуль што захоўваецца тэй жа самай.

Назіраемыя зьмены ня можна аднесьці да сталых, якія азначаюць сабой пачатак новага кірунку ў жывёлагадоўлі. Дзякуючы гэтаму і далейшы, больш тонкі арганізацыйна-тэхнічны аналіз гэтай галіны ў значнай ступені робіцца не своечасовым, а гутаркі аб прычынах зьменаў, якія назіраюцца зараз,—марнаслоўнымі.

Спынімся цяпер на зьменах, якія адбыліся ў ральніцтве. Абсалютнае й адноснае ўзрастаньне гэтай галіны было заўважана раней, чаму тут застаецца прааналізаваць толькі моманты, якія зьвязаны з каардынацыяй.

Калі выходзіць з структуры валавой прадукцыі ад ральніцтва, то можна заўважыць наступныя зьмены ў суадносінах збожжавых і ня збожжавых (асыпныя, тэхнічныя і травы) культур (у °/₀°/₀):

| | Калінішчына | | | | | | Бабруйшчына (надз.) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | | II | | III | | I | | II | | III | |
| | збож. | інш. | збож. | інш. | збож. | інш. | збож. | інш. | збож. | інш. | збож. | інш. |
| Да земл. | 70 | 30 | 68 | 32 | 67 | 33 | 68 | 32 | 69 | 31 | 68 | 32 |
| пасьля | 68 | 32 | 64 | 36 | 55 | 45 | 60 | 40 | 60 | 40 | 53 | 47 |

Больш яскравых даных ня можна было і чакаць.

*Перабудова земляробства ў больш інтэнсыўным кірунку бясспрэчны факт,* які патрэбна толькі паверыць і дэталізаваць. Але для гэтага нам прыдзецца пакінуць валавую прадукцыю і стаць на шлях ужываньня натуралістычных катэгорыяў.

Факт пашырэньня ня збожжавых зусім выразна падмацоўваецца і данымі аб прапорцыі культур у засеўным пляцу. Гэтак, па Калінішчыне мы маем падвышэньне нязбожжавых на 2—3°/₀, а па Бабруйшчыне (надз.) на 3—4°/₀ і нават на 11°/₀ (III гр.).

Далей, зьяўляецца цікавым прасачыць, якія нязбожжавыя культуры стаяць пад знакам найбольшага росту. Для гэтага пададзім °/₀ прыросту засеўнага пляну пад бульбай і лёнам („да землеўпарадкаваньня" = 100).

| Калінішчына | | | | | | Бабруйшчына (надз.) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Бульба | | | Лён | | | Бульба | | | Лён | | |
| I | II | III | I | II | III | I | II | III | I | II | III |
| 152 | 114 | 116 | 192 | 124 | 110 | 274 | 107 | 130 | 241 | 133 | 104 |

І тут, як раней пры разглядзе жывёлагадоўлі, ня бачым чагосьці аднаго, што можна было-б адзначыць, як законаўпарадкаваны факт. Розьніца толькі тая, што ў даным выпадку неаднолькавасьць ідзе не па лініі асобных краін, а па лініі сацыяльных груп. Калі-б сьпяшацца зрабіць вывад, то можна было-б сказаць, што для першых 2 груп больш характэрным зьяўляецца павялічэньне лёну, а для III гр.—бульбы. Але гэта зьяўлялася-б голым зацьвярджэньнем.

Таму замест яго зьвернем толькі ўвагу на той факт, што ні для аднэй групы сялянства землеўпарадкаваньне на пасёлкі не затрымала росту інтэнсыўных культур. Разам з тым патрэбна падкрэсьліць значнае

пашырэньне засеваў траў, якія ад сотых доляй гэктару падняліся да чвэрці, а тэ й да трэцяй часткі гэктару.

**Зьмяншэньне папару і ўраджайнасьці**

Пашырэньне засеўнай плошчы і яе інтэнсыфікацыя ішлі поплеч з значным зьмяншэньнем папару. Вось належныя даныя аб % папару (незасеянага) да засеўнай плошчы.

| Калініншчына | | | | | | Бабруйшчына (надз.) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I | | II | | III | | I | | II | | III | |
| да | пасьля | да | пасьля | да | пасьля | да | пасьля | да | пасьля | да | пасьля |
| 24 | 12 | 24 | 13 | 25 | 10 | 51 | 29 | 44 | 29 | 46 | 23 |

Зьмяншэньне амаль што ў 2 разы % пад незасеяным папарам— факт, якому не супярэчыць ніводная з паданых лічбаў. Але ў сувязі з гэтым уцешным зьявішчам паўстае пытаньне: якім чынам пры гэтай-жа каардынацыі ужыткаў і пры няпоўным аднаўленьні жывёлагадоўлі, можна было ў Калініншчыне так рашуча скараціць плошчу пад папарам? Невялічкія, і толькі што распачатыя засевы лубіну ня могуць зьявіцца адказам.

Таму натуральна ў такім выпадку чакаць, што побач з пашырэньнем засеву адбываецца зьмяншэньне ўраджайнасьці культур, паколькі ўнясеньне гною ў колькасьці 90—100 цэнтн. на гэктар (Калінішчына) зьяўляецца далёка не здавальняючым для належнага забесьпячэн. урадлівасьці глебы.

Даныя экспэдыцыі цалкам падмацоўваюць гэга папярэдняе дапушчэньне. Яны сьведчаць, што і па Бабруйшчыне і па Калініншчыне ўсе культуры, за выключэньнем бульбы, зьнізіліся ў сваёй ураджайнасьці. Пры чым, як раз па Калініншчыне, дзе найменшы % папару й найменшая доза ўнясеньня гною, мае месца найбольшае зьмяншэньне ўраджаю. Цікава таксама адзначыць, што зьніжэньне прыпадае, галоўным чынам, на жыта і інтэнсыўныя збожжавыя культуры.

З паданых аб ураджаі зьвестках можна зрабіць толькі адзін вывад— неабходнасьць больш шырокага забясьпечваньня насельніцтва хэмічнымі ўгнаеньнямі пры правядзеньні ім землеўпарадкаваньня. У адваротным выпадку прыдзецца лічыцца з фактам зьмяншэньня ўраджайнасьці, прынамсі ў першыя 3—4 гады пасьля землеўпарадкаваньня. Толькі за гэты тэрмін гаспадаркі могуць сваімі ўласнымі сіламі аднавіць парушаную арганізацыйна-вытворчую раўнавагу і поўнасьцю асвоіць прырэзку новай часамі неабжытай зямлі.

**Набліжэньне засеваў асобных культур**

Наогул-жа набліжэньне палёў і палосак да сядзібы бясспрэчна утварыла ўсе неабходныя тэхніка-арганізацыйныя умовы для больш шырокага і поўнага скарыстаньня ральлі, у прыватнасьці пашырэньня інтэнсыўных




культур. Трэба зазначыць, што вельмі часта рост апошніх абмяжоўваецца выключна недахопам зямлі ў бліжэйшых да сядзібы зонах.

Занальнасьць разьмяшчэньня культур на сялянскіх палёх, асабліва пры вялікіх разьмерах вёсак, зьяўляецца агульна прызнаным фактам, найлепшае апісаньне якога можна сустрэць у працах праф. А.А. Котэва. У даным месцы мы падаем толькі новы матар'ял, а разам з тым зьвяртаем увагу на тую калёсальную ролю, якую адыгрывае землеўпарадкаваньне на шляхох рэформы (а часамі рэвалюцыі) ральніцтва. Запраўды, калі ўзяць тыя далейшыя адлегласьці, на якія выносіўся засеў розных культур у старых вёсках, і параўнаць з максымальнымі адлегласьцямі ў сучасных пасёлках, то атрымаем нешта надзвычайна цікавае і важнае.

Адлегласьць далейшага месца засеву (кілм.).

| | Калінiншчына | | | | | | Бабруйшчына | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | жыта | бульба | ячмень | авёс | грэчка | лён | жыта | бульба | ячмень | авёс | грэчка | лён |
| Да землеўпарад. | 2,3 | 1,0 | 0,8 | 1,7 | 2,5 | 1,1 | 2,4 | 1,5 | 1,4 | 2,1 | 3,3 | 1,3 |
| пасьля „ | 1,1 | 0,8 | 0,5 | 0,7 | 1,2 | 0,7 | 1,1 | 0,7 | 0,4 | 1,3 | 1,5 | 0,7 |

У вёсках да іх землеўпарадкаваньня даволі ясна выступаюць тры канцэнтры: I—бліжэйшы да сядзібы: жыта, бульба, ячмень, лён: II-гі—сярэдні: жыта, авёс, грэчка, лён; III—самы далёкі—жыта, грэчка. Пасьля землеўпарадкаваньня зямля настолькі набліжаецца да сядзібы, што культуры самых далёкіх месц засеву пападаюць у першую зону.

Гэты факт мае выключнае значэньне для больш поўнага вытворчага скарыстаньня ўсяе зямельнае тэрыторыі. Дзякуючы скарачэньню адлегласьці ўсе куткі ральлі ў пасёлку могуць быць заняты пад любую культуру, у тым ліку і асыпную.

Іначай кажучы, *на ўсёй тэрыторыі пасёлку можна весьці пладазьменную гаспадарку з адным севазваротам.* А тым самым перашкоды да пераходу на адзін севазварот пераносяцца толькі ў плошчу рознай эканамічнай магутнасьці асобных сац.-эканам. груп сялянства.

У кожным разе агрыкультурна-тэхнічныя прадпасылкі для ўтварэньня на тэрыторыі пасёлку адзінага севазвароту, а ў далейшым—адзінай ральлёвай гаспадаркі тыпу пладазьменай - цалкам забясьпечваюцца наяўнай арганізацыяй зямельнай тэрыторыі [1]).

Такім чынам, перад нашымі вачыма прайшлі галоўныя арганізацыйна-гаспадарчыя моманты, на якіх у тым або іншым напрамку адбілася земле-

[1]) Пытаньне аб агульным севазвароце для пасёлкаў настолькі важнае новае, а сабраны ў працэсе нашай працы матар'ял настолькі ўдзячны, што гэта пытаньне мы тут не разглядаем, а думаем зрабіць яго тэмай спэцыяльнай працы

ўпарадкаваньне. Мы бачылі, што землекарыстаньне бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак пашыралася і што ў іх адбываецца хуткі працэс зьбіраньня і ўзмацненьня аснаўных сродкаў вытворчасьці. Але разам з тым мы бачылі й тое, што к пачатку чацьвертага году бядняцкія г-кі яшчэ не спраўляюцца прывесьці поўнасьцю свае сродкі вытворчасьці ў адпаведнасьць з новым разьмерам землекарыстаньня. Бачылі таксама й тое, што тып сельскай г-кі ўсіх сац.-экан. груп праз тры гады пасьля землеўпарадкаваньня не даходзіць яшчэ да ранейшай вышыні інтэнсыўнасьці і што ў ім к гэтаму часу застаецца аслабленай жывёлагадоўля. Праўда, прыемным пры гэтым зьяўляецца павялічэньне ў ральніцтве нязбожжавых культур.

**Валавая прадукцыя і ўнутрыгаспадарчы транспарт**

Цяпер перад намі зусім натуральна паўстае пытаньне *аб сумарным*, арганізацыйна-вытворчым эфэкту землеўпарадкаваньня для сялянскіх гаспадарак розных сацыяльна-эканам. груп. Гэты эфэкт знаходзіць свой адбітак у зьменах валавой прадукцыі й можа быць пададзены ў наступным выглядзе (сяр. на 1 г-ку):

| | Калінініпчына | | | Бабруйшчына (надз.) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III |
| Вал. прад. (у руб.) да | 290,7 | 538,5 | 968,9 | 187,6 | 399,9 | 712,1 |
| пасьля | 420,0 | 598,3 | 814,4 | 388,6 | 471,8 | 628,1 |
| Розьніца | + 129,3 | + 59,8 | — 154,5 | + 201,0 | + 71,9 | — 84,0 |

Што можа быць красамоўней гэтых радкоў лічб, якія так яскрава сьведчаць аб арганізацыйна-вытворчых выніках савецкага землеўпарадкаваньня. У кожным разе нам да іх няма чаго дадаваць.

Урэшце цікавым зьяўляецца апошняе арганізацыйна-гаспадарчае пытаньне: у якой меры зьмены ў арганізацыі зямельнай тэрыторыі і зьмены ў аб'ёме й характары вытворчасьці знайшлі свой адбітак *у зьменах унутры-гаспадарчага* транспарту.

Зразумела, што адказ і на гэта пытаньне будзе грунтавацца не на адцягненых матэматычных выкладках, а на тых жа эмпірыка-статыстычных матар'ялах. Апошні ў аснаўным быў дадзен нашай падворкай, якая ўлічвала для кожнай культуры, з аднаго боку, адлегласьці да бліжэйшага і далейшага месца засеву, а з другога—валавы збор зярна (клубняў, валакна, сена) і колькасьць угнаеньняў, з азначэньнем адлегласьцяй, на якую яно вывозілася. [1]).

[1]) Для часу „да землеўпарадкаваньня" ня было даных аб угнаеньні, якое пры апрацоўцы было вылічана прапарцыянальна вазе ўраджаю.

Для атрыманьня велічыні ўсёй кладзі, якая перасоўваецца ў гаспадарцы, неабходна было яшчэ падлічыць вагу іншых другарадных прадуктаў ральніцтва: салому, мякіну, бацьвіньне, мяленьне і г. д. Гэта й было зроблена шляхам папярэдняга вылічэньня па бюджэтных даных належных каэфіцыэнтаў, якія далі суадносіны (па вазе) зярна і саломы; зярна і мякіны; валакна і мяляньня і г. д. Далейшы падлік кілёмэтра-цэнтнэраў—зьяўляўся вельмі простым і звычайным.

Свой агляд мы зробім у прыстасаваньні да гаспадарак розных сац.-экан. груп. У гэтым выпадку для ўсяе Калінішчыны на 1 гаспадарку кожнай групы мы будзем мець гэткую колькасьць транспартнай працы (у кілёмэтра-цэнтнэрах):

| Для ўсіх груп | | | I гр. | | | II гр. | | | III гр. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| да земл. | Пасьля | | да земл. | Пасьля | | да земл. | Пасьля | | да земл. | Пасьля | |
| | абсал. | у %% да „да“ | | абсал. | у %% да „да“ | | абсал. | у %% да „да“ | | абсал. | у %% да „да“ |
| 2242 | 1133 | 51 | 300 | 265 | 88 | 718 | 350 | 49 | 1224 | 518 | 42 |

Табліца настолькі яскравая й выразная, што, уласна кажучы, яна не патрабуе да сябе слоўных дадаткаў. Аднак, усё-ж неабходна, з аднаго боку, падкрэсьліць той факт, што зьмяншэньне транспартнай працы знаходзіцца ў поўнай адпаведнасьці з памяншэньнем найбольшых адлегласьцяй да асобных культур; а з другога—адзначыць неабходнасьць далейшага аналізу ў сувязі з канчатковай ацэнкай адноснай выгады ад эканоміі на транспарту, якую маюць розныя групы сялянства. Апошняе неабходна таму, што без яго, на падставе адных толькі прыведзеных даных, можна зрабіць няправільныя вывады.

Справа ў тым, што выгада ад зьмяншэньня транспартнай працы маскіруецца зьменамі ў колькасьці кладзі, велічыня якой, як вядома, знаходзіцца ў сувязі з пашырэньнем або звужэньнем вытворчасьці. На падставе ўсяго ранейшага агляду можна было-б апрыёры сказаць, што сума кладзі значна павялічылася для I гр. і зьменшылася для III у параўнаньні з пэрыядам „да землеўпарадкаваньня“.

Тым самым эфэкт эканоміі на транспартнай працы для першай групы маскіруецца ў бок зьніжэньня, а для трэцяй—падвышэньня. Каб паверыць гэта палажэньне мы для абадвых пэрыядаў зрабілі падлік транспартнай працы на адзін цэнтнэр ураджаю (зерня, саломы, бульбы і г. д.,) а затым вылічылі, які % складае гэта праца цяпер у параўнаньні з часам ранейшым. Атрымалі: для I гр.—55%, для II—49% і для III—43%. Як бачым розьніца хоць і засталася, але стала меншай паміж першай і апошняй групай. Нам думаецца, што яна-б зьнікла зусім, калі-б падлічыць для бядняцкіх гаспадарак ранейшыя пераезды з палоскі на палоску, што фактычна

робіць для іх больш даўгімі фармальна аднолькавыя адлегласьці. Мы гэтага ня робім і па прычынах тэхнічных і ў мэтах эканоміі месца.

Урэшце вельмі цікава паглядзець, як зьмянілася разьмеркаваньне транспартнай працы паміж групамі збожжавых і нязбожжавых культур. Пасьля падліку кілёмэтра—цэнтнэраў працы на тую і другую групы культур мы атрымалі па Калініншчыне гэткія даныя (у %%):

| I група | | | | II група | | | | III група | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| збожжавыя | | ня збожжав. | | збожжавыя | | ня збожжав. | | збожжавыя | | ня збожжав. | |
| да | пасьля | да | пасьля | да | пасьля | да | пасьля | да | пасьля | да | пасьля |
| 92 | 80 | 8 | 20 | 91 | 88 | 9 | 12 | 91 | 83 | 9 | 17 |

Як бачым агульнае памяншэньне транспартнай працы выклікала адноснае яе павялічэньне на незярнёвыя культуры. А калі ўзяць бядняцкія гаспадаркі, то ў іх транспартная праца на нязбожжавыя павялічылася ня толькі адносна, але і абсалютна: ад 24 да 53 кілём.-цэнтн. Арганізацыйна-гаспадарчыя вывады з гэтых фактаў—відавочны.

## г) Сацыяльна-эканамічны эфэкт землеўпарадкаваньня на пасёлкі.

Амаль што ўсе аўтары, якія трактуюць пытаньне аб эфэкту землеўпарадкаваньня, імкнуцца апошняму надаць выгляд эканамічнага эфэкту. Пры чым „экономіка“ гэта робіцца такім чынам: спачатку падлічваецца скарачэньне сярэдняй адлегласьці пуда грузу, затым вызначаецца колькасьць працы, якая прыпадае на адзінку плошчы; на падставе таго і другога вылічаецца эканомія працы ў днях; звычайнае множаньне апошніх на цану аднаго дню ўрэшце дасьць грашовае праяўленьне эканоміі ў працы, або прырост рэнты ад землеўпарадкаваньня. Далей, капіталізацыя гэтай рэнты дае прырост цаны зямлі, а параўнаньне рэнты з выдаткамі на землеўпарадкаваньне дае % на землеўпарадкаваўчы капітал. Такім чынам, дзякуючы наяўнасьці ў эканамічных катэгорыях (у тым ліку і рэнты) натуральна-тэхнічных момантаў,—вельмі лёгка адбываецца пераход ад чыстай тэхнікі (зьмяншэньне адлегласьцяй) да эканомікі.

Карыстаньне рэнтай, як звычайнай меркай, якая ўжываецца для параўнаньня адноснай выгаднасьці розных варыянтаў землеўпарадкаваўчых праэктаў,—ня можа па сутнасьці зьявіцца прадметам для спрэчак. Праўда, на нашу асабістую думку было-б лепшым не вульгарызаваць адну з асноўных эканамічных катэгорыяў—рэнту, а разам з тым і не цягаць яе туды, дзе ў ёй няма асаблівай неабходнасьці. Але справа ня

толькі ў гэтым. Дрэнным зьяўляецца тое, што ніхто з аўтараў ня лічыць сваім абавязкам даць тлумачэньне наконт сваёй „эканомікі“, а тым самым усіх іх можна ўпікнуць у хаваньні запраўдных эканамічных праблем землеўпарадкаваньня[1]).

Эфэкт землеўпарадкаваньня, як праблема эканамічная, патрабуе для свайго высьвятленьня чагосьці іншага і большага ў параўнаньні з мысьлёвым, або чакаемым прыростам рэнты. У вучэньні аб эфэкту землеўпарадкаваньня немагчыма абыйсьціся без аналізу характару і напрамку сацыяльнай перагрупіроўкі, без агляду пераразьмяркаваньня сродкаў вытворчасьці, без падліку тых новых сіл, якія дзякуючы землеўпарадкаваньню ўцягваюцца ў працэс с.-г. вытворчасьці і г. д. Усе гэтыя і аналёгічныя ім іншыя пытаньні маюць самыя непасрэдныя адносіны да ацэнкі вынікаў землеўпарадкаваньня. Таму кожны дасьледчык, у меру наяўнасьці ў яго адпаведных матар'ялаў, павінен даць апісаньне і гэтага роду працэсаў.

Але спачатку паглядзім, як зьмянілася вытворчая база і сама вытворчасьць па ўсіх землеўпарадкаваных і дасьледваных намі гаспадарках. Тут мы перш за ўсё бачым значнае пашырэньне землекарыстаньня ад 4642 гэкт. да 6089 гэкт., або рост ад 100 да 153; далей, хоць і меншае, але таксама значнае павялічэньне кошту аснаўных сродкаў вытворчасьці ад 281480 руб. да 346860 руб., або рост ад 100 да 123.

Пашырэньне землекарыстаньня, яго больш рацыянальная тэхнічная арганізацыя, разам з тым узмацненьне аснаўных сродкаў вытворчасьці не маглі заставацца бяз уплыву на зьменшэньні беспрацоўя ў землеўпарадкаваных гаспадарках. Калі сельская гаспад. да землеўпарадкаваньня патрабавала 229568 дзён працы, то пасьля, ня гледзячы на эканомію ў сувязі з набліжэньнем тэрыторыі, яна ўвабрала 268107 працоўных дзён або на 16% больш.

У выніку пералічаных зьмен ачышчаная валавая (народна-гаспадарчая) прадукцыя вырасла ад 260660 руб. да 300680 р., або на 16%.

Такім чынам, пераход на пасёлкі сялянства і яго гаспадараваньне на працягу першых 3—4 год для дзяржавы азначае: а) пашырэньне на 53% плошчы зямлі сельска-гаспадарчага прызначэньня, б) павялічэньне на 23% кошту асноўных сродкаў вытворчасьці, в) зьменшэньне на 16% беспрацоўя і ўрэшце, г) узрастаньне на 16% валавой с.-г. прадукцыі.

За гэты-ж самы пэрыяд (1923-24 і 1926-27) валавая прадукцыя сел. гаспадаркі БССР узрасла ад 220 міл. руб. да 272 міл. руб., што дае павялічэньне на 23%.[2]) Праўда, значна меншы рост мы атрымалі для ад-

[1]) Тое, што зараз зьбіраецца для пабудовы навукі: „Эканоміка землеўпарадкаваньня“ лепш і правільней было-б назваць „Гаспадарчая арганізацыя зямельнай тэрыторыі“.

[2]) Вылічэньне зроблена паводле: „Контрольные цифры народного хозяйства БССР на 1926-27 г.“. З паказаных у табліцы № 6а (стар. 60) велічынь валавой прадукцыі ад сельск. гаспадаркі былі выкінуты: салома, гуменныя рэшткі, прадукцыя сенажацяў і гной.

нага з раёнаў, у якіх праводзіўся наш досьлед (Клімавіцкі); для яго па даных веснавых апытаньняў ЦСКБ і праз ужываньне вызначаных намі каэфіцыентаў, была вылічана валавая прадукцыя сельскае гаспадаркі для 1925 і 1927 г., якая пры параўнаньні дала для апошняга году прырост толькі на 2%.

Вось чаму ня будзе памылкай сьцьвярджаць, што гаспадаркі, якія перайшлі на пасёлкі, ужо праз 3—4 гады ня толькі загаіваюць тыя раны, якія наносіць ім хірургічная апэрацыя-землеўпарадкаваньне, але нават даюць ня менш ад сярэдняга прырост валавой прадукцыі. Тым самым, з пункту гледжаньня народна-гаспадарчай вытворчасьці, цалком апраўдваецца, як само мерапрыемства (землеўпарадкаваньне), гэтак і створаная ім форма (пасёлак).

Але ў сувязі з гэтым можа паўстаць новае пытаньне: у якой меры прырост прадукцыі пакрывае тыя выдаткі, якія нясе насельніцтва пры пераходзе яго на пасёлкі?

Належны падлік усіх выдаткаў, якія зьвязаны з правядзеньнем працэсу землеўпарадкаваньня, пераносам будынкаў і пабудовай калодзежаў даў іх агульную суму роўнай 80916 р. Калі прыняць пад увагу, што прырост валавой прадукцыі, паводле раней пададзеных даных, складае ўсяго 42300 р., то можна было-б зрабіць той вывад, што праз 3—4 г. акупаецца толькі палова выдаткаў. Аднак, гэта, было-б ня зусім правільна, таму што з паказанай сумы выдаткаў—толькі 34397 руб. зьяўляюцца запраўднымі грашовымі выдаткамі, а рэшта сумы складае кошт працы, якая бярэцца з самой гаспадаркі. Вось чаму на нашу думку можна лічыць, што праз тры гады землеўпарадкаваныя на пасёлкі гаспадаркі даюць прырост ачышчанай валавой прадукцыі такі, які цалкам пакрывае ўсе выдаткі, выкліканыя перасяленьнем і абсталяваньнем на новым месцы.

**Вытворчасьць працы**

Наша агульная ацэнка народна-гаспадарчага эфэкту ад пераходу насельніцтва на паеёлкі была-б далёка ня поўнай калі-б не затрымацца на зьменах у вышыні вытворчасьці працы. Мы ў даным выпадку па меркаваньнях чыста тэхнічных зробім ухіленьне ад звычайнага спосабу вызначэньня гэтага паказчыка: мы возьмем яго, як дзель ад дзяленьня ачышчанай валавой прадукцыі на колькасьць дзён працы, якая фактычна скарыстана ў сельскай гаспадарцы. Тады будзем мець: да землеўпарадкаваньня—1 р. 14 к., а пасьля—1 р. 12 к. Іначай кажучы—завязваньне ў гаспадарцы новых 16% працы адбылося без памяншэньня яе вытворчасьці. У гэтым факту зьмяшчаюцца і станоўчыя і адмоўныя бакі. Станоўчыя таму, што землеўпарадкаваныя гаспадаркі, ня гледзячы на іх агульнае аслабленьне, і ў першыя гады пасьля іх пераходу на пасёлкі ня зьніжаюць вытворчасьці сваёй працы. Адмоўныя таму, што і ранейшая і сучасная вытворчасьць працы да балючага нізкая.

Запраўды, якім чынам пры гэткай вытворчасьці працы змаглі-б сялянскія гаспадаркі разьлічыцца за скарыстаную імі працу, калі-б прымусіць іх перайсьці на 8 гадзінны працоўны дзень з аплатай яго ў 1 р. 24 кап.. Між тым, гэткая вышыня заробкавай платы наогул зьяўляецца вельмі нявысокай і яе фактычна атрымоўваюць рабочыя саўгасаў у тыхжа раёнах, дзе знаходзяцца і дасьледаваныя намі пасёлкі.[1]) Калі прыняць пад увагу, што рабочыя саўгасаў у дадатак да гэтай платы забясьпечаны сацыяльным страхаваньнем, культфондам, спэцвопраткай і інш. дробнымі „услугамі“ з боку г-кі, то прымітыўнасьць тэхнічнай базы сялянскіх гаспадарак і зьвязаная з гэтым нізкая вытворчасьць працы стануць відавочнымі.

У сувязі з усім гэтым мы мусім яшчэ раз падкрэсьліць усім вядомую думку аб тым, што запраўдны, магутны ўздым вытворчасьці сялянскіх гаспадарак патрабуе ня толькі належных больш рацыянальных форм арганізацыі зямельнай тэрыторыі (з гэтага боку пасёлкі здавальняюць), а і новай разам з тым тэхнічнай базы ў самым шырокім яе разуменьні. Неабходна ўразумець самім і давесьці пасялкоўцам простую ісьціну, што і пераход на пасёлкі дае *толькі канву*, на якой у вялікай ступені ад іх залежыць, або вышыць ранейшую жабрацкую торбу (у выпадку захоўваньня імі гаспадарчага індывідуалізму), або праз пераход да новай тэхнікі і новага гаспадараваньня пабудаваць сваю моц і дабрабыт. Праблема „перамогі над інэртнасьцю сялянскіх мас“—запраўды зьяўляецца аднэй з кардынальных на шляхох да перабудовы нашай сел. гаспадаркі.

*Мал. 14.* З ліку 100 гаспадарак прыходзілася *на кожную групу* (левы стаўбок „а“, ад правы „пасьля“ землеўпарадкаваньня).




**Сацыяльная перагрупіроўка**

Але-ж паглядзім, як агульны рост вытворчых сіл пры захаваньні ў гаспадарчай дзейнасьці той-жа індывідуалістычнай матывацыі—адбіваецца на працэсу сацыяльна-эканамічнай перагрупіроўкі сялянскіх гаспадарак, у сувязі з іх пераходам на пасёлкі. Адказам можа зьявіцца *дыяграма № 14,* дзе паказана колькі процантаў складала кожная група да і пасьля

[1]) Належныя даныя аб заробкавай плаце саўгасаўскіх рабочых мы атрымалі ад Белсельтрэсту праз Г. А. Жука, якому за уважлівыя адносіны і дасьціпнае выкананьне просьбы—прыношу шчырую таварыскую падзяку.

землеўпарадкаваньня. Бачым як быццам памяншэньне аднэй толькі першай групы і рост за яе лік двух вышэйшых груп. Але калі прыглядзецца да картаграмы бліжэй, то на ёй вельмі лёгка заўважыць, што працэс перагрупіроўкі ў запраўднасьці зьяўляецца значна больш складаным.

Першая група зьменшылася на трэцюю частку гаспадарак, якія перайшлі ад беднякоў у сераднякі. Другая група зьменшылася на адну шостую частку, з якой большасьць гаспадарак перайшла ў „заможнікаў" (III гр.). Адначасова з гэтым сярэдняя група папоўнілася беднякамі і заможнікамі. У групе „заможных" з ранейшых гаспадарак засталося крыху больш паловы, а рэшта гэтай групы складаецца зараз з ранейшых сераднякоў

У выніку гэтых складаных працэсаў толькі 79% гаспадарак засталіся ў сваёй групе, а рэшта пералыжылі або шчасьце пад'ёму, або гора—звальваньня. І гэта на працягу толькі 3-4 гадоў! Цікава пры гэтым[ даведацца, чаго ў часе перасоўваньня было больш сьлёз ці радасьці. Належны падлік дае балянс на карысьць радасьці: 14% гаспадарак падняліся ў вышэйшую групу і толькі 6% зваліліся ў ніжэйшую.

Такім чынам, калі адкінуць невялікі рост групы заможных гаспадарак, то сацыяльнае значэньне праведзенага землеўпарадкаваньня на пасёлкі можа быць характарызавана пераходам блізка 10% сялянства ад стану вясковага паўпралетарыяту да стану сярэдніх гаспадарак. Бясспрэчна, пры затрыманьні пераходу сялянскіх гаспадарак да тварыскага парадку землекарыстаньня, працэс перагрупіроўкі на гэтым яшчэ ня скончыцца і трэба чакаць, што і рэшта бядняцкіх гаспадарак акрэпнуць і паднімуцца да сярэдняга сялянскага ўзроўню—наогул вельмі нізкага.

**Перараэьмеркаваньне сродкаў вытворчасьці і самой вытворчасьці.**

Інтэнсыўнасьць і напрамак працэсу сацыяльнай перагрупіроўкі самым цесным спосабам зьвязан з землеўпарадкаваньнем і ў першую чаргу з перараэьмеркаваньнем зямлі. Уласна кажучы, толькі павялічэньне землекарыстаньня дало мажлівасьць бядняцкім гаспадаркам узмацніць свае сродкі вытворчасьці, пашырыць саму вытворчасьць, а праз тое і другое перайсьці ў вышэйшую групу. Станоўчую ролю пасёлкаў трэба бачыць у тым, што яны не сказілі і не затрымалі гэтага працэсу. У выніку, ужо праз тры-чатыры гады мы маем значна іншы удзел у вытворчасьці розных сацыяльных груп вёскі.

Калі пажадаць абхапіць адным поглядам усе сацыяльныя і эканамічныя зьмены, якія прынёс насельніцтву пераход на пасёлкі, то іх можна падаць у гэткім выглядзе (гл. мал. 15 на стар. 108).

Беднякі, якія складалі да землеўпарадкаваньня 29% з 14% у іх зямлі і 11% сродкаў вытворчасьці закладвалі 18% працы і атрымлівалі 15% усей валавой прадукцыі. З другога боку, у той-жа час—11% заможнікаў мелі 20% зямлі і 28% асноўных сродкаў вытворчасьці, закладвалі 19% працы і атрымлівалі 20% усей валавой прадукцыі.




*Мал. 15.* Доля зямлі, сродкаў вытворчасьці працы і валав. прадукцыі розных груп да і пасьля землеўпарадкаваньня

У адношаньні да бядняцкіх гаспадарак кідаецца ў вочы: а) нізкая забясьпечанасьць сродкамі вытворчасьці пры разьліку іх на адзінку землекарыстаньня (умоўны паказчык=0,8); б) высокая затрата працы, як у параўнаньні з колькасьцю зямлі (паказчык = 1,3), гэтак і ў параўнаньні з сродкамі вытворчасьці (паказчык=1,6), в) нізкая вытворчасьць працы (паказчык= =0,8)[1]).

Для заможных гаспадарак характэрны адваротныя адзнакі: а) высокая забясьпечанасьць сродкамі вытворчасьці (1,4); б) нізкая затратапрацыадносна зямельнай плошчы (0,95) і асабліва адносна сродкаў вытворчасьці (0,7) і в) параўнаўча больш высокая вытворчасьць працы (1,1).

Як бачым бядняцкія гаспадаркі задыхаліся ад малазямельля і недахопу ў іх сродкаў вытворчасьці, а разам з тым шукалі выхаду ў павышанай працаінтэнсыўнасьці, якая пры прымітыўнай тэхніцы і неўпарадкаванасьці зямельнай тэрыторыі ішла пад знакам зьмяншэньня вытворчасьці працы. Землеўпарадкаваньне для гэтай групы зьявілася адзіным ратункам ад далейшай кітаезацыі і жабрацтва. І запраўды, пасьля землеўпарадкаваньня мы бачым зусім іншы малюнак. Бядняцкія гаспадаркі, праз пашырэньне землекарыстаньня і некаторае паляпшэньне сваіх сродкаў вытворчасьці, значна павялічваюць свой удзел у вытворчасьці і што важна, гэта адбываецца з амаль-што нармальнай вышынёй (для сялянскіх гаспадарак) вытворчасьці працы (0,92). З другога боку, група заможных гаспадарак у поўнай адпаведнасьціз памяншэньнем у ёй землекарыстаньня

[1]) Нармальны стан усюды характарызуецца ўмоўным паказчыкам—1,0.

зьніжае і затраты працы і валавую прадукцыю, але захоўвае тую-ж вышыню вытворчасьці працы.

Асаблівай увагі заслугоўвае пытаньне аб пераразьмеркаваньні сродкаў вытворчасьці. Мы бачым, што гэты элемэнт гаспадараваньня, з аднаго боку, найбольш марудна ўзрастае ў бядняцкіх гаспадарках, другога—найбольш устойліва утрымліваецца на ўзмацнёнай вышыні ў заможных гаспадарках. Ня цяжка таксама заўважыць, што розьніца паміж markdown рознымі сац.-экан. групамі сялянства найбольш выразна і яскрава праходзіць як раз па лініі сродкаў вытворчасьці.

З гэтых фактаў трэба зрабіць два галоўных вывады: 1) асноўныя сродкі вытворчасьці і пасьля землеўпарадкаваньня застаюцца зброяй для эксплёатацыі заможнымі групамі сялянства бядняцкіх гаспадарак і 2) неабходна больш шырокая дапамога бядняцкім гаспадаркам пры абсталяваньні іх сродкамі вытворчасьці. Апошняе вымагаецца нават чыста вытворча-эканамічнымі меркаваньнямі дзяржавы ў сувязі з вырашэньнем ёй задачы найбольш поўнага скарыстаньня зямельнай тэрыторыі. Адрэзка зямлі ад груп сялянства, якія ўзброены належнымі асноўнымі сродкамі вытворчасьці, і перадача яе (зямлі) групе слаба забясьпечанай гэтымі сродкамі—можа прайсьці без хранічнага памяншэньня ўсей с.-г. вытворчасьці толькі пры дапамозе бядняцкім гаспадаркам з боку дзяржавы, асабліва па лініі с.-г. інвэнтару.

---

У сваім аналізу эфэкту землеўпарадкаваньня мы прайшлі доўгую дарогу—ад падліку зьмяншэньня шматкутнасьці зямельныхву часткаў ад характарыстыкі сацыяльных і эканамічных зьявішч у сувязі з пераходам насельніцтва на пасёлкі. Амаль што ўсе пададзеныя факты ясна і выразна сьведчылі аб адным і тым-жа: 1) пасёлкі з тэхніка-арганізацыйнага боку даюць усе мажлівасьці для поўнага і інтэнсыўнага скарыстаньня самых далёкіх куткоў іх зямельнай тэрыторыі; 2) пасялковая форма не затрымлівае працэсаў арганізацыйна-гаспадарчай адбудовы і перабудовы сялянскіх гаспадарак; 3) пасёлкі даюць выразны і станоўчы сацыяльна-эканамічны малюнак да савецкай землеўпарадкаваўчай палітыкі, паколькі апошняй у моц неабходнасьці даводзіцца мець справу з падворным і вобшчынным землекарыстаньнем. Таму, у поўнай адпаведнасьці з фактамі, можна сьцвярджаць, што пасёлкі і пасялковая форма запраўды выконваюць (у масе) тую ролю, якая прызначана ім сучаснай аграрнай і народна-гаспадарчай палітыкай.

---



# 7. НЕКАТОРЫЯ АСОБНЫЯ ПРАБЛЕМЫ.

## а) аптымальны разьмер пасёлкаў.

**Пытаньне аб оптымуму ў літаратуры**

Дасьледчык пры пастаноўцы гэтай праблемы пападае прыблізна ў той жа стан, што й пры вывучэньні пытаньня аб эфэкту землеўпарадкаваньня. Перад ім, з аднаго боку, паўстае параўнаўча багатая літаратура на гэту тэму, а з другога—беднасьць статыстыка-эмпірычных матар'ялаў.

Пытаньне аб аптымальных разьмерах было выразна высунута і даволі дасканала распрацована тым-жа самым праф. А. В. Чаянавым. Апошні ў сваёй працы: „Аптымальныя разьмеры землеробскіх гаспадарак" прадбачыць пяць выпадкаў, калі практычна можа паўстаць задача адшуканьня оптымуму. Пры чым, першыя тры выпадкі зьвязаны ў яго з арганізацыяй тэрыторыі буйнога с.-г. прадпрыемства, якое пабудована на найманай працы; чацьверты выпадак—з арганізацыяй с.-г. камун і пяты—з „расьсяленьнем буйных сялянскіх паселішч на рад больш дробных паселішч[1]).

Для свайго тэарэтычнага аналізу праф. Чаянаў бярэ толькі буйную гаспадарку з найманай працай і для гэтай гаспадаркі шукае „клясычны оптымум". Саму праблему ён фармуліруе, як „*праблему адшуканьня гэткіх разьмераў плошчы эксплёатацыі, пры якіх, пры аднолькавых іншых умовах,сабекошт атрымліваемых прадуктаў будзе найменшым*" (падкрэсьлена аўтарам[2]).

Пры адшуканьні мэтаду для вызначэньня оптымўму праф. Чаянаў застанаўліваецца на інтэгральнай пастаноўцы пытаньня, г. зн. бярэ гаспадарку, як суцэльнасьць і аналізуе для яе зьмены ўсіх элемэнтаў вытворчасьці па лініі уплыву іх на сярэдні сабекошт адзінкі прадукту. Выходзячы з таго, што розныя элемэнты сабекошту по match рознаму адказваюць на пашырэньне разьмеру тэрыторыі г-кі,—праф. Чаянаў падзяляе іх на 3 катэгорыі: а) тыя, якія зьмяншаюцца, б) тыя, якія павялічваюцца і в) тыя, якія не залежаць ад велічыні г-кі.

У далейшым праф. Чаянаў аналізуе ўплыў разьмеру гаспадаркі ня кожны асобны элемэнт сабекошту і прадстаўляе гэты ўплыў у выглядзе

[1]) Паказаная праца, стар. 77.
[2]) ibidem стар. 13.

належных крывых. Зьлічэньне ўсіх крывых дае мажлівасьць графічна вызначыць той разьмер гаспадаркі, пры якім найбольш рацыянальна будуць скарыстаны, як элемэнты першай катэгорыі (сілы пашыраючыя), гэтак і элемэнты другой катэгорыі (сілы сьціскаючыя).

Раўнавага тых і другіх сіл для сельскай гаспадаркі розных тыпаў (сыстэм) засноўваецца пры рознай велічыні зямельнай тэрыторыі. Праф. Чаянаў для асноўных сыстэм ральніцтва вызначае наступныя оптымумы (пры высокіх зарабковых платах): а) залежная сыстэма каля 2,000 г; б) трохпалёўка без угнаеньня—каля 900 г.; в) трохпалёўка з угнеееньнем каля 600 г. і г) пладазьменная гаспадарка каля 250 гэкт.

У канцы сваёй працы праф. Чаянаў зазначае, „што разьмеры оптымуму могуць быць намі вызначаны толькі ў самых агульных і шырокіх межах, якія аднак пры ўсей іх шырыні ня губляюць практычнага свайго характару“ і далей: „оптымум можа быць вызначан з вельмі малой мерай дакладнасьці і заўсёды зьявіцца мала ўстойлівым“ [1]).

Другім аўтарам, які прысьвячае праблеме оптымуму спэцыяльную манаграфію, зьяўляецца П. П. Сплюхін[2]). Ён у сваёй працы імкнецца скарыстаць тэорыю і мэтодыку праф. Чаянава толькі не для буйнай г-кі з найманай працай, а ў прыстасаваньні да „нанова арганізуемых пасёлкаў“. Есьць і яшчэ адна асаблівасьць у П. П. Сплюхіна—праблему оптымуму ён распрацоўвае не для ідэальных тыпаў сельскай гаспадаркі, а для рэальнага й канкрэтнага тыпу сельскай г-кі праваўзьбярэжжа Саратаўскай губэрні. Ва ўсім іншым П. П. Сплюхін цалком скарыстоўвае, як ідэю, так і мэтадалёгію праф. Чаянава. Запраўды, у яго мы бачым той жа падзел элемэнтаў г-кі на сілы сьціскаючыя і сілы пашыраючыя з тэй толькі розьніцай, што да апошніх П. П. Сплюхін адносіць: а) сумеснае карыстаньне палепшаным мёртвым інвэнтаром; б) сумеснае карыстаньне агульным пастухом і в) сумесную арганізацыю вадазабясьпечаньня[3]). Гэтым пашыраючым сілам процістаіць тая-ж сьціскаючая сіла—эканомія на ўнутры-гаспадарчым транспарту. Усе далейшыя разьлікі ідуць прыблізна па таму-ж пляну, як і ў праф. Чаянава; а ў выніку параўнаньня розных крывых тым-жа спосабам вызначаецца аптымальны разьмер пасёлкаў, які толькі папраўляецца каэфіцыентам скажэньня канфігурацыі.

Пасьля доўгіх вылічэньняў П. П. Сплюхін для раёну „правільнай трохпалёўкі з інтэнсыўнай апрацоўкай“ і раёну „пераходнай трохпалёўкі з найбольш нізкай тэхнікай апрацоўкі“ вызначае межы хістаньня оптымуму ў выглядзе: ніжэйшая мяжа=100 дз. і вышэйшая=600 дз.; пасьля папраўкі—вышэйшая=400 дз., а ўрэшце ён кажа: „мы лічым найбольш

---

[1]) ibidem, стар. 75—76.
[2]) Меж. инж. П. П. Сплюхин: „Монографии по экономике землеустройства“; Саратов 1928 года.
[3]) ibidem, стар. 5.

праўдападобнай сярэднюю арытмэтычную 250—300 дз.“ [1]). Гэта апошняя лічба оптымуму і прапануецца П. П. Сплюхіным для ўжываньня „у губэрскім маштабу“.

Праф. Ф. Г. Някрасаў у адпаведным разьдзеле свайго курсу выкладае ўвесь час погляды праф. Чаянава і толькі ў канцы заўважвае, што для практыкі зьяўляецца больш важным „адшуканьне оптымуму для сялянскага аб‘яднаньня (пасёлку)“. Аднак, у гэтым месцы праф. Някрасаў ня спыняецца на спосабах азначэньня оптымуму для пасёлкаў, а абмяжоўваецца агульнай устаноўкай, якую формуліруе наступным чынам: „Пункт перацінаньня тых крывых, якія азначаюць напрамак індывідуальн. выгад асобных двароў і напрамак іх агульных інтарэсаў і дае оптымум разьмеру пасёлка“ [3]). Як бачым, ідэя балянсаваньня выгад і нявыгад застаецца ў якасьці прынцыпа і для азначэньня разьмеру тэрыторыі пасёлку.

Крыху іначай да пытаньня „разьмеру землекарыстаньня аднаго паселішча“ падыходзіць М. В. Абадоўскі. Сваю задачу ён ставіць, як адшуканьне максымальнага і мінімальнага разьмеру паселішча. Пры чым „мяжой у бок памяншэньня разьмеру землекарыстаньня паселішч мажліва лічыць гэткую плошчу зямлі, на якой могуць рацыянальна скарыстоўвацца галоўнейшыя с.-г. машыны“, а „мяжа рацыянальнага максымуму землекарыстаньня вызначаецца гэткай далёкасьцю пераездаў і перавозак, пры якой уся гаспадарка ў цэлым робіцца эканамічна нявыгаднай“ [1]), Шляхам тэхнічных падрахункаў вытворчасьці розных машын і тэхнічнага вучоту працы М. В. Абадоўскі для Цьвярской губ. вызначае оптымум у 360 дз. з рацыянальнымі межамі яго хістаньня ад 120 дз. да 720 дз.

**Зводка пададзеных поглядаў і наша ўстаноўка**

Пададзеныя літаратурныя даведкі даюць падставу зрабіць гэткія вывады; 1) аптымальны разьмер тэрыторыі г-кі вызначаецца ў выніку барацьбы сіл сьціскаючых і пашыраючых гэту тэрыторыю. Самі сілы складаюцца па рознаму для розных тыпаў сельскай гасп-кі. Інтэнсыфікацыя гаспадарак у форме „капіталаінтэнсыўнасьці“ (пераважнае павялічэньне асноўных сродкаў вытворчасьці) утварае спрыяючыя ўмовы для праяўленьня сіл пашырэньня, гэта значыць і павялічэньня оптымуму тэрыторыі г-кі, інтэнсыфікацыя, ў форме „працаінтэнсыўнасьці“ выклікае зьявішча адваротнага парадку.

2) Ідэя адшуканьня оптымуму тэрыторыі па прынцыпу найбольш выгаднай камбінацыі ўсіх элемэнтаў сабекошту прадукту (А. В. Чаянаў) зьяўляецца рэальнай *для асобнай гаспадаркі* (у тым ліку і сялянскай), а не для іх комплексу (земграмады), паколькі ў апошнім выпадку на сцэну выступаюць матывы, якія вызначаюцца не наяўнай тэхнікай і арганіза-

[1]) П. П. Сплюхин, ibidem, стар. 5.
[2]] ibidem, стар. 26—32.
[3]) проф. Ф. Г. Некрасов: „Основы землеустройства“, стар. 155—164.
[1]) Агр. М. В. Ободовский: „Хозяйственная сторона землеустройства“ стар. 20—27

цыяй вытворчасьці, а мажлівай і чакаемай у бліжэйшай будучыне. Таму і адшуканьне для сялянскіх г-к оптымуму тэрыторыі па гэтаму канструкцыйна-тэарэтычнаму мэтаду запраўды прыводзіць „да адшуканьня працоўных нормаў" у выглядзе адпаведных па велічыні хутароў.

3) Аптымальныя разьмеры тэрыторыі звычайна вызначаюцца або адцягнена—рацыяналістычным мэтадам (А. В. Чаянаў), або канкрэтна-рацыяналістычным (П. П. Сплюхін і М. В. Абадоўскі). І толькі ў самы апошні момант А. А. Ржаніцыным узьнята пытаньне аб ужываньні эмпірычнага падыходу пры адшуканьні оптымуму. На гэту думку аўтара (які, да слова сказаць, прапрацаваў 35 гадоў па землеўпарадкаваньню) падштурхнуў той факт, што „пры сучасным стане распрацоўкі пытаньня—вызначэньне оптымуму адымае ў землеўпарадкаваццеля так багата часу і разам з тым, пры падліку разнастайных мясцовых умоў, выліваецца ў гэткую складаную форму, што на практыцы амаль што зусім ня ўжываецца"[1]). А. А. Ржаніцын зьвяртае ўвагу на рэальна-існуючыя максымальныя адлегласьці, звыш якіх апрацоўка зямлі робіцца ня выгоднай, чаму і прапануе ўзяць гэтыя адлегласьці за падставу пры вылічэньнях оптымуму тэрыторыі.

4) Усе аўтары даюць надзвычайна шырокія хістаньні паміж ніжэйшай і вышэйшай межамі оптымуму (у П. П. Сплюхіна вышэйшая норма больш ніжэйшай у 4 разы, а у М. В. Абадоўскага у 6 разоў). Для атрыманьня такіх „оптымумаў", на нашу думку, можна лёгка абысьціся без складаных і марудных вылічэньняў (гл. працу П. П. Сплюхіна), а замест іх узяць належны оптымум праф. Чаянава і памножыць толькі яго на адпаведны каэфіцыент землеўпарадкаванасьці, які звычайна атрымліваецца ў данай мясцовасьці. Але аб гэтым далей.

Такім чынам, мы бачым, што ня гледзячы на відочнасьць ажыўленьня каля тэмы аб оптымуму, яна застаецца вельмі мала навукова апрацаванай, асабліва з боку выяўленьня эмпірычнага матар'ялу. Аднак, гэта зусім ня сьведчыць аб тым, што ідэя оптымуму мала рэальна і ня ўжываецца ў практыцы землеўпарадкаваньня (як гэта думае праф. Някрасаў). Мы проста ў даным выпадку не даацэніваем масавы вопыт практыкі жыцьця, якая „на працягу сталецьцяў і тысячалецьцяў дакладнейшым спосабам прыстасоўваецца да фактычна існуючых умоў і фактараў"[2]). Стрыманыя адносіны практыкі да нашых адцягнена-тэарэтычных пабудоў ня трэба разглядаць як адмаўленьне самой ідэі оптымуму: практыка заўсёды жыла і жыве ідэяй оптымуму элемэнтаў вытворчасьці, у тым ліку і велічыні зямельнай тэрыторыі. Трэба зьвяртаць увагу ня так на

[1]) А. А. Ржаницин: „Теория и практика землеустройства" стар. 74—76. Гэту працу А. А.Ржаніцына мы атрымалі толькі ў часе апрацоўкі данага разьдзелу, чаму вельмі шкадуем аб немажлівасьці застанавіцца на некаторых другіх думках гэтага цікавага аўтара.

[2]) Д-р Р. Крицмовский, ibidem, стар. 138.

тое, што практыка ня жыве па нашых прописах, а на тое, што навука мала ведае вопыт практыкі і ў некаторых выпадках вельмі мала ёй запраўды дапамагае.

**Жаданьне насельніцтва і землеўпарадкаваўчая практыка.**

Калі падыходзіць канкрэктна да вызначэньня оптымуму для пасёлкаў БССР, то цікавым зьяўляецца даведацца аб меркаваньнях самога насельніцтва, якое перайшло да гэтай формы. Адказы 409 гаспадарак на пытаньне аб найлепшым і пажаданым разьмеру пасёлкаў разьмяркоўваецца такім спосабам: 38% гаспадарак выказваюцца за пасёлкі да 50 гэкт.; 53% за пасёлкі ад 50 да 100 гэкт.; 7% за 100—150 г. і толькі 2% за пасёлкі больш 150 гэкт. *Як бачым большасьць адказаў падае на пасёлкі ў 50—100 гэкт.* Гэткі малюнак у асноўным захоўваецца і пры разглядзе адказаў асобна для кожнай сац.-экан. групы; адзінае выключэньне складае толькі група заможнага сялянства, якое ў значна большым проценту (70%) выказваецца за пасёлкі ў 50—100 гэкт.

Землеўпарадкаваўчая практыка, даволі добра адбівае гэты запрос жыцьця. Даныя аб усіх пасёлках, якія ўтвораны да 1923 г. па Бабруйшчыне паказваюць, што 22% гэтых пасёлкаў маюць плошчу да 50 гэкт.; 44%—ад 50 да 100 гэкт.; 17%—ад 100 да 150 г. і 17%—звыш 150 гэкт. Падабенства запросу насельніцтва і вынікаў праведзенага землеўпарадкаваньня вельмі добра відаць на дыяграме № 16.




*Мал. 16.* % пасёлкаў для розных разьмераў іх тэрыторыі

Пры аднолькавасьці віду крывой усё-ж лёгка заўважыць, што землеўпарадкаваньне ўтварае пасёлкі крыху большага разьмеру, чым гэта жадае насельніцтва. Таму і модальная велічыня, якая прыпадае на групу пасёлкаў у 50—100 гэкт. рассоўваецца і захоплівае далейшую групу ў 100—150 гэкт. Дзякуючы гэтаму сярэднія разьмеры пасёлкаў па 29 раёнах Бабруйшчыны, Магілеўшчыны і Калінішчыны разьмяркоўваюцца па вылучаных намі групах крыху інакш: ні адзін раён ня мае сярэдняга разьмеру меншага за 50 г.; 13 раёнаў маюць ад 51 да 100 г.; 13 раёнаў ад 101 да 150 г. і толькі 3 раёны—больш 150 г.

Такім чынам, пасёлкі ў 50-150 гэкт. зьяўляюцца найбольш пашыранымі ў дасьледаваных намі раёнах, а разам з тым і найбольш пажаданымі з пункту гледжаньня самога насельніцтва. Тым самым паказаныя лічбы (50 і 150) можна да пэўнай ступені і лічыць за ніжэйшую і вышэйшую межы оптымуму. А найбольш мажліваю велічынёй оптымуму

можна прызнаць звычайную сярэднюю арытмэтычную з гэтых 2-х лічбаў: $\frac{50 + 150}{2} = 100$ гэкт. Але зьвернемся да новых фактаў.

**Вызначэньне вышэйшай мяжы оптымуму**

Сыстэма ральніцтва ў сялянскіх гаспадарках у дасьледаваных раёнах характарызуецца наяўнасьцю чатырох асноўных культур: зім. жыта, бульбы, ячменю і грэчкі. Пры чым на бульбу прыпадае ад 12—13% засеўнай плошчы (Калінішчына) да 17—19% (Бабруйшчына). У валавой прадукцыі ральніцтва удзельная вага бульбы яшчэ больш значная: ад 24-32% (Калінішчына) да 28—37% (Бабруйшчына). Адна шостая засеўнай плошчы пад бульбай і адна трэцяя валавой прадукцыі ральніцтва ад бульбы—факты з якімі ня можна ня лічыцца пры рацыянальнай арганізацыі тэрыторыі, асабліва калі справа ідзе аб сялянскім землекарыстаньні.

Як відаць—агрыкультурна-тэхнічныя вымаганьні ральніцтва пры гэткіх умовах можа здаволіць толькі тая арганізацыя зямельнай тэрыторыі, пры якой самыя далёкія пункты гэтай тэрыторыі могуць быць уключаны ў агульны севазварот пладазьменнага тыпу. Паколькі адным з атрыбутаў пладазьмену зьяўляецца значны засеў асыпных культур і паколькі ва ўмовах нашага ральніцтва гэткай культурай зьяўляецца бульба, пастолькі пададзенае запатрабаваньне да арганізацыі тэрыторыі можна канкрэтызаваць, як адшуканьне адлегласьці, за межамі якой *засеў бульбы робіцца не рацыянальным.*

У агульным сваім выглядзе прынцып адшуканьня оптымуму праз папярэдняе вызначэньне найбольшых, але яшчэ рацыянальных адлегласьцяй не зьяўляецца новым Аб ім паміж іншым, вельмі ясна выказваецца ў сваёй апошняй працы А. А. Ржаніцын, які для эмпірычнага способу вызначэньня оптымуму высоўвае тры палажэньні і сярод іх першае і асноўнае: „Для кожнага раёну ў павеце (або акрузе) сумеснай працай аграномаў і эканамістаў вызначаецца максымальная адлегласьць зямлі ад сядзібы землекарыстальніка, далей якой апрацоўка зямлі лічыцца гаспадарча немэтазгоднай"[1]). У гэтым палажэньні разам з яснай фармуліроўкай самаго прынцыпу максымальнай адлегласьці даецца і крытэры для практычнага яго ўжываньня. Аднак, апошняе ня зусім так: сказ „далей якой апрацоўка зямлі лічыцца гаспадарча немэтазгоднай"—ня можна лічыць за акрэсьлены і выразны адказ, таму што пэўны па сваёй адлегласьці кавалак зямельнай тэрыторыі пры адным спосабе яго эксплёатацыі будзе мэтазгодна скарыстоўваць, пры другім—менш мэтазгодна і толькі пры нейкіх канкрэтных спосабах ужо ня будзе карысным яго эксплёатаваць.

А. А. Ржаніцын спрабуе канкрэтызаваць свой крытэры. Ён зьвяр-

[1]) А. А. Ржаницин, ibidem, стар. 78. Ня шкодзіць адзначыць, што праца па вылічэньню оптымуму намі была цалком скончана да атрыманьня падручніка А.А. Ржаніцына.

тае ўвагу на эмпірычны факт—максымальную адлегласьць, на якую сяляне вывозяць гной. „Межы землекарыстаньня пасёлку павінны праводзіцца на адлегласьці ад паселішча з гэткім разьлікам, каб землі (ральля), якія апрацоўваюцца, не разьмяшчаліся-б ад паселішча далей гэтай адлегласьці“ [2]). Але за гэтай адзнакай і сам аўтар не прызнае адзінага і канчатковага крытэрыя, паколькі максымальная адлегласьць вывазкі гною „у большасьці выпадкаў зьяўляецца вынікам іншых прычын“. Вось чаму трэба згадзіцца з тым, што А.А. Ржаніцын высунуўшы правільны прынцып усё-ж ня даў яснай устаноўкі для практычнага яго ужываньня.

Мы асабіста выходзілі з палажэньня, што кожны тып (сыстэма) ральніцтва мае такую важную і разам з тым прагрэсыўную рысу, якая можа быць узята як крытэры гаспадарчай мэтазгоднасьці пры вызначэньні найбольшай адлегласьці зямель ад сядзібы. Такім крытэрыем для нашай сельскай гаспадаркі мы ўзялі—выгоднасьць кульцівіраваньня на найбольш далёкіх землях бульбы.

Пасьля гэтага неабходнага ўхіленьня зьвернемся да агляду матар'ялаў. Падворкі, якія ўлічвалі максымальныя адлегласьці засеву ўсіх культур, сьведчаць, што да землеўпарадкаваньня толькі 25% гаспадарак мелі засевы бульбы звыш 1,5 кілём.; рэшта 75%, як правіла, ня сеялі бульбы далей 1,5 кіл. За праверкай гэтага факту мы зьвярнуліся да больш дакладных бюджэтных матар'ялаў і атрымалі надзвычайна выразны і цікавы адказ. З 89 палосак, якія заняты *пад бульбу*, знаходзяцца на адлегласьці:

| | да 0,5 кіл. | 0,6—1,5 кіл. | 1,5—2,5 кіл. | зв. 2,5 к. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| абсалют. | 46 | 43 | 0 | 0 | 89 |
| у %% | 52 | 48 | 0 | 0 | 100 |

Каб зрабіць гэтыя лічбы больш яскравымі і пераканаўчымі, неабходна падаць даныя аб разьмеркаваньні (па адлегласьці) палосак двух другіх аснаўных культур. Для жыта і аўса будзем адпаведна мець:

| | Зім. жыта | | | | | Авёс | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | да 0,5 | 0,6—1,5 | 1,6—2,5 | зв. 2,5 | Усяго | да 0,5 к. | 0,6—1,5 | 1,6—2,5 | б. 2,5 | Усяго |
| абс. | 45 | 65 | 20 | 0 | 130 | 32 | 57 | 7 | 5 | 101 |
| у %% | 35 | 50 | 15 | 0 | 100 | 32 | 56 | 7 | 5 | 100 |

Цяпер усё ясна: у той час, як другія больш экстэнсыўныя культуры адыходзяць ад сядзібы на 2,5 кіл. і нават больш (авёс, грэчка),—бульба за межы 1,5 кілём. ня выходзіць. Але гэта покуль што толькі голы эмпірычны факт, пасьля канстатаваньня якога паўстае новая задача знайсьці арганізацыйна-вытворчыя падставы наяўнасьці самога факту.

[2]) ibidem, стар. 75.

З пункту гледжаньня абстрактнага і тэарэтычнага апошняя задача зьяўляецца звычайнай і для яе разьвязаньня даволі: па кожнаму кавалку, якія знаходзяцца на рознай адлегласьці ад сядзібы, знайсьці суму прыбыткаў і суму выдаткаў; на падставе гэтых даных у залежнасьці ад зьмены адлегласьцяй намаляваць для таго і другога крывыя і ў выніку атрымаць пункт перацінаньня гэтых крывых, які ўрэшце і дасьць сабой максымальную, рацыянальную адлегласьць.

Горш выглядае справа, калі ад агульных разважаньняў перайсьці да рэальнай і канкрэтнай пастаноўкі гэтай задачы. Тут мы павінны перш за ўсё ўлічваць той факт, што эксплёатацыя асобных кавалкаў ральлі не зьяўляецца ізаляванай і самастойнай, а адбываецца, як адна з дэталяй усяго цэльнага гаспадарчага працэсу. Таму, разам з непасрэднымі відочнымі выдаткамі і прыбыткамі на той або іншы кавалак, прысутнічаюць яшчэ і ўкосныя—захаваныя выгоды і нявыгоды, якія эвязаны з эксплёатацыяй гэтага кавалку. Выяўленьне апошняга роду велічынь і іх балянсаваньне зьяўляецца справай мала-рэальнай і як правіла дасьледчыкам зусім ня ўлічваецца. Тым самым звычайны вучот прыбыткаў і выдаткаў па асобных кавалках зьяўляецца да пэўнай меры штучным, а вынік іх балянсаваньня не адбівае рэальнай параўнаўчай выгоды, якая атрымліваецца гаспадаркай ад кожнага кавалку. Вось чаму і вызначаны вышэй крытэры трэба разглядаць, як вельмі прыблізны і ўмоўны.

Само вылічэньне кошту выдаткаў і прыбытку для асобных палосак вялося шляхам запаўненьня і апрацоўкі „папалосных картак" (гл. узор на стар. 70). Частка граф гэтай карткі запаўняліся непасрэдна з бюджэтна-агранамічнага блянку, а частка з адпаведных рахунковых аналізаў. Склад debeta і credita ясна відаць з самой карткі; трэба толькі дадаць, што праца людзей, для ўсіх палосак гнязда расцэнена па вышыні заробковай платы рабочых саўгасаў (Калінінщчына—1 р. 21 к. і Бабруйшчына—1 р. 23 к.), а праца коняй—па вышыні заробку ў промыслах. У выніку апрацоўкі картак для кожнай культуры і кавалку была падлічана вышыня прыбытку на 100 руб. выдаткаў. Атрыманыя адносныя велічыні і зьявіліся паказчыкамі выгаднасьці апрацоўкі зямлі пад розныя культуры і пры розных адлегласьцях.

Каб атрымаць больш дакладны адказ неабходна было па магчымасьці ізалявацца ад некаторых аснаўных фактараў, якія апрача адлегласьці уплываюць на прыбыткоўнасьць кавалку. Для гэтага мы ўзялі кавалкі толькі II гр. сялянства (аднолькавасьць тэхнікі), з іх узялі толькі тыя, якія маюць аднолькавую глебу і рэльеф; і ўрэшце ізалявалі уплыў велічыні кавалку, г. зн. узялі толькі тыя з іх, якія маюць плошчу ня менш 0,20 гэкт. (меншая плошча выклікае пераезды ў часе працы).

Пасьля праведзенага адбору карткі былі згрупаваны па асобных культурах, а затым у межах кожнай з іх—па розьніцы ў адлегласьцях.

Далейшая праца зьяўлялася звычайнай і зводзілася да вылічэньня для кожнай групы (па адлегласьці) сярэдняй вышыні прыбыткоўнасьці на 100 р. выдаткаў.

У выніку ўсёй доўгай і крапатлівай працы мы атрымалі вельмі маленькую і скромную дыяграму, на якой паказана зьмяншэньне прыбыткоўнасьці жыта, бульбы і аўса пры павялічэньні адлегласьці да месца іх засеву. (гл. дыягр. №17).

*Мал. 17.* Прыбыткоўнасьць на 100 р. выдаткаў пры розных адлегласьцях




Бачым перш за ўсё значнае падабенства ў руху крывых абедзьвюх збожжавых культур, якія амаль што ад самой сядзібы не аплачваюць тых выдаткаў, якія на іх кладуцца. Цікава пры гэтым таксама зазначыць, што рух абедзьвюх крывых наогул ідзе вельмі плаўка, а ў некаторых выпадках зусім паралельна восі абсцыс (жыта ад 0,5 да 2,0 кілём.).

Зусім іншае мы бачым у руху крывой прыбыткоўнасьці бульбы, якая пачынаецца з высокай лічбы ў 159 і стромка з 3 пунктамі перагіну (0,25; 0,75 і1,25кіл.) звальваецца ўніз каля адлегласьці ў 1,5 клм. Пры велічыні ў 1,5 кілём. на 100 р. выдаткаў прыпадае 101 р. прыбытку, або іначай кажучы тое і другое даюць пры балянсаваньні нуль.

Такім чынам, мы атрымалі больш чым выразны адказ—*паўтара кілёмэтра да далейшага месца засеву бульбы зьяўляецца ня звычайным і выпадковым эмпірычным фактам, а фактам, які дакладна абаперты на арганізацыйна-гаспадарчыя падставы вытворчай прыроды сялянскіх гаспадарак.*

Каб давесьці, што рух крывых, якія дадзены на дыяграме № 17, запраўды зьвязан з павялічэньнем адлегласьцяй, неабходна дадаць яшчэ, і зьвесткі аб узрастаньні долі выдаткаў на пераходы і пераезды. Для адказу мы сарысталі даные паданых вышэй папалосных картак (стар. 70) і знайшлі, што апошнія складаюць да ўсіх выдаткаў на працу такі процант (пасьля выраўніваньня радоў):

| | да 0,25 кіл. | 0,26—0,50 | 0,51—0,75 | 0,76—1,0 | 1,1—1,25 | б. 0,25 к. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| бульба . | 4% | 5% | 6% | 9% | 12% | 15% |
| жыта . | 8% | 7% | 6% | 6% | 6% | 7% |

Неаднолькавасьць зьмены даных у тым і другім раду—відавочна. У той час, калі процант выдаткаў на пераходы і пераезды для бульбы няўхільна і больш менш роўнамерна ўзрастае, той-жа процант для жыта да 1,25 кіл. трымаецца блізка, што на аднэй вышыні.

Павялічэньне выдаткаў на пераходы і пераезды зьніжае адносную (да выдаткаў) прыбыткоўнасьць больш далёкіх кавалкаў. Гэта мы і бачым пры параўнаньні крывой для бульбы (дыягр. № 17) з адпаведнымі данымі раду. З другога боку, стабільнасьці (у %%) выдаткаў на пераходы і пераезды для жыта вельмі добра адпавядае устойлівасьць у руху крывой яго прыбыткоўнасьці. Паколькі і тая і другая група фактаў ня супярэчаць, а падмацоўваюць адна другую, пастолькі іх трэба лічыць за пэўныя і надзейныя.

Іначай кажучы, ва ўмовах сучаснай тэхнікі ральніцтва 1,5 кілёметра запраўды зьяўляецца той максымальнай адлегласьцю, за межамі якой культура бульбы робіцца не рацыянальнай. Трэба дзівіцца таму, як дакладна гэты факт адбіваецца самім жыцьцём. Якімі сьмешнымі мы часамі выглядаем у навуцы, калі трэціруем эмпірычны вопыт і голас практыкі.

Пасьля таго, калі вызначана намі максымальная рацыянальныя адлегласьць, вельмі лёгка вылічыць і вышэйшую мяжу оптымуму зямельн. тэрыторыі пасёлку. Для гэтага перш за ўсё уявім сабе ідэальныя ўмовы землекарыстаньня, г. знач. вучастак у выглядзе квадрату з сядзібамі ў пункце перацінаньня дыяганалаў. Відавочна, што пры гэтым найбольш далёкімі пунктамі ад сядзібы будуць куты квадрату. Калі прыняць найбольшую адлегласьць да гэтых кутоў у 1,5 кілём., то ў выніку атрымаем квадрат з даўжынёй дыяганалаў у 3 кілём. Плошча такога квадрату будзе: $P = \frac{d \cdot d}{2} = \frac{3 \times 3}{2} =$ 4,5 кв. кілём., *або 450 гэкт.* Атрыманая велічыня і зьяўляецца вышэйшай мяжой оптымуму пры ідэальных умовах арганізацыі зямельнай тэрыторыі. Ня шкодзіць напомніць, што праф. Чаянаў „клясычны“ оптымум у 400—500 дз. дае для пладазьменнай г-кі пры наяўнасьці ў раёне нізкай зарабковай платы. У сувязі з гэтым мы маглі-б сказаць, што тэрыторыя ў 450 г. пры ідэальнай яе арганізацыі забясьпечвае разьвіцьцё пладазьменнай г-кі.

Аднак, у запраўднасьці вельмі цяжка дасягнуць ідэальнай землеўпарадкаванасьці. Звычайна фігура землекарыстаньня вельмі мала нагадвае квадрат, а сядзібы разьмяшчаюцца далёка ня ў цэнтры вучастку. Таму наяўнасьць кавалкаў з адлегласьцю большай за 1,5 кіл. у жыцьці мае месца пры значна меншых разьмерах пасёлкаў. Вось чаму каб наб-



лізіцца да запраўднасьці мы мусім у пададзены ідэальны разьмер (450 г.) увесьці папраўку на велічыню каэфіцыенту канфігурацыі і гаспадарчай абкругленасьці зямель, якія ў сярэднім атрымліваюцца пры землеўпарадкаваньні пасёлкаў у нашых натуральна-гістарычных умовах (рэльеф, разьмеркаваньне зямлі па ўжытках, вадазабясьпека. глебы і г. д.).

Паколькі раней была заўважана сувязь паміж пагаршэньнем каэфіцыенту гаспадарчай абкругленасьці і павялічэньнем разьмеру пасёлкаў, пастолькі гэты каэфіцыент мы возьмем толькі па пасёлках больших за 100 гэкт. Пры гэткай умове належныя вылічэньні даюць сярэдні каэфіцыент абгругленасьці=1,47, а для тых-жа пасёлкаў каэф. канфігурацыі =1,20. Ступень землеўпарадкаванасьці можна прыблізна вызначыць праз множаньне першага каэфіцыенту на другі (1,47 × 1,20); тады будзем мець сумарнае іх выяўленьне = 1.76[1]).

Цяпер застаецца толькі ўжыць гэту папраўку. Для чаго даволі вызначаную намі для ідэальных умоў велічыню тэрыторыі ў 450 гэктарау падзяліць на атрыманы сумарны каэфіцыент (450 : 1,76), што дасьць 257 гэкт., або абкругляючы—250 гэкт.

*Такім чынам, вышэйшай мяжой оптымуму рэальна трэба прызнаць пасёлак у 250 гэкт., або пасёлак прыблізна ў 25 двароў.* Утварэньне пасёлкаў звыш гэтага разьмеру не гарантуе таго набліжэньня ўсёй зямлі да сядзібы, якое вымагаецца вышынёй інтэнсыўнасьці нашага тыпу сельскай г-кі.

**Вызначэньне ніжэйшай мяжы оптымуму**

Цяпер паспробуем азначыць ніжэйшую мяжу оптымуму зямельнай тэрыторыі пасёлку. Гэта мяжа, як відаць, павінна знаходзіцца ў самай цеснай залежнасьці ад магчымасьці кожнаму пасялкоўцу карыстацца на каапэрацыйных правах аснаўнымі с.-г. машынамі: сеялкай, касілкай, жаткай, малатарняй, арфай і сартыроўкай. Зразумела, што толькі той пасёлак, які дасьць належную колькасьць працы гэтым машынам, зможа забясьпечыць іх пранікненьне ў сельскую гаспадарку, і толькі такі пасёлак павінен лічыцца рацыянальным па аб'ёму ў ім с.-г. вытворчасьці (у тым ліку і аднаго з яго элемэнтаў—зямлі).

Адным словам, задача адшуканьня ніжэйшай мяжы зводзіцца ў першую чаргу да вызначэньня тых мінімальных разьмераў плошчы, пры якіх робіцца мэтазгоднай замена працы рукамі—працай пералічаных вышэй машын. Вырашэньне гэтага папярэдняга пытаньня значна палягчаецца дзякуючы наяўнасьці ў літаратуры працы Ів. Лапаціна,[2]) які вельмі падрабязна і дакладна прааналізаваў, як дзённую і сэзонную вытворчасьць розных с.-г. машын, гэтак і вызначыў мінімальныя разьмеры г-кі,

[1]) Іншых папраўак мы уводзіць ня будзем дзякуючы іх меншаму гаспадарчаму значэньню.

[2]) „Труды Высшего Семинария С.-Х. Экономии и политики при П. С.-Х. А.“ вып. 7, стр. 119—152.

пры якіх рацыянальна завадзіць у гаспадарцы тую або іншую машыну.

Мы дазволім сабе без усялякіх камэнтарыяў падаць канчатковыя вывады Ів. Лапаціна. Апошні дае гэткія плошчы: для розных сеялак—27—30 гэкт. збожжавай плошчы; для сенакасілкі—22—55 гэкт. сенажацяў; для жатак—20 гэкт. засеву збожжавых; для конных малатарняў—25—30 гэкт. збожжавай плошчы і ў рэшце для арфы—16—27 г., а для сартоўкі—11 гэкт. засеву збожжавых. Агляд гэтых даных паказвае, што найменшая рацыянальная тэрыторыя пасёлку павінна мець каля 30 гэкт. засеву збожжавых культур і каля 25 гэкт. розных сенажацяў.

Пасьля гэтага вельмі лёгка адшукаць і велічыню самога пасёлку. Збожжавыя па дасьледваных намі пасёлках складаюць каля 75% ад усяго засеўнага пляцу, што для 30 г. збожжавых дае ўвесь пляц засеву роўным 40 гэктарам. Да гэтай плошчы трэба дадаць яшчэ плошчу пад парам у 8 гэктараў (20% ад засеву) і тады будем мець усю плошчу ральлі=48 гэкт. Далей, да плошчы ральлі дадаем сенажатную плошчу ў 25 гэкт. і атрымліваем 73 гэкт., да якіх застаецца толькі далучыць належную колькасьць іншых ужыткаў (сад, гарод, выпас, няўдобіца). Усе пералічаныя іншыя ўжыткі складаюць 20% ад ральлі, або 8 гэкт. і ўрэшце для ніжэйшай мяжы оптымуму тэрыторыі пасёлкаў мы маем: 73+8=81 гэктар, або абкругліўшы — 80 гэкт. [1]). *Ніжэйшай мяжой оптымуму трэба лічыць пасёлак у 80 гэкт.*, пасёлкі меншыя ад гэтага разьмеру зьяўляюцца ня зусім адпавядаючымі задачы больш поўнай машынізацыі сельскай г-кі [2])

**Оптымум для пасёлкаў асобных краін і яго праверка.**

*Такім чынам мы устанавілі, што для умоў Магілеўшчыны рацыянальнымі па разьмеру тэрыторыі зьяўляюцца ўсе пасёлкі, якія знаходзяцца ў межах ад 80 да 250 гэкт.* Зразумела, гэтыя межы (асабліва вышэйшая) будуць выглядаць крыху інакшымі для рэшты краін БССР.

Вось чаму ў даным месцы паўстае задача пашырыць і дыфэрэнцыраваць здабыткі нашага папярэдняга аналізу. Гэта можна зрабіць праз скарыстаньне масавых даных Кіраўмеліазема Н. К. З. Б. На падставе зьвестак аб землеўпарадкаванай пад пасёлкі плошчы (блізка паўміліёна гэкт., і аб ліку саміх пасёлкаў (каля 4.000) лёгка атрымаць для кожнай краіны сярэднюю за 5 гадоў велічыню пасёлкаў. Розьніца паміж гэтымі

[1]) М. Е. Кавалёў у цытаванай раней працы (ibid, ст. — 195 — 196) разглядае пытаньне аб выгаднасьці карыстаньня вадой пры хутарской і пасялковай форме землекарыстаньня і прыходзіць да вываду, што „пры глыбіні калодзежу да 21 мэтр. найбольш рацыянальна стварэньне пасёлкаў у 6 двароў". Аўтар у даным выпадку ня зусім дакладна сфармуляваў сваю думку, якая па сутнасьці кажа не аб найлепшым разьмеры пасёлкаў, а аб аптымальнай колькасьці двароў на адзін калодзеж, якіх можа быць і вельмі многа ў пасёлку. Але бясспрэчна адно, што пры 6 дварох (пасёлак прыблізна ў 60 гэкт.) можна мець калодзеж у 20 мэтр. глыбіні. Калі прыняць пад увагу тое, што глыбіня ў 20 мэтр. зьяўляецца для Б. С. С. Р. параўнаўча рэдкім зьявішчам, то можна быць зусім спакойным за пастаноўку вадазабясьпекі ў пасёлках у 80 гэкт.

[2]) Ср. М. В. Ободовский (ibid, стар. 23 і 24); П. П. Сплюхин (ibid стар. 19—22)

сярэднімі асобных краін адбівае, на нашу думку, асаблівасьці іх тыпу сельскай гаспадаркі і самабытнасьць арэаграфічных умоў. Калі пры гэткай умове прыняць разьмер пасёлкаў Магілеўшчыны за 100, то можна вельмі лёгка для ўсіх іншых краін знайсьці належны каэфіцыент для папраўкі пададзеных вышэй межаў оптымуму.

Мы пайшлі гэтым шляхам і атрымалі для асобных краін такія межы:

1. Меншчына . . . 75—230 гэкт.
2. Палесьсе . . . . 65—205 „
3. Віцебшчына . . 45—130 „
4. Магілеўшчына . . 80—250 гэкт.
5. Гомельшчына . . 90—280 „

Б. С. С. Р. сярэдн 70—220 „

Значнае адхіленьне ад сярэдніх па Б. С. С. Р. бачым толькі ў адносіне даных для Віцебшчыны. Для яе, як відаць, трэба прызнаць за мажлівае і рацыянальнае утварэньне пасёлкаў у 5—12 двароў.

Вызначэньнем вышэйшых і ніжэйшых межаў — фактычна вычэрпываецца ўся праблема оптымуму. Сярэдняя велічыня оптымуму зьяўляецца менш важнай з практычнага пункту гледжаньня і не прадстаўляецца цікавай для навукі. Практычнае значэньне сярэдняй велічыні оптымуму— чыста арыентыровачнае. Кожны землеўпарадкаваўчы праэкт павінен імкнуцца да ўтварэньня пасёлкаў блізкіх да сярэдняй оптымуму, таму што пры ёй, з аднаго боку, утвараюцца больш шырокія перспэктывы ў адношаньні машынізацыі (параўнаўча з найменшай велічынёй оптымуму), а з другога—ня так моцна будуць адчувацца адмоўнасьці павялічэньня ўнтрыгаспадарчага транспарту (параўнаўча з вышэйшай велічынёй оптымуму).

Але зразумела, што ў запраўднасьці пад уплывам цэлага шэрагу умоў бывае вельмі цяжка зьдзейсьнічаць нашы ідэальныя меркаваньні. Паўстае неабходнасьць ад іх адхіліцца на карысьць набліжэньня да рэальнасьці. І вось тут трэба мець зусім выразныя межы, пераход за якія сьведчыць аб пераходзе да новай якасьці. Таму мы яшчэ раз падкрэсьліваем дапушчальнасьць даволі мяккіх адносін да сярэдняй оптымуму і з асаблівай настойлівасьцю прапануем самыя жорсткія адносіны да захаваньня вышэйшай і ніжэйшай мяжы яго. Без яснай і пераконваўчай неабходнасьці ня трэба спушчацца ніжэй і паднімацца вышэй вызначаных крайніх разьмераў.

Цяпер, калі ахарактарызавана месца і значэньне сярэдняй оптымуму, можна даць яе лічбовае азначэньне. Для гэтага скарыстаем самы звычайны і кароткі шлях: сярэднюю оптымуму возьмем, як звычайнае сярэдняе арытмэтычнае з велічынь вышэйшай і ніжэйшай яго межаў. Тады для асобных краін будзем мець гэткія найбольш пажаданыя разьмеры пасёлкаў: Меншчына—150 гэкт., Палесьсе—135 гэкт., Віцебшчына — 90 гэкт., Магілеўшчына — 160 гэкт. і Гомельчына — 180 гэкт. Уважаючы арыентыровачнае значэньне гэтых сярэдніх—трэба спосаб ужыты для іх атрыманьня, прызнаць здавальняючым.

Наш аналіз оптымуму быў-бы няскончаным, калі-б мы не праверылі атрыманых вывадаў. Зробім гэта ў максымальна сьціслай форме. Перш за ўсё скарыстаем факты, якія былі канстатаваны пры разглядзе эфэкту землеўпарадкаваньня. Там мы знайшлі, што найлепшыя каэфіцыенты канфігурацыі і шматпалосіцы прыпадаюць на пасёлкі разьмерам у 75—100 гэкт. (мал. № 8 і № 10), а найлепшыя каэфіцыенты шматкутнасьці і гаспадарчай абкругленасьці на 100—150 гэкт. (мал. № 7 і № 9). Далей, там жа было заўважана, што на пасёлкі ў 75—100 гэкт. прыпадае найбольш шпаркае ўзрастаньне інтэнсыўнасьці (мал. № 13), а на пасёлкі ў 100—150 гэкт.—найбольш шпаркае аднаўленьне сродкаў вытворчасьці па лініі жывога інвэнтару. І ўрэшце было адзначана, што пасьля разьмеру ў 150—200 гэкт. пачынаецца найбольш хуткі прырост сярэдняй адлегласьці палёў да гаспадарчага асяродку.

Да гэтых усіх фактаў ня шкодзіць дадаць яшчэ адзін — прырост валавой прадукцыі ў залежнасьці ад разьмеру пасёлкаў. Дзякуючы важнасьці гэтага паказчыка мы падыйшлі да яго дваяка. З аднаго боку, узялі ўсе літаральна пасёлкі, і згрупаваўшы іх належным чынам, атрымалі агульнае ўзрастаньне прадукцыі (незалежна ад сац.-эканам. груп) для кожнай па разьмеру групы пасёлкаў. У гэтым выпадку мы атрымалі такія %% узрастаньня валавой прадукцыі (да землеўпарадкаваньня = 100) [1]).

| 50—75 г. | 76—100 | 101—150 | 151—200 | б. 200. |
|---|---|---|---|---|
| 123 % | 117% | 124% | 130% | 100%. |

Хаця паданы рад і не зьяўляецца вельмі стройным, але ўсё-ж і на ім лёгка заўважыць, што разьмер у 151—200 гэкт. зьяўляецца пераломным; пасьля яго ўзрастаньне прадукцыі спыняецца. Атрымаўшы такія вынікі мы падышлі да гэтага-ж пытаньня з другога боку: узялі ня ўсе пасёлкі, а толькі тыя, якія ў свой час былі вылучаны намі шляхам ізаляцыі ад уплыву якасьці зямлі, каэфіц. гаспадарчай абкругленасьці і каардынацыі ўжыткаў, а ў саміх пасёлках узялі толькі II сац. групу [2]). Належны падлік даў такі прырост ачышчанай валавой прадукцыі на 1 гаспадарку: у пасёлках 50—75 г.—40 р.; у пасёлках 76—100 гэкт.— 37 р. і ў пасёлках 101—150 гэкт.—76 руб. (даныя па двух другіх групах пасёлкаў не падаюцца дзякуючы малой колькасьці пасёлкаў у групе). Гэты, другі рад зьяўляецца вельмі кароткім і прыводзіцца ў якасьці дадатаку да першага раду, паколькі яго даныя не супярэчаць даным апошняга.

Такім чынам, ні адзін з фактаў, якія атрыманы пры аналізе тэхніка-арганізацыйнага і гаспадарча-эканамічнага эфэкту землеўпарадка-

---

[1]) Пасёлкі да 50 гэкт., як вельмі далёка адышоўшыя ад ніжэйшай мяжы оптымуму намі ня ўзяты.

[2]) гл. разьдзел 6, стар. 95 і 96

ваньня,—не супярэчыць нашым вывадам аб оптымуме. Усё тэхнічна, гаспадарча і эканамічна-прагрэсыўнае знаходзіць сваё найбольшае выяўленьне ў пасёлках ад 75 да 200 гэкт.

Землеўпарадкаваўчая практыка дае за 1923—24 г. гэткія даныя (для БССР бяз Гомельшчыны): ніжэйшая мяжа оптымуму—каля 40 гэкт., вышэйшая каля—225 гэкт. і сярэднюю велічыню оптымуму—каля 100 г. [1]). Як бачым, у практыцы значнае месца займае арганізацыя пасёлкаў з невялікім разьмерам тэрыторыі. Хаця гэты факт сам па сабе і зьяўляецца добра вядомым, але мы ўсё-ж зьвяртаем на яго ўвагу, а разам з тым яшчэ раз падкрэсьліваем неабходнасьць больш рашучай аховы ніжэйшай мяжы оптымуму. Вышэйшая мяжа амаль што цалкам адпавядае лічбе, якая вызначана намі.

## б) пасёлкі з пераносам і без пераносу сядзіб.

Пры землеўпарадкаваньні на пасёлкі, апрача оптымуму, паўстае цэлы шэраг іншых актуальных пытаньняў. Да іх мы адносім: а) падбор двароў у пасёлак; б) абраньне пад пасёлак таго або другога месца і в) абраньне належнага севазвароту. Паколькі першае пытаньне вельмі цесна зьвязана з трэцім і паколькі гэта апошняе мы вылучылі, як асобную тэму для самастойнай працы—пастолькі ў даным месцы мы застановімся толькі на другім пытаньні. Канкрэтна мы разгледзім тыя станоўчыя і адмоўныя бакі, якія можна заўважыць у пасёлках арганізаваных на месцы старых сядзіб і ў пасёлках арганізаваных на новым месцы. Звычайна літаратура ў гэтым выпадку дае зусім пэўны адказ: маламоцныя гаспадаркі неабходна па мажлівасьці пакідаць на месцы, а серадняцкія і заможныя перасяляць на пэрыфэрыю вучастка. Разважаючы тэарэтычна і абстрактна іншага адказу, бязумоўна і ня можна даць.

Якасьць зямель у залежнасьці ад адлегласьці іх да сядзібы старой вёскі.

Аднак, дазволім сабе на хвіліну зрабіць высунутае пытаньне спрэчным і зьвернемся да фактаў. Перш за ўсё кінецца ў вочы, што ў запраўднасьці само пытаньне зьяўляецца крыху больш складаным. Справа ў тым, што заставаньне на месцы зьвязана з атрыманьнем зямель бліжэйшых да старой вёскі, а перанос сядзіб—з атрыманьнем больш далёкіх зямель. Калі запытацца, ці ёсьць якая-небудзь розьніца паміж тымі і другімі землямі, то вельмі лёгка наперад сказаць, што — ёсьць. Так, калі згрупаваць пасёлкі ў залежнасьці ад адлегласьці іх да сядзібных месц старой вёскі і падлічыць для кожнай групы пасёлкаў сярэдні ўраджай жыта, то ў выніку атрымаем гэткі малюнак:

[1]) Афіцыйныя даныя Кіраўмеліазема НКЗБ.

| | Засталіся на старым месцы | Перасяліліся на адлегласьці: да 1 кілём. | 1,1—2,0 кіл. | 6. 2 кіл. |
|---|---|---|---|---|
| Цэнтнераў на 1 гэкт. . . . . | 10,6 | 10,4 | 9,4 | 6,9 |
| У % (на месцы = 100) . . . | 100 | 98 | 89 | 65 |

Факт пагаршэньня гаспадарчай якасьці зямель пры пасоўваньні на пэрыфэрыю—відавочны [1]). Аднак, каб яшчэ больш перакаяацца ў гэтым мы паспрабавалі праверыць яго і другім спосабам.

У часе апрацоўкі матар'ялаў намі было заўважана, што розныя пасёлкі аднэй і тэй-жа вёскі атрымалі пры землеўпарадкаваньні розную норму зямлі на адну душу (разьвёрстачную адзінку). Паколькі разьвёрстачная адзінка ўжывалася адна і тая-ж для ўсіх двароў і без усякіх выключэньняў, пастолькі заўважаную розьніцу можна было растлумачыць толькі неаднолькавай гаспадарчай каштоўнасьцю розных зямель у старой вёсцы. На падставе гэтых меркаваньняў была падлічана сярэдняя норма зямлі на 1 душу для ўсіх вылучаных груп пасёлкаў. Пры павялічэньні адлегласьці пасёлкаў ад сядзібных месц старой вёскі норма зямлі на душу няўхільна і законаўпарадкавана робіцца ўсё большай і большай: 1,63 гэкт. 1,77, 2,36 і ўрэшце 2,88 гэкт. Каб зрабіць гэты рад больш выгадным для параўнаньня з папярэднімі данымі аб ураджайнасьці, мы паставілі пытаньне наадварот: колькі душ разьмешчана на 100 г. кожнага разраду зямель. Нескладаныя вылічэньні далі:

| | Засталіся на старым месцы | Перасяліліся на адлегласьць: да 1 кіл. | 1,1—2,0 | 6. 2 кіл. |
|---|---|---|---|---|
| душ на 100 гэктараў . . . . | 62 | 57 | 42 | 35 |
| у %% (на месцы = 100) . . . | 100 | 93 | 69 | 57 |

Прагляд даных, з аднаго боку, сьведчыць аб правільнасьці раней зробленага вываду, а з другога, кажа і аб чымсьці новым. Запраўды, калі прыглядзецца да тэмпу памяншэньня колькасьці душ на 100 гэкт., то можна заўважыць, што рад апошніх велічынь зьменьваецца больш рэзка, чым першы (100—57 замест—100—65). У сувязі з гэтым натуральна паўстае думка аб тым, што сялянства пры землеўпарадкаваньні расцэнку зямлі зьвязвае з адлегласьцю, на якую трэба яму будзе перасяліцца з ранейшай сядзібы. Хаця такая думка і зьяўляецца пакуль што слаба абапертай на факты, аднак мы ня ўтрымаліся і паспрабавалі канкрэтна падлічыць тую накідку зямлі, якая няпрыкметна атрымліваецца пасёлкамі „з пераносам сядзіб“. Запраўды, калі-б улічвалася толькі розьніца якасьці зямель, то пасёлкі, арганізаваныя на новым месцы ў сярэднім атрымалі-б на 1 душу — 1,88 гэкт. (пасёлкі без пераносу сядзіб —

[1]) Бязумоўна гэты факт ў значнай ступені зьяўляецца вынікам с.-г. культуры якая, паводле ранейшага, неаднолькава адносіцца да спосабу скарыстаньня бліжэйшых і далейшых зямель.

1,63 гэкт.). Між тым у запраўднасьці яны на душу атрымалі—2,29 гэкт., або на 0,41 гэкт. больш, а гэта на гаспадарку дае прэмію блізка ў 2 гэкт.

Такім чынам, простае жаданьне застацца на месцы старых сядзіб ускладняецца. Паўстае шэраг новых задач, і з іх у першую чаргу—пытаньне аб выгаднасьці застацца пры меншай колькасьці лепшай зямлі, або атрымаць значна большую колькасьць горшай зямлі. Далей, перад гаспадаркай ставіцца і яшчэ адна цяжкая задача — збалянсаваць выгады атрыманьня дадатковых 2 гэкт. зямлі з дадатковымі выдаткамі, патрэбнымі пры перасяленьні на новае месца.

Было-б вельмі цікава абодвы гэтыя пытаньні разгледзіць асобна. Але ўжытыя намі захады па ізаляцыі аднаго зьявішча (розная якасьць зямель) ад другога (выгады і нявыгады пераходу да новай сядзібнай аселасьці) не далі мажлівасьці давесьці ізаляцыю да канца. Таму ў далейшым пры разглядзе тэмпу гаспадарчага разьвіцьця пасёлкаў на месцы і пасёлкаў з пераносам сядзіб — будзе фактычна давацца адказ і на пытаньне аб уплыве на працэс гэтага разьвіцьця зямель рознай якасьці. Аднак гэта ня можна лічыць за вялікую шкоду, таму што жыцьцё часьцей за ўсё і дае такое злучэньне—заставаньне на месцы і лепшыя землі перанос сядзібы і горшыя землі. Далейшы адказ мабыць не дакладна здаволіць нашу навуковую зацікаўленасьць, але затое ён вельмі добра адаб'е рэальнасьць.

**Рост с.-г. вытворчасьці ў пасёлках з пераносам і без пераносу сядзіб.**

Але зьвернемся зноў да фактаў. У мэтах эканоміі месца будзем карыстацца толькі данымі аб пасёлках Калінінщчыны. Землекарыстаньне і сродкі зьмяніліся неаднолькава ў пасёлках, якія засталіся на месцы старых сядзіб і якія перасяліліся на новае месца. Калі стан „да землеўпарадкаваньня" прыняць за 100, то зьмены к часу дасьледваньня будуць характарызавацца гэткімі лічбамі:

| Землекарыстаньне | | | | | | | | Аснаўныя сродкі вытворчасьці | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| На месцы | | | | Перасяліліся | | | | На месцы | | | | Перасяліліся | | | |
| I | II | III | Раз. | I | II | III | Раз. | I | II | III | Раз. | I | II | III | Раз. |
| 142 | 91 | 56 | 98 | 237 | 143 | 115 | 151 | 144 | 92 | 68 | 97 | 198 | 141 | 103 | 136 |

Усе сац.-экан. групы сялянства ў выпадку пераносу сядзіб атрымліваюць у паўтара-два разы больш зямлі. У вялікай адпаведнасьці з гэтым растуць (або зьніжаюцца) і аснаўныя сродкі вытворчасьці. Апошняе асабліва яскрава відаць на II гр., для якой заставаньне на месцы азначае памяншэньне—землекарыстаньня да 91%, а сродкаў вытворчасьці да 92% і, наадварот, пераход на пасёлкі з пераносам сядзібы азначае павя-

лічэньне—землекарыстаньня да 143%, а сродкаў вытворчасьці да 141%. Вельмі падобны малюнак мае месца і ў адношаньні да бядняцкіх гаспадарак з тэй толькі розьніцай, што для гэтай групы заставаньне на месцы азначае не адваротны працэс (зьмяншэньне), а той-жа самы (рост) толькі з менш эфэктыўным пад'ёмам. Калі-б мець на ўвазе інтарэсы заможных пластоў вёскі, то можна было-б сказаць, што для іх адноснае захаваньне ранейшага дабрабыту ляжыць толькі на шляху атрыманьня горшых, больш далёкіх зямель, падвойная норма якіх можа затрымаць катастрафічнае згортваньне ў іх аб'ёму вытворчасьці. Ад вывадаў пакуль што ўстрымаемся, а паглядзім, як павялічэньне зямлі і сродкаў вытворчасьці адбілася на беспрацоўі і ачышчанай валавой прадукцыі.

Зьмены апошніх к часу досьледу можна характэрызаваць наступнымі процантамі расходу працы на сельскую гаспадарку і процантамі ачышчанай валавой прадукцыі ад сельскай гаспадаркі (стан „да землеўпарадкаваньня“ прыняты за 100).

| Праца ў сельскай г-цы | | | | | | | | Ачышчаная вал. прадукцыя | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| На месцы | | | | Перасяліліся | | | | На месцы | | | | Перасяліліся | | | |
| I | II | III | Раз. | I | II | III | Раз. | I | II | III | Раз. | I | II | III | Раз. |
| 121 | 85 | 69 | 93 | 155 | 120 | 102 | 122 | 129 | 90 | 53 | 94 | 164 | 125 | 90 | 123 |

У агульным маем той жа самы малюнак: пасёлкі, якія засталіся на месцы, уцягваюць у сярэднім менш працы чым раней (93%) і ў дакладнай адпаведнасьці з гэтым даюць і менш ачышчанай валавой прадукцыі (94%); наадварот, тыя пасёлкі, якія арганізаваліся на новым месцы, з пераносам сядзібы занялі на 22% больш працы і так-жа дакладна падвысілі на 23% ачышч. валавую прадукцыю.

Народна-гаспадарчая выгада ад пасёлкаў, якія занялі пад сядзібы новыя месца — відавочна. Аднак, каб яшчэ больш умацаваць такі вывад, мы дазволім сабе падаць адну невялічкую таблічку, якае дае колькасьць ачышчанай валавой прадукцыі на адзін дзень скарыстанай працы.

Адзін дзень працы дае ачышч. валавой прадукцыі (руб.)

| Пасёлкі на месцы | | | | | | | | Пасёлкі з пераносам сядзібы | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I | | II | | III | | сярэдн. | | I | | II | | III | | сярэдн. | |
| да | цяп. | да | цяп. | да | цяп. | да | цяп. | да | цяп. | да | цяп. | да | цяп. | да | цяп. |
| 1,07 | 1,11 | 1,19 | 1,27 | 1,50 | 1,14 | 1,19 | 1,21 | 1,09 | 1,17 | 1,19 | 1,23 | 1,45 | 1,29 | 1,21 | 1,23 |

Калі палічыць гэтыя велічыні за паказчыкі вытворчасьці працы, то можна сказаць, што азначаны толькі што прырост вал. прадукцыі ў па-

сёлках з пераносам сядзіб—адбыўся бяз зьніжэньня вытворчасьці працы (1,21 р.—1,23 р.).

Выгаднасьць перасяленьня на новае месца для розных груп сялянства.

Цяпер застановімся на высьвятленьні гэтага-ж пытаньня ў прыстасаваньні да кожнай сац.-экан. групы сялянства асобна. У мэтах больш хуткага і выразнага адказу сканцэнтруем усе ранейшыя здабыткі да аднаго месца. Тады будзем мець:

1. *Бядняцкія гаспадаркі* ў выпадку заставаньня на старых сядзібах атрымліваюць на 42% больш зямлі, павялічваюць на 44% свае аснаўныя сродкі вытворчасьці, завязваюць у вытворчасьць 21% новай працы, падвышаюць на 29% ачышчаную валавую прадукцыю і даюць на 4 кап. у дзень павялічэньне вытворчасьці працы. Пры пераходзе на новае сядзібнае месца яны адпаведна павялічваюць: землекарыстаньне на 137%, сродкі вытворчасьці—98%, расход працы—55%, ачышчаную валавую прадукцыю—64% і вытворчасьць працы на 8 к. у дзень. Як бачым тэмп гаспадарчага разьвіцьця пры другім спосабе разьвязваньня пытаньня зьяўляецца большым у 2—3 разы.

2) *Серадняцкія гаспадаркі* пры заставаньні на месцы атрымліваюць на 9% менш зямлі, зьніжаюць на 8% сродкі вытворчасьці, закладваюць на 15% менш працы і атрымліваюць на 10% менш ачышчанай валавой прадукцыі; вытворчасьць працы пры гэтым паднімаецца на 8 к. у дзень. Перасяленьне серадняцкіх гаспадарак на новае месца азначае: прыбаўку ў 43% зямлі, падвышэньне на 41% сродкаў вытворчасьці, закладваньне дадатковых 20% працы, падвышэньне на 25% прадукцыі і рост вытворчасьці працы на 4 кап. у дзень. Іначай кажучы, для гэтай групы сялянства заставаньне на старых сядзібных мясцох азначае згортваньне вытворчасьці па ўсіх адзнаках у сярэднім процантаў на дзесяць; і наадварот, пераход на пасёлкі з новай сядзібнай аселасьцю азначае пашырэньне вытворчасьці прыблізна на $^1/_3$ у параўнаньні з ранейшым яе аб'ёмам.

3) *Заможныя гаспадаркі* ў выпадку заставаньня іх на месцы зьніжаюць сваю вытворчасьць да $^1/_2$—$^2/_3$ у параўнаньні з тым, што было да землеўпарадкаваньня, а пры пераходзе на новае месца амаль што поўнасьцю захоўваюць свой ранейшы аб'ём вытворчасьці.

Паколькі ў сувязі з паданымі фактамі можа паўстаць думка аб большым удзелу ў промыслах, рамёствах, заробках і г. д. насельніцтва тых пасёлкаў, якія засталіся на старых сядзібах, — пастолькі неабходна прыцягнуць адпаведныя дадатковыя матар'ялы. Мы падлічылі для абедзьвюх катэгорыяў пасёлкаў па асобных сац.-экан. групах колькасьць дзён працы, якая скарыстана была на паказаныя віды заняткаў раней і цяпер. Далей, вылічылі процант, які складае гэта праца зараз у параўнаньні з часам „да землеўпарадкаваньня“ і атрымалі такія вынікі:

| На месцы | | | | Перасяліліся | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I | II | III | Сяр. | I | II | III | Сяр. |
| 128 | 390 | 80 | 229 | 437 | 277 | 596 | 315 |

Бачым перш усяго агульнае ўзрастаньне расходу працы на розныя заробкі. Далей, кідаецца ў вочы большае пашырэньне гэтых заняткаў у тых пасёлках, якія перасяліліся на новае месца. І ўрэшце бачым, што ў пасёлках апошняй катэгорыі найбольшы тэмп узрастаньня прыпадае на крайнія групы, г. зн. і на бядняцкія г-кі. У выніку наша апаска аб пагаршэньні ў пасёлках „з пераносам сядзібы“ умоў для пашырэньня заробкаў на паверку зьявілася ня рэальнай. Гэтыя пасёлкі ў запраўднасьці даюць ня толькі лепшыя ўмовы для больш шпаркага разьвіцьця с.-г. вытворчасьці, але і ўтвараюць больш спрыяючыя абставіны для павялічэньня колькасьці той працы, якая знаходзіць сабе заробак у розных занятках па за сваёй сельскай гаспадаркай.

Такім чынам, як не падыходзіць да разглядаемага пытаньня, атрымліваецца ўвесь час адзін і той жа адказ, які сьведчыць аб перавагах для гаспадарчага разьвіцьця пасёлкаў на новым месцы. Пры чым у найбольшай меры гэтыя перавагі відаць на гаспадарках ніжэйшай сац.-экан. групы. Натуральна было-б чакаць, што самі бядняцкія г-кі ўлічваюць зазначаныя выгады і іх фактычна скарыстоўваюць. Аднак у запраўднасьці справа выглядае ня зусім так. З усіх землеўпарадкаваных і дасьледваных намі гаспадарак засталося на старых сядзібах беднякоў—52%; сераднякоў—37% і заможных—27%. Больш паловы бядняцкіх гаспадарак застаецца ў пасёлках на старых сядзібных мясцох з урэзаным надзелам і з больш вузкімі пэрспэктывамі для далейшага разьвіцьця.

Ня трэба доўгіх вышукваньняў і разваг, каб уразумець прычыну такой анамаліі. Адсутнасьць неабходных сродкаў і цяжкасьць іх знайсьці ў крытычны момант, калі праходзіць землеўпарадкаваньне, — вось прычыны, якія штурхаюць бядняцкія гаспадаркі на рашэньне застацца на старой сядзібе. Пры такім выйсьці яны запраўды нясуць значна меншыя выдаткі ў часе землеўпарадкаваньня. Так, на 1 землеўпарадкаваную гаспадарку прыпадае розных выдаткаў, якія складаюцца з расходаў на вядзеньне працэсу, перанос будынкаў і капаньне калодзежаў:

| I | | II | | III | | Сяр. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| на месцы | з перасялен. | на месцы | з перасялен. | на месцы | з перасялен. | на месцы | з перасялен. |
| 30 р. | 121 р. | 18 р. | 189 р. | 48 р. | 211 р. | 25 р. | 175 р. |

Як бачым пераход гаспадарак на пасёлкі, якія выклікаюць неабходнасьць пераносу сядзібы, зьвязан з выдаткамі дадатковых 100—150 руб.

Ня гледзячы на тое, што гэта дадатковая сума зьяўляецца для бядняцкіх гаспадарак найменшай (90 р.), яны ўсё-ж як відаць, ня ў сілах яе раздабыць. А тым самым прымушаны ісьці на відавочна нявыгадную для іх зьдзелку—заставацца на месцы. Не гаспадарчыя выгады, а недахваткі і беднасьць прымушаюць гэту групу гаспадарак сядзець на старых сядзібах. Каб зрабіць гэта палажэньне пераконваючым, дазволім сабе падаць вынікі параўнаньня прыросту ачышчанай валавой прадукцыі за 3—4 гады з паказанымі вышэй выдаткамі на землеўпарадкаваньне. Звычайнае альгэбрычнае адыманьне другой велічыні ад першай дае для аднэй гаспадаркі кожнай сац.-экан. групы:

| I | | II | | III | | Сярэдн. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| на месцы | з перасялен. | на месцы | з перасялен. | на месцы | з перасялен. | на месцы | з перасялен. |
| +35 р. | +31 р. | —63 р. | —81 р. | —411 р. | —296 р. | —48 р. | —77 р. |

Ня гледзячы на тое, што бядняцкія гаспадаркі пры пераносу сядзіб панясьлі на 90 р. выдаткаў больш, яны праз 3 гады пакрылі іх цалком і далі той жа самы прырост ачышчанай валавой прадукцыі. Але, якая розьніца ў пэрспэктывах! У той час, як адна частка бядняцкіх гаспадарак, якая засталася на старых сядзібах, будзе ў далейшым разьвівацца на аснове землекарыстаньня ў 6 гэкт., другая частка, якая перасялілася будзе мець гэту аснову больш шырокую роўна ў паўтары разы (9,1 гэкт.).

**Вывады ў адносінах бядняцкіх гаспадарак.**

Цяпер можна зрабіць канчатковыя вынікі. 1) Бядняцкія гаспадаркі у ва ўсіх адносінах разьвіваюцца больш шпарка пры пераходзе на новую сядзібную аселасьць, якая нясе з сабой значна большую норму зямлі, горшай па якасьці. 2) Бядняцкія гаспадаркі, калі ў большасьці і застаюцца на старых сядзібах, то прычынай гэтага зьяўляецца адсутнасьць неабходных сродкаў (руб. 100—150), якія вымагаюцца дадаткова ў выпадку перасяленьня. 3) Падвышаныя выдаткі, якія нясуць бядняцкія гаспадаркі пры пераходзе на новыя сядзібы, поўнасьцю пакрываюцца ў іх праз 3—4 гады прыростам ачышчанай валавой прадукцыі. 4) Каб не зачыняць перад бядняцкімі гаспадаркамі пэрспектыў для іх далейшага разьвіцьця, трэба праз арганізацыю доўгатэрміновай пазыкі (на 3—4 гады) імкнуцца, па мажлівасьці, не пакідаць бядняцкіх гаспадарак на старых сядзібах. 5) У выпадку немагчымасьці поўнасьцю забясьпечыць бядняцкія гаспадаркі належнымі сродкамі, трэба расцэначным камісіям пры землеўпарадкаваньні стрымліваць даўленьне заможных пластоў сялянства на паніжэньне расцэнкі далёкіх зямель і падвышэньне блізкіх да сядзібы.

# АСНАУНЫЯ ПАЛАЖЭНЬНІ І ВЫВАДЫ

**Разьдзел першы.** Савецкае землеўпарадкаваньне ў адношаньні да сялянскіх гаспадарак ставіць сваёй мэтай утварэньне таварыскага парадку землекарыстаньня з арганізацыяй пры ім зямельнай тэрыторыі ў выглядзе адной буйнай ральлёвай гаспадаркі. І толькі ў выпадках, калі сялянства застаецца пры ранейшых парадках — вабшчынным і падворным, паўстае перад землеўпарадкаваньнем задача арганізаваць зямельную тэрыторыю ў выглядзе той або іншай „формы землекарыстаньня“. Форма землекарыстаньня зьяўляецца па сутнасьці катэгорыяй тэхнічнай і мае адносіны да аднаго сац.-эканамічнага тыпу с.-г. прадпрыемстваў—сялянскіх гаспадарак. Для навуковага пазнаньня неабходна і даволі разьлічаць 4 аснаўных формы землекарыстаньня: вяскова-празпалосную, пасялковую, адрубную і хутарскую.

Расейская „унівэрсытэтская“ землеўпарадкаваўчая навука да гэтага часу ігнаруе пасялковую форму землекарыстаньня шляхам або далучэньня яе да вяскова-празпалоснай, або да вяскова-адрубной. Сутнасьць пасялковай формы, як самастойнай формы, складаецца з наяўнасьці чатырох адзнак: а) групавога характару разьмяшчэньня сядзіб, б) велічыні тэрыторыі ў межах оптымуму, в) агульным севазваротам і г) адсутнасьцю празпалосіцы.

**Разьдзел другі.** Пасёлак разам з наяўнасьцю ў ім пасялковай формы землекарыстаньня характарызуецца яшчэ і тым, што ён утвараецца, як прагрэсыўнае зьявішча ў барацьбе за сацыялістычны кірунак разьвіцьця сялянскіх гаспадарак. Становучая роля пасёлку ў тым, што ён дае мажлівасьць правесьці поўнасьцю агрыкультурна-тэхнічную пераарганізацыю тэрыторыі сялянскіх гаспадарак у сувязі з пераходам іх да больш інтэнсыўнага арганізацыйна-вытворчага тыпу. Але разам з тым, у адрозьніваньне ад адрубоў і хутароў, пасёлак утварае спрыяючыя абставіны для аграмаджэньня сельскай гаспадаркі, у кожным разе не становіцца перашкодай на шляху разьвіцьця гэтага працэсу.

У БССР за 5 гадоў (1922—27) працы па землеўпарадкаваньню сялянскіх гаспадарак утворана каля 5.000 пасёлкаў на плошчы 590.434 гэкт. (69.095 двароў), што складае 29% усей плошчы сялянскага землекарыстаньня, якая ўпарадкавана за гэты пэрыяд. Найбольшае пашырэньне пасёлкаў, параўнаўча з іншымі новымі формамі, прыпадае на Гомельшчыну

(71%) і найменшае на Віцебшчыну (4%). Наогул-жа прыкмячаецца павялічэньне процанту пад пасёлкамі пры пасоўваньні з поўначы на поўдзень.

Пасёлкі ў прасторава-геаграфічных адносінах зьяўляюцца унівэрсальнай формай сялянскага землекарыстаньня і атрымалі поўную апрабацыю ў практыцы землеўпарадкаваньня ўсіх частак Саюзу. Адна з аснаўных і актуальных задач савецкай землеўпарадкаваўчай навукі зьяўляецца задача канкрэтызацыі тыпу пасёлку ў адпаведнасьці з асаблівасьцямі натуральна-гістарычнымі і тыпам сельскай гаспадаркі асобных краін.

Рэальна існуючыя пасёлкі, асабліва тыя з іх, якія ўтвораны ў першыя гады савецкага землеўпарадкаваньня, у некаторых выпадках не здавальняюць прынцыпу оптымума, што ў значнай ступені зьяўляецца вынікам неапрацаванасьці пытаньня аб оптымуму і адсутнасьцю ў сувязі з гэтым яснай і цьвёрдай лініі ў практыцы.

Разьдзел трэці. Арганізацыйна-гаспадарчая і эканамічная нявывучанасьць праблем землеўпарадкаваньня наогул, і тых з іх, якія маюць адносіны да пасёлкаў у прыватнасьці—тлумачыцца ў значнай ступені мэтадалёгічнай, абстрактна-рацыяналістычнай аднабаковасьцю. На сучаснай стадыі першапачатковага афармленьня землеўпарадкаваўчай навукі і малога запасу належных навуковых фактаў неабходна больш шырокае карыстаньне эмпірыка-статыстычным мэтадам дасьледваньня пры распрацоўцы праблем землеўпарадкаваньня.

Даная праца абапёрта пераважна на матар'ялы спэцыяльна пастаўленага намі экспэдыцыйнага досьледу, які праведзены быў у трох раёнах БССР і захапіў 69 пасялішч з 920 дварамі, землеўпарадкаванымі ў 1923 годзе. Для досьледу скарыстаны былі спэцыяльныя фармуляры: а) манаграфія пасялішча, б) дынамічная падворка з вучотам даных за пэрыяд „да землеўпарадкаваньня" і ў час досьледу і в) бюджэтна-агранамічны блянк з дэталёвым у ім апісаньнем асобных палосак і кавалкаў засеву. Пасёлкі і двары дасьледваны ня выбарачна, а ўсьцяж.

Разьдзел чацьвёрты. Аснаўной задачай распрацоўкі матар'ялаў зьяўлялася складаньне па кожнаму пасёлку і кожнай сац.-эканамічнай групе сялянства тых табліц, якія пададзены ў гэтай працы і якія даюць у дынамічным разрэзе аснаўны матар'ял для тэхніка-арганізацыйнага, гаспадарча-вытворчага і эканамічнага аналізу пасёлкаў. Пры распрацоўцы матар'ялаў ужыта групіроўка гаспадарак па велічыні аснаўных сродкаў вытворчасьці, як элемэнту, які мае найвышэйшую сувязь з валавой прадукцыяй ад сельскай гаспадаркі ($r = +0{,}917 \pm 0{,}021$). Каталёг цэн складзены на падставе даных экпэдыцыі аб цэнах прыватнага рынку па галоўных пунктах збыту (у адносінах дасьледваных пасёлкаў).

Табліцы №№ 1, 2, 3 і 6 складзены цалкам на падставе даных падворак; пры апрацоўцы табліц № 4 і № 5 разам з падворкамі скары-

станы даныя рахункова-агранамічных аналізаў. На падставе апошніх вылічаны перадатачныя каэфіцыенты: а) колькасьць працы на 0,01 гэкт. (каэф. корэл. паміж плошчай і затратамі працы: $+0{,}792 \pm 0{,}066$ і $+0{,}719 \pm 0{,}068$); б) колькасьць працы на 1 галаву дарослага быдла; в) валавая прадукцыя на 1 цэнт. валавога збору зярна або клубней (каэф. карэл. $+0{,}874 \pm 0{,}033$ і $+0{,}820 \pm 0{,}047$) і г) валавая прадукцыя на 1 р. кошту розных відаў скаціны (каэф. карэл. $+0{,}603 \pm 0{,}091$ і $+0{,}446 \pm \pm 0{,}112$).

**Разьдзел пяты.** Пад назвай „эфэкт землеўпарадкаваньня“ расейская літаратура фактычна дае тэорыю і мэтад для апрыёрных меркаваньняў аб параўнаўчай мэтазгоднасьці розных варыянтаў землеўпарадкаваўчага праэкту пры арганізацыі тэрыторыі асобнага землекарыстаньня (саўгас., калгас., земграмада, хутар і г. д.). Вучэньне аб эфэкту землеўпарадкаваньня можа быць пабудавана толькі на падставе шырокага і ўсебаковага вучоту вынікаў праведзенага землеўпарадкаваньня.

Эфэктыўнасьць савецкага землеўпарадкаваньня, апрача адводу зямель пад саўгасы і калгасы, вымерваецца колькасьцю і якасьцю ўтвораных пасёлкаў. Якасны бок пасёлкаў у параўнаньні з вёскамі, з якіх яны выйшлі, характарызуецца: а) зьмяншэньнем каэфіцыенту шматкутнасьці ад 9,7 да 2,4; б) зьмяншэньнем каэфіцыенту канфігурацыі ад 1,59 да 1,21; в) падвышэньнем каэфіцыенту гаспадарчай абкругленасьці ад 1,22 да 1,42; г) зьмяншэньнем сярэдняй адлегласьці палёў ад 1626 мэтраў да 708 мэтраў; 9) зьмяншэньнем у 2—3 разы колькасьці палосак і павялічэньнем іх плошчы ў сярэднім ад 0,12 гэкт. да 0,44 гэкт.; е) памяншэньнем стасунку паміж шырынёй і даўжынёй палосак ад 1:200 да 1:15.

**Разьдзел шосты.** Пасёлкі к чацьвёртаму году свайго існаваньня сканчаюць у асноўным свой першы, аднавіцельны пэрыяд. Арганізацыйна-гаспадарчая ацэнка пасёлкаў за гэты пэрыяд іх разьвіцьця не павінна выходзіць з запатрабаваньня, каб пасёлкі па сваёй форме і гаспадарчаму зьместу поўнасьцю адпавядалі нашым ідэальным у адносінах да іх канструкцыям і жаданьням. Для гэтай стадыі разьвіцьця пасёлкаў зусім даволі, калі яны: а) даюць нармальны тэмп росту вытворчых сіл; б) выяўляюць некаторыя новыя і прагрэсыўныя агрыкультурна-тэхнічныя тэндэнцыі і в) уводзяць у належнае рэчышча сацыяльна-эканамічную барацьбу розных груп сялянства.

Пераход сялянскіх гаспадарак на пасёлкі, разам з пашырэньнем на 24% землекарыстаньня—выклікаў у іх к пачатку чацьвёртага году наступныя арганізацыйна-гаспадарчыя зьмены: а) падвышэньне на 23% кошту асноўных сродкаў вытворчасьці; б) зьніжэньне да 91% інтэнсыўнасьці сельскай гаспадаркі; в) узмацненьне ролі земляробства па лініі пашырэньня інтэнсыўных культур (бульба, лён) і сеяных траў; г) памян-

шэньне ў 2 разы плошчы пад незасеяным папарам; д) зьніжэньне ўраджайнасьці ўсіх культур за выключэньнем бульбы; е) падвышэньне пры тэй-жа вышыні вытворчасьці працы валавой прадукцыі на 16%; ж) зьмяншэньне роўна ў 2 разы ўнутры-гаспадарчага транспарту.

Побач з зьменамі арганізацыйна-вытворчымі землеўпарадкаваньне на пасёлкі выклікала сацыяльна-эканамічную перагрупіроўку сялянскіх гаспадарак: а) бядняцкія гаспадаркі да землеўпарадкаваньня складалі 29% ад усіх гаспадарак, мелі 14% усей зямлі, 11% аснаўных сродкаў вытворчасьці, закладвалі 18% працы і атрымлівалі 15% усей валавой сельска-гаспадарчай прадукцыі; пасьля землеўпарадкаваньня гэта-ж група атрымала 23% зямлі, мае цяпер ужо 16% аснаўных сродкаў вытворчасці, закладвае 24% усей працы і атрымлівае 22% валавой с.-г. прадукцыі. б) Заможныя г-кі да землеўпарадкаваньня складалі 11%, мелі 20% зямлі і 25% асноўных сродкаў вытворчасьці, закладвалі 19% працы і атрымлівалі 20% валавой с.-г. прадукцыі; пасьля землеўпарадкаваньня гэта група атрымала 14% зямлі, мае цяпер 22% аснаўных сродкаў вытворчасьці, закладвае 14% працы і атрымлівае 15% валавой прадукцыі. Серадняцкія гаспадаркі засталіся амаль што не парушанымі.

**Разьдзел сёмы**

Праблема оптымуму землекарыстаньня даволі падрабязна распрацавана пераважна ў адношаньні да буйнага сельска-гаспадарчага прадпрыемства з найманай працай. Аснаўной ідэяй пры вызначэньні оптымуму звычайна зьяўляецца адшуканьне пункту раўнавагі сіл, якія сьціскаюць тэрыторыю гаспадаркі й пашыраюць яе. Гэты прынцып, калі не ўтвараць фікцыяў (П. П. Сплюхін), зьяўляецца нездавальняючым пры адшуканьні оптымуму землекарыстаньня пасёлкаў. Практычна й тэарэтычна праблема оптымуму можа быць зьведзена да вызначэньня вышэйшай і ніжэйшай яго межаў. Ніжэйшая мяжа вызначана намі, як такі разьмер тэрыторыі пасёлку, пры якім могуць быць рацыянальна скарыстаны аснаўныя с.-г. машыны (жаткі, касілкі, арфы, малатарні і г. д.) і для БССР у цэлым гэты разьмер атрымаўся = 80 гэкт. Вышэйшай мяжой оптымуму зьяўляецца пасёлак, у якім самыя далёкія пункты зямельнай тэрыторыі яшчэ з выгадай скарыстоўваюцца пад аснаўную, інтэнсыйную ральлёвую культуру—бульбу. Для ўмоў БССР адпаведная максымальная адлегласьць = 1,5 кілём., а зямельная плошча пасьля паправак на звычайную землеўпарадкаванасьць = 250 гэкт. Пры вылічэньні оптымуму для асобных краін БССР найменшы оптымум атрыман для Віцебшчыны (45—130), а найбольшы—для Гомельшчыны (90—280). На пасёлкі вызначаных разьмераў прыпадаюць найлепшыя вынікі ў арганізацыі зямельнай тэрыторыі і найбольшы эфэкт гаспадарчага разьвіцьця. У практыцы назіраецца часты пераход ніжэйшай мяжы оптымуму.

Гаспадаркі ўсіх сац.-эканамічных груп знаходзяць лепшыя ўмовы і

шпарчэй разьвіваюцца ня ў тых пасёлках, якія засталіся на месцы старых сядзіб, а ў тых, якія арганізаваны з пераносам сядзіб. Інтарэсы бядняцкіх гаспадарак патрабуюць, разам з пераводам іх на пасёлкі з новай сядзібнай аселасьцю, дзяржаўнай дапамогі мінумум 100 руб. на гаспадарку. Пры адсутнасьці дапамогі неабходна паніжэньне расцэнкі зямель, якія знаходзяцца ў бліжэйшай да сядзіб старой вёскі зоне.

Праблема грамадзкага севазвароту і зьвязанае з ёй пытаньне—падбор двароў у пасёлак—вылучаны ў самастойную працу.

## Grundsätze und Schlussfolgerungen.

**Erster Abschnitt** Die Sowet'sche Landeinrichtung stellt sich in Bezug auf bäuerliche Wirtschaften die Aufgabe, eine genossenshaftliche Nutzniessung des Landes einzuführen. mit gleichzeitiger Bildung eines einheitlichen Landgebietes in der Form eines einzigen ackerbaulichen Grossbetriebes. Und nur in denjenigen Fällen, wo die Bauernschaft in der bisherigen Nutzungsform, dem Gemeindebesitze oder dem Einzelhofe verharrt, taucht vor der Landeinrichtungsbehörde die Aufgabe auf, Landgebiete in Rüchsicht auf die eine oder andere „Form der Land-Nutzniessung auszuscheiden". Die Form der Nutzniessung von Land ist ihrem Wesen nach rein technischer Art und steht in Beziehung blos zu einem sozial-ökonomischen Typus landwirtschaftlicher Unternehmungen—zu den bäuerlichen Wirtschaften. Für rein wissenschaftliche Bestimmungen hat man, was ja auch völlig genügend ist, vier Grundformen der Nutzniessung von Land zu unteschieden: einer in dörftlichen Schnurländereien, einer in Siedelungen, einer auf Streuländereien und einer auf Einhöfen.

Die russische „Hochschul"—Wissenschaft über Landeinrichtung berücksichtig bis zur Gegenwart die Form der Nutzniessung von Land in Siedelungen überhaupt nicht, indem sie dieselbe entweder mit derjenigen auf dörflichen Streuländereien, oder auf dörflichen Schnurländereien identificirt. Die Tatsächlichkeit einer Nutzungsform des Landes in Siedelungen lässt sich erkennen am Verhandensein folgender vier grundsätzlicher Merkmale: a) an der gruppenweisen Anordnung der Höfe, b) in der Grösse des Landgebietes in den Grenzen des Oprtimums, c) in der einheitlichen allgemeinen Fruchtfolge und d) im Fehlen von eingesprengten Schnurländereien.

**Zweiter Abschnitt** Die Siedelung wird ausser der in derselben herschenden Nutzniessung des Landes in Siedelung sweiser Form auch noch dadurch charakterisirt, dass sie als fortschrittliche Erscheinung im Kampf um die socialistische Einstellung in die Entwickelung der bäurlichen Wirtschaften erezugt wurde. Die massgebende Rolle der Siedelung besteht

darin, dass sie dieMöglichkeit schafft, eine agrikultur-technische Umlegung des Landgebietes bäuerlicher Wirtschaftenim engsten Zusammenhange mit einem intensiveren organisatorisch-betriebstechnischen Typus derselben ins Werk zu setzen. Zu gleicher Zeit schafft die Siedelung, in vorteilhaftem Gegensatz zu Streulandhöfen und Einhöfen günstige Bedingungen für eine Vergemeinschaftlichung bäuerlicher Wirtschaften, jedenfalls stellt sie kein Hinderniss der Entwickelung dieses Processes in den Weg.

In Belorussj wurden im Laufe von 5 Jahren (1922—27) der Arbeiten von Landeinrichtung bäuerlicher Wirtschaften gegen 5000 Siedelungen mit einem Flächeninhalt von 590434 ha (69095 Höfe ausgeschieden, was 29% der Gesammtfläche bäuerlicher Landnutzungen, welche im Laufe dieses Zeitraumes eingericht wurden, umfasst. Die weiteste Verbreitung im Vergleich zu anderen neuen Formen fand die Anlage von Siedelungen in Homelschen Bezirk, 71%, die allergeringste im Witebskischen. Im Allgemeinen jedoch ist eine procentuale Zunahme von Siedelungsanlagen in der Richtung von Norden nach Süden zu bemerken.

Siedelungen stellen in räumlich-geografischer Beziehung eine Universalform der bäuerlicher Nutzniessung des Landes dar und geniessen einer völligen Gutachtun in der Praxis der Landeinrichtung in allen Teilen der Union. Eine von den grundsätzlichsten und dringendsten Aufgaben der Sowet'schen Wissenschaft über Landeinrichtung—das ist die Aufgabe, den Typus der Siedelung genau festzustellen in strengem Zusammenhange mit den naturhistorischen Eigentümlichkeiten und den einzelnen Typen der Landwirtschaft in den verschiedenen Landesgebieten.

Die tatsächlich bestehenden Siedelungen, besonders diejenigen unter ihnen, welche in den ersten Jahren der Sowet'schen Landeinrichtung geschaffen wurden, entsprechnen in einzelnen Fällen nicht in vollem Masse den Forderungen in Bezug auf das Optimum, was wohl in erheblichem Masse die Folge einer noch nicht völlig durchgeführten Ausarbeitung dieser Frage ist, und in engem Zusammenhange damit dem Fehlen einer deutlich-erkennbaren festen Richtlinie in der Praxis zugeschrieben werden muss.

**Dritter Abschnitt**

Die mangelhafte Ausarbeitung organisatorisch-wirtschaftlicher und ökonomischer Fragen und aller übrigen Probleme der Landeinrichtung überhaupt, insbesondere derjenigen, welche in irgendwelcher Beziehung zu den Siedelungsanlagen im Speciellen stehen, lassen sich vorwiegend durch methodologische Einseitigkeit, die sich deutlich bis in die allerletze Gegenwart verfolgen lässt, durch ein sich Hinreissenlassen in abstrakt rationalistische Methoden, erklären. Auf dem gegenwärtigen Standpunkte der im Ansatz befindlichen Gestalltung der Landeinrichtungs-Wissenschaft und bei dem Mangel eines genügenden Vorrathes an wissenschaftlichen Faktoren ist es unbedingt geboten, eine weitgreifendere Ausnutzung empirischstatistischer Methoden der Forschung in Anwendung zu bringen.

Die vorstehende Arbeit baut sich hauptsächlich auf Angaben auf, welche nach einem von uns speciell aufgestellten Untersuchungsplane gewonnen wurden, und die in drei Bezirken von Belorussj durchgeführt, 69 Siedelungen mit 921 Höfen, die im Jahre 1923 einer Landeinrichtung unterzogen worden waren, umfasste. Für die Untersuchung wurden speciell aufgestellte Fragebogen verwandt: a) eine Monographie der Siedelung b) eine dynamische Einschätzungstabelle der Leistungsfähigkeit der einzelnen Gesinde mit Angaben für die Zeit „vor der Landenrichtung" und zur Zeit der Aufnahme c) ein budget—ackerbaulicher Fragebogen mit detaillirter Beshreibung der einzelnen Streifen und Landstücken der Aussaat. Die Siedelungen un Höfe wurden nicht nach Auswahl, sondern im Ganzen der Untersuchung unterzogen.

**Vierter Abshnitt** Die Hauptaufgabe bei der Verarbeitung des Materials bestand in der Zusammenstellung von Tabellen für jede social-ökonomische Gruppe der Bauerschaft, wie sie in dieser Arbeit ausgeführt worden sind und welche im dynamischen Durchschnitt uns die grundlegenden Daten für technisch-organisatorische, wirtschaftlich-betriebstechnische und ökonomische Analysen liefern. Bei der Ausarbeitung des Materiales wurde die Anordnung der Wirtschaften nach der Höhe ihrer hauptsächlichsten Betriebsmittel, das ist derjenigen Elemente, welche den allergrössten korrelativen Zusammenhang mit der Gesammt-Produktion der Landwirtschaft aufweisen, vorgenommen ($r = 0,917 \pm 0,021$). Die Listen der Preise wurden nach Angaben der Expedition über die Preise des privaten Marktes an den Haupthandelsplätzen mit Bezugnahme auf die der Untersuchung unterworfenen Siedelungen aufgestellt.

Die Tabellen №№ 1, 2, 3 und 6 sind ausschliesslich nach Angaben die von den Gesinden erhalten wurden, aufgestellt; bei der Ausarbeitung der Tabellen № 4 und 5 wurden neben den von den Gesinden erhaltenen Angaben die durch rechnerisch-agronomische Analysen erzielten Zahlen ausgenutzt, auf Grundlage welcher die übertragenden Koëffizienten bestimmt wurden, und zwar a) der Arbeitsaufwand auf 0,01 ha (aus dem Korelations-Koëffizienten von Fläche und Arbeitsaufwand: $+0,729 \pm 0,666$ und $+0,719 \pm 0,068$); b) der Arbeitsaufwand auf einen Kopf Grossvieh, c) Gesammt-Rohproduktion auf ein Zentner Gesammt-Rohertrages an Korn oder Knollenfrüchten (Korrelations-Koëffizient $+ 0,874 \pm 0,033$ und $+ 0,820 \pm 0,074$) und d) Gesammt-Rohertrag auf 1 Rubel an Werth verschiedener Vieharten (Korrelations-Koëfficient $+ 0,603 \pm 0,091$ und $+0,446 \pm 0,112$.)

**Fünfter Abschnitt** Unter der Bezeichnung: „der Effekt (die Zweckmässigkeit) der Landeinrichtung giebt die russische Literatur tatsächlich eine Theorie an und desgleichen ein Verfahren, wie sich über vergleichsmässige Zweckmässigkeiten verschidenartiger Varianten eines Landeinrichtungs-Projektes beurteilen lassen bei der Anordnung einzelner Nutznies-

